# ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.

ЧАСОПІС

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і саўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад імі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу саўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных агратэхнічных і інш

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1935 год

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| 24 нумары ў год | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | Кошт аднаго нумара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | — | 3 | — | — | 50 | 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЕВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 21—22

30-е ЛІСТАПАДА 1934 г.

ЗМЕСТ

*Стар.*

**СЕРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ** . . 2

**І. Ф. Кудзелько**—Вынікі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б . . 6

**К. К. Ратнек**—За далейшае палепшанне кіраўніцтва калгасамі . . . . . . . . . . . . . 17

**П. М. Кірушын**—Рэволюцыйныя падзеі ў Іспаніі . . 37

**П. Андрэеў**—Аб уступленні СССР у Лігу нацый . . 54

**С. Міллер**—З вопыту перабудовы партыйнай работы па Бабруйскаму раёну . . . . . . . . . . 65

**А. Балцін**—Тэхнічная вучоба—важнейшы фактар выканання промфінплана . . . . . . . . 72

**І. А. Раманчук**—Палітаддзел соўгаса ў барацьбе за павышэнне якасці і прадукцыйнасці жывёлы . . . . 80

**В. К. Якабсон**—За карэннае палепшанне работы сувязі БССР . . . . . . . . . . . . . . . 95

**КАНСУЛЬТАЦЫІ**

**Аб зіноўеўска-троцкісцкай антысавецкай групе** 102

**Кніжная паліца** . . . . . . . . . . . 115

**Рэзалюцыі пленумаў і пастановы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б** . . . . . . . . . . . . . 117

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20 000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.

# АД ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЎСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальшэвікоў)

Цэнтральны Камітэт ВКП (большэвікоў) з вялікім жалем паведамляе партыю, рабочы клас і ўсіх працоўных Саюза ССР і працоўных усяго свету, што 1 снежня ў Ленінградзе ад здрадніцкай рукі ворага рабочага класа загінуў выдатны дзеяч нашай партыі, палкі, бясстрашны рэволюцыянер, любімы кіраўнік большэвікоў і ўсіх працоўных Ленінграда—Сакратар Цэнтральнага і Ленінградскага Камітэтаў ВКП (большэвікоў), член Палітбюро ЦК ВКП(б) таварыш **Сергей Міронавіч КІРАЎ.**

Страта таварыша Кірава, любімага ўсёй партыяй і ўсім рабочым класам СССР, крыштальна чыстага і непахісна стойкага партыйца, большэвіка-ленінца, аддаўшага ўсё сваё яркае, слаўнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма, з'яўляецца самай цяжкай стратай для ўсёй партыі і краіны советаў за апошнія гады.

Цэнтральны Камітэт верыць, што памяць аб таварышу КІРАВЕ, светлы прыклад яго бясстрашнай, нястомнай барацьбы за пролетарскую рэволюцыю, за будаўніцтва соцыялізма ў СССР будуць натхняць мільёны пролетарыяў і ўсіх працоўных на далейшую барацьбу за таржэство соцыялізма, за канчатковае выкараненне ўсіх ворагаў рабочага класа.

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ
ПАРТЫІ (большэвікоў).

# СЕРГЕЙ МІРОН

Нашу партыю насцігла вялікае няшчасце. 1 снежня ад рукі злачынцы-забойцы, падасланага класавымі ворагамі, загінуў таварыш КІРАЎ. Не толькі для нас, яго блізкіх сяброў і таварышоў, але і для ўсіх ведаўшых яго па рэволюцыйнай рабоце, ведаўшых яго, як байца, таварыша і друга, смерць Кірава з'яўляецца нічым неўзнагарадзімай утратай. Ад рукі ворага загінуў чалавек, які ўсё сваё яркае жыццё аддаў справе рабочага класа, справе комунізма, справе вызвалення чалавецтва.

Тав. КІРАЎ прадстаўляў з сябе ўзор большэвіка, не ведаўшага страху і труднасцей у дасягненні вялікай мэты, пастаўленай партыяй. Яго праммата, жалезная стойкасць, яго здзіўляючыя якасці натхнёнага трыбуна рэволюцыі спалучаліся ў ім з той сардэчнасцю і мяккасцю ў асабістых таварыскіх і сяброўскіх адносінах, з той прамяністай цяплынёй і скромнасцю, якія ўласцівы сапраўднаму ленінцу.

Таварыш КІРАЎ працаваў у розных частках Саюза ССР у часы падполля і пасля Окцябрскай рэволюцыі—у Томску і Астрахані, ва Владзікаўказе і Баку—і ўсюды ён высока трымаў сцяг партыі і заваёўваў для справы партыі мільёны працоўных сваёй нястомнай, энергічнай і пладатворнай работай рэволюцыянера.

Апошнія 9 год таварыш КІРАЎ кіраваў арганізацыяй нашай партыі ў горадзе Леніна і Ленінградскай області. У кароткім сумным пісьме няма магчымасці даць ацэнку яго дзейнасці сярод працоўных Ленінграда. Трудна было-б знайсці ў нашай партыі больш падыходзячага кіраўніка

## ...онавіч Кіраў

для рабочага класа Ленінграда, так умела спаяўшага ўсіх партыйцаў і ўвесь рабочы клас вакол партыі. Ён стварыў ва ўсёй ленінградскай арганізацыі тую атмасферу большэвіцкай арганізаванасці, дысцыпліны, любві і адданасці справе рэволюцыі, якімі вызначаўся сам таварыш **КІРАЎ**.

Ты быў блізак усім нам, таварыш **КІРАЎ**, як верны друг, любімы таварыш, надзейны саратнік. Да апошніх дзён свайго жыцця і барацьбы мы будзем успамінаць цябе, дарагі друг, і будзем адчуваць горыч нашай утраты. Ты быў заўсёды з намі ў гады цяжкіх баёў на тар- жэство соцыялізма ў нашай краіне. Ты быў з намі заўсёды ў гады хістанняў і труднасцей унутры нашай партыі, ты перажыў з намі ўсе труднасці апошніх год, і мы страцілі цябе ў момант, калі наша краіна дасягнула вялікіх перамог. Ва ўсёй гэтай барацьбе, ва ўсіх нашых дасягненнях многа тваёй долі, многа тваёй энергіі, сілы і палкай любві к справе комунізма.

Прашчай, наш дарагі друг і таварыш Сергей!

І. СТАЛІН
С. ОРДЖАНІКІДЗЕ
В. МОЛАТАЎ
М. КАЛІНІН
К. ВАРАШЫЛАЎ
Л. КАГАНОВІЧ
А. МІКАЯН
А. АНДРЭЕЎ
В. ЧУБАР
А. ЖДАНАЎ
В. КУЙБЫШЭЎ
Я. РУДЗУТАК
С. КАСІОР
П. ПОСТЫШЭЎ
Г. ПЕТРОЎСКІ
А. ЕНУКІДЗЕ
М. ШКІРАТАЎ
Ем. ЯРАСЛАЎСКІ
Н. ЕЖОЎ.

І. Ф. Кудзелько

# Аб выніках лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б

Рашэнні лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты і аб рэарганізацыі палітаддзелаў МТС маюць велізарнейшае палітычнае і эканамічнае значэнне і з'яўляюцца буйнейшымі паказчыкамі новых поспехаў, якія пролетарыят і працоўныя масы нашай краіны дасягнулі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і яе правадыра т. Сталіна ў справе пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Рашэнні лістападаўскага пленума як аб адмене картачнай сістэмы на хлеб, так і аб палітаддзелах МТС адлюстроўваюць велізарнейшыя перамогі ў барацьбе за соцыялізм, у барацьбе за соцыялістычную перадзелку сельскай гаспадаркі.

Да перыяда ўвядзення картачнай сістэмы партыя ўжо дабілася агромных перамог на фронце індустрыялізацыі нашай краіны. Значна вырасла колькасць пролетарыята, занятага ў прамысловасці, значна ўзраслі запатрабаванні на сельска-гаспадарчыя прадукты, хлеб і іншую сельска-гаспадарчую сыравіну для соцыялістычнай прамысловасці. Аднаасобная, раздробленая сельская гаспадарка, якая базіравалася на індывідуальнай раздробленай форме вытворчасці пры гіганцкім росце гарадоў і прамысловых цэнтраў і прамысловага пролетарыята ўжо не магла забяспечыць усё ўзрастаючы попыт, што зусім зразумела выклікала труднасці ў нармальным снабжэнні хлебам і іншымі сельска-гаспадарчымі прадуктамі працоўных мас гарадоў, прамысловых цэнтраў і новабудоўляў.

> «Аснова нашых хлебных труднасцей,—у свой час гаварыў т. Сталін,—заключаецца ў тым, што рост вытворчасці таварнага хлеба ідзе ў нас марудней, чым рост патрэбнасцей на хлеб. Расце прамысловасць, растуць гарады. Растуць, нарэшце, раёны вытворчасці тэхнічнай сыравіны (бавоўна, лён, буракі і т. д.), прад'яўляючыя попыт на таварны хлеб. А вытворчасць расце забойственна марудным тэмпам» (**І. Сталін.** «На хлебным фронце»).

Гэтыя труднасці з хлебам і выклікалі неабходнасць пераходу к нармаванаму снабжэнню хлебам і іншымі прадуктамі замест вольнага гандлю. Нармаванне павінна было забяспечыць бесперапыннае і лепшае снабжэнне, у першую чаргу важнейшых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва, і спалучыць справу снабжэння з

індустрыялізацыяй краіны, выкананнем промфінплана, павышэннем прадукцыйнасці працы, барацьбой з цякучасцю рабочай сілы, укараненнем соцыялістычных форм арганізацыі працы (соцспаборніцтва і ўдарніцтва) і з барацьбой са спекуляцыяй хлебнымі прадуктамі, што немінуча вынікала з труднасцей, якія ў той час мы мелі з хлебам.

Адначасова партыяй былі пастаўлены задачы стварэння такіх форм сельска-гаспадарчай вытворчасці, якія маглі-б забяспечыць усё ўзрастаючы попыт на сельска-гаспадарчыя прадукты і сыравіну.

Партыя пад кіраўніцтвам т. Сталіна, разграміўшы кулацкую прava-апартуністычную і контррэволюцыйную трацкісцкую тэорыю і ўстаноўкі аб шляхах развіцця сельскай гаспадаркі, арганізавала разгорнутае наступленне соцыялізма па ўсяму фронту. Пад кіраўніцтвам партыі мільённыя масы сялянства павярнулі на шлях калектывізацыі. На базе суцэльнай калектывізацыі мы ліквідавалі кулацтва як клас.

Партыя перамагла ў барацьбе з ворагамі рабочага класа, якія змагаліся за капіталістычны шлях развіцця Совецкага саюза.

Партыя нанесла руйнуючы ўдар па ворагах рабочага класа—трацкістах, зіноўеўцах, па правых апартуністах і нацыянал-ухілістах. Вырашэнне задач другой пяцігодкі праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы. Класавы вораг не дрэмле. З ростам перамог соцыялізма ён узмацняе сваю ненавісць к соцыялістычнай бацькаўшчыне, к комуністычнай партыі. Класавы вораг і яго агенты ўнутры партыі прадаўжаюць сваю контррэволюцыйную работу. Астаткі недабітых ліквідаваных класаў, агалцелыя бандыты, забойцы паўсталі на шлях індывідуальнага тэрора. «Гнусныя, здрадлівыя агенты класавага ворага, подлыя падонкі быўшай зіноўеўскай антыпартыйнай групы, вырвалі з нашых радоў таварыша Кірава» (з рэзалюцыі пленума МК з актывам). Гэтыя подлыя падонкі быўшай зіноўеўскай антыпартыйнай групы забілі аднаго з лепшых правадыроў нашай партыі, лепшага саратніка і блізкага друга т. Сталіна, кіраўніка ленінградскіх большэвікоў—т. Кірава.

Следствам устаноўлена, што падпольная антысовецкая група былых зіноўеўцаў, забіваючы тав. Кірава, імкнулася дэзарганізаваць кіраўніцтва совецкім урадам шляхам арганізацыі супроць галоўнейшых кіраўнікоў партыі і ўлады тэрарыстычных актаў і гэтым дабіцца змен у палітыцы партыі і ўрада ў духу зіноўеўска-трацкісцкай платформы.

Зіноўеўска-трацкісцкая апазіцыя (Зіноўеў, Каменеў, Еўдакімаў, Залуцкі, Каталынаў, Шацкі і інш.) у свой час выступала супроць партыі па асноўных пытаннях яе палітыкі, праводзімай пад кіраўніцтвам т. Сталіна, і ў сваёй далейшай барацьбе скацілася на антысовецкі контррэволюцыйны шлях. Каб утоіць свае сапраўдныя погляды, апазіцыянеры пісалі двурушніцкія заявы аб бясспрэчным падпарадкванні рашэнням партыі і адмаўленні ад якой-бы там ні было апазіцыйна-фракцыйнай барацьбы супроць палітыкі партыі, на справе-ж яны замаскавана прадаўжалі сваю антысовецкую работу.

> «Следства па справе белагвардзейскіх тэрарыстаў—забойц С. М. Кірава—закончана. Абвінаваўчае заключэнне, на аснове якога аддаюцца ваеннаму суду арганізатары і выканаўцы забойства, з'яўляецца грозным абвінавальным дакументам не толькі ў адносінах заклятых ворагаў народу, забіўшых пролетарскага трыбуна, але і ў адносінах іх ідэйных натхняльнікаў. Толькі ў атручанай, смуроднай атмасферы злоснага паклёпу на

партыю, двурушніцкага шыпення, агідных фальшывых і хлуслівых пакаяння̆ў, брудных, уладалюбных прагненняў—толькі ў гэтай атмасферы, панаваўшай у замкнутай зіноўеўскай антысовецкай групы, маглі выхавацца і скласціся як закончаныя белагвардзейцы ўсе гэтыя Нікалаевы, Румянцэвы, Левіны, Каталынавы, Шацкія і ім падобныя».

«Так у агідны брудны клубок сплятаюцца ўсе сілы, варожыя працоўнаму народу і совецкай краіне. Паследкі трацкісцка-зіноўеўскага блока ў саюзе з імперыялістычнаю клікай выступаюць з тымі-ж метадамі шпіянажа і белага тэрора, змагаюцца за тыя-ж «ідэалы», якія натхняюць зубраў белагвардзейскай эміграцыі, усякія «Брацтва рускай праўды», «Агульнавайсковыя саюзы»! Якою-ж мераю змераць цынічнасць падонкаў зіноўеўшчыны і гнуснасць іх здрадніцтва?»

«Працоўныя нашай краіны і ўсяго свету ведаюць цяпер, што арганізацыя белагвардзейскіх тэрарыстаў у Ленінградзе склалася з кадраў зіноўеўскай антысовецкай групы, што ідэалагічным багажом гэтай банды забойц была платформа трацкісцка-зіноўеўскага блока. Ведаюць і не забудуць ніколі ганебнага шляху і подлага канца тых, каго выкрыла і да канца разграміла наша партыя пад мудрым вадзіцельствам любімага правадыра **Сталіна».**

Перамога соцыялізма ў нашай краіне разбіла ўшчэнт усякія надзеі апазіцыі, і яна стала на шлях тэрора, па сутнасці на белагвардзейскафашысцкі шлях барацьбы з совецкім урадам. Шырокія масы працоўных нашай краіны патрабуюць жорсткай кары забойцам тав. Кірава і іх натхняльнікам.

«Няхай ведаюць астаткі і выбіркі белагвардзейшчыны і ўнутры і звонку совецкай краіны, няхай ведаюць прадажныя борзапісцы замежнага фашысцкага друку, узняўшыя выццё ў абарону белагвардзейскіх тэрарыстаў, натхнёных імі: размовы скончаны, панове! Магутная совецкая краіна не дазволіць ствараць у нас падпольныя аддзяленні «Брацтва рускай праўды», шпіёнскія фашысцкія цэнтры. Рэволюцыйны закон, які строга і бесстаронна ахоўвае асновы совецкага ладу, права і заваяванні працоўных, бязлітасны к забойцам і шпіёнам!»

Аднак, трэба памятаць, што з ліквідацыяй выяўленай контррэволюцыйна-тэрарыстычнай групы былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі барацьба з яе рэшткамі не канчаецца. Таму класавая пільнасць павінна быць яшчэ больш узмоцнена. Наша задача—павысіць сваю пільнасць, памятаючы, што вораг, не грэбаючы ніякімі сродкамі, будзе весці і далей сваю контррэволюцыйную работу.

Рэволюцыйная пільнасць ва ўмовах БССР, яе пагранічнага становішча, набывае выключна велізарнае значэнне. Астаткі разбітых трацкісцкіх і іншых антыпартыйных элементаў даюць яшчэ сябе адчуваць. Буржуазныя нацыяналісты, блакуючыся з рознастайнымі ворагамі рабочага класа, вядуць сваю падрыўную контррэволюцыйную работу.

У навучальных установах г. Менска (медінстытут, вячэрні комвуз) і іншых арганізацыях мы маем рад контррэволюцыйных трацкісцкіх вылазак, якія ясна сведчаць аб тым, што рэшткі былой зіноўеўскатрацкісцкай апазіцыі і рэшткі нацдэмаўшчыны, скарыстоўваючы пры-

тупленне класавай пільнасці паасобных партыйных ячэек і паасобных комуністаў, імкнуцца прадаўжаць сваю контррэволюцыйную работу. Так, былы трацкіст Разумоўскі на занятках у вячэрнім комвузе заявіў, што «матар'яльна-бытавое становішча рабочага класа з года ў год пагаршаецца». Трацкіст Паўлюкоў у Вышэйшай сельска-гаспадарчай школе прапагандаваў трацкісцкую тэорыю аб немагчымасці пабудаваць соцыялізм у нашай краіне. У гэтай-жа школе комсамолка Новік (дачка кулака) прапагандавала трацкісцкую тэорыю аб непрымірымасці інтарэсаў пролетарыята і сялянства і немагчымасці пабудаваць соцыялізм у адной краіне. Трацкісцкае выступленне на заводзе «Большэвік» Рудава, які сцвярджаў, што сялянства карысна пабіць, трацкісцкія і буржуазна-нацыяналістычныя вылазкі ў Барысаве і т. д.— усё гэта сведчыць аб тым, што класавы вораг не дрэмле, а імкнецца з усіх сіл і ўсімі сродкамі весці сваю контррэволюцыйную барацьбу супроць палітыкі партыі і совецкага ўрада.

Тым часам, у радзе арганізацый няма яшчэ той большэвіцкай пільнасці, якая патрабуецца ўмовамі сёнешняга дня. Трэба яшчэ раз успомніць папярэджанне т. Сталіна на XVII з'ездзе, што барацьба не скончана, бо бясклясавае грамадства пролетарыят павінен

> «заваяваць і пабудаваць намаганнямі ўсіх працоўных—шляхам узмацнення органаў дыктатуры пролетарыята, шляхам разгортвання класавай барацьбы, шляхам знішчэння класаў, шляхам ліквідацыі астаткаў капіталістычных класаў, у баях з ворагамі як унутранымі, так і знешнімі» **(Сталін).**

Ломка старых вытворчых адносін, стварэнне новага тыпу гаспадаркі на вёсцы, перавод дзесяткаў мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак на шлях калектывізацыі патрабавалі агромнейшых матар'яльных затрат, велізарнай дапамогі з боку пролетарскай дзяржавы і гарадскога пролетарыята. Вынік гэтых агромных затрат і напружанай барацьбы пролетарыята і ўсіх працоўных, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з т. Сталіным, забяспечыў перамогу палітыкі партыі.

На аснове індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі партыя забяспечыла перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Створана некалькі тысяч буйных соўгасаў і каля двухсот тысяч калгасаў, якія яднаюць каля 90 проц. усёй пасеўнай плошчы. Сельская гаспадарка на аснове соўгасна-калгаснага будаўніцтва ператворана з дробна-таварнай ў буйную соцыялістычную гаспадарку, узброеную навейшаю тэхнікай, з прымяненнем у сваёй вытворчасці апошніх дасягненняў агратэхнікі, што не было магчыма прымяніць у дробнай аднаасобнай гаспадарцы. Пры дапамозе палітаддзелаў партыя ў значнай меры замацавала існуючыя калгасы. Усё гэта забяспечыла агромнейшы ўздым прадукцыйнасці сельска-гаспадарчай вытворчасці, павелічэнне таварнасці хлеба і іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў. Зараз мы маем такія хлебныя рэсурсы, якія даюць магчымасць партыі і совецкаму ўраду адмовіцца ад картачнай сістэмы снабжэння хлебам і інш.

XVII партыйным з'ездам пастаўлена задача—да канца другой пяцігодкі павялічыць снабжэнне працоўных прадуктамі ў 2—3 разы ў параўнанні з перыядам першай пяцігодкі.

Побач з адменаю картачнай сістэмы, як важнейшай прадпасылкаю палепшання матар'яльнага і бытавога становішча працоўных,

XVII партыйны з'езд з усёй сур'ёзнасцю паставіў задачу разгортвання совецкага гандлю і тавараразвароту, як аднаго з момантаў падрыхтоўкі адмены нармаванага снабжэння, бо толькі на аснове разгортвання тавараразвароту «магчыма падрыхтаваць адмену нармаванага водпуску тавараў і замяніць сістэму цэнтралізаванага размеркавання разгорнутым совецкім гандлем».

Рашэнне лістападаўскага пленума аб адмене картачнай сістэмы на хлеб было падрыхтавана ўсім ходам барацьбы пролетарыята і працоўных, пад кіраўніцтвам партыі і з'яўляецца практычным ажыццяўленнем гістарычных рашэнняў XVII партз'езда, яркім паказчыкам перамогі генеральнай лініі партыі.

Рашэнне пленума аб адмене картачнай сістэмы мае вялікае палітычна-гаспадарчае значэнне і для ўсёй народнай гаспадаркі нашай краіны. Яно мае агромнейшае палітычнае значэнне не толькі ў межах нашай краіны, але і за межамі яе. У той час, калі ў капіталістычных краінах дзесяткі мільёнаў працоўных у выніку беспрацоўя і шалёнай спекуляцыі хлебам асуджаны на голад і галечу, а некаторыя капіталістычныя краіны рыхтуюцца да абмежаванага гандлю хлебам (фашысцкая Германія)—у нашай краіне адмяняецца нармаванае снабжэнне хлебам і ў значнай меры памяншаюцца цэны як на хлеб, так і іншыя прадукты і тавары, што ў значнай меры палепшыць матар'яльна-бытавое становішча працоўных.

У пастанове лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) дана чоткая ацэнка дадатнай у свой час картачнай сістэме і непатрэбнасці картачнай сістэмы ў сучасны момант. Замест дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі, зараз пануючае становішча займаюць калгасы і соўгасы. Калгасы і соўгасы забяспечаны машынамі ў вялікай колькасці. Калгасы арганізацыйна і гаспадарча ўмацаваліся. Напрыклад. МТС Беларусі маюць 2541 трактароў і соўгасы 1260 трактароў з вялікай колькасцю іншых складаных сельска-гаспадарчых машын. Гэта дало магчымасць рэзка павялічыць ураджайнасць калгасных і соўгасных палёў. Валавы ўраджай зернавых даў у гэтым годзе каля 9 мільёнаў цэнтнераў больш 1933 г. БССР своечасова выканала план хлебазагатовак і мае вялікія поспехі ў закупцы хлеба. На 10 снежня па Беларусі закуплена 72 тыс. тон зернавых—нямногім больш плана загатовак зернавых 1932 г.

> «Пры такім становішчы картачная сістэма па хлебу і некаторых іншых прадуктах можа быць толькі тормазам у палепшанні снабжэння і таму павінна быць адменена. Адменай картачнай сістэмы па хлебу будзе зроблен новы важнейшы крок да сістэмы цэнтралізаванага размеркавання разгорнутым совецкім гандлем у адпаведнасці з дырэктывамі аб другім пяцігадовым плане, прынятымі XVII партыйнай канферэнцыяй» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б) па дакладу т. **Молатава).**

Пастанова лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі з 1 студзеня картачнай сістэмы на хлеб, муку і крупу выклікала ў рабочых і працоўных горада вялікае здавальненне. Значэнне гэтага вялікага палітычнага і гаспадарчага мерапрыемства, накіраванага на яшчэ большае палепшанне снабжэння насельніцтва, агромна.

Адмена картачнай сістэмы на хлеб, увядзенне адзінай паніжанай прадажнай цаны спыніць спекуляцыю хлебам, панізіць рыначныя цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты.

Устанаўленне адзінай прадажнай цаны на хлеб, пры некатэрым павышэнні існуючых цэн на нармаваны хлеб і рэзкім паніжэнні цаны камерцыйнага хлеба—усё гэта будзе садзейнічаць і ўмацаванню нашага рубля. Побач з гэтым пленум пастанавіў:

> «У сувязі з адменай картачнай сістэмы і ўстанаўленнем розьнічных цэн на хлеб, муку і крупу з 1 студзеня 1935 г. павысіць заработную плату рабочым і служачым, стыпендыі студэнтаў і пенсіі пенсіянераў» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

Фонд заработнай платы па Совецкаму саюзу павышаецца на 4,2 мільярда руб. Такім чынам, устаноўленая адзіная прадажная цана на хлеб Советам Народных Камісараў Саюза ССР (па Беларусі: жытні хлеб простага памолу—1 р., пшанічны хлеб з мукі 96 проц.—1 р. 10 к. і пшанічны з мукі 85 проц. памолу—2 руб.) не адаб'ецца на бюджэце рабочага і служачага, а насельніцтва, якое не было на цэнтралізаваным снабжэнні, атрымае хлеб па паніжанай цане.

Спыненне атаварвання хлебам загатовак тэхнічных культур, якія вытварае сельская гаспадарка, кампенсуецца павышэннем загатоўчай цаны. Напрыклад, на ільнавалакно загатоўчая цана ўстаноўлена з 1 студзеня 1935 г. пастановай Соўнаркома Саюза на 170 проц. вышэй існуючай зараз.

Тою-ж пастановай Соўнаркома павышаны загатоўчыя цэны па зярнопастаўках на 10 проц. і па закупцы хлеба на 20 проц. На закупкі павышэнне цэн уводзіцца з верасня 1935 г., а на зярнопастаўкі—з пачатку 1935 г.

Акрамя таго, Саюзны Соўнарком павялічыў фонд на 533,8 млн. для павелічэння платы па вывазцы лесу, у звязку са спыненнем выдачы аўса возчыкам-калгаснікам і аднаасобнікам па нармаваных дзяржаўных цэнах. У 12-ці прамысловых раёнах разгорнут дзяржаўны гандаль аўсом і вотрубямі, цэны на якія з 1 студзеня 1935 г. рэзка зніжаны. На авёс устаноўлена цана 75 к. за кгр. супроць існуючай 1 р. 75 кап., на вотрубі пшанічныя—90 кап. супроць 1 р. 75 кап., на вотрубі жытнія—80 к. супроць 1 р. 50 к. У будучым сетка па прадажы хлебафуража будзе значна пашырана і наближана да месц лесарасправацовак. Гэтым у значнай меры зніжаецца небяспека скармлівання жывёле печанага хлеба.

Усе партарганізацыі і комуністы, а тым больш комуністы, якія працуюць у гандлюючых арганізацыях, павінны ўлічыць, што ў працэсе работы могуць мець месца вылазкі класавага ворага, спекулянта, перакупшчыка, якія будуць імкнуцца дэзарганізаваць гандаль хлебам. Гэтым вылазкам павінен быць дан рашучы адпор. За водпускам хлеба ў адны рукі не больш 2 кгр., устаноўленага Саюзным Соўнаркомам, у першы час павінны прасачыць і дакладна выканаць работнікі дзяржгандлю і кааперацыі.

Трэба ўказаць яшчэ на адно важнае мерапрыемства па палепшанню снабжэння насельніцтва гарадоў. Разгорнута прадажа слівачнага масла ў асноўных гарадах БССР. У IV кв. гэтага года план прадажы—120 тон. Прыступлена да развароту гандлю фруктагароднінай, ўзорны магазін у Менску адкрыт. Адкрыты спецыялізаваныя рыбны і малочны магазіны. Прыступлена да абсталявання вялікага гастранамічнага магазіна ў Менску з месячным зваротам у мільён дзвесце тысяч, які будзе адкрыт у студзені. Паступова

будуць адкрывацца спецыялізаваныя магазіны і ў іншых гарадах. Гэта, вядома, будзе зніжаць рыначныя цэны на прадукты.

Ліквідацыя картачнай сістэмы ставіць перад намі задачу дасканалай папярэдняй падрыхтоўкі. Той факт, што прадажная цана на хлеб рэзка знізіцца, што хлеб будзе прадавацца не толькі ў гарадах, але і ў сельскіх раёнах, у пунктах лесараспрацовак, здабычы торфу і т. д., попыт на хлеб у першы час павялічыцца. Адсюль— неабходнасць павелічэння вытворчай базы хлебапячэння і дадатковай новай сеткі хлебных крам, ларкоў і палатак.

Існуючая вытворчая база ў гарадах павінна быць пашырана, каб поўнасцю задаволіць попыт на хлеб. Асабліва важна ўлічыць гэта раёнам, дзе вытворчая база хлебапячэння слабая і дзе трэба выходзіць з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР: па 64 раёнах пашырыць вытворчую базу на 150 тон ў суткі. Вытворчая база павінна быць, згодна пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР, падрыхтавана для эксплаатацыі к 25 снежня. За гэту справу нясуць адказнасць не толькі спажывецкая кааперацыя, але і мясцовыя раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі, якія павінны штодзенна апрацыйна кіраваць як ходам рамонту існуючых хлебапякарань, так і пашырэннем іх, дапамагчы будматар'яламі, рабочай сілай.

Існуючая сетка хлебных магазінаў і ларкоў не можа задаволіць той патрэбы, якая паўстане перад дзяржгандлем і кааперацыяй у снежні. Таму, паводле рашэння снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б, гандлёвая сетка па прадажы хлеба пашыраецца на 330 магазінаў. План ў раённым разрэзе спушчаны. Неабходна ўжо, згодна плану, адвесці памяшканні і прыступіць да іх абсталявання. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на набліжэнне хлебных крам да спажыўца, бо нават у гарадах большасць хлебных магазінаў знаходзілася ў цэнтры, таму новаадчыняемыя магазіны трэба размясціць на акраінах, чыгуначных пунктах і ў рабочых пасёлках.

На пашырэнне сеткі хлебапячэння і крам у цэнтралізаваным парадку адпушчана 2 млн. руб. Акрамя таго, пастановаю ЦК і СНК дазволена раёнам, у выпадку недастатковасці адпушчаных сродкаў, пакрыць дадатковыя выдаткі за кошт мясцовага бюджэта. Неабходна эканомна і рацыянальна выдаткоўваць гэтыя сродкі.

На якасць рамонту хлебных магазінаў трэба звярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Ліквідацыя картачнай сістэмы на хлеб павысіць патрабаванне спажыўца к якасці і разнастайнасці асартымента хлебам. Якасць выпякаемага хлеба не заўсёды і не ўсюды была добрай. Пры рэзкім разыходжанні цэн нармаваных і свабоднай прадажы, хлеб нават дрэннай якасці заўсёды рэалізаваўся. Зараз, калі на хлеб будзе ўстаноўлена адзіная цана і кожны будзе ведаць, што хлеба заўсёды можна купіць колькі патрэбна, спажывец будзе патрабаваць, каб хлеб быў высокай якасці.

Да гэтага часу нашы заводы трэставанага хлебапячэння выпякалі дзевяць гатункаў хлеба. Магчымасці трэставанага хлебапячэння, а значыць і ўсіх прамысловых раёнаў, дазваляюць выпякаць каля ста гатункаў хлеба, для вырабу якіх сыравіны выстарчае. Заготзярно ў дастатковай колькасці мае розныя гатункі мукі, пачынаючы ад 30 проц. выхаду і да 95 проц. Белкаапсаюзу, які ведае трэставаным хлебапячэннем, неабходна распрацаваць і забяспечыць быстрае

правядзенне ў жыццё плана пашырэння асартымента выпякаемага хлеба.

Нельга абыйсці моўчкі і пытання падбору людзей. Патрэбны кваліфікаваныя рабочыя-хлебапёкі і ў сельскіх мясцовасцях, прадаўцы хлеба ў новаадчыняемых хлебных, мучных і круляных магазінах. Трэба падабраць чэсных, добрасумленных работнікаў і навучыць іх культурна гандляваць. У гэтай справе рашаючую ролю павінны адыграць профсаюзы.

Правільна зрабілі Белкаапсаюз і Белхарчгандаль, арганізаваўшы курсы па падрыхтоўцы работнікаў прылаўка для продажы хлеба. Белкаапсаюз арганізаваў у 10 гарадах 20-дзенныя курсы на 400 чал. з частковым наборам новых работнікаў. Белхарчгандаль прыступіў да набору людзей у пачатку снежня і прымацаваў іх для практычнай работы ў лепшыя хлебныя магазіны. Белпромхлеб арганізаваў курсы бракёраў і інструктароў на 31 чалавек, курсы хлебапёкаў на 28 чал. для трэставанага хлебапячэння, акрамя таго, на механізаваных заводах арганізаваны курсы на 150 чалавек для нетрэставанага хлебапячэння.

Зусім дрэнна рыхтуецца ОРС Наркамлеса, які нічога яшчэ не зрабіў для падрыхтоўкі кадраў па сваёй сістэме.

Паставіць работу магазінаў наогул і ў прыватнасці па хлебу ўзорна, культурна—важнейшая задача работнікаў каапэрацыі і дзяржгандлю і асабліва партыйных арганізацый. Трэба павесці самую рашучую барацьбу з растратчыкамі, бракаробамі, з абважваннем, абмерваннем, з грубасцю і няўважлівымі адносінамі да спажыўца, з антысанітарыяй у крамах, ларках і палатках, шырока разгарнуць соцспаборніцтва сярод работнікаў прылаўка, крам, ларкоў. Практыкаваць дапамогу перадавых крам адстаючым. Выкарыстаць вопыт, ініцыятыву, узорныя прыклады работы і шырока іх папулярызаваць сярод усіх работнікаў прылаўка. У гэтай справе павінны аказаць вялікую дапамогу цэнтральны і раённы друк.

Нашы магазіны павінны працаваць на высокім ўзроўні, выжыць казёншчыну, неапэрацыйнасць, абязлічку і безадказнасць, незацікаўленасць, абыякавыя адносіны да выканання планаў.

Трэба памятаць словы т. Сталіна на студзеньскім пленуме мінулага года:

> «Калі гандаль на першай стадыі нэпа дапускаў ажыўленне капіталізма і функцыянавання прыватна-капіталістычнага сектара ў таваразвароце, то совецкі гандаль выходзіць з адмаўлення як таго, так і другога. Што такое совецкі гандаль? Совецкі гандаль ёсць гандаль без капіталістаў—малых і вялікіх, гандаль без спекулянтаў—малых і вялікіх. Гэта асобага роду гандаль, якога не ведала да гэтага часу гісторыя і які практыкуем толькі мы, большэвікі, ва ўмовах совецкага развіцця».

Трэба мець на ўвазе, што класавы вораг будзе весці работу супроць вялікага палітычнага і гаспадарчага мерапрыемства—адмены картачнай сістэмы на хлеб, крупу і муку. Ёсць ужо сігналы аб тым, што кулак сям-там выступае з такімі гутаркамі: «Раз хлеба ўсюды будзе многа, значыць працаваць у калгасе трэба менш» (калгас імя Гея, Мазалаўскага с.-с., Мсціслаўскага раёна). Такой кулацкай агітацыі адразу-ж трэба даць самы жорсткі адпор. Кожная партыйная і комсамольская арганізацыя павінны растлумачыць калгаснікам

і працоўным аднаасобнікам палітычную і гаспадарчую важнасць рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, з тым, каб праводзячы іх у жыццё, дабіцца новых вялікіх поспехаў у будаўніцтве соцыялізма.

Кожны член партыі павінен памятаць і шырока растлумачваць рабочым, калгаснікам і працоўным аднаасобнікам, што **адмена картачнай сістэмы,**—як гаварыў т. Сталін,—**будзе, па-першае, мець выключнае значэнне для далейшага разгортвання тавараздвароту ў нашай краіне,** што, па-другое, **яна будзе мець сур'ёзнае значэнне з пункту пагляду далейшага ўмацавання грашовай сістэмы,** што **адмена картачнай сістэмы і ўстанаўленне адзінай цаны на хлеб, муку і крупу з'яўляецца, па-трэцяе, сур'ёзнейшым крокам наперад у справе зніжэння цэн на хлеб і на іншыя тавары, у справе далейшага павышэння, на гэтай аснове, жыццёвага ўзроўню рабочых і калгаснікаў.**

Задача партыйных і совецкіх арганізацый—забяспечыць ажыццяўленне гэтага мерапрыемства партыі на практыцы так, каб яно садзейнічала яшчэ большай мабілізацыі працоўных мас горада і вёскі на далейшую барацьбу за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва. Неадкладна давесці да шырокіх мас рашэнне пленума і растлумачыць яго палітычнае і эканамічнае значэнне шляхам прапрацоўкі на ўсіх прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах і на аснове гэтага рашэння мабілізаваць працоўных на барацьбу за выкананне задач, пастаўленых XVII партыйным з'ездам і т. Сталіным перад усёй партыяй, перад усімі працоўнымі ў другую пяцігодку.

Другое пытанне, разгледжанае на пленуме ЦК ВКП(б)—гэта пытанне аб рэарганізацыі палітаддзелаў МТС.

Рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб рэарганізацыі палітаддзелаў МТС выцякае і з агромных поспехаў і перамог, атрыманых партыяй за апошнія два гады ў галіне калгаснага будаўніцтва і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, і з задач, якія стаяць на даным этапе ў вёсцы.

Каб замацаваць дасягнутыя поспехі ў справе калектывізацыі, ліквідаваць арганізацыйна-гаспадарчыя недахопы ў калгасах і забяспечыць далейшыя поспехі ў калгасным будаўніцтве, патрэбна было ў найкарацейшы тэрмін ачысціць калгасы ад кулацкіх і іншых класава-варожых элементаў, умацаваць арганізацыйна, падабраць і ўзмацніць калгасы праверанымі большэвіцкімі кіруючымі кадрамі, наладзіць правільную арганізацыю працы, навучыць калгаснае сялянства выкарыстоўваць тыя магчымасці, якія закладзены ў соцыялістычнай форме вядзення сельскай гаспадаркі.

Раённыя камітэты партыі на пэўным адрэзку часу не ў стане былі хутка і рашуча ліквідаваць буйнейшыя палітычныя, арганізацыйныя і гаспадарчыя недахопы ў калгасным будаўніцтве, хутка ачысціць калгасы ад кулацка-шкодніцкіх элементаў, арганізацыйна-гаспадарча ўмацаваць калгасы. Таму студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) у 1933 г., па ініцыятыве т. Сталіна, вынес рашэнне аб арганізацыі палітаддзелаў, і ЦК накіраваў у палітаддзелы лепшых, правераных на практычнай рабоце комуністаў.

Палітаддзелы МТС кінуты былі на адзін з адказнейшых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва, і дабіліся рашаючых поспехаў у справе ўмацавання калгаснага ладу, агромных поспехаў у барацьбе за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё калгаснікаў.

Разбіваючы ўшчэнт імкненне рэштак кулацтва і іншых класава-варожых і шкодніцкіх элементаў, якія імкнуліся ўзарваць калгасы знутры, ускрываючы і разбіваючы кулацкі сабатаж у хлебазагатоўках, палітаддзелы арганізавалі і згуртавалі вакол партыі шматмільённы беспартыйны актыў калгаснікаў.

Канкрэтна і аперацыйна кіруючы кожным участкам работы і кожным калгасам паасобку, уваходзячы ва ўсе дробязі калгаснай вытворчасці, дапамагаючы правільна расставіць сілы, правільна арганізаваць працу ў калгасах, калгасных брыгадах, жывёлагадоўчых фермах і т. д., палітаддзелы адыгралі велізарнейшую ролю ў справе аўладання калгаснікамі калектыўнай калгаснай вытворчасцю, у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, у справе выхоўвання калгаснікаў у свядомых удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і стварэння моцнага калгаснага актыва вакол вясковых і калгасных партыйных арганізацый.

Пры дапамозе палітаддзелаў партыя за апошнія два гады дасягнула буйнейшых поспехаў у правядзенні ўсіх сельска-гаспадарчых і палітычных кампаній. Яркім пацверджаннем гэтага з'яўляецца паспяховае правядзенне ў гэтым годзе ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы: своечасова і ў значна карацейшы тэрмін, прычым якасна лепш, чым у мінулым годзе, правялі сяўбу, ўборку ўраджаю; датэрмінова выканалі абавязацельствы перад дзяржавай па хлебапастаўках, адгрузцы бульбы пролетарскім цэнтрам і загатоўцы іншых відаў сельска-гаспадарчай прадукцыі, а таксама хлебазакупак.

Зараз ужо нельга паспяхова ўмацаваць калгасы без таго, каб адначасова не займацца сельсоветамі, школай, больніцай, кааперацыяй і т. д. Для кіраўніцтва ўсёй работай неабходна ўмацаваць раённыя партыйныя і совецкія арганізацыі, каб яны маглі ўсебакова ахапіць жыццё і работу на вёсцы.

Гаспадарча-палітычнае становішча на вёсцы настолькі змянілася, што партыя можа адмовіцца ад тых надзвычайных форм кіраўніцтва, якімі з'яўляліся палітаддзелы МТС, і перайсці да адзінай формы партыйнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай—праз раённыя камітэты партыі.

На падставе гэтага лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б) вынес рашэнне абператварэнні палітаддзелаў МТС у звычайныя партыйныя арганізацыі, аб зліянні іх з існуючымі райкомамі партыі, а ў паасобных выпадках, калі гэта патрэбна для набліжэння кіраўніцтва да калгаснай і соўгаснай вытворчасці, разбуйніць існуючыя раёны.

Зліянне палітаддзелаў МТС з райкомамі партыі ў значнай меры ўзмоцніць раённыя партарганізацыі вытрыманымі большэвіцкімі кадрамі, бо ўсе работнікі палітаддзелаў МТС паводле рашэння пленума застаюцца ў раёнах. Побач з гэтым, раённыя камітэты партыі, узбагаціўшыся вопытам большэвіцкіх метадаў работы палітаддзелаў, змогуць ператварыць раённы цэнтр у моцны гаспадарча-культурны і арганізацыйна-палітычны апарат арганізацыі і кіраўніцтва калгаснай вёскай.

Перад раённымі камітэтамі, як і перад усёю партыяй, не гледзячы на атрыманыя за апошні час буйныя поспехі, стаяць яшчэ агромныя задачы: завяршэнне суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, перавыхаванне калгаснікаў у свядомых удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў. Завяршэнне суцэльнай калектывізацыі, канчатковая ліквідацыя

рэштак разбітага кулацтва і іншых класава-варожых элементаў будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы.

Задача раённых партыйных арганізацый, умацаваных уліўшыміся палітаддзелаўскімі кадрамі—завастрыць класавую пільнасць і на аснове рашэння пленума мабілізаваць працоўныя масы на выкананне плана другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б у сваіх рашэннях намеціў канкрэтныя шляхі і практычныя мерапрыемствы па ажыццяўленню пастаноў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і рэарганізацыі палітадзелаў МТС. Рашэнні лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б з'яўляюцца практычнаю праграмай работы для ўсёй КП(б)Б, усіх партыйных, совецкіх, профсаюзных і гандлюючых арганізацый. Таму ўсе ГК і РК КП(б)Б абавязаны шырока папулярызаваць рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б і забяспечыць прапрацоўку іх ва ўсіх партыйных арганізацыях, на прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах і на гэтай аснове мабілізаваць шырокія масы працоўных на далейшыя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва.

---




К. К. Ратнек

# За далейшае палепшанне кіраўніцтва калгасамі

*(Да зліяння палітаддзелаў МТС з райкомамі партыі)*

Рашэнні лістападаўскага пленума Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), «Аб адмене картачнай сістэмы па хлебу і некаторых іншых прадуктах» і «Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы» з'яўляюцца выражэннем тых соцыяльна-палітычных і эканамічных зрухаў, якія адбыліся ў нашай краіне, у прыватнасці ў сельскай гаспадарцы за апошнія два гады.

Гэтыя рашэнні з'яўляюцца паказчыкам сапраўды буйных, сусветна-гістарычных перамог, якія дасягнуты нашай партыяй і яе Цэнтральным Камітэтам на чале з мудрым правадыром т. Сталіным, дзякуючы цвёрдай большэвіцкай палітыцы па ліквідацыі вузкіх месц і труднасцей на шляхах пабудовы соцыялістычнага грамадства.

Рашэнні пленума, кожнае ў сваёй галіне і ўсе разам, прадстаўляюць сапраўды адзіны ланцуг мерапрыемстваў далейшай барацьбы нашай партыі за далейшыя перамогі. Гэтыя рашэнні з'яўляюцца, такім чынам, не толькі рэзультатам тых поспехаў, якіх мы дабіліся ў справе соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны і ўмацавання калгаснага ладу, але ў сваю чаргу з'яўляюцца крыніцай далейшых поспехаў і перамог, далейшага росту і росквіту нашай краіны, нашай соцыялістычнай гаспадаркі ў горадзе і ў вёсцы.

Лістападаўскі пленум ЦК падымае нашу барацьбу за соцыялізм на наступную, больш высокую ступень, ставіць у новых умовах новыя задачы. На аснове ажыццяўлення гэтых рашэнняў яшчэ больш умацуецца саюз рабочага класа з сялянствам—гэта аснова пролетарскай дыктатуры.

Рэзалюцыя пленума па дакладу т. Кагановіча «Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы» з'яўляецца лепшай атэстацыяй, лепшай ацэнкай работы палітаддзелаў за паўтара-два гады іх існавання. Палітаддзелы і палітаддзельцы, пасланыя на ўдарную работу для вырашэння ўдарных задач на вёсцы, сапраўды папрацавалі па-большэвіцку.

Кожны з работнікаў палітаддзелаў можа сказаць, што ў той ці іншай меры яго работа, работа палітаддзела, не толькі сказалася на зоне МТС, але наклала свой станоўчы адбітак і на работу раённай партыйнай арганізацыі ў цэлым. Гэта гаворыцца ў рашэнні лістападаўскага пленума. Кожны з работнікаў палітаддзелаў сапраўды адчувае канкрэтныя рэзультаты сваёй большэвіцкай работы.

Рашэнне аб ператварэнні палітаддзелаў мабілізоўвае на прадаўжэнне той работы па ўмацаванню калгаснага ладу, якую палітаддзелы вялі дагэтуль, толькі ў новых умовах, у новай абстаноўцы.

За 1933 і 1934 гг. былі арганізаваны 3.368 палітаддзелаў МТС і 2.021 палітаддзелаў соўгасаў. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) паслаў старанна і персанальна адабраных 17 тысяч комуністаў у якасці работнікаў палітаддзелаў МТС і 8 тысяч—у якасці работнікаў палітаддзелаў соўгасаў.

З 76 МТС у БССР палітаддзелы былі арганізаваны пры 72 МТС. Усяго ў палітаддзелах МТС БССР—362 чал. Большасць начальнікаў палітаддзелаў (67,5 проц.)—члены партыі з 1917—20 гг., большасць нам. нач. палітаддзелаў (51 проц.)—члены партыі з 1924—1926 гг. Па свайму соцыяльнаму становішчу большасць работнікаў палітаддзелаў МТС БССР з'яўляюцца рабочымі. У асобе палітаддзельцаў наша калгасная вёска атрымала новыя кадры стойкіх большэвікоў-арганізатараў.

У чым-жа быў сакрэт поспеху работы палітаддзелаў МТС? Гэта пытанне было пастаўлена т. Варашылавым яшчэ на XVII з'ездзе партыі і ім-жа быў дан бліскучы адказ. Сакрэт поспехаў работы палітаддзелаў МТС заключаўся ў тым, што яны ўзяліся за галоўнае, за асноўнае—за мабілізацыю людзей калгаснай вёскі, за мабілізацыю калгаснікаў-ударнікаў, за згуртаванне калгаснага актыва. Сярод палітаддзельцаў немалая колькасць таварышоў, якая прышла ўпершыню на работу ў вёску. І іменна таму, што мабілізацыя і арганізацыя людзей былі асноўным сродкам іх работы, яны дабіліся поспеху. Зараз мы маем згуртаваны калгасны актыў, шырокім фронтам разгорнутае соцспаборніцтва і ўдарніцтва, маем такі ўзровень свядомасці калгасных мас у адносінах да грамадскай уласнасці і калгаснай дысцыпліны, які з'яўляецца яркім довадам непахіснасці нашага калгаснага ладу. Вопыт работы палітаддзелаў, атрымаўшы высокую ацэнку ЦК ВКП(б), лішні раз паказвае сілу і першачарговае значэнне партыйна-масавай, палітычнай і арганізацыйнай работы.

* * *

Пераходзім да асвятлення асноўных момантаў работы палітаддзелаў МТС Совецкай Беларусі, галоўным чынам за 1934 год, бо іменна ў 1934 год палітаддзелы МТС БССР уступілі больш разгорнутым фронтам, узбагачаныя вопытам сваёй работы за 1933 год.

Барацьба за высокі ўраджай калгасных палёў стаяла ў цэнтры ўвагі ўсёй работы палітаддзелаў МТС.

Падрыхтоўка веснавой сяўбы гэтага года пачалася масавай праверкай аховы насеннага матар'ялу, пратручваннем, ачысткай і праверкай яго ўсхожасці. Яшчэ ў веснавой сяўбе 1933 г. ва многіх калгасах сеялі непратручаным, неачышчаным і ніжэй чым 50 проц. усхожасці насеннем. Сёлета ўсе МТС наладзілі праверку ўсхожасці насення ў сваіх лабараторыях. У барацьбе за ажыццяўленне вядомай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК Саюза палітаддзелы арганізавалі праверку стану насенных фондаў у асноўным па ўсіх калгасах, ачыстку насення, унутры-калгасны абмен яго і т. д.

У калгасах МТС БССР высеяна 146.339 цнт. пратручанага насення. Сартавым насеннем засеяна ў веснавую пасеўкампанію—паводле папярэдніх даных—18.299,53 га. Буйнейшым мерапрыемствам у барацьбе за высокі ўраджай з'явілася ўгнаенне глебы. На ажыццяўленне гэтага мерапрыемства было мабілізавана кіраўніцтва калгасаў, калгасны актыў, масы калгаснікаў. Палітаддзелы сістэматычнай правер-

кай выканання планаў вывазкі гною і завозу мінеральных угнаенняў дабіліся ў гэтай справе ў параўнанні з мінулым годам значных поспехаў. На палі калгасаў МТС пад яравы клін было вывезена 3.963.750 вазоў гною пры плане вывазкі 5.572.200 вазоў (паводле папярэдніх даных), што складае 71,1 проц., тым часам як у 1933 г. па ўсёй Беларусі было вывезена 5.878.594 вазы. Хоць план вывазкі поўнасцю не выканан, усё-ж такая колькасць гною ўпершыню была вывезена на калгасныя палі. Пры гэтым неабходна ўлічыць, што ўгнаенне глебы ішло таксама па лініі тарфавання, попелу, вапнавання глебы і т. д. Побач з натуральнымі ўгнаеннямі сёлета было завезена ў калгасы 11.892 тоны мінеральных угнаенняў.

Веснавая і азімая сяўба 1934 г. прашла пры лепшай апрацоўцы глебы. У барацьбу за якасць ворыва, баранавання, сяўбы і заробкі насення былі прыцягнуты шырокія масы калгаснікаў і калгасніц. Палітаддзелы апіраліся на інспектароў якасці, якія адыгралі агромную ролю ў справе павышэння якасці палявых работ. Ва многіх МТС, як правіла, ворыва праводзілася на глыбіню не менш як у 16—18 см., амаль на нішто былі зведзены агрэхі. Праведзена вялікая работа і па асушцы пасеўных палёў. У радзе калгасаў Лёзненскай, Асвейскай, Горацкай, Расонскай, Слуцкай, Рагачоўскай і інш. МТС прарыты каналы для спуску вады, што ў значнай меры захавала ўраджай ад штогодніх вымачак, якія асабліва былі моцны ў паўночнай ільнаводнай зоне. Аднак, барацьба за высокую культуру земляробства яшчэ не ахапіла ўсе калгасы. У той-жа Лёзненскай, Дубровенскай, Віцебскай і інш. МТС ёсць калгасы, дзе апрацоўка глебы, асушка палёў звычайнымі, даступнымі кожнаму калгасу сродкамі знаходзяцца ўсё яшчэ на нізкім узроўні.

Вялікім недахопам у барацьбе за высокую якасць веснавой і асенняй сяўбы з'яўлялася ігнараванне радковай сяўбы, і ў асаблівасці дрэннае выкарыстанне трактарных сеялак ва многіх калгасах. Рад палітаддзелаў не здолеў да канца зламаць тое супраціўленне радковай сяўбе, якое скрозь і ўсюды яшчэ ёсць.

Палітаддзел Б.-Кашалёўскай МТС, к прыкладу, які нядрэнна забяспечыў якасць сяўбы і ўборкі, усё-ж не здолеў дабіцца выкання планаў радковай сяўбы, хоць у параўнанні з мінулым годам дабіўся значна большага выканання гэтага плана. План радковай сяўбы ў 2950 га калгасамі Б.-Кашалёўскай МТС выканан толькі на 72,1 проц., а па ўсёй плошчы азімых радковая сяўба складае толькі 48,3 проц. У 1933 г. план радковай сяўбы гэтай МТС быў выканан толькі на 7,1 проц. Даныя па выкананню радковай сяўбы калгасамі Б.-Кашалёўскай МТС—не выключэнне, а тыповы для большасці нашых МТС.

Палітаддзелы мабілізавалі калгаснікаў на мінімальнае скарачэнне тэрмінаў палявых работ. Сяўба яравых сёлета была закончана на 25 дзён раней чым летась, прычым сяўба зернавых культур выканана па калгасах МТС на 110,5 проц., а пшаніцы на 100,2 проц., сяўба азімых была скончана на 30 дзён раней мінулага года пры выкананні плана на 100,7 проц. Па асобных МТС тэрмін сяўбы цягнуўся 30—35 дзён, тым часам як у мінулым годзе 60—67 дзён.

Значна лепш прашла і праполка зернавых. План праполкі зернавых па калгасах МТС быў дан у памеры 236.677 га; праполата 303,343 га, або 128,1 проц.

Аб узроўні нашай барацьбы за высокі ўраджай гавораць даныя па ворыву зябліва і цалінных зямель і нагрузка трактарнага парку гэтымі работамі. Беларусь па ворыву цаліны сёлета прарабіла больш, чым за ўсю першую пяцігодку. План ворыва цаліны па БССР выканан на 93,1 проц. (асвоена звыш 110.000 га новых зямель), а па МТС на 81,1 проц. План зяблівага ворыва выканан калгасамі МТС на 110,2 проц., тым часам, як у мінулым годзе ворыва зябліва цягнулася амаль да канца лістапада і было выканана толькі на 75 проц. Уся гэта работа, бясспрэчна, з'яўляецца адным з рашаючых момантаў у павышэнні ўраджайнасці, у справе ўвядзення севазваротаў (ворыва цаліны) і наогул упарадкавання зямель Беларусі.

Уборка зернавых сёлета была закончана на 40 дзён раней, чым летась, уборка бульбы—на 50, уборка лёну—на 70—75 і ўборка сена—на 55 дзён раней.

У барацьбе за высокі ўраджай, за своечасовае і добраякаснае выкананне с.-г. кампаній палітаддзелы МТС здолелі мабілізаваць самыя шырокія масы калгаснікаў і дабіцца далейшых поспехаў у правільнай арганізацыі калгаснай працы. У 1933 г. некаторая частка калгасаў, асабліва дробных, яшчэ не мела вытворчых пастаянных брыгад. У 1934 г. брыгада, як правіла, больш замацавалася, арганізаваны звенні, якія паказалі сваю гібкасць, узмацнілася барацьба за прадукцыйнасць працы на аснове прымянення групавой і індывідуальнай здзельшчыны.

Ужо з самага пачатку ўборкі і абмалоту зернавых культур палітаддзелы ў цэнтр увагі сваёй партыйна-масавай і арганізацыйнай работы паставілі пытанні датэрміновага выканання першай запаведзі—абавязковая пастаўка зярна дзяржаве. Ход кампаніі хлебаздачы ў гэтым годзе лішні раз паказвае сілу закона цвёрдых паставак і ўзрослую свядомасць калгасных мас. «У свядомасці мільёнаў калгаснікаў укаранілася разуменне першачарговасці выканання сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай» (з рэзалюцыі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б)). План абавязковых зернапаставак калгасамі БССР быў выканан 5 верасня, тады як у мінулым годзе хлебаздача цягнулася да 5 снежня. Сёлета хлебапастаўкі мы, такім чынам, выканалі раней мінулага года на 3 месяцы.

План натураплаты МТС к 25 верасня быў выканан на 100,9 проц. Аднак на гэтую дату 15 МТС поўнасцю яшчэ не выканалі плана натураплаты. У той час, як план абавязковых зернапаставак на 5 верасня быў выканан на 101,8 проц., план натураплаты паслуг МТС на гэтую-ж дату быў выканан на 67,8 проц. Такім чынам, мы мелі некаторую расцяжку данай кампаніі. Некаторымі палітаддзеламі была дапушчана «чарговасць» (Плешчаніцкай, Суражскай, Мсціслаўскай, Полацкай, Талачынскай, Дубровенскай і Касцюковіцкай МТС, у якіх на 5 верасня не было яшчэ і 90 проц. выканання натураплаты).

Хоць хлебаздача ў БССР прашла з вялікім уздымам, пры вялікай арганізаванасці калгаснага кіраўніцтва і актыва, усё-ж меў месца рад фактаў праяўлення паасобнымі работнікамі антыдзяржаўных тэндэнцый, не кажучы ўжо пра цэлы рад спроб «зніжаць» ураджай (па калгасах Горацкай і інш. МТС). Спробы гэтыя «зніжаць» ураджай атрымалі належны і своечасовы адпор ад палітаддзелаў.

Паасобнымі палітаддзеламі аднак была дапушчана недаацэнка барацьбы супроць антыдзяржаўных тэндэнцый. Інакш нельга вытлумачыць той факт, што некаторыя палітаддзелы (Тэрахаўскай, Сіро-

цінскай, Заслаўскай і інш. МТС) не надрукавалі на старонках сваіх газет пастановы ЦК ВКП(б) аб палітсектары Вінніцкага абласнога зямельнага кіраўніцтва, не арганізавалі масавай прапрацоўкі гэтай пастановы, лічачы, што паколькі Беларусь датэрмінова завяршыла хлебаздачу, гэта рашэнне нас не датычыць. Тут, бясспрэчна, сказаліся і элементы самасупакоенасці. У гэтай сувязі неабходна таксама ўказаць на ўсё яшчэ моцную тэндэнцыю раўнення на сярэднія лічбы. Пасля выканання зонай або раёнам у цэлым планаў хлебаздачы, сям-там аслабілі ўвагу к тым калгасам, якія яшчэ не выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай. Тэндэнцыя раўнення на сярэднія лічбы, якая сям-там праяўляецца не толькі ў галіне выканання абавязацельстваў перад дзяржавай, але і ў іншых галінах сельска-гаспадарчых (ды і не толькі сельска-гаспадарчых) работ—гэта палітычна і практычна шкодная тэндэнцыя, па сутнасці апартунізм на практыцы.

Цэнтральны Камітэт нашай ленінскай партыі вучыць нас змагацца супроць гэтай шкоднай тэндэнцыі. Змагацца супроць стаўкі на сярэднія лічбы, значыць змагацца супроць апартуністычнай самасупакоенасці і антыдзяржаўных тэндэнцый, за дыферэнцыяванае і канкрэтнае кіраўніцтва кожным раёнам, кожным калгасам паасобку.

Антыдзяржаўныя тэндэнцыі асабліва праяўляліся ў правядзенні хлебазакупак не толькі паасобнымі адсталымі радавымі калгаснікамі, але і паасобнымі парторгамі, старшынямі калгасаў і брыгадзірамі. Прывядзем толькі адзін прыклад: У калгасе «Новае жыццё» (Старадарожскай МТС) парторг калгаса Максімаў, які скончыў комвуз (жыве матэр'яльна добра, атрымлівае разам з жонкай штомесяц 424 рублі, атрымаў 54 пуды хлеба і 458 пудоў бульбы), не толькі не мабілізаваў калгас і калгаснікаў на прадажу хлеба, але і сам адмовіўся прадаць хлеб дзяржаве. Максімаў з партыі, вядома, быў выключан; у сувязі з гэтым фактам палітаддзел правёў масавую работу сярод камуністаў зоны МТС.

Новае, што мы мелі сёлета ў галіне цераблення і апрацоўкі лёну, гэта падвойнае-патройнае цераблённе (так званая сартоўка лёну на корані). Гэта адно з важных мерапрыемстваў у барацьбе за высокую якасць ільнапрадукцыі. Вопыт перадавога ільнаводнага Сенненскага раёна быў перанесен у калгасы Бешанковіцкай, Горацкай, Свіслацкай і інш. МТС. Паасобныя палітаддзелы арганізавалі пасылку брыгад (Асвейская і інш. МТС) у калгасы Сенненскага раёна з мэтай перанясення вопыту сенненцаў у калгасы свайго раёна.

Па ініцыятыве палітаддзела Сенненскай МТС у сялянскіх еўнях была арганізавана бяздымная сушка лёну шляхам пераабсталявання наяўных печаў.

Па цераблению лёну «Комсамолкай» лепшыя ўзоры работы паказалі Боркавіцкая МТС (выцераблена 500 га, на адну «Комсамолку» прыпадае звыш 12 га), Ветрынская, Лепельская, Сенненская і Лёзненская МТС.

Найшырэйшыя масы калгаснікаў былі ўцягнуты ў барацьбу за лепшы лён. І там, дзе была правільна арганізавана праца, дзе было ўстаноўлена правільнае налічэнне працадзён, «бесперапыннае» прэміяванне і праведзена масавая работа вакол гэтага (Сенненская, Оршанская, Бешанковіцкая, Полацкая і інш. МТС), там мы мелі найбольш высокую якасць ільнавалакна і ільнатрасты. У цэлым радзе МТС усё-ж барацьба за лён не была арганізавана як след (кал-

гасы Расонскай МТС замест нумара 9 здалі нумар 7,4; Шклоўскай МТС—замест 10,5 здалі 9,6 і т. д.).

Характэрна, што паасобныя МТС, якія добра ішлі па ўсіх паказчыках, адставалі па лёну, не гледзячы на тое, што ў іх была вельмі нязначная колькасць лёну (Гомельская, Рагачоўская МТС). Гэта гаворыць аб тым, што работа з лёнам у так званых неільнаводных МТС яшчэ моцна адстае і яўна недаацэньваецца.

З другога боку, рад МТС (Сіроцінская і інш.), якія доўгі час сядзелі ў прарыве, адставалі ў выкананні с.-г. кампаній, аказаліся сёлета перадавікамі, добра арганізавалі барацьбу за лён. Поспехі па лёну гэтых МТС павінны будуць паслужыць адпраўным пунктам для сапраўднай ліквідацыі адставання па ўсіх паказчыках работы.

Мы ў БССР надзвычай расцягнулі завяршэнне ільназагатовак. Гэта сведчыць аб тым, што рад раёнаў у сваёй практычнай рабоце на гэтым важнейшым участку не ўлічыў недахопаў і памылак ільназагатовак мінулых год. Тэрмінова і поўнасцю завяршыць выкананне планаў ільназагатовак—важнейшая задача дня. Па-большэвіцку справіцца з гэтай задачай азначае ў нашых умовах—з чэсцю завяршыць сельска-гаспадарчы год наогул.

У 1933 г. участак жывёлагадоўлі быў адстаючым участкам у рабоце нашых палітаддзелаў. Становішча ў корані змянілася пасля выступлення т. Сталіна на XVII з'ездзе партыі і пасля рашэння чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б. Пытанні развіцця і ўздыму жывёлагадоўлі, арганізацыі ў кожным калгасе жывёлагадоўчых ферм, арганізацыі працы на ферме, падбор і вылучэнне лепшых людзей на жывёлагадоўчым участку займалі ў апошні перыяд адно з першых месц ва ўсёй палітыка-масавай і арганізацыйнай рабоце палітаддзелаў МТС.

Калгаснікі Оршанскай МТС з'яўляюцца ініцыятарамі жывёлагадоўчага паходу імя 7 з'езда саветаў СССР.

Па калгасах Клімавіцкай і Дамянавіцкай МТС быў праведзен конкурс на варашылаўскага конюха.

Па калгасах Віцебскай і Оршанскай МТС пабудаваны паказальныя асоавіяхімаўскія стайні. Гэта работа палітаддзела Оршанскай МТС спецыяльна адзначана старшынёй ЦС АСО тав. **Эйдэманам**.

Палітаддзелы правялі вялікую растлумачальную кампанію па пастановах XVII з'езда і чэрвеньскага пленума аб жывёлагадоўлі.

Аб колькасці жывёлагадоўчых ферм па калгасах БССР гавораць наступныя лічбы: у 1931 г. у БССР было 2.294 МТФ, у 1934 г.—6.790 (рост на 296 проц.); СТФ было ў 1931 г. 1.564, у 1934 г.—3.707 (рост на 237 проц.); ОТФ было ў 1931 г. 1.459, а ў 1934 г.—2.935 (рост на 201 проц.).

Паводле звестак 42 палітаддзелаў МТС, якія абслугоўваюць 2.652 калгасы, жывёлагадоўчых ферм няма ў 223 калгасах. Паводле гэтых-жа звестак, 16 калгасаў з 2.652 не выканалі плана мяса і малакопаставак, астатнія выканалі поўнасцю. У 87 калгасах Дзяржынскай МТС—163 жывёлагадоўчыя фермы, у 42 калгасах Боркавіцкай МТС—74 фермы, у 55 калгасах Лепельскай МТС—126 ферм і т. д.

Па калгасах Віцебскай МТС на 1-Х—34 г. пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася з 2.361 да 3.556 галоў, г. зн. прырост на 50,6 проц., гэтым гадавы план ужо на адзначаную дату быў выканан на 90,6 проц., тады як прырост пагалоўя буйнай рагатай жывёлы па ўсяму Віцебскаму раёну (паводле даных гарЗА) складае на

тэтую-ж дату толькі 12 проц. У гэтых лічбах сказваецца большэвіцкая барацьба віцебскага палітаддзела за развіццё жывёлагадоўлі.

Не малую работу палітаддзелы правялі сёлета ў галіне стварэння кармавой базы.

Рад палітаддзелаў паказваў добрыя ўзоры падрыхтоўкі і правядзення зімоўкі жывёлы і гэтым пацвярджаў свой паварот к пытанням жывёлагадоўлі. Частка палітаддзелаў аднак не ішла далей дэкларацыі, не ўдзялялі належнай увагі пытанням падрыхтоўкі зімоўкі жывёлы.

Асобага інтарэсу заслугоўвае работа палітаддзелаў, перш за ўсё нам. нач. палітаддзелаў, па жаночай рабоце, па мабілізацыі **калгасніц** на выкананне рашэнняў партыі і ўрада аб жывёлагадоўлі. Палітаддзелы шырока прыцягвалі калгасніц да работы па ачыстцы кіруючага і абслугоўваючага персанала ферм ад класава-чуждых і выпадковых элементаў, па наладжванню парадку на жывёлагадоўчых фермах. Палітаддзелы арганізавалі самаправерачныя брыгады з лепшых і актыўных калгасніц-ударніц. Гэтымі брыгадамі было праверана 2.128 ферм. Былі таксама праведзены санітарныя суботнікі на фермах і прымацаваны да ферм жаночыя дазоры, кантрольныя брыгады з лепшых калгасніц-ударніц, старух. Шырокія масы калгасніц уцягнуты ў жывёлагадоўчы паход імя 7 з'езда советаў СССР і 11 з'езда советаў БССР.

Упаўне апраўдаў сябе метад вылучэння палітаддзеламі апорных вопытна-паказальных ферм. Па калгасах МТС выдзелена 150 вопытна-паказальных ферм, праз якія палітаддзелы пераносяць лепшыя ўзоры арганізацыі працы ў астатнія фермы. Надзвычай каштоўным у рабоце вопытна-паказальных ферм з'яўляецца ўкараненне плана работы, давядзенне яго да кожнага работніка фермы і арганізацыя праверкі выканання гэтага плана.

У абвешчаны конкурс на лепшую даярку ўключаецца па калгасах МТС 1.200 даярак.

Аднак, на многіх фермах праца даярак, цялятніц і свінарак арганізавана яшчэ дрэнна. Часта налічваюць працадні соткамі незалежна ад стану стада і яго прадукцыйнасці. Заг. фермамі часта блытаюцца ў пытаннях арганізацыі і аплаты працы. Мае месца цякучасць работнікаў ферм.

Мы павінны змагацца з цякучасцю работнікаў ферм. Неабходна больш сур'ёзна падыйсці да падбору кадраў жывёлагадоўчых ферм, стварыць ім адпаведныя ўмовы работы, ператварыць ферму ў цэнтр масава-палітычнай работы.

У веснавой сяўбе бягучага года рад МТС, дзе буйныя калгасы, нярэдка прарыўныя і адстаючыя ў мінулым, заваявалі вядучую ролю ў раёне (Рагачоўская, Магілеўская, Дзяржынская і інш.).

Калгасы Рагачоўскай МТС, к прыкладу, ішлі па сяўбе вышэй, чым калгасы не зоны МТС, на 20—25 проц. Якасць сяўбы данай МТС таксама была больш высокай, чым у калгасах астатняй часткі раёна. Характэрна, што і аднаасобнікі зоны МТС ішлі па сяўбе на 10—12 проц. вышэй, чым аднаасобныя гаспадаркі раёна. У сувязі з прарывам у радзе калгасаў, не абслугоўваемых МТС, палітаддзел арганізаваў ім дапамогу работай 8 трактароў.

Палітаддзел Дзяржынскай МТС, завяршыўшы сяўбу па калгасах сваёй зоны, перакінуў у калгасы Путчынскай МТС гэтага-ж раёна 23 трактары і арганізаваў ім дапамогу 1.500 коне-днямі.

Перадавы ў БССР палітаддзел Хойніцкай МТС арганізаваў дапамогу найбольш адстаючым калгасам не зоны МТС 3.000 коне-днямі.

Але больш важным паказчыкам нашай работы з'яўляецца тое, што рад палітаддзелаў МТС здолеў выканаць указанні партыі аб спецыяльнай рабоце з адстаючымі калгасамі. Там, дзе гэтаму пытанню была ўдзелена належная ўвага, цэлыя групы раней адстаючых калгасаў выцягваліся на перадавыя лініі. У зоне дзейнасці Магілеўскай МТС напярэдадні сяўбы было 12 адстаючых калгасаў. Палітаддзел вывучаў прычыны іх адставання. У самым адстаючым калгасе «Новы свет» палітаддзелам быў высунут у якасці старшыні праверады камуніст-калгаснік Жураўлёў, які згрупаваў вакол сябе калгасны актыў. З дапамогай палітаддзела ён арганізаваў прыліў у калгасы 15 аднаасобных гаспадарак, якія прышлі са сваімі коньмі. Гэтая акалічнасць значна палегчыла напружанае становішча з жывою цягавай сілай. У калгасе былі арганізаваны яслі на 70 дзяцей і грамадскае харчаванне ў час палявых работ. Калгас датэрмінова скончыў сяўбу і заваяваў пераходны сцяг палітаддзела. Аналагічную работу палітаддзел правёў у астатніх, раней адставаўшых калгасах.

Сотні раней адставаўшых калгасаў з дапамогаю палітаддзелаў сталі цяпер перадавымі. Ліквідацыя адставання паасобных калгасаў была пастаўлена перад палітаддзелам, як адна з важнейшых задач.

Паводле матар'ялаў толькі 5 палітаддзелаў (Старобінскай, Боркавіцкай, Чашніцкай, Клімавіцкай і Хойніцкай МТС), у іх было ў пачатку бягучага с.-г. года 40 прарыўных калгасаў, з якіх 27 вышлі цяпер у перадавыя. Асноўныя, найбольш тыповыя меры, якімі палітаддзелы забяспечылі ліквідацыю адставання даных калгасаў, гэта— павышэнне процанта работы трактароў і іншых машын МТС, арганізацыя прыліву аднаасобнікаў у калгасы, умацаванне кіраўніцтва калгасаў, разбуйненне калгасаў (Клімавічы), зліянне карлікавых (па колькасці гаспадарак) калгасаў (Чашнікі).

Аднак у гэтай галіне прадстаіць яшчэ вельмі вялікая работа. Многія калгасы маюць шмат зямлі і адчуваюць недахоп у рабочай сіле. 510 калгасаў у БССР маюць нагрузку ворыва на 1 калгасны двор ад 8 да 20 га.

Па Сенненскаму раёну з 27 адстаючых калгасаў—25 перанасычаны зямлёю да 22 га на двор.

Па Чашніцкаму раёну з 30 адстаючых калгасаў у 23 прыпадае зямлі на двор да 22 га.

Калгас «Чырвоны прамень», Дрысенскага раёна, мае 12 працаздольных, 18 рабочых коней, нагрузка зямлі на двор—58,6 га і т. д.

Надзвычай характэрна, што ўсе вышэйадзначаныя 5 палітаддзелаў бачаць асноўную прычыну адставання літаральна ўсіх адстаючых калгасаў у іх перагрузцы зямлёй і ў недахопе рабочай сілы. У агромнай большасці выпадкаў гэта безумоўна так. Але ёсць і іншыя прычыны адставання паасобных калгасаў. Устанавіць у гэтым пытанні адзін шаблон было-б няправільна і шкодна. Галоўнае-ж ў рабоце з адстаючымі калгасамі заключаецца іменна ў тым, каб падыйсці дыферэнцыявана, канкрэтна да кожнага выпадку паасобку. Толькі такі падыход дасць нам магчымасць правільна і канкрэтна намеціць шляхі ліквідацыі адставання таго ці іншага калгаса.

У многіх раёнах у спісах адстаючых лічацца якраз тыя калгасы, якія церпяць ад хутарской сістэмы. Адстаючы калгас «Ленінскі

шлях», Расонскага раёна, к прыкладу, мае 7 брыгад, хутары калгаснікаў раскіданы на адлегласці ў 8—12 клм.

Належыць таксама ўлічыць, што мы маем даволі значную колькасць дробных карлікавых калгасаў, нярэдка адстаючых у выкананні кампаній. Паводле звестак 58 палітаддзелаў МТС, у зоне іх абслугоўвання налічваецца 580 калгасаў з 15—25 гаспадаркамі і 265 калгасаў— ніжэй 15 гаспадарак.

Усё гэта разам узятае ставіць перад партыйна-савецкімі арганізацыямі рад складаных, але неадкладных задач далейшага ўмацавання калгасаў (больш інтэнсіўная работа па ліквідацыі астаткаў хутарызацыі па прыкладу праведзенай работы ў зоне дзейнасці Дубровенскай МТС, больш інтэнсіўная работа па далейшай калектывізацыі БССР, аб'яднанне калгасаў у радзе выпадкаў і т. п.).

Практыка палітаддзельскай работы гаворыць аб тым, што калі той ці іншы калгас адставаў па прычыне засмечанасці, дрэннага кіраўніцтва і т. п.,—то палітаддзелы, прымаючы пэўныя арганізацыйныя меры, звычайна хутка ліквідавалі гэта адставанне. Калі-ж той ці іншы калгас адстае па прычыне адсутнасці рабочай сілы і т. п., то аздараўленне калгаса зацягваецца.

Многае ўжо зроблена па вывучэнню эканамічнага стану калгасаў, прычын адставання паасобных калгасаў. Менш зроблена для ўстаранення гэтых прычын. Часта абмяжоўваюцца фіксацыяй гэтых прычын і іх **часовай** ліквідацыяй (кампанейскі падыход). Сучасны этап работы на вёсцы патрабуе, каб не было ні аднаго адстаючага калгаса, патрабуе далейшага ўсямернага арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання калгасаў. І для гэтага неабходна ўзмацніць работу па ліквідацыі астаткаў хутарызацыі—пытанне агромнага практычнага і палітычнага значэння для далейшага ўмацавання і росквіту нашай калгаснай вёскі, больш сур'ёзна заняцца дробнымі і кожным яшчэ адстаючым калгасам паасобку, узмацніць хвалю калектывізацыі.

У першы перыяд сваёй работы палітаддзелы МТС БССР сканцэнтравалі ўвагу амаль выключна на калгасным сектары вёскі. Накіроўваючы ўсе свае намаганні на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, многія палітаддзелы ўпусцілі неабходнасць сістэматычна працаваць і ў індывідуальным сектары, удзельная вага якога, асабліва ў БССР, яшчэ вельмі вялікая. Іменна гэта акалічнасць да нядаўнага часу з'яўлялася асноўнай прычынай слабога росту далейшай калектывізацыі. У ліку іншых важкіх прычын слабога росту калектывізацыі неабходна ўказаць на тую апартуністычную практыку, якая мела (ды часам яшчэ мае) месца ў налагавой і фінансавай палітыцы ў адносінах да аднаасобніка, і на той факт, што ў радзе месц была ўстаноўлена такая практыка, якая дала магчымасць аднаасобнікам часткова або нават поўнасцю ўхіляцца ад выканання абавязацельстваў перад дзяржавай і ад грамадскіх абавязкаў. Многія палітаддзелы да нядаўняга часу як след не займаліся вывучэннем эканамічнага стану аднаасобнікаў, не заўсёды выкрывалі канкрэтных носьбітаў апартуністычнай практыкі ў адносінах да аднаасобніка.

Прыметны зрух у гэтай важнейшай справе наступіў у другой палове 1934 г., калі ўсе палітаддзелы ўжо выступаюць арганізатарамі масавага прыліву ў калгасы, сістэматычна займаюцца далейшай калектывізацыяй сваёй зоны. Гэтую сваю работу палітаддзелы ўзмацнілі асабліва ў сувязі з завяршэннем сельска-гаспадарчага года і з

перавыбарамі советаў. Удзел палітаддзелаў МТС у справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў у большай меры працякаў пад знакам арганізацыі прыліву, далейшай калектывізацыі.

На першае ліпеня г.г. калектывізацыя БССР дасягнула 55,3 проц. За першую палову бягучага года процант калектывізацыі ў БССР павялічыўся на 4,3, а апошнія 2½ м-цы (жнівень-верасень) далі прырост калектывізацыі на 6 проц. Гэтая лічба гаворыць аб больш інтэнсіўным прыліве за апошні час. Процант калектывізацыі па БССР на 1-Х-34 г. дасягнуў 61,2, а па калгасах МТС—61,7. Апошні квартал бягучага года дасць яшчэ большы рост калектывізацыі.

У сваёй перадавіцы ЦО ВКП(б) «Правда» ад 30 лістапада г.г. пісала: «Завяршэнне калектывізацыі ў поўным сэнсе гэтага слова становіцца важнейшаю задачай дня». Перад партыйнымі і совецкімі арганізацыямі БССР стаіць вялікая работа як у арганізацыі далейшай калектывізацыі, так і ва ўмацаванні новых калгасаў. Арганізацыя новага прыліву ў калгасы і работа з новымі калгасамі і маладымі калгаснікамі—два бакі адной медалі. Задача спецыяльнай работы з новымі калгасамі павінна быць падкрэслена тым больш, што сямтам захапляюцца колькасным ростам калектывізацыі і недастакова займаюцца арганізацыйна-гаспадарчым яго ўмацаваннем (Быхаў, Мазыр).

Палітаддзеламі праведзена выключна вялікая работа па ачыстцы калгасаў ад класава-варожых і кулацкіх элементаў, якія, пралезшы ў калгасы, імкнуліся разлажыць іх знутры. Зараз, у час уздыму новай хвалі масавага прыліву аднаасобнікаў у калгасы, у радзе выпадкаў аслабляецца класавая пільнасць у пагоні за колькасным ростам прыліву. Гэта з'ява можа быць скарыстана кулацкім і іншым кулацка-варожым элементам, каб пралезці ў калгас і весці там сваю контррэволюцыйную шкодніцкую работу. Ясна, што рэшткі адміраючых капіталістычных класаў і іх агентура будуць аказваць шалёнае супраціўленне пераможнаму росту социялістычнага будаўніцтва. Уся гісторыя змагання пролетарыята і ўсіх працоўных нашай краіны, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з тав. Сталіным, за соцыялістычнае будаўніцтва праходзіла ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы. Гэта барацьба яшчэ не скончана.

Ажыццяўленне рашэнняў XVII партз'езда і выкананне планаў другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—не аслабляе класавай барацьбы. Канчатковая ліквідацыя класаў у нашай краіне, а разам з тым і ліквідацыя ўсіх астаткаў разбітых, але канчаткова яшчэ недабітых капіталістычных класаў выклікае шалёнае іх супраціўленне. Гэта знаходзіла сваё пацверджанне ў арганізацыі розных тэрарыстычных груп з рэштак былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі, у забойстве лепшага кіраўніка большэвіцкай партыі і совецкай улады тав. КІРАВА з мэтай дэзарганізацыі кіраўніцтва совецкай улады.

Апублікаванае абвінавачанне па справе забойцы т. Кірава паказвае, што класавыя ворагі не грэбаюць нічым і скарыстоўваюць усе сродкі барацьбы супроць совецкай улады, супроць партыі, супроць пераможнага ходу соцыялістычнага будаўніцтва. Ад усёй партыі, ад усіх працоўных патрабуецца ўзмацніць сваю класавую пільнасць і бязлітасна выкрываць класавых ворагаў. Завяршэнне суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў павінна суправаджацца іх ачысткай

ад усіх кулацкіх і класава-варожых элементаў, каб не даць ім магчымасці пралезці ў калгасы пры новым калгасным прыліве.

Уся работа нашых палітаддзелаў характэрна рашучай ачысткай МТС, МТФ і трактарных атрадаў ад чужакоў і шкоднікаў. 1933 год і асабліва 1934 г. былі для палітаддзелаў гадамі барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне МТС, за найбольш поўнае і правільнае выкарыстанне трактарнага парка.

> «Не гледзячы на наяўнасць яшчэ сур'ёзных недахопаў у справе выкарыстання сельска-гаспадарчых машын у вёсцы,... за апошнія два гады, значна лепш, чым у мінулыя гады, скарыстоўваюцца большасцю калгасаў і соўгасаў трактары, малатарні, ільнацерабілкі і т. д.» (з рэзалюцыі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б))

У 1933 г., к прыкладу, у перыяд веснавых работ, вышлі са строю з прычыны сур'ёзных аварый ці сур'ёзнага папсавання важнейшых дэталей 350 трактароў або каля 25 проц. усяго парка. Усе гэтыя трактары патрабавалі тэрміновага капітальнага рамонту. Другая-ж частка трактарнага парка (не менш 70 проц.) адчувала вострую неабходнасць у сярэднім рамонце, і толькі нязначны працант трактароў абышоўся бягучым рамонтам.

У 1934 г. мы маем зусім іншыя паказчыкі. Асноўная маса нашых трактароў, каля 80 проц. усяго парка, зімой прашла капітальны рамонт. Зімняя рамонтная кампанія, не гледзячы на цэлы рад істотных недахопаў, прашла лепш, чым ва ўсе мінулыя гады. Сур'ёзных аварый за красавік і май бягучага года было зарэгістравана 13, такім чынам, не 25 проц., а ўсяго толькі 0,8 проц. К 10 чэрвеня г. г. лік выхадаў трактароў увесну з ворыва цаліны і папару ў капітальны рамонт складаў 3,3 проц. (57 выпадкаў). На сярэдні рамонт к гэтаму часу быў пастаўлен 341 трактар (20 проц.). Астатнія-ж трактары, прапрацаваўшыя вызначаную ім норму, былі пастаўлены на чарговы агляд і бягучы рамонт.

Аднак у радзе месц арганізацыйным пытанням работы трактароў не была ўдзелена дастатковая ўвага. Трактарны парк сям-там вышаў у поле без строга выпрацаванага плана-маршрута, без папярэдняга агляду палёў і ўліку іх, без папярэдняга замацавання трактароў за паасобнымі ўчасткамі і т. д. Іменна ў рэзультаце дрэннай арганізацыі справы, у радзе МТС з самага пачатку работы трактароў мелі месца вялікія прастоі, лішнія перагоны трактароў з участка на ўчастак, з калгаса ў калгас, наяўнасць фактаў работы трактароў на горшых і меншых участках пры адначасовай апрацоўцы лепшых і большых масіваў коньмі.

У 1934 г. удзельнічала ў сельска-гаспадарчых работах 71 машынатрактарная станцыя супроць 60 у 1933 г. Разам праведзена трактарных работ (без малацьбы) на 415.000 га ўмоўнага мяккага ворыва супроць 190.560 га ў 1933 г., што складае 217 проц. у параўнанні з 1933 г.

Бясспрэчна, што скарыстанне трактароў сёлета было наладжана лепш, чым у мінулым годзе.

Сярэднегадовая колькасць трактароў у 1933 г. складала 1.200 умоўных 15-сільных трактароў, у 1934 г.—1.772. Прырост трактарнага парка за год выражаецца ў колькасці 47,6 проц., у той-жа час прырост трактарных работ складае 117 проц. Прырост трактарных ра-

бот, такім чынам, прапарцыянальна вышэй, чым прырост трактарнага парка, а гэта безумоўна ёсць рэзультат лепшай работы, хоць і не гаворыць яшчэ аб якасці.

Неабходна таксама прааналізаваць аб'ёмы работы трактарнага парка па асобных яе відах.

Веснавое ворыва ў 1934 г. дае прырост у параўнанні з 1933 г. толькі на 62 проц. пры агульным прыросце трактарных работ, як указана вышэй, на 117 проц. і прыросце трактарнага парка на 47,6 проц. Гэта гаворыць аб тым, што па самаму важнейшаму віду работ і ў самую адказную веснавую сельска-гаспадарчую кампанію выкарыстанне трактароў не было на належнай вышыні, што большасць МТС не зрабіла патрэбнага ўпору на гэты стрыжнёвы від работы.

Наяўнасць самацёку ў арганізацыі трактарных работ пацвярджаецца яшчэ і тым, што ў веснавую кампанію трактарны парк быў накіраван на адносна лёгкія работы, як баранаванне, культывацыя і дыскаванне, якія з поспехам маглі-б выконвацца конскаю цягавай сілай. Лёгкіх відаў работ у параўнанні з 1933 г. выканана на 146 проц. больш.

На асобым становішчы з лёгкіх відаў трактарных работ павінен знаходзіцца пасеў трактарнымі сеялкамі. Радковая сяўба, як адно з важнейшых агратэхнічных мерапрыемстваў, здавалася-б павінна быць у цэнтры ўвагі работы МТС, тым больш, што гэта мерапрыемства па БССР не мела вялікага пашырэння дагэтуль. Аднак, прырост гэтага віду работ у параўнанні з 1933 г. складае толькі 69 проц. у веснавой і 343 проц. у азімай сяўбе, пры вельмі нязначных абсалютных велічынях: 11.200 га ўвесну і 19.500 га ўвосень. Не гледзячы на некаторы зрух, радковая сяўба ў асенняй кампаніі, радковая сеялка яшчэ не заваявала свайго месца ў комплексе трактарных работ. Зусім недастаткова правядзенне радковай сяўбы: толькі на 30.700 га; пры баранаванні, культывацыі і дыскаванні—на плошчы 228.900 га.

Зусім нязначны таксама аб'ём работ трактароў па лушчоўцы сцерні, ільнацерабленню, сенакашэнню і сіласаванню. МТС дагэтуль не выкарысталі магчымасці нагрузкі прычэпных машын і палегчання найбольш працаёмкіх работ калгаснай вытворчасці. Гэтыя карэнныя недахопы і памылкі ў скарыстанні трактароў і рад істотных недахопаў у справе планавання работ трактарнага парка абавязкова павінны быць ізжыты ў 1935 годзе.

У радзе раёнаў мы маем, асабліва ў мінулым годзе, факты праяўлення кулацкіх, антымеханізатарскіх настрояў,—паасобныя калгасы не хацелі прымаць трактароў. Гэтыя настроі ўзнікалі галоўным чынам у рэзультаце кулацкай агітацыі, а таксама часткова ў рэзультаце дрэннай работы трактароў, безадказных адносін МТС да выканання сваіх дагаворных абавязацельстваў. У гэтым годзе, калі трактарны парк пачаў працаваць лепш, мы маем у тых-жа раёнах іншыя адносіны да трактара—калгаса, і калгаснікі самі просяць, каб трактар у іх папрацаваў. Вырас і расце вытворчы і палітычны аўтарытэт трактара і МТС—рашаючую ролю тут адыграла работа палітаддзелаў.

У сучасны момант у цэнтры ўвагі МТС знаходзіцца зімовая рамонтная кампанія. Своечасовым і добраякасным рамонтам трактароў і іншых сельска-гаспадарчых машын мы павінны ўжо сёння рыхтаваць поспех работы ўсёй сельска-гаспадарчай тэхнікі ў 1935 г.

У барацьбе за ўмацаванне калгасаў, за высокі ўраджай, за далейшую калектывізацыю, за своечасовае выкананне кампаній і асабліва за выкананне калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай—палітаддзеламі выяўлен і выхаван шырокі **калгасны актыў,** вакол партарганізацый згуртаваны лепшыя людзі вёскі. Брыгадзір, звеннявы, інспектар якасці, пам. брыгадзір-жанчына, старшы па ільну, рэдактар насценкі і т. д.—усё гэта новыя фігуры калгаснага актыва ў вёсцы БССР.

Па калгасах адной Хойніцкай МТС працавалі ў першы перыяд палявых работ 370 калгасных інспектароў якасці; па калгасах адной Магілеўскай МТС—70 інспектароў. Агратэхнічныя канферэнцыі МТС, канферэнцыя вопытнікаў-калгаснікаў у Клімавіцкай МТС, работа вопытнікаў у Старобінскай МТС, інспекцыя па якасці і т. д.—усё гэта мабілізуе людзей вёскі, масы калгаснікаў, калгасны актыў перш за ўсё на барацьбу за высокі ўраджай.

Паводле выбарачных даных 8-мі палітаддзелаў (Полацкай, Віцебскай, Хойніцкай, Слуцкай, Сенненскай, Заслаўскай, Горацкай і Магілеўскай МТС), колькасць беспартыйнага калгаснага актыва складала ў 1933 г. 2.883 чал., у тым ліку 697 жанчын-калгасніц, а ў 1934 г.—ужо 7.612 чал. з іх 2.333 жанчыны-калгасніцы.

У наяўнасці, такім чынам, значны колькасны рост беспартыйнага калгаснага актыва. Рост гэты безумоўна з'яўляецца ўсеагульнаю з'явай ва ўсіх палітаддзелах.

У рэзультаце работы палітаддзелаў вырасла вытворчая і палітычная актыўнасць мас **жанчын-калгасніц.** Спецыяльная работа палітаддзелаў сярод жанчын вёскі дала свае плады. Паводле звестак 55 палітаддзелаў, у перыяд падрыхтоўкі сяўбы, злётамі-сходамі і канферэнцыямі было ахоплена 5.500 жанчын-калгасніц, у перыяд падрыхтоўкі праполкі—17.000, а ў перыяд падрыхтоўкі і апрацоўкі лёну—35.000. У праведзеных рэйдах і культпаходах прыняло ўдзел 27.000 калгасніц. Па ініцыятыве палітаддзелаў узнік і выхаван новы арганізатар калгасніц—памочнік брыгадзіра. Па калгасах МТС налічваецца 3.700 жанчын пам. брыгадзіраў, якія з'яўляюцца ініцыятарамі рэгулярнага склікання вытворчых нарад у брыгадзе, выпуску брыгадных газет, правядзення гучных чытак газет у брыгадзе і перш за ўсё—арганізатарамі соцспаборніцтва сярод жанчын.

Вялікую ролю адыграла таксама работа са звеннявымі-жанчынамі і вылучэнне жанчын у якасці адказных па ільну ў брыгадзе. Нарадамі звеннявых, старшых па ільну і жанчын-інспектароў па якасці і падрыхтоўка іх праз кароткатэрміновыя курсы толькі за перыяд праполкі і ўборкі ахоплена 16.000 чалавек (паводле матар'ялаў 55 палітаддзелаў).

Для работы палітаддзелаў з актывам жанчын-калгасніц і выхавання гэтага актыва характэрны і наступныя даныя. За перыяд студзень-верасень 1934 г. прашлі шасцімесячныя або кароткатэрміновыя курсы 116 жанчын старшынь калгасаў, 240 жанчын членаў рэўкамісіі, 30 жанчын намеснікаў старшынь калгасаў, 191 жанчына-брыгадзір, 620 заг. фермамі, 2.600 жанчын пам. брыгадзіраў, 359 жанчын інспектароў па якасці, 2.940 даярак і свінарак, 191 трактарыстка, 10.000 жанчын звеннявых і т. д. Праўда, не ўсе калгасніцы, прашоўшыя курсы, замацаваны на адпаведныя работы. Са 116 калгасніц, прашоўшых курсы старшынь калгасаў, у сапраўднасці старшынямі калгасаў працуюць толькі 90; з 620 калгасніц, прашоўшых курсы заг

фермамі, у сапраўднасці працуюць заг. фермамі толькі 215. Зусім недастаткова замацоўваюцца на работу тыя калгасніцы, якія прашлі курсы трактарыстак і брыгадзіраў паляводных брыгад. Тут сказваецца тая закаранеласць і нерашучасць, якая ў радзе месц яшчэ праяўляецца ў вылучэнні калгасніц на рашаючыя і кіруючыя работы сельска-гаспадарчай вытворчасці. І сапраўды, хоць і ёсць рост вылучэння калгасніц за перыяд работы палітаддзелаў, але гэты рост яшчэ недастатковы. У якасці старшынь калгасаў вылучана 146 калгасніц, у якасці брыгадзіраў паляводных брыгад—204, заг. фермамі—510, трактарыстак—102, а ў якасці нам. старшынь калгасаў—40. Партыйным арганізацыям, стала быць, прадстаіць яшчэ ў гэтай галіне вялікая работа.

Колькасны і якасны рост калгаснага актыва прад'яўляе к партыйнаму кіраўніцтву больш павышаныя патрабаванні. Работа з актывам, аднак, вядзецца яшчэ па-кампанейску, не ўсюды глыбока.

Калгасны палітдзень—адна з форм масавай работы амаль усіх палітаддзелаў. Такія палітдні былі праведзены па калгасах МТС па пытаннях насеннага матар'ялу, жывёлагадоўлі, рамонту сельска-гаспадарчага інвентара, перавыбараў советаў і т. д. Дрэнна яшчэ рыхтуюцца да гэтых палітдзён, яўна недаацэньваецца арганізацыйна-тэхнічны бок гэтай справы. Такую-ж недаацэнку мы на справе маем у пытанні палітычна-выхаваўчага і практычна-арганізацыйнага значэння агульнага сходу калгасаў. Хоць у сваёй рабоце палітаддзелы безумоўна сістэматычна былі заняты і склікаННем, і правядзеннем агульных сходаў, але не кожнае важнае мерапрыемства ў калгасе праводзіцца праз агульны сход калгаснікаў, у радзе выпадкаў захапляюцца яшчэ загадамі і пастановамі, «націскам» на кіруючы склад калгаса. Мала яшчэ ўвагі ўдзяляецца падрыхтоўцы гэтых сходаў. Яшчэ няма шырокай барацьбы за калгасную дэмакратыю, бо гэта, вядома, звязана з больш крапатлівай растлумачальнай і выхаваўчай работай. Нярэдка таксама захапляюцца «аб'ездамі» калгасаў, замест глыбокай і пастаяннай работы з актывам. Іменна таму лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б) зусім правільна абавязвае райкомы, абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый:

> «выкарыстаць зімовы перыяд для далейшага ўмацавання калгасаў, згуртавання беспартыйнага актыва, палепшання работы праўленняў і старшынь калгасаў, павышэння ролі і значэння агульных сходаў калгаснікаў, згуртавання іх вакол партыі і далейшага ўмацавання пярвічнай партарганізацыі ў вёсцы».

Вялікую масавую работу палітаддзелы правялі ў гэтым годзе вакол арганізацыі **спаборніцтва і ўдарніцтва.** І сапраўды, вялікія масы ўцягнуты ў гэтую справу. Тут мы маем на ўвазе Ўсебеларускае спаборніцтва-конкурс на лепшую паляводную і трактарную брыгаду, на лепшага брыгадзіра, барацьбу за пераходны сцяг палітаддзела, конкурс на лепшую даярку і т. д.

Новае ў гэтай справе заключаецца ў тым, што спаборніцтва ў гэтым годзе было арганізавана больш канкрэтна, упор быў зроблен на брыгаду, спаборніцтва стымулявалася арганізацыйнымі мерапрыемствамі (кнігі знатных людзей калгасаў у Слуцкай, Капыльскай МТС, сустрэчы спаборнічаючых брыгад у Рагачоўскай МТС, значкі, флажкі, граматы, прэміяванне і т. д.).

Выключна сур'ёзную ролю ў мабілізацыі, арганізацыі і выхаванні самых шырокіх мас калгаснікаў, ва ўсёй палітыка-масавай і арганізацыйнай рабоце палітаддзелаў адыграў **друк.** У 1933 г. у нас было толькі 28 палітаддзельскіх газет, а ў 1934 г.—67. Сярэдні разавы тыраж палітаддзельскіх газет МТС Беларусі складаў 67.000 экземпляраў. Акрамя сваёй газеты амаль кожны палітаддзел выдаваў макеты, лістоўкі, «тэлеграмы» па асобных пытаннях сваёй работы. 9 палітаддзелаў выдавалі газеты для піянераў і калгаснай дзетвары, якія карысталіся ў асяроддзі калгасных рэбят выключнай папулярнасцю.

Палітаддзельскія газеты аказвалі агромную дапамогу палітаддзелам у барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў. Аперацыйнасць і канкрэтнасць у пастаноўцы пытанняў калгаснай вытворчасці і быту, шырокі разварот масавай работы, праяўленне большэвіцкай ініцыятывы, увага жывому чалавеку калгаснай вёскі, паказ работы лепшых людзей вёскі (сіла прыкладу), бічаванне нягоднага і дрэннага ў рабоце калгасаў, барацьба за выкананне калгасамі і калгаснікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, барацьба за далейшую калектывізацыю ў БССР, барацьба за ўкараненне соцспаборніцтва і ўдарніцтва на вёсцы—такавы найбольш характэрныя рысы і моманты ў рабоце многіх палітаддзельскіх газет.

Палітаддзельскі друк даў жыццё агромнай масе новых калгасна-брыгадных газет, значна пашырыў рады нашай селькораўскай арміі. З'яўленне палітаддзельскай газеты на вёсцы прынясло больш высокую колькасць і якасць у селькораўскім руху і ў рабоце нізавога калгаснага друку. Толькі па 23 калгасах Хойніцкай МТС за перыяд вясенняй сяўбы было выпушчана 360 брыгадных насценгазет. У перыяд вясенняй сяўбы ў 50 калгасах Рагачоўскай МТС выдаваліся брыгадныя насценгазеты, у астатніх калгасах выпускалі агульнакалгасныя газеты. Ва ўсіх 67 калгасах зоны дзейнасці Оршанскай МТС выходзяць насценгазеты. Толькі за **два** месяцы оршанская палітаддзельская газета атрымала 358 лістоў ад селькораў, калгаснікаў.

Сваю работу з селькорамі нашы палітаддзельскія газеты асабліва ўзмацнілі ў сувязі з падрыхтоўкаю да трэцяга Ўсебеларускага з'езда рабселькораў. У перыяд гэтай падрыхтоўкі безумоўна вырасла ўвага партыйнай і калгаснай грамадскасці к фігуры селькора, узмацнілася дапамога палітаддзельскай і раённай газеты нізавой газеце калгаса брыгады, разгарнулася масавая вучоба селькораў і рэдактароў калгасна-брыгаднага друку. Селькораўскі актыў—перадавая частка калгаснага актыва. Перад намі стаіць задача—узмацніць работу з гэтым актывам і тым самым палепшыць работу нашага нізавога калгаснага друку—гэтага важнейшага звяна палітычна-масавай і арганізацыйнай работы на вёсцы.

Адзін з вядучых участкаў палітаддзельскай работы—гэта ўчастак вытворчай і палітычнай мабілізацыі калгаснай моладзі, участак работы вясковага **комсамола.** У барацьбе палітаддзелаў МТС за ўмацаванне калгаснага ладу вясковаму комсамолу належыць ганаровае месца, месца перадавіка. Комсамол—вялікая сіла, і перад палітаддзеламі стаяла задача павысіць боездольнасць гэтай сілы, зрабіць яе ўсё больш і больш дзейснай, навучыць вясковы комсамол працаваць большэвіцкім стылем і дапасоўна да ўмоў работы на вёсцы выкарыстаць вопыт работы гарадскога комсамола.

Па калгасах МТС БССР налічваецца 1.285 пярвічных КСМ арганізацый, якія яднаюць 11.240 комсамольцаў, 60—65 проц. комсамольцаў са стажам 1931—1933 г.г. Кожная пярвічная комсамольская арганізацыя ў сярэднім яднае 4—6 комсамольцаў. 85—90 проц. усіх комсамольцаў занята ў калгаснай вытворчасці.

Палітаддзелы павінны былі дабіцца такога становішча, пры якім комсамол калгасаў стаў-бы на рашаючых участках калгаснай вытворчасці, а не на падсобных работах, як гэта было раней. І палітаддзелы сапраўды дабіліся ў гэтай галіне пэўных рэзультатаў. Аб гэтым гавораць хоць-бы наступныя даныя.

Старшынямі калгасаў у зонах МТС у 1933 годзе працавалі 36 комсамольцаў, а ў 1934 г. —172; брыгадзірамі ў 1933 г. працавала 149 комсамольцаў, а ў 1934 г.—420; трактарыстамі ў 1933 г. працавала 630 комсамольцаў, а ў 1934 г.—950. Акрамя таго, 42 комсамольцы працуюць механікамі, 104—брыгадзірамі трактарных калон. На ўборачных машынах былі заняты 630 комсамольцаў. На сяўбе па калгасах МТС працавалі 1.340 комсамольска-маладзёжных звенняў, на ўборцы—1.730. У пачатку 1933 г., к прыкладу, у зоне дзейнасці Лельчыцкай МТС працавала непасрэдна ў калгаснай вытворчасці 60—70 комсамольцаў, а ў 1934 г.—ужо 115 комсамольцаў (са 122). У мінулым годзе з 17 сакратароў комсамольскіх ячэек непасрэдна ў калгаснай вытворчасці было занята толькі 7, а сёлета на вытворчасці працуюць ужо ўсе комсамольскія арганізатары зоны.

Перабудова комсамольскіх арганізацый на падставе рашэнняў XVII з'езда партыі і IX пленума ЦК ВЛКСМ патрабавала ад палітаддзелаў удзяліць больш увагі, чым дагэтуль, разгортванню ўнутрысаюзнай работы. Па калгасах МТС ужо прыступілі да работы 1.200 школ пачатковай палітасветы. Падрыхтоўку і перападрыхтоўку прашлі 980 прапагандыстаў. Упершыню сёлета разгарнулася сець агульнаасветных школ калгаснай моладзі—працуе ўжо 180 школ. 65 з іх—на базе сямігодкі. Уведзена абавязковая вучоба комсамольскіх арганізатараў.

Вялікую актыўнасць праявілі комсамол і піонеры ў справе аховы ўраджаю. Палітаддзелы ўдзялілі гэтаму пытанню вялікую ўвагу. Былі арганізаваны групы дазораў ураджаю з удзелам 1.856 чал. калгаснай моладзі. Актыўнейшы ўдзел у ахове ўраджаю прынялі таксама брыгады «ЛК» (па калгасах МТС 470 брыгад «ЛК», яднаючых 2.670 комсамольцаў і маладых калгаснікаў). Шырокія памеры набыла арганізацыя калгаснай дзетвары вакол задач аховы ўраджаю. Толькі па калгасах адной Полацкай МТС у справу аховы ўраджаю было ўцягнута 1.500 рэбят. Усяго па калгасах МТС з дзетвары было арганізавана 1.360 груп па ахове ўраджаю, якія ахапілі больш 7 тысяч рэбят. Гэтыя групы актыўна ўдзельнічалі таксама ў зборы калосся.

Большасць МТС пасля ўборкі правялі злёты юных дазорнікаў і шэфаў маладняка.

Правядзенне XX МЮД'а ў БССР супала з заканчэннем уборачных работ і з разгортваннем работы па хлебаздачы. Таму МЮД у большасці выпадкаў быў адзначан масавымі абозамі хлеба. Усюды былі праведзены канферэнцыі калгаснай моладзі.

Усесаюзным спаборніцтвам маладых брыгадзіраў ахоплены ўсе маладыя брыгадзіры калгасаў МТС.

Увага **ўнутрыпартыйнай** рабоце, кіраўніцтва гэтай работай павінна было, здавалася-б, займаць вядучае месца ва ўсёй рабоце палітаддзелаў. У рэзультаце перабудовы партарганізацый вёскі па вытворчаму прынцыпу значна ўзмацніўся партыйны ўплыў, аднак унутрыпартыйная работа на вёсцы пастаўлена ўсё яшчэ слаба. Нярэдка якраз гэтай рабоце многія палітаддзелы па сутнасці ўдзялялі зусім недастатковую ўвагу. Найчасцей пры гэтым спасылаюцца на малалікасць, а ў радзе выпадкаў нават на поўную адсутнасць пярвічных партыйных арганізацый у калгасах.

К прыкладу, 33 калгасы Лельчыцкай МТС маюць 31 члена і кандыдата партыі, 20 з іх працуюць старшынямі калгасаў, 3—брыгадзірамі, 4—заг. фермамі, 1—старшым конюхам, 2—на гаспадарчай рабоце, 1—хатнікам.

Паводле даных 31 палітаддзела МТС, у калгасах, абслугоўваемых імі, налічваецца толькі 39 пярвічных партарганізацый.

Паводле даных 44 палітаддзелаў МТС—у калгасах гэтых МТС усяго 1.453 членаў і кандыдатаў партыі.

Малалікасць, а найчасцей адсутнасць партыйнай праслойкі ў нашых калгасах, як мы бачым нават з гэтых няпоўных даных, сапраўды з'яўляецца фактам.

Але ці можа гэты факт служыць прычынаю слабай увагі к унутрыпартыйнай рабоце ў калгасах? Зразумела не.

У нашых умовах унутрыпартыйная работа перш за ўсё азначае работу з комуністамі-адзіночкамі, яны-ж у большасці выпадкаў—парторгі або старшыні калгасаў. Праўда, гэта акалічнасць робіць нашу ўнутрыпартыйную работу на вёсцы больш складанай, але ні ў якім разе не можа апраўдаць слабасць пастаноўкі гэтай работы. Рад палітаддзелаў, нават такія, дзе палітыка-масавая работа разгорнута шырока (у Клімавіцкай МТС, к прыкладу), яўна адстаюць у рабоце з комуністамі-адзіночкамі, з парторгамі. Комуністы нават збіраюцца рэдка, а калі і збіраюцца, то іх сходы часта носяць такі-ж характар як, скажам, сходы старшынь калгасаў, або нарада МТС, спецыфіка партсходу адсутнічае. Партыйны дзень, калі і праводзіцца, то часта мала чым розніцца ад калгаснага палітдня, а ў радзе выпадкаў праводзіцца разам з палітднём.

Слабасць унутрыпартыйнай работы, стала быць, тлумачыцца няўменнем паставіць як належыць гэту важнейшую работу і няўважлівасцю да яе, а не малалікасцю партыйнай праслойкі ў калгасах.

Задача заключаецца ў тым, каб максімальна выкарыстаць зімовы перыяд, у прыватнасці зімовую партыйную вучобу для палепшання ўнутрыпартыйнай работы ў калгасах, работы з комуністамі-адзіночкамі, з кандыдатамі партыі, са спачуваючымі. У асаблівасці-ж зараз, калі ўся партыя, уся краіна праклінае тройчы брыдотныя падонкі быўшай зіноўеўскай антыпартыйнай групы, забойц тав. КІРАВА, ва ўмовах абвастрэння класавай барацьбы, павышэнне большэвіцкай пільнасці, узмацненне ўнутры партыйнай работы на вёсцы, выхаваўчая і прапагандысцкая работа сярод вясковых комуністаў павінны быць пастаўлены на асабліва высокім узроўні.

* * *

Цэнтр цяжару пастановы лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) «Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы» заключаецца ў тым, што гэта гістарычная пастанова ставіць перад намі рад новых задач, якія

выцякаюць з праробленай работы, з каласальнага росту нашых калгасаў, калгаснага актыва, і ўказвае тыя шляхі, па якіх павінна ісці, і пойдзе, далейшае палепшанне кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, **усёю** работай у калгаснай вёсцы.

Палітадзелы былі **надзвычайнаю** формай партыйнай арганізацыі. Перад імі стаялі асобыя, ударныя задачы. Зараз, як гэта ўказаў лістападаўскі пленум, кіраўніцтва вёскай ускладнілася. Узраслі задачы кіраўніцтва вёскай. Партыйнае кіраўніцтва павінна ахапіць **усе** бакі жыцця вёскі. У такіх умовах палітаддзелы самі па сабе ўжо недастатковы. Новая абстаноўка патрабуе ўмацавання нармальных партыйных і совецкіх органаў, якія ахапляюць сваім кіраўніцтвам вясковую работу **ва ўсёй** яе разнастайнасці: адміністрацыйную, гаспадарчую, культурна-бытавую, фінансавую, будаўніцтва школ, больніц, кіно, клубаў, дарог, розных культурна-бытавых устаноў і т. д. Рост задач кіраўніцтва вёскай патрабуе завяршэння пачатага яшчэ пры ліквідацыі акруг раёнавання і яшчэ большага, поўнага наблiжэння органаў кiравання к вёсцы. Іменна тут ляжыць крыніца таго **новага**, што прыносіць пастанова ЦК.

Рашэнне ЦК узнімае пытанне ўмацавання раённага звяна, раённага кіраўніцтва на небывалую дагэтуль вышыню. І тое, што палітаддзелы МТС будут пераўтвораны ў звычайныя партыйныя органы, будуць зліты з існуючымі райкомамі партыі, а асабліва вялікія раёны—разбуйнены; тое, што ўстанаўляецца пасада другога сакратара райкома і ствараюцца сельгасаддзелы, і тое, што сакратар райкома партыі будзе зацвярджацца ЦК ВКП(б)—усё гэта выражэнне таго, як ставіць зараз сталінскі ЦК пытанне аб рабоце райкомаў партыі, аб раённым кіраўніцтве. Іменна таму пленум падкрэсліў, што «пераўтварэнне палітаддзелаў узмацняе адказнасць райкомаў».

Значыць, пастанова ЦК—гэта велізарны крок наперад ў справе ўмацавання кіраўніцтва раёнамі. Рашэнне ЦК патрабуе пастаноўкі нашай работы на значна большую вышыню.

Адна з важных умоў паспяховай работы райкомаў у новых умовах—гэта ўспрыняць лепшыя ўзоры палітаддзельскай работы. Тая канкрэтнасць і аперацыйнасць, якую праяўлялі нашы палітаддзельцы, павінны быць перанесены на іншыя галіны нашай работы. Станоўчы вопыт работы палітаддзелаў павінен быць поўнасцю скарыстаны раённымі партыйнымі арганізацыямі.

Ці значыць гэта, што ў рабоце палітаддзелаў не было ніякіх недахопаў? Вядома не значыць, бо рашэнне ЦК не азначае, што можна спыніцца на дасягненнях і метадах работы палітаддзелаў і райкомаў партыі ў справе набліжэння кіравання к калгасу, к вёсцы. І ў рабоце палітаддзелаў быў цэлы рад недахопаў, пра якія партыя неаднакроць гаварыла. Значыць той, хто думае ўнесці самасупакоенасць,—не разумее рашэння партыі. У прыватнасці, калі гаварыць аб работніках палітаддзелаў, то тыя з іх, якія з самаздаваленнем падыйдуць да рашэння ЦК, будуць азірацца назад, на сваю работу, не будуць ісці далей, будуць разглядаць цяперашнюю работу як верх дасканаласці, а не як расчыстку глебы для далейшай пладатворнай работы на вёсцы, тыя работнікі безумоўна праваляцца па раённай рабоце.

Справа ідзе пра тое, каб глядзець не назад, а ўперад. Узмацняючы кіраўніцтва калгасамі, мы павінны асаблівую ўвагу звярнуць на яшчэ-

незавершаныя работы па раёну, МТС, безумоўна захоўваючы і ўдасканальваючы большэвіцкі стыль работы, які выхоўвала партыя сярод палітаддзелаў.

З асаблівым сілай мы хочам падкрэсліць, што на новы ўзровень цяпер павінна быць узнята якасць кіраўніцтва **культурнай работай** з боку раённых арганізацый. Узросшы добрабыт, упэўненасць у яго далейшым росце выклікаюць у калгаснікаў вялікую цягу к павышэнню культурнага ўзроўню. Усё лепшае з вопыту культурна-палітычнай работы палітаддзелаў павінна быць успрынята райкомамі партыі.

Культурны рост калгаснай вёскі прад'яўляе значна больш патрабаванняў нашай культурнай рабоце. Культурным мерапрыемствам на вёсцы неабходна надаць сапраўды масавы характар. Гэтымі мерапрыемствамі павінны быць ахоплены самыя шырокія масы калгаснікаў. Ні адной вёскі, у якой за зіму не пабывала-б некалькі раз кінопрасоўка! Ні аднаго калгаса, дзе-б не было за зіму двух-трох лекцый, дакладаў! Трэба паход па асваенню мастацкай літаратуры, абвешчаны ў БССР па ініцыятыве калгаснікаў перадавога Оршанскага раёна, ператварыць у сапраўды масавы паход. Устаноўлены літмінімум павінен быць асвоен тысячамі калгаснікаў. Мы павінны зацікавіцца не толькі тым, як пастаўлена культурнае абслугоўванне кожнага паасобнага калгаса, але і кожнага паасобнага калгасніка. Ці чытае калгаснік, што чытае, ці ёсць у яго цікавячая яго кніга і т. д.—такімі пытаннямі трэба зацікавіцца любому кіраўніку.

Словам, рабоце па культурнаму выхаванню калгасных мас павінна быць удзелена ўвага не меншая, чым павышэнню матар'яльнага добрабыту калгаснікаў. Заможнае калгаснае жыццё немысліма без павышэння культурнага ўзроўню калгаснікаў. Участак культурнай работы павінен заняць належнае яму месца ў практыцы работы і кіраўніцтва райкомаў партыі і іншых раённых арганізацый. Нельга больш на гэтым участку працаваць рыўкамі, па-кампанейску. Пастанова апошняга пленума ЦК ВЛКСМ «Аб культурна-масавай рабоце ВЛКСМ галоўным чынам у вёсцы» дае камсамольскім арганізацыям разгорнутую, канкрэтную праграму дзейнняў у культурнай рабоце. Гэтую зіму мы павінны ператварыць у зіму вялікай культурнай работы на вёсцы.

У заключэнне мы лічым неабходным спыніцца на пытанні аб **кіраўніцтве МТС** у новых умовах, бо не выключана, што сям-там будуць спробы вярнуцца да старых метадаў кіраўніцтва МТС. Супроць гэтых магчымых спроб мы павінны ўжо зараз мабілізавацца.

Справа ў тым, што пытанні кіраўніцтва МТС павінны знаходзіцца ў цэнтры ўвагі раённага партыйнага кіраўніцтва, бо МТС—гэта сканцэнтраванне тэхнікі, якую дае дзяржава нашай сельскай гаспадарцы, цэнтр тэхнічнага і арганізацыйна-палітычнага кіраўніцтва калгасамі.

Мы павінны сур'ёзна паставіць пытанне аб зоне МТС, бо ў нас, у БССР, часта разглядаюць зону, як тэрытарыяльную, а не як вытворчую адзінку—не дагавор МТС з калгасам вызначае прыналежнасць апошняга к зоне МТС, а тое, што калгас знаходзіцца тэрытарыяльна ў «зоне» МТС. У рэзультаце гэтага зусім няправільнага падыходу да вызначэння зоны МТС мы маем такое становішча, калі ў зонах МТС БССР лічацца 4.500 (у круглых лічбах) калгасаў, а ў сапраўднасці МТС абслугоўваюць толькі 3.121 калгас, знаходзячыся з імі ў дагаворных адносінах. Значыць, значная частка калгасаў (каля 1 500) застаецца на справе без вытворчай дапамогі МТС, а МТС усё-ж пры цяперашнім вызначэнні «зоны» адказвае за іх.

У зоне дзейнасці, к прыкладу, Дубровенскай МТС лічацца 87 калгасаў, а МТС фактычна абслугоўвае толькі 48 калгасаў. Ясная справа, што пытанне «зоны»—гэта ў вялікай меры пытанне планавання і палепшання тэхнічна-арганізацыйнага і палітычнага кіраўніцтва МТС калгасамі. Іменна таму мы павінны ўстраніць тую няправільную практыку, якая існуе ў гэтай справе, тым больш, што пры распрацоўцы вясенне-пасеўнага плана ёсць спробы планаваць па-старому, замест таго каб адмовіцца ад няправільнага вызначэння зоны МТС з усімі выцякаючымі адсюль вывадамі.

Асобую ўвагу—значна большую, чым дагэтуль,—мы павінны ўдзяліць пытанню кадраў МТС. Гэты ўчастак усё яшчэ з'яўляецца запушчаным. Можна было-б прывесці цэлы рад прыкладаў, калі людзі, якія правальваюць работу ў адной МТС, пасылаюцца ў другую, калі ў МТС пасылаюцца неправерагыя людзі, чужакі. Неабходна пакончыць з падобным становішчам. МТС неабходна камплектаваць лепшымі людзьмі. І ў гэтай сувязі неабходна падкрэсліць, што тыя начальнікі палітаддзелаў, якія зараз ідуць дырэктарамі МТС, бяруць на сябе ганаровую работу і тым самым паказваюць, што за паўтара-два гады работы ў палітаддзеле яны не толькі былі партыйна-палітычнымі кіраўнікамі, але і навучыліся кіраваць гаспадаркай, работай сельска-гаспадарчай тэхнікі, сталі поўнацэннымі кіраўнікамі МТС.

У сувязі з пастановай ЦК аб пераўтварэнні палітаддзелаў МТС у звычайныя партыйныя органы і з устанаўленнем ў кожнай МТС пасады намесніка дырэктара МТС па палітаддзельскай частцы, мы павінны яшчэ больш востра таксама паставіць пытанне аб **адзінаначаллі** дырэктара МТС. Сям-там магчымы спробы парушэння гэтага адзінаначалля, і ўжо сягоння неабходна перасцярэгчы ад гэтага. Дырэктары МТС павінны працаваць так, я кгэта падабае большэвікам—з агнём, з ініцыятывай.

Лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б), выносячы рашэнні аб адмене картачнай сістэмы па хлебу і аб зліянні палітаддзелаў МТС з райкомамі партыі, па сутнасці падвёў вынікі работы партыі ў галіне сельскай гаспадаркі. Поўная перамога калгаснага ладу ў вёсцы, карэннае палепшанне кіраўніцтва калгасамі—вось чым абумоўлены пастановы пленума.

Мы павінны выканаць рашэнне ЦК ВКП(б) аб поўным захаванні для вёскі палітаддзельскіх кадраў, не павінны аслабляць у сувязі з перабудовай работу на працягу зімовага перыяда для ўздыму жывёлагадоўлі і баявой падрыхтоўкі вясны 1935 года. Большэвіцкай рэалізацыяй пастановы лістападаўскага пленума аб палітаддзелах мы павінны дабіцца палепшання ўсёй нашай работы ў калгасных вёсках, дабіцца далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі.

---

П. М. Кірушын

# Рэволюцыйныя падзеі ў Іспаніі

Апошнія падзеі ў Іспаніі прыкавалі да яе ўвагу працоўных усяго свету. І гэта недарма.

Згодна азначэнню Комінтэрна, Іспанія—адно з слабейшых звеньяў у ланцугу еўрапейскіх капіталістычных дзяржаў.

Пад націскам прыгнечанага пролетарыята і сялянства ў 1931 г. была звергнута каралеўская дынастыя ў Іспаніі. 14 красавіка 1931 г. кароль вымушан быў ратавацца за граніцу праз ваенны порт Картахену. Так бясслаўна закончыла свае дні дынастыя Бурбонаў. У Іспаніі была абвешчана рэспубліка, ці, як выразіўся новы ўрад,—«рэспубліка працоўных усіх класаў».

Іспанская палітычная барацьба паміж манархістамі і рэспубліканцамі была па сутнасці барацьбой за пераразмеркаванне сярод памешчыкаў і капіталістаў даходаў, якія выціскаліся з народных мас. Рэжым Альфонса XIII з'яўляўся памешчыцка-буржуазным, бо сярод эксплаатуючых класаў найбольш прывілеяванае становішча займалі памешчыкі, радавітая дваранская арыстакратыя, якая стаяла за прадаўжэнне старой сістэмы.

Фінансавая і прамысловая буржуазія, змагаючыся за ўладу, імкнулася змяніць сістэму эксплаатацыі, больш «мадэрнізаваць» яе, прыстасаваць да мэт яшчэ больш хуткага ўзбагачэння, залучыць у кола капіталістычнай эксплаатацыі пустуючыя памешчыцкія латыфундыі.

І памешчыкі, і фінансавая, і прамысловая буржуазія баяліся паўстання рабочых і сялян, яны хацелі-б змяніць струхнелую манархію цішком, без шуму, без удзелу народу. Паміж іспанскімі кансерватарамі, стаяўшымі за захаванне манархіі, і ліберaламі розніца была па сутнасці яшчэ менш, чым паміж адпаведнымі партыямі ў Англіі.

Прывілеяваныя класы Іспаніі афяравалі манархіяй, каб выратаваць надалей свае прывілеі, але стары манархічны апарат застаўся ў асноўным тым самым, бо добра служыў мэтам эксплаатацыі. Звольнена было толькі некалькі дзесяткаў найбольш скампраметаваных чыноўнікаў, але астатнія «далі прысягу» на вернасць рэспубліцы. Каралеўская жандармерыя рэарганізавана была ў «цывільную гвардыю», якая лепш жандармеры караля выконвала сваю службу задушэння рэволюцыйнага руху. Гэта яна, «цывільная гвардыя», пакрыла сябе сусветнаю «славай» у Касас-Віехас—невялікай вёсцы, дзе былі спалены ў хатах паўстаўшыя сяляне, якія не хацелі плаціць непасільнага падатку. Тая-ж гвардыя з агнём і мечам прашлася па палях жабрац-

кай Эстрэмадуры, па вуліцах Севільі, адкуль рабочыя не раз выганялі прадстаўнікоў улады, і па многіх іншых гарадах і вёсках.

«Цывільная гвардыя» не толькі не перашкаджала, але дапамагала стварэнню першых фашысцкіх атрадаў пад кіраўніцтвам Хіль-Роблеса і сына дыктатара Прымо дэ-Рывера. Манархіста генерала Санхурхо, які правёў няўдалае паўстанне з мэтай вярнуць манархію, не толькі не расстралялі, як гэтага патрабавалі рабоча-сялянскія масы, але пасадзілі ў турму, каб дапамагчы яму адтуль уцячы.

Аднак няправільна было-б думаць, што ў Іспаніі пасля красавіка 1931 года нічога не змянілася. Пануючыя класы крыху перасунуліся. Калі пры манархіі на чале ўлады стаялі памешчыкі, а з імі—царква і верхавінка арміі, якія падтрымліваліся фінансавым і прамысловым капіталам, то пасля рэволюцыі на пярэдні план высунулася буржуазія, падтрыманая памешчыкамі і рэакцыйнымі коламі дробнай буржуазіі.

Рухаючымі сіламі перавароту 1931 г. былі рабочыя і сяляне. Капіталісты і памешчыкі адыгрывалі контррэволюцыйную ролю.

На першым этапе рэволюцыі блок кіруючых груп пастараўся кінуць увесь апарат новай улады, усю сваю сілу супроць пагрозы далейшага паглыблення рэволюцыі рабочых і сялян. Прыватная ўласнасць абвешчана была свяшчэннай і недатыкальнай, парушэнне права ўласнасці новая ўлада разглядала, як найбольш цяжкае злачынства. Рабоча-сялянскія масы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Іспаніі, сіламі якіх і была, па сутнасці, скінута манархія, кінуліся ў бойку за далейшае развіццё буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, за ўстанаўленне рэволюцыйнай рабоча-сялянскай дыктатуры.

* * *

З 23 мільёнаў насельніцтва Іспаніі пераважная большасць—рабочыя і сяляне. Гарадскога пролетарыята 1.230 000 чалавек, сельска-гаспадарчых рабочых—каля $2^1/_2$—3 мільёнаў, сялянскай беднаты не менш $1\frac{1}{2}$ мільёнаў, прыблізна столькі-ж і сераднякоў. Разам з сем'ямі яны складаюць больш $^3/_4$ усяго насельніцтва—актыў іспанскай рэволюцыі.

Іспанская прамысловасць—тэхнічна адсталая і раздробленая, пераважае лёгкая. Найбольш індустрыяльныя раёны краіны, акрамя самой сталіцы—Мадрыда: Каталонія, дзе знаходзіцца больш чверці ўсяго іспанскага пролетарыята, Біскайя і Астурыя. Пролетарыят апошніх двух правінцый у большасці складаецца з гарнякоў і металістаў. Іспанская металургія значна развілася за час імперыялістычнай вайны, калі пастаўляла пушкі і знарады дзяржавам Антанты. Пасля вайны іспанская прамысловасць, асабліва металургія, заняпала. Пастаянная вялікая армія беспрацоўных давіць на заработную плату. Іспанія—краіна з найбольш нізкай заработнай платай і высокім пражытачным мінімумам сярод усіх капіталістычных краін Еўропы. Яшчэ жудасней становішча сельска-гаспадарчых рабочых. Іх заработная плата заўсёды была ніжэй пражытачнага мінімума, а рабочы дзень не абмяжоўваўся. Батракі працуюць па 16 гадзін у суткі і атрымліваюць па 2—$2^1/_2$ пезеты ў дзень (пезета—каля 15 капеек). Маса батракоў жыве не ў дамах, а ў гліняных халупках з дзіркаю для дыму ў крышы. Батрацкія хваляванні ніколі не спыняліся, нават і да рэволюцыі, і асабліва моцны былі ў Андалузскай правінцыі.

Сельска-гаспадарчыя рабочыя—звязуючае звяно паміж пралетарыятам і сялянствам. Разараючыся, беднякі пераходзяць у батракі, або накіроўваюцца ў горад, і наадварот—безнадзейна-беспрацоўныя рабочыя нярэдка ідуць у вёску і прымаюцца за земляробства. Большасць беднаты, а часта і серадняцтва, працуе па найму ў памешчыкаў і кулакоў, асабліва пры зборы вінаграду, абмалоце хлеба. Ні хто іншы, як Фернандо дэ-Лос-Рыос, адзін з правадыроў іспанскага соцыял-фашызма, назваў іспанскіх сялян «жабракамі-ўласнікамі». У Іспаніі 2 проц. насельніцтва (буйныя землеўласнікі, царква, манастыры) з участкамі вышэй 100 га мелі ў сваім карыстанні 67 проц. усёй зямельнай плошчы краіны, тым часам як каля 60 проц. усіх сялян, зямельныя ўчасткі якіх не перавышалі 1 га, уладалі разам толькі 1,1 проц. усёй плошчы.

Ва ўсіх рэвалюцыйных падзеях Іспаніі ў той ці іншай меры ўдзельнічала і сялянства. Аднак не заўсёды дзеянні пралетарыята і сялянства былі сугучны. Яшчэ і зараз пралетарыят не вядзе за сабой асноўныя масы сялянства, мала скарыстоўвае гэты шматмільённы магутны рэзерв для далейшага разгортвання рэвалюцыі.

Царква яшчэ мае моцны ўплыў на сялян. Большасць сялянскіх каапераныйных ці палітычных арганізацый—кулацкія па свайму складу і кіруюцца каталіцкімі папамі. Тыповай з'яўляецца самая моцная з гэтых арганізацый, так званая «Нацыянальная аграрная партыя». Некаторыя з дзеячоў сялянскіх арганізацый занялі пасля рэспубліканскага перавароту відныя пасты (напр. Кірога—міністр флота ў першым рэспубліканскім урадзе Саморы) і пачалі дзейна граміць рэвалюцыйны аграрна-сялянскі рух, абараняючы ўладу капіталістаў і феадалаў.

Каталіцкая царква Іспаніі заўсёды з'яўлялася, а ў значнай меры з'яўляецца і цяпер, буйнейшай эканамічнай арганізацыяй, прывілеяванай кіруючай кастай і вялікай ідэалагічнай сілай. Іспанская інквізіцыя, з дапамогаю якой каталіцкая царква расправілялася са сваімі палітычнымі і ідэалагічнымі праціўнікамі, абвінавачваючы іх у ерэтыцтве, у сувязях з нячыстаю сілай і т. д., жыўцом спальваючы сотні і тысячы людзей на кастрах, увашла ў гісторыю чалавецтва адной з агіднейшых глаў. 200.000 асоб духоўнага звання (1 проц. насельніцтва) мела Іспанія да рэвалюцыі 1931 г. На кожныя 100 чал.—поп ці манах. Усе каталіцкія ордэны, у тым ліку і іезуіты, добра адчуваюць сябе ў гасціннай Іспаніі, маючы 38.000 сабораў, цэркваў і капліц, 1 000 мужчынскіх манастыроў і 4 000 жаночых. Для параўнання цікава адзначыць, што ўсіх школ у Іспаніі толькі 35.000, што 45 проц. насельніцтва дагэтуль няграматнае.

Трэцяя частка ўсяго нацыянальнага багацця належала царкве, у тым ліку $^{1}/_{5}$ усёй прыгоднай для апрацоўкі зямлі. Царква панавала ў школе, у тэатры, кіно. Царква асвяшчала эксплаатацыю і сама эксплаатавала мільёны сялян. Царква мела сотні газет. Ад 2 да 4 проц. дзяржаўнага бюджэта ішлі на ўтрыманне царквы і яе апарата, у дадатак да таго, што яна мела сама. І ўсё-ж з амбонаў кожнай царквы прапаведвалася: «Царство мое не от мира сего».

Царква мае намер панаваць і далей. Але народныя масы думаюць інакш. Увесну 1931 года, неўзабаве пасля перавароту, стыхійная народная ярасць вылілася ў падпале і разбурэнні многіх соцень цэркваў і манастыроў. Толькі ваеннаю сілай урад падавіў гэту непасрэд-

ную расправу з папом і манахам. Пад даўленнем народных мас дэпутаты ўстаноўчага сходу былі прымушаны прыняць закон аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і выгнанні з Іспаніі іезуітаў. Царкоўныя маёнткі падлягалі агульнаму закону аб зямельнай рэформе. Але... папскі нунцый у Мадрыдзе ўсё яшчэ прадстаўляе сабою нібы прадстаўніка самастойнай дзяржавы ў дзяржаве і пасылае ноты ўраду. Асноўная частка багаццяў, у тым ліку зямля, засталася ў царквы. Кожную нядзелю любы з амбонаў абарачаецца ў трыбуну для контррэволюцыйнага мітынга, дзе грамяць рэволюцыю, бязбожных камуністаў, дзе наклікаюць на вінаватых ва ўсіх грахах супроць царквы тысячы пякельных мук і праклящцяў.

Рэспубліканскі «рэволюцыйны» ўрад, да апошняга ўрада Леруса, ва ўсёй сваёй дзейнасці праводзіў адзіную і паслядоўную лінію на захаванне класа памешчыкаў і памешчыцкага землеўладання. Закон 15 верасня 1932 г. аб адабранні пустуючых зямель без правядзення меліярацыі нічога не мог даць сялянам, бо на падобныя работы ў іх не было сродкаў.

Закон аб зямельнай рэформе, прыняты ўрадам, не прадугледжваў канфіскацыі зямель. Зямля магла быць перадана толькі за плату, прычым перададзены маглі быць толькі найменш даходныя, пустуючыя, непатрэбныя і памешчыкам участкі.

Згодна закону аб «зямельнай рэформе», прынятаму ўрадам 15 верасня 1932 года, памешчыцкая зямельная маёмасць у вёсцы не толькі не знішчалася, але наадварот, захоўвалася і ўзмацнялася; прыбыткі памешчыкаў павялічваліся.

Паводле гэтага закону «усе латыфундыі ў Іспаніі знішчаюцца», але... 1) застаюцца ў карыстанні іх уладароў усе «паказальныя», «культурныя» маёнткі. Вызначэнне «культурнасці» і яе ступені залежала толькі ад самога буржуазна-памешчыцкага ўрада; 2) нават і ў «некультурных» гаспадарках у карыстанні памешчыка заставалася: на непаліўных землях да 500—750 га (лугі і плоданасенныя гаспадаркі) і паліўных—да 50 га.

Такім чынам, напалову пустуючыя буйныя латыфундыі абарачаліся ў менш шырокія, затое больш інтэнсіўныя і ўсё-ж такі даволі буйныя, больш даходныя земляробскія прадпрыемствы. Надзеі сялянскіх мас гэтым законам былі абмануты.

Рэформа была абстаўлена такой колькасцю розных фармальнасцей, для выканання іх патрэбна было столькі часу (літаральна—дзесяцігоддзі), што памешчыкі маглі быць спакойны. Акрамя таго, жорсткі аграрны крызіс побач з прамысловым, падзенне цэн на прадукцыю сельскай гаспадаркі ніжэй сабекошту, масавае разарэнне сялян, прадажа маемасці з малатка і іншыя «укрысы» буржуазна-рэспубліканскага рэжыма развейваюць надзеі сялян на сучасную ўладу.

Гаворачы аб розных соцыяльных сілах, якія могуць быць скарыстаны кампартыяй Іспаніі і іспанскім пролетарыятам для далейшага разгортвання рэволюцыі, нельга забываць гарадскую дробную буржуазію і розныя інтэлігенцкія праслойкі: саматужнікаў, настаўнікаў, ніжэйшыя пласты чыноўніцтва, маючыя жабрацкі жыццёвы ўзровень. Усе яны займаюць хісцкія пазіцыі, часам могуць папаўняць нават фашысцкія арганізацыі, але гэта зусім не значыць, што значную іх долю нельга завяяваць для справы рэволюцыі. Студэнты і рабочыя ў 1930 годзе ўдзельнічалі разам у рэволюцыйных выступленнях, леп-

шыя сучасныя рэволюцыйныя пісьменнікі Іспаніі, якія паходзяць з дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, ва ўвесь голас заявілі аб сваёй салідарнасці з пролетарыятам (Рамон Х. Сэндэр, Марыя Тэрэза Леон, Рафаэль Альберці і інш.).

* *
*

Афіцыяльная іспанская думка хоча ўнушыць усюды, як у сваёй краіне, так і за мяжой, што Іспанія—адзіная нацыянальна аднародная краіна. Гэта вялікая хлусня. Іспанія прадстаўляе сабою дзяржаву, дзе кастыльская пануючая нацыя прыгнятае абласці, населеныя нацыянальнымі меншасцямі—Каталонію, Біскайю і Галісію. Першыя дзве абласці маюць даволі высока развітую прамысловасць і шматлікі пролетарыят, і толькі ў Галісіі пераважае земляробства. Акрамя таго, Іспаніі належыць частка Марокко, дзе за апошнія гады вяліся амаль безупынныя войны, бо мараканцы не здавалі без бою сваёй нацыянальнай свабоды. Таксама ў Афрыцы Іспаніі належыць вузкая берагавая паласа Рыо-дэ-Оро, населеная неграмі. Для безупынных войн у Афрыцы іспанскі ўрад стварыў з наймітаў усіх нацыянальнасцей Еўропы так званы чужаземны легіён, у якім багата прадстаўлены рускія белагвардзейцы. Гэты легіён адыграў значную ролю пры падаўленні апошніх паўстанняў у Каталоніі і Астурыі.

Доўгія гады іспанскі ўрад сваёй вялікадзяржаўнай палітыкай прыгнятаў і прыгнятае нацменшасці. Пасля рэволюцыі, калі Каталонія аб'явіла сябе аўтаномнай рэспублікай у складзе Іспанскай федэрацыі, Мадрыд павінен быў уступіць і прызнаць гэту аўтаномію, хоць федэрацыйнай рэспублікай Іспанія не зрабілася. Аб аўтаноміі Галісіі і Біскайі, тым больш аб адкліканні войск з Афрыкі, «рэволюцыйны» урад не дапускаў і мыслі.

Каталонская буржуазія не хацела ісці на повадзе феадальнай Іспаніі, увесь час падкрэсліваючы даволі высокую развітасць сваёй прамысловасці, высокі ўзровень нацыянальнай каталонскай літаратуры і мастацтва. Аднак да рэволюцыі выкладанне на нацыянальных мовах, акрамя іспанскай, было забаронена ва ўсіх школах Каталоніі і іншых нацыянальных абласцей. Пасля рэволюцыі была зроблена ўступка толькі для Каталоніі, ды і то часткова.

Вышэйшым пунктам каталонскага аўтанамісцкага руху былі апошнія кастрычніцкія падзеі. Каталонскі ўрад, падтрыманы самымі шырокімі масамі, аб'явіў аб аддзяленні Каталоніі ад Іспаніі, пакуль там кіруе рэакцыйны ўрад Леруса, але далей дэкларацыі не пашоў. Спалохаўшыся хвалі рабоча-сялянскага паўстання, ён даў сябе арыштаваць камандуючаму войскам цэнтральнага ўрада, і з таго часу празрачная каталонская аўтаномія спыніла сваё нядоўгае існаванне. Буржуазія нацыянальных абласцей паказала, што яна няздольна змагацца за сваю нацыянальную самастойнасць. Нацыянальныя меншасці Іспаніі могуць быць вызвалены толькі ў выніку пролетарскай рэволюцыі, толькі ў Совецкай Іспаніі.

*
* *

На той стадыі развіцця іспанскай рэволюцыі, на якой яна стаіць зараз (задача—стварэнне дыктатуры рабочых і сялян), рухаючай сілай рэволюцыі з'яўляецца пролетарыят і сялянства пры гегемоніі пролетарыята.

Да апошняга часу большасць іспанскага пролетарыята ішла за соцыял-дэмакратамі і анархістамі, чым і абумоўлівалася яго слабасць

і паражэнні. За компартыяй ішла меншасць пролетарыята; тым не менш толькі комуністычнай партыі належыць будучыня, бо толькі яна прадстаўляе сапраўдныя інтарэсы рабочага класа Іспаніі, толькі яна, заваяваўшы большасць пролетарыята, павядзе яго ў належны момант к заваяванню палітычнай улады.

Соцыялістычная партыя Іспаніі існуе з 1876 года. Яе заснавальнікам і нязменным кіраўнікам увесь час, да самай сваёй смерці, быў Пабло Іглезіяс. Гэта тыповая соцыял-дэмакратычная партыя, якая нічым у асноўным не адрозніваецца ад іншых еўрапейскіх партый падобнага-ж роду, прадстаўляе інтарэсы найбольш кваліфікаванай вярхушкі рабочых і тэхнічнай інтэлігенцыі. Максімум угодлівасці соцыялістычная партыя праявіла ў час дыктатуры Прымо дэ-Рывера. У той час, як іншыя партыі, як партыя комуністаў, павінны былі або пакінуць сцэну або ісці ў падполле, СПІ прадаўжала працаваць зусім легальна, і галоўная газета партыі «Соцыяліст» выходзіла ўвесь час без затрымак.

Фактычна соцыялістычная партыя ўвесь час супрацоўнічала з генералам дыктатарам. Правадыр партыі Бестэйро атрымаў ад Прымо дэ-Рывера нават афіцыяльную камандыроўку ў Лондан для вывучэння прынцыпаў дзейнасці лейбарысцкай партыі і насаджэння іх у Іспаніі. Генерал у ім не памыліўся. Пасля рэволюцыі Бестэйро ў якасці старшыні ўстаноўчага сходу «верай і праўдай» служыў буржуазіі і, агласіўшы Іспанію «рэспублікай працоўных усіх класаў», дапамог у першую чаргу захаванню капіталістычнага ладу і прыватнай уласнасці на зямлю і заводы.

У першым рэспубліканскім урадзе прымалі ўдзел 3 міністры-соцыялісты: «левы» Ларго Кабальеро, Фернандо дэ-Лос-Рыос і Прыэто. Яны і нясуць, нароўні з усім урадам, адказнасць за ўсе буржуазныя злачынствы супроць рэволюцыі, за крывавыя падзеі ў Севільі, Валенсіі, Эстрэмадуры і Касас-Вьехас. Маючы значную колькасць галасоў ва ўстаноўчым сходзе і правінцыяльных органах самакіраўніцтва, маючы сваіх міністраў і вялікую колькасць вышэйшых чыноўнікаў, соцыялістычная партыя не рабіла нават малейшай спробы соцыялістычных пераўтварэнняў.

Іспанскія соцыялісты (разам з анархістамі) вырatавалі буржуазны парадак і зараз усімі мерамі расчышчаюць шлях для замацавання фашысцкай улады. У апошні час, калі рабочыя масы пачалі адыходзіць ад соцыялістычнай партыі Іспаніі, раскрыўшы яе здрадніцкі твар, соцыялісты пачалі сыпаць «левымі» фразамі і нават агаласілі лозунг пролетарскай дыктатуры. Аднак усе спробы компартыі стварыць адзіны антыфашысцкі фронт рабочых да 1934 года нязменна цярпелі няўдачу. Соцыялісты пад рознымі матывамі адмаўляліся ад адзінага фронта, лічачы яго «маскоўскаю ўлоўкай». Ларго Кабальеро на ўсе прапановы аб адзіным фронце нязменна адказваў: «Мы-ж прадстаўляем амаль адно і тое самае, навошта нам яднацца»—і старая здрадніцкая лінія, палітыка расколу рабочых і траўлі Савецкага саюза працягваліся.

К пачатку 1934 года соцыялістычная партыя Іспаніі, пад напорам рабочых, пашла па шляху арганізацыі «Альянса Обрэра» («Рабочы саюз»). Пасля ў рабочы альянс уступіла і компартыя, паставіўшы перад сабой задачу—ператварыць «Альянса Обрэра» у сапраўдны орган адзінага фронта. «Альянса Обрэра» кіравала апошнімі баямі рабочых, але не таму, што ў ёй удзельнічала соцыялістычная партыя. Соцыялісты—рабочыя, удзельнікі баёў—дзейнічалі наперакор усім

дырэктывам і тактыцы сваёй партыі. Віну за часовае паражэнне рабочых у Астурыі ў значнай меры нясуць соцыялісты—правадыры партыі. Уступленнз партыі ў арганізацыю адзінага фронта было толькі фармальным адводам вачэй рабочых, у рэчаіснасці-ж здрадніцкая роля партыі прадаўжалася. Кампартыя Іспаніі правільна лічыць, што чэсныя рабочыя, радавыя члены партыі, могуць і павінны быць адарваны ад соцыялістычнай партыі. Кампартыя Іспаніі ў гэтым напрамку вядзе работу, і не без поспехаў.

Пад кантролем і кіраўніцтвам соцыял-дэмакратычнай партыі знаходзіцца «Усеагульны Саюз Рабочых»—мацнейшая профсаюзная арганізацыя; яе ўплыў найбольш адчуваецца ў Мадрыдзе і паўночназаходняй частцы Іспаніі. Яна налічвае зараз каля 850.000 членаў.

Іспанскія анархісты па ідэалогіі ёсць партыя дробнай буржуазіі. Гэта партыя існуе вельмі даўно, хоць і не з'яўляецца адзінай, цэнтралізаванай. Самы прынцып анархізма забараняе гэта. Традыцыі анархізма бяруць пачатак яшчэ ў Бакуніна і яго «Альянса» у I Інтэрнацыянале; і тады ўжо анархісты адыгрывалі здрадніцкую ролю ў рабочым рэвалюцыйным руху, што ў свой час бліскуча даказаў Ф. Энгельс у сваім вядомым памфлеце «Бакуністы за работай». Стоячы на пазіцыі «анты-дзяржаўнасці», лічачы непатрэбным арганізацыю пролетарскай дзяржавы і ўдзел пролетарыята ў палітычнай барацьбе, анархісты фактычна даюць поўную свабоду дзейнасці памешчыкам і буржуазіі, а таксама іх ураду. Анархісты лічаць сябе «самай левай партыяй у свеце», значна лявей комуністаў, але іх «левізна» не заходзіць далей фразы. На кожным кроку ў практыцы яны здраджваюць інтарэсам рабочага класа і вядуць труслівую згодніцкую палітыку.

Пасля фашысцкага перавароту Прымо дэ-Рывера анархісты распусцілі сваю федэрацыю і аб'явілі аб спыненні барацьбы, не чакаючы нават адпаведнага ўрадавага распараджэння. Прадаўжалі існаваць толькі паасобныя арганізацыі анархістаў у правінцыі. Калі на чале ўлады стаў генерал Берэнгер, які лічыўся ліберальней свайго папярэдніка, анархісты з'явіліся да яго і, указваючы на вялікую комуністычную небяспеку, а таксама адзначаючы свае «заслугі» у барацьбе з комунізмам, прасілі дазволу на аднаўленне анархісцкай федэрацыі. Берэнгер гэта ахвотна дазволіў, і не памыліўся. Анархісты ўвесь час лічылі сваім доўгам змагацца з комунізмам.

Ухіляючыся ад палітычнай барацьбы, анархісты не змагаюцца з буржуазным урадам, не падтрымліваюць комуністычных патрабаванняў аб канфіскацыі памешчыцкай і манастырскай зямлі і перадачы яе сялянам, аб раззбраенні рэакцыі, аб увядзенні явачным парадкам 7-гадзіннага рабочага дня і інш. Затое яны прымаюць удзел ва ўсіх урадавых кампаніях і арганізацыях, якія ставяць мэтай аслабіць комунізм.

Анархісцкае кіраўніцтва адмовілася ўдзельнічаць у арганізацыі адзінага рабочага фронта «Альянса Обрэра», чым канчаткова паказала перад усім рабочым класам свой здрадніцкі твар. Трэба спадзявацца, што ўсё гэта паскорыць адыход ад анархізма найбольш чэсных і адданых рэволюцыі рабочых і дапаможа ім хутчэй увайсці ў рады барацьбітоў за совецкую Іспанію.

Пад кіраўніцтвам анархістаў знаходзіцца анарха-сіндыкалісцкая плынь профсаюзаў—«Нацыянальная Канфедэрацыя Працы», якая налічвае каля 300.000 чалавек. Галоўным друкаваным органам іспан-

скага анархізма з'яўляецца газета «Солідарыдад Обрэра» («Рабочая салідарнасць»), брудны напоўфашысцкі антысовецкі лісток.

Не прыходзіцца гаварыць аб тым, што контррэволюцыйны трацкізм у сваім органе «Комунізма» сее смутак і песімізм у рабочых масах, заяўляючы, што пролетарская рэволюцыя ў Іспаніі не ўдалася, што трэба згортваць барацьбу, бо ў бліжэйшыя гады да ўлады немінуча прыйдзе фашызм.

Трацкісты лічаць лінію іспанскай компартыі на ажыццяўленне гегемоніі пролетарыята ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі праваапартуністычнай.

Іспанскія трацкісты (разам з трацкістамі ўсіх іншых краін) лічаць палітыку Комінтэрна, накіраваную на пабудову соцыялізма ў СССР, «нацыяналістычнай» і распаўсюджваюць сярод рабочых мас паклёпніцкую думку, нібы Комінтэрн, зрабіўшыся як-бы «нацыянальнай партыяй» СССР, ставіць стаўку на збліжэнне СССР з буржуазнымі дзяржавамі, заключае з імі розныя пакты, уваходзіць у Лігу нацый і пакуль што не думае аб рэволюцыях у іншых краінах і не жадае іх. Комінтэрн, моў, хацеў-бы пазбавіцца ад іспанскай рэволюцыі.

Як сапраўды «перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі», трацкізм на справе блакіруецца з усімі элементамі, варожымі комунізму.

Цяжкае эканамічнае становішча іспанскага пролетарыята, амаль поўнае жабрацтва, з аднаго боку, і наяўнасць слаўных рэволюцыйных традыцый—з другога, ствараюць добрую глебу для развіцця рэволюцыйнага пролетарскага руху. Але традыцыі анархізма і соцыялрэфармізма даваць яшчэ на пэўныя колы рабочых, перашкаджаюць ім станавіцца пад сцягі комуністычнай партыі і на справе, а не толькі на словах, кінуцца на зруйнаванне капіталізма.

Распыленасць і палітычная раздробленасць іспанскага пролетарыята не ў малой меры тлумачыцца і тым, што ў Іспаніі амаль няма буйных прадпрыемстваў, якія налічвалі-б дзесяткі тысяч рабочых. Толькі на поўначы і ўсходзе Іспаніі—у Астурыі і Каталоніі—найбольшая згуртаванасць пролетарыята.

Гісторыя апошніх год у іспанскім рабочым руху—гэта гісторыя паступовага праяснення класавай свядомасці рабочых, гісторыя ўсё большага і большага вызвалення іх з-пад уплыву (як арганізацыйнага, так і ідэалагічнага) здрадніцкіх партый, гісторыя паступовага росту і ўзмацнення комуністычнай партыі. Гэты працэс далёка яшчэ не скончыўся, і толькі зараз намеціўся пералом. Працоўныя масы хутка ўсведамляюць усё «прыгоства» «дэмакратычнага» рэжыма, які перарастае ў фашызм, добра адчуваючы сябе толькі на рабочай крыві, і ідуць туды, дзе выкоўваецца сапраўдная будучыня рэволюцыйнай Іспаніі—у комуністычную партыю.

* * *

Адзіным сапраўдным прадстаўніком і кіраўніком рабочага класа Іспаніі з'яўляецца слаўная Комуністычная партыя Іспаніі—секцыя Комуністычнага Інтэрнацыянала. Компартыя ўзнікла ў 1920 і 1921 гг.

У пачатку рэволюцыі 1931 г. компартыя прадстаўляла сабою невялікую групу ў 1.200 чалавек, якія мала звязаны былі з пролетарыятам, а тым больш з сялянствам, не зусім выразна ўяўлялі перспектывы развіцця іспанскай рэволюцыі і хварэлі многімі адрыжкамі рэфармізма і анархізма. Ранейшае (да кастрычніка 1932 года) кіраў-

ніцтва партыі—Бульехос, Адамэ, Вега і Трылья—адрывала партыю ад шырокіх рабочых мас, ператварала яе ў сектанцкую арганізацыю, не следавала дырэктывам Выканкома Комінтэрна і не праяўляла асаблівай актыўнасці ў ачыстцы партыі ад трацкісцкіх элементаў і прыхільнікаў здрадніцкай групы Маўрына, якая з гонарам называла сябе «Комуністычнай партыяй Каталоніі і Балеарскіх астравоў». Анархісцкая адрыжка ранейшага партыйнага кіраўніцтва сказвалася яшчэ і ў тым, што яно яўна недаацэньвала неабходнасці скарыстаць легальныя магчымасці; да апошняга часу партыя не мела ні аднаго дэпутата ў парламенце, калі не лічыць толькі нядаўна прынятага ў партыю і ўжо выключанага адваката-журналіста Хозе Бальбонтына, і толькі ў апошніх выбарах у парламент быў праведзен т. Болівар. Ен і скарыстоўвае парламенцкую трыбуну для таго, каб граміць з яе буржуазна-памешчыцкі лад. Карыстаючыся вялікім аўтарытэтам у рабочых масах, компартыя арганізацыйна не замацоўвала сваіх поспехаў і ўвесь час, да 1933 года, заставалася дробнай партыяй, якая далёка не па ўсіх кутках Іспаніі мела свае арганізацыі.

З пачатку 1933 года новае партыйнае кіраўніцтва дабілася пэўнага пералому ў рабоце. Ужо к сярэдзіне 1933 года партыя налічвала 18.000 членаў, а зараз—больш 30 тысяч. Цяперашняе падпольнае становішча партыі, бясспрэчна, адштурхне ад яе найбольш хісцкія элементы, затое партыя ўзмацніцца свежым прытокам сіл, папоўніцца тымі рабочымі, якія ў апошніх баях бачылі ў компартыі свайго адзінага правадыра.

Амаль ¾ усяго перыяда свайго існавання, як палітычнай партыі, компартыя Іспаніі правяла ў падполлі. Не паспела яна яшчэ як след сфармавацца, як на яе абрушылася генеральская дыктатура Прымо Дэ-Рывера, як быў задушан яе друк і лепшыя барацьбіты яе засаджаны ў турмы. Тады партыя яшчэ не мела вопыту нелегальнай барацьбы; некаторым нават з партыйных актывістаў здавалася, што ў падпольных умовах працаваць нельга, што на час генеральскай дыктатуры трэба прыпыніць палітычную барацьбу. Але авангард партыі, лепшая яе частка, адважна ішоў наперад: прыклад работы расійскай ленінскай партыі, паспяхова працаваўшай у самых цяжкіх умовах падполля, быў у яго перад вачыма.

У час вайны ў Марокко компартыя бліскуча правяла кампанію супроць каланіяльнай палітыкі Іспаніі. Гэта кампанія каштавала партыі многа ахвяр: сотні комуністаў былі засаджаны ў плывучыя турмы ці сасланы на верную смерць у нездаровыя афрыканскія калоніі. Трэба памятаць, што партыя ўвесь час была вельмі маленькаю, што ў перыяд нават найбольшай яе актыўнасці да рэволюцыі лік яе членаў не перавышаў $1^1/_2$ тысяч чалавек. Такая невялічкая армія стала супроць амаль 40.000 соцыялістаў і яшчэ большай колькасці анархістаў, выкрываючы іх здрадніцтва перад шырокімі масамі рабочых.

Не раз лепшыя барацьбіты комуністычнай партыі стаялі перад ваенным судом па абвінавачванню ў «дзяржаўнай здрадзе». Анархарэфармісцкі друк «ідэалагічна» падрыхтоўваў такога роду суды, называючы іспанскіх комуністаў «маскоўскімі агентамі», якія нібы вядуць шпіёнскую работу на загаду Масквы.

Рэволюцыя адкрыла перад партыяй шырокія перспектывы. Партыя вышла з падполля. Яна атрымала магчымасць весці работу ў шырокіх размерах. Асноўнае, што стаяла перад партыяй, гэта—даказаць самым шырокім масам сялян і рабочых, што рэволюцыя не

закончана, што яна прадаўжаецца і павінна прадаўжацца далей, да поўнага зьнішчэньня ўсіх рэштак феадалізма і капіталізма, да ўстанаўленьня ўлады рабочых і сялян і, далей,—да ўстанаўленьня пролетарскай дыктатуры. Зьнішчэньне каралеўскай улады, гаварылі комуністы масам, нічога не дае працоўным, калі зямля прадаўжае заставацца ў памешчыкаў, калі рабочых увесь час душыць вялікі рабочы дзень (14—16 гадзін), беспрацоўе, адсутнасць соцыяльнага законадаўства.

Забастовачны рух, які набыў асабліва вялікія памеры ў час рэволюцыі, праходзіў пры самым шырокім удзеле компартыі. Іменна тады стачка канчалася перамогаю рабочых, калі на чале яе станавілася компартыя. Кожная эканамічная забастоўка няўхільна абарачалася ў палітычную, калі ёю кіравалі комуністы. Замест улюбёных анархістамі метадаў разрозненых забастовак паасобных прадпрыемстваў комуністы высоўвалі практыку агульных стачак, ахапляючых цэлы горад ці цэлую правінцыю, нават усю Іспанію. Лепшым таму прыкладам з'яўляецца ўсеагульная забастоўка, аб'яўленая ў ноч з 4 на 5 кастрычніка 1934 г. і перарослая ва ўзброенае паўстаньне. І ў гэтым паўстаньні члены партыі не хаваліся па кутках, але афяравалі сваё жыццё, ведучы за сабою масы супроць банд генерала Очоа.

Компартыі ўдалося правесьці цэлы рад забастовак, накіраваных супроць фашызма не толькі іспанскага, але і ўсякага іншага. Падобная забастоўка, арганізаваная ў лютым 1934 года ў правінцыях Астурыі і Замора, ахапіла 125.000 чалавек. Такую масу рабочых удалося падняць комуністам пад сьцягам чыста палітычных лозунгаў, наперакор контр-агітацыі анархістаў і соцыялістаў.

Партыя бліскуча правяла кампанію за вызваленьне т. Тэльмана, уцягнуўшы ў яе многіх радавых анархістаў і соцыялістаў. Партыя правяла рад бліскучых кампаній супроць фашызма; некаторыя з гэтых кампаній выліваліся ў палітычныя стачкі.

Варта адзначыць кампанію, якая скончылася палітычнай забастоўкай пратэста 21 красавіка 1934 года супроць фашысцкага злёту ў Эстурыяле (каля Мадрыда). Іспанскія фашысты, захопленыя прыкладам масавых злётаў сваіх нямецкіх аднадумцаў, хацелі склікаць у Эстурыяле не менш 100.000 фашысцкай моладзі. Дзякуючы арганізаванай комуністамі забастоўцы, у Эстурыял магло прыбыць ледзь 4.000 чалавек, і фашысцкі злёт быў сарваны. Такім-жа парадкам быў сарваны другі фашысцкі злёт, які намячаўся на 8 верасня 1934 г. у гор. Кавагандзе. На гэты злёт магло прыбыць толькі 500 чал., маючых уласныя аўтамабілі, бо чыгуначнікі адмовіліся правозіць фашыстаў. На гэты-ж дзень у Мадрыдзе намячаўся з'езд каталонскіх памешчыкаў, верных іспанскаму ўраду (каля 200.000 чалавек), але ён быў таксама сарваны, дзякуючы вялікай дэманстрацыі пратэста і палітычнай забастоўцы ў Мадрыдзе, арганізаваным зноў-жа компартыяй.

К сярэдзіне 1934 года компартыя Іспаніі ўжо вырасла ў грозную сілу, якая палохала буржуазна-памешчыцкі ўрад.

Компартыя кіруе даволі моцным профсаюзным рухам, хоць колькасна і слабейшым рэфармісцкіх і анарха-сіндыкалісцкіх профсаюзаў. Профсаюзы, якія стаяць на пазіцыі Профінтэрна, налічваюць ужо **150.000 членаў. Фашысцкі ўрад Леруса** будзе імкнуцца разваліць рэволюцыйныя профсаюзы, але дабіцца гэтага яму не ўдасца, бо за імі стаяць шырокія масы яшчэ неарганізаваных рабочых, якія з

кожным днём усё больш і больш адчуваюць, што адзіны паратунак ад галечы і беспрацоўя—толькі пад сцягам комунізма.

КП Іспаніі добра наладзіла свой друк. Увесь час больш-менш рэгулярна выходзіла цэнтральная газета «Мундо Обрэро» («Рабочы свет»). Яна, праўда, часта закрывалася і вымушана была мяняць сваю назву на «Пролетарскі свет», «Слова» і т. д. Ёсць і правінцыяльныя газеты, лепшая з іх «Каталунья роха» («Чырвоная Каталонія»). Увесь час рэгулярна выходзіў тэарэтычны орган партыі «Эль больчэвізмо» («Бальшэвізм») і орган Выканкома Комінтэрна для іспана-амерыканскіх краін «Інтэрнасіонал комуніста» («Комуністычны Інтэрнацыянал»), які ў асноўным з'яўляецца паўтарэннем рускага выдання таго-ж часопіса, але ў ім заўсёды ёсць рад дадатковых артыкулаў, асвятляючых пытанні Іспаніі і Лацінскай Амерыкі.

* * *

Рэволюцыя 14 красавіка 1931 г. не задаволіла ні аднаго з патрабаванняў працоўных. Цяжар прамыслова-аграрнага крызіса прадаўжаў паглыбляцца, расла рэволюцыйная энергія рабоча-сялянскіх мас.

Аб росце рэволюцыйнай энергіі рабоча-сялянскіх мас сведчыць забастовачны рух рабочых і батракоў і сялянскія хвалявані. Яшчэ да рэволюцыі Іспанія кіпела ў агні забастовак, і іх крывая безупынна расла ўверх. 1929 год дае больш 100 забастовак з 200.000 удзельнікаў. У 1930 г. колькасць забастовак вырастае да 527, колькасць іх удзельнікаў даходзіць да 1 мільёна чалавек. Пачалі практыкавацца забастоўкі, у большай частцы якіх выстаўляюцца палітычныя патрабаванні. За гэты год каля 60 гарадоў мелі ўсеагульныя забастоўкі, некаторыя з іх, як Севілья, Більбао, Малага—па 4 разы за год.

Бастуючыя рабочыя пачынаюць прад'яўляць патрабаванні пераважна палітычнага характару. Тут сказваецца ўзрастаючы ўплыў комуністычнай партыі. Рабочыя патрабуюць пакарання тых, хто вінаваты ў расстрэлах бастуючых, адстаўкі ненавісных ім міністраў— Маўра (міністра ўнутраных спраў) і Ларго Кабальеро (міністра працы, соцыяліста) і роспуску цывільнай гвардыі.

Найбольш моцнаю забастоўкай была севільская, якая пачалася 20 ліпеня 1931 года. Горад на некалькі дзён апынуўся ў руках рабочых, і ўрадавае войска разам з жандармерыяй павінна было адваёўваць яго пушкамі і бомбамётамі.

У 1932 годзе забастовачная хваля вырасла яшчэ больш. У студзені баставала ўжо каля 1 мільёна рабочых, у лютым—1.300.000. На такім узроўні забастовачны рух трымаўся ўвесь гэты год. Амаль кожны дзень успыхвала па 10—15 новых стачак. За лістапад і снежань іх было больш 500. Колькасць бастуючых за год вылічваецца многімі мільёнамі.

На такім-жа ўзроўні забастовачны рух трымаецца ўвесь 1933 і 1934 год, прычым у апошнія месяцы паасобныя забастоўкі ўсё больш і больш пераходзяць ва ўзброеныя сутычкі з цывільнаю гвардыяй і штурмавымі атрадамі фашысцкай «Аксіён популяр». Гэта паказваюць крывавыя падзеі 1933 года ў Сарагосе, Мадрыдзе, Валенсіі, Кадыксе і інш.

Не менш паказальнаю была і крывая развіцця масавых выступленняў батракоў і сялян у вёсцы. Дакладныя лічбы тут прывесці цяжка, бо буржуазны друк замоўчвае размер рэволюцыйнага руху

ў вёсцы, але і паасобныя факты надта паказальны. Амаль заўсёды хваляванні ў вёсцы канчаліся сутычкамі з паліцэйскімі сіламі. Губернатар правінцыі Толедо, прыехаўшы на ўсмірэнне батракоў, лавіңен быў уцякаць. У радзе месц сяляне і батракі палілі памешчыцкія маёнткі і пасевы (Лебрыха, Касалья, дэ ля-Сьерра і т. д.), або захаплялі памешчыцкую зямлю, жывёлу, інвентар (правінцыя Сарагосса, Бадахос і інш.). Часта сяляне праганялі з вёскі зборшчыкаў падатку і адмаўляліся ўносіць памешчыкам арэндную плату. Рабочыя аб'яўлялі забастоўкі салідарнасці (у Севільі, Хаэне, ля-Коруньня), каб падтрымаць забастоўку батракоў.

Усе гэтыя факты паказваюць, што рэволюцыйная энергія іспанскіх працоўных мас увесь час расла і расце. Рабочым і сялянам Іспаніі не хапала толькі згуртаванасці, арганізаванасці і належнага палітычнага кіраўніцтва. Далёка не заўсёды забастоўкамі і рэволюцыйнымі ўспышкамі кіравалі комуністы. Там, дзе ініцыятыва і кіраўніцтва пераходзілі ў рукі анархістаў, ці соцыял-фашыстаў, рух амаль няўхільна канчаўся паражэннем і дэзарыентацыяй рабочых і батракоў. Да самага апошняга часу компартыя не змагла ў шырокіх размерах пранікнуць у вёску.

Затое там, дзе забастоўка рабочых канчалася перамогай, апошняя заўсёды была вынікам комуністычнага кіраўніцтва. Толькі компартыя за апошнія 3 гады па-сапраўднаму накіроўвала к загадзя вызначанай і добра акрэсленай мэце—заваяванню ўлады—баявую сілу пролетарскіх і поўпролетарскіх мас.

Урад не раз практыкаваў правакацыі, каб дабіцца разгрому рэволюцыйных арганізацый. Буйнейшая з правакацый была разыграна 8—12 студзеня 1933 г. У дакладна вызначаны час, добра вядомы паліцыі, пачалася чарговая анархісцкая «соцыяльная рэволюцыя». Маленькія групкі анархістаў і паліцэйскіх агентаў па 4—5 чал. пачалі кідаць бомбы, узрываць брук, перакідваць трамваі. Рабочыя масы гэтага выступлення не падтрымалі. Пасля падаўлення «рэволюцыі» урад абвясціў, што захвачаны 364 бомбы, 1 вінтоўка і 23 рэвальверы. Суадносіны відаў зброі сведчаць аб яе анарха-паліцэйскім паходжанні. Гэта не перашкодзіла ўраду пачаць арышты іменна комуністычных рабочых у Мадрыдзе, Барселоне, Сарагоссе, Валенсіі, Севільі і Кадыксе. Акурат тады-ж і адбыліся вядомыя цяпер усяму свету падзеі ў Касас-Вьехас.

Мэта ўрада—дабіцца з дапамогай правакацыі разгрому комуністычнага руху—не ўдалася. Рабочыя масы ўсё ў большай і большай колькасці станавіліся пад сцяг компартыі. У адказ на гэта ўрад, які к таму часу вызваліўся ад соцыялістаў (яны пакінулі ўрад, каб не кампраметаваць сябе канчаткова перад рабочымі масамі), пачаў ліхаманкава арганізоўваць і ўзбройваць фашысцкія атрады. Згуртаванне фашысцкіх сіл у асноўным было закончана к восені 1934 года. Гэта не значыла, зразумела, што фашысты Іспаніі сталі такімі моцнымі, як у Германіі, але яны маюць даволі сілы, каб пачаць паступова заваёўваць дзяржаўны апарат.

У адказ на фашысцкую небяспеку ствараецца «Альянса Обрэра». Спачатку «Альянса Обрэра» знаходзілася цалкам пад кіраўніцтвам соцыялістычнай партыі. Апошняя стварыла яе, каб зрабіць відзімасць адзінага рабочага фронта, якога нібы не прымалі комуністы, і гэтым затрымаць у сябе тых рабочых, якія расчараваліся ў рэфар-

мясцкай дзейнасці сваіх соцыял-фашысцкіх кіраўнікоў і пачалі шырокім фронтам адыходзіць к комунізму.

К 1934 году «Альянса Обрэра» была ўжо масавай арганізацыяй рабочых. Улічваючы гэты факт, у яе ўступае КП Іспаніі. Задачай комуністаў пры ўступленні ў «Альянса Обрэра» было: 1) не даваць соцыялістам больш мажлівасці гаварыць рабочым масам аб тым, што комуністы стаяць за раскол пролетарыята і абыходзяць адзіны рабочы фронт; 2) зрабіць «Альянса Обрэра» сапраўднай арганізацыяй адзінага рабочага фронта і вырваць яе з соцыял-рэфармісцкага кіраўніцтва. К моманту ўсеагульнай забастоўкі і ўзброенага паўстання ў кастрычніку апошняя задача поўнасцю выканана не была; 3) паступова ўключаючы ў «Альянса Обрэра» другую асноўную рухаючую сілу рэволюцыі—сялянства, компартыя змагалася за арганізацыю яго для барацьбы за ўладу советаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Каб хутчэй уцягнуць сялянства ў рэволюцыйную барацьбу, комуністы адной з умоў свайго ўваходжання ў «Альянса Обрэра» ставяць абавязковую канфіскацыю ўсёй памешчыцкай і царкоўнай зямлі і бясплатнае размеркаванне яе паміж сялянамі.

Соцыялісты і соцыялістычная Ліга моладзі прымаюць прапанову Комінтэрна аб арганізацыі ў Іспаніі адзінага антыфашысцкага фронта. Каб не дапусціць далейшага ўзмацнення знізу адзінага фронта рабочых, буржуазія стварае правакацыйны ўрад Леруса з удзелам трох фашыстаў групы Хіль Роблеса. «Альянса Обрэра» аб'яўляе ўсеагульную забастоўку, якая выліваецца ва ўзброенае кастрычніцкае паўстанне. Яно зноў пакрыла іспанскі гераічны пролетарыят неўвядаемай славай.

Цэнтрамі кастрычніцкага паўстання 1934 года былі якраз найбольш прамысловыя раёны Іспаніі—Мадрыд, Каталонія і Астурыя. У арганізацыях «Альянса Обрэра» іменна гэтых раёнаў пераважны ўплыў мела комуністычная партыя. У іншых частках Іспаніі, дзе рабочыя ішлі за соцыялістамі ці анархістамі, кастрычніцкая ўсеагульная забастоўка хутка скончылася, без асаблівых пагроз ураду і капіталістам.

У Мадрыдзе паўстаўшыя рабочыя масы на працягу некалькіх дзён вялі наступленне на цэнтральныя кварталы горада, дзе знаходзяцца ўрадавыя ўстановы. Супроць рабочых урад павінен быў скарыстаць гарматы і атрутныя газы. У Каталоніі рабочыя захапілі некалькі гарадоў і абвясцілі там совецкую ўладу; здрадніцтва буржуазнага аўтаномнага ўрада Кампаніса добра паказала рабочым усю ілюзорнасць надзеі на буржуазную аўтаномную Каталонію і прымусіла іх пайсці пад кіраўніцтвам комуністаў на барацьбу за іншую Каталонію, за вольную Каталонію рабоча-сялянскіх Советаў.

Найбольшых размераў дасягнула паўстанне ў Астурыі, багатай сваімі вугальнымі капальнямі і металургічнымі заводамі. Пазіцыі компартыі ў гэтым горным раёне былі заўсёды моцныя. Яшчэ да рэволюцыі, у час дыктатуры Прымо дэ-Рывера, абласны камітэт компартыі ў Астурыі выдаваў газету «Рабочы Астурыі». Тут «Альянса Обрэра» была сапраўднай арганізацыяй адзінага рабочага фронта пад кіраўніцтвам компартыі. Тут значная колькасць профсаюзаў належала к Профінтэрну.

Галоўны сэнс астурыйскіх баёў заключаўся ў барацьбе за ўладу. Узброенае паўстанне пачалося ў Астурыі адначасова з аб'яўленнем ўсеагульнай забастоўкі, г. зн. у ноч з 4 на 5 кастрычніка. Праз дзень

уся Астурыя была ў руках рабочых, а праз некаторы час рабочыя захапілі Овіэдо—цэнтр правінцыі Астурыі. Акрамя рабочых, у паўстанні ўдзельнічалі і сяляне. Паўстанне ахапіла дзесяткі тысяч рабочых і сялян Астурыі і перакінулася на суседнія правінцыі—Біскайю і Леон.

Паўсюды ў Астурыі былі створаны рабочыя і сялянскія советы. Яны былі не толькі ў кожным горадзе, але і ў вёсках, у сялянскіх раёнах. Ад імя ўлады советаў, «рабоча-сялянскага ўрада», выдаваліся дэкрэты і загады, якія ставілі мэтай увядзенне новага рэвалюцыйнага правапарадку і арганізацыю вакол советаў самых шырокіх мас працоўных для барацьбы за зямлю, за ўладу, супроць голаду, галечы, супроць фашызма.

Дэкрэтамі створаных советаў прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці і зямлю была адменена. Зямля абвяшчалася нацыяналізаванай, і мясцовы «рэвалюцыйны камітэт» прапанаваў пачаць размеркаванне сярод працоўнага сялянства на пачатках працоўнага землекарыстання ўсёй памешчыцкай і царкоўнай зямлі.

Па ўсіх прадпрыемствах створаны былі фабрычна-заводскія камітэты. Задачай іх з'яўлялася—сачыць за тым, каб былы гаспадар прадпрыемства не папсаваў яго, каб вытворчаць поўным ходам прадаўжалася. Советы асабліва былі зацікаўлены ў тым, каб не было ніякіх затрымак на прадпрыемствах, якія выпрацоўваюць прадметы вайсковага знараджэння. У самім Овіэдо рабочыя захапілі арсенал з 40.000 вінтовак, вялікай колькасцю бомб і кулямётаў.

У руках рабочых аказаліся і гарматы.

Многа ўвагі советы ўдзялілі снабжэнню насельніцтва хлебам і іншымі прадуктамі. Советы існавалі ў Астурыі 15 дзён. Але за гэты невялікі тэрмін рэволюцыйная энергія рабоча-сялянскай дыктатуры стварыла сапраўды ўзорныя органы ўлады.

Рабочыя Астурыі арганізавалі сваю чырвоную армію. Не гледзячы на спешнасць фармавання і невялікую колькасць баявых адзінак, на малую абучанасць вайсковай справе, чырвоная армія Астурыі доўгі час абаранялася ад значна большай урадавай арміі ў 40.000 салдат з матарызаванымі вайсковымі часткамі, авіяцыяй, удушлівымі газамі і інш.

Астурыйскія рабочыя з першых-жа дзён барацьбы прымянілі правільную тактыку ўсякага ўзброенага паўстання—тактыку наступлення. Яны адразу-ж пачалі захватваць важнейшыя стратэгічныя пункты, тэлеграф, радыё, арсеналы і вайсковыя казармы. Кіруемыя комуністамі, паўстанцы заўсёды пачыналі з наступлення, не чакаючы нападу. Улічваючы вопыт ранейшых рабочых паўстанняў, у асаблівасці вопыт Окцябрскай рэволюцыі ў Расіі, рабочыя-чырвонагвардзейцы ў кожнай занятай мясцовасці бралі заложнікаў з мясцовых капіталістаў і памешчыкаў, каб папярэдзіць такім чынам у сваім тыле розныя контррэволюцыйныя выступленні і дыверсійныя акты.

Тры дні ішла барацьба за Овіэдо. Урадаваму войску прыходзілася з бою браць кожную вуліцу, кожны квартал і нават кожны дом. Калі ўжо нельга было далей трымаць горад, рабочыя пакінулі яго ў поўным парадку, са зброяй. У поўным парадку рабочыя адступілі і ў горы, дзе барацьба не скончылася поўнасцю яшчэ і цяпер.

У некалькі меншых размерах прашлі ўзброеныя паўстанні ў правінцыях Біскайя і Леон, але і там рабочыя заставаліся поўнымі гаспадарамі ў цэлым радзе гарадоў ад 5 да 10 дзён. У гэтых гарадах

был: таксама створаны рабоча-сялянскія советы, або іх функцыі выконвалі кіруемыя комуністамі мясцовыя арганізацыі «Альянса Обрэра», захватвалася зямля, нацыяналізаваліся прадпрыемствы, банкі, друкарні і інш. У кожным горадзе і вёсцы совет адступаў толькі перад ваеннаю сілай.

Вялікі гераізм праявілі ў кастрычніцкіх баях комуністычная партыя Іспаніі і комсамол. З самага пачатку паўстання ўсе мясцовыя арганізацыі партыі і комсамола, не трацячы ні адной гадзіны часу, паднялі на ногі ўсіх сваіх членаў і быўшых пад іх уплывам рабочых, і пачалі арганізоўваць чырвонагвардзейскія атрады. Самі комуністы і комсамольцы складалі асноўны касцяк чырвонай гвардыі; яны праяўлялі ў баях узорны гераізм, адважна першымі кідаліся на ворага і вельмі часта абіраліся камандзірамі атрадаў.

Комуністы дабіліся перавагі сваіх прадстаўнікоў у радзе ваенна-рэволюцыйных камітэтаў «Альянса Обрэра». Соцыялістычная частка гэтых камітэтаў часта сабатавала паўстанне, дэзертавала пры малейшай небяспецы, ўларта адмаўлялася стварыць адзіны галоўны цэнтр узброенага паўстання і ўвесці ў яго прадстаўнікоў усіх рабочых арганізацый. Пролетарыят рваўся ў бой за ўладу. Рабочыя і іх арганізацыі лічылі само сабою зразумелым, што бой павінен ісці пад выпрабаваным сцягам рабоча-сялянскіх советаў, але соцыялісты ўсімі мерамі адцягвалі рабочых ад рашучых выступленняў. А калі выступленні ўсё-ж такі адбываліся, то соцыялісты, нават не ўступіўшы ў рашучую сутычку, пачыналі гаварыць аб немінучасці паражэння. Тое, што пролетарыят Астурыі і Біскайі змагаўся пад сцягам советаў, не гледзячы на ўсе намаганні соцыялістаў і анархістаў, азначае вялікую перамогу самой ідэі советаў і комунізма.

Рабочыя, якія дагэтуль ішлі ў большасці за соцыялістамі і анархістамі, зараз упэўніліся, што шлях гэтых партый—шлях здрадніцтва і крывавых паражэнняў рабочага класа. Яны ўпэўніліся, што адзінаю мэтай барацьбы пры даных умовах у Іспаніі магла быць толькі барацьба за ўладу, што барацьба гэта можа быць паспяховай толькі пры кіраўніцтве комуністычнай партыі і што адзіна мажліваю формай гэтай улады могуць быць толькі советы.

Кастрычніцкая барацьба за ўладу канчаткова выкрыла анарха-сіндыкалізм, як вярнейшага памочніка іспанскай і ўсякай іншай контррэволюцыі. Пролетарыят ніколі не забудзе, што ў час рашучых боек рабочых анарха-сіндыкалісты аказваліся на баку фашысцкай рэакцыі (за выключэннем масы нізавых рабочых), чым яны аказалі бясцэнныя паслугі буржуазіі. Пролетарыят таксама ніколі не забудзе, што ў рашучы момант барацьбы, калі ўрад Леруса закрыў нават лева-буржуазны друк (пра комуністычны друк няма чаго і гаварыць—ён быў безумоўна забаронен), анархісцкія газеты выходзілі рэгулярна, абліваючы брудам паклёпу комуністаў, аддаваўшых за справу рабочага класа сваю кроў, сваё жыццё.

У дні гераічнай барацьбы іспанскі пролетарыят стаў вышэй на галаву, уздужаў у адкрытых баях за ўладу, у барацьбе супроць капітала, супроць фашызма.

Але чаму-ж іспанскія пролетарыі, праявіўшы столькі гераізма і цвёрдай волі ў барацьбе, не перамаглі? Галоўная прычына паражэння заключаецца ў тым, што не было дастатковай арганізацыйнай і палітычнай падрыхтоўкі рэволюцыйнага перавароту, не было мабілізацыі ўсіх класавых сіл і непасрэдных саюзнікаў рэволюцыі,

а ў першую чаргу сялянства. Партыя не давяла да самых шырокіх слаёў сялянства свае лозунгі, таму сялянства недастаткова падтрымала пролетарыят; компартыя не ўзначаліла барацьбу мас у нацыянальна-рэволюцыйным руху.

Адна з важнейшых прычын паражэння іспанскіх рабочых заключаецца таксама і ў тым, што армія ў большасці сваёй засталася на баку ўрада. Гэта акалічнасць безумоўна ўвязана з тым, што не было забяспечана сумеснага выступлення рабочых з сялянствам.

Буйнейшая памылка таксама і ў тым, што не было створана адзінага цэнтра кіраўніцтва ўсеагульнаю стачкай і ўзброеным паўстаннем ва ўсеіспанскім маштабе.

Велізарнейшае значэнне адбыўшыхся ў Іспаніі падзей заключаецца ў тым, што іспанскі пролетарыят вышаў на адзіна верны шлях — на шлях адкрытай барацьбы за ўладу советаў, за рабоча-сялянскую рэспубліку. Вопыт Астурыі, Біскайі і іншых правінцый Іспаніі даказаў магчымасць масавага ўзбраення пролетарыята і магчымасць разбіць дзяржаўную машыну ў самым ходзе паўстання.

Урад даручыў справу задушэння паўстанняў у Каталоніі і Астурыі найбольш рэакцыйным генералам, якія не хварэлі ніякім «лібералізмам». Пры гэтым фашысцкая рэакцыя скарыстоўвала амаль выключна цывільную гвардыю і каланіяльныя войскі. Звычайнай рэгулярнай арміі не давяралі, бо рэволюцыйнае бражэнне наглядалася і там.

У Астурыі пры падаўленні рабочых дзейнічаў генерал Очоа — вядомы фашыст і манархіст, іспанскі Кавеньяк і Тьер. Ён пакрыў Астурыю гарою рабочых трупаў, бамбардыруючы паўстаўшых з усіх бакоў, і з паветра і з мора. Больш 5.000 рабочых было забіта, 10.000 ранена; значная частка забітых лягла не ў баях, а была проста расстрэляна пасля палону. Забівалі не толькі дарослых рабочых, але і старыкоў, жанчын і нават дзяцей. Многія тысячы рабочых сядзяць пад вартаю і чакаюць расстрэлу. Такіх налічваецца больш 60.000 чалавек. Шлях «адважнага» генерала Очоа, які ніяк не мог з наяўнымі сіламі, без дадатковых войск з Мадрыда, адабраць у рабочых Овіэдо, затое «з адвагаю» распраўляецца з бяззбройнымі, усеян пажарышчамі разгромленых гарадоў і вёсак.

Паўстанне не закончылася. У гарах Астурыі яшчэ грымяць гарматы і кулямёты. Яшчэ дзейнічаюць рабочыя советы. Але ў захопленых урадавым войскам мясцовасцях ва-ўсю лютуе рэакцыя. Паўтараюцца ўсе жахі Версаля. Схілы Пірынейскіх гор напоены гарачай рабочай крывёю.

Ці разгромлена Іспанская рэволюцыя? Не.

Рэволюцыйная Іспанія знаходзіцца зараз на пераломе. Партыя атрымала найбольш моцнае з баявых хрышчэнняў за ўсе апошнія гады. Гэта хрышчэнне ачысціла яе ад усіх хісцкіх, няўстойлівых, недысцыплінаваных элементаў і ўліло ў яе элементы чэсных рабочых, якія часова ішлі за соцыялістамі ці анархістамі.

* * *

Ка дню вялікага Окцябра прадстаўнікі Комуністычнай партыі Іспаніі пры Выканкоме Комінтэрна, разам з прадстаўнікамі французскай, італьянскай і англійскай компартый паслалі праз «Звязду» прывітанне рабочым, калгаснікам і чырвонаармейцам Советскай Беларусі.

Апісваючы гераічную барацьбу рабочых Іспаніі і Італіі, яны гавораць:

«...Пасылаючы вам, працоўным Совецкай Беларусі, актыўным удзельнікам велізарнага будаўніцтва, праз «Звязду» наша палкае комуністычнае прывітанне з прычыны XVII гадавіны пераможнай Окцябрскай рэволюцыі, мы ўпэўнены, што выказваем пачуцце не толькі членаў нашай партыі, але таксама і мільёнаў працоўных..., якія штодзенна дэманструюць сваю дзейсную салідарнасць з Совецкім саюзам і заўтра—калі гэта патрабуецца—здолеюць узняцца на заклік комуністычнай партыі для сусветнай перамогі комунізма».

Прывітанне лепшых прадстаўнікоў іспанскага пролетарыята—для нас лепшы Окцябрскі падарунак. Рабочыя, калгаснікі і чырвонаармейцы БССР з жывейшым захапленнем сочаць за падзеямі іспанскай рэволюцыі, што выразілася ў тысячах прывітанняў яе барацьбітам калонамі дэманстрантаў у Окцябрскія дні.

Блізак той дзень, калі кожная кропля крыві іспанскага рабочага і селяніна будзе адплачана вялікаю класавай помстай.

---

П. Андрэеў

# Аб уступленні СССР у Лігу нацый

Мысль аб стварэнні лігі народаў набыла больш-менш адчувальную форму ў перыяд сусветнай вайны 1914—1918 гг. Вайна знясіліла капіталістычны свет і разлажыла яго вытворчы апарат. У Расіі перамагла рэволюцыя, у іншых краінах выбухалі паўстанні—усё гэта ставіла на карту само існаванне капіталізма.

Перад буржуазным светам паўстала задача: выратавацца ад пагібелі праз ліквідацыю сутычак між паасобнымі элементамі капіталістычнай сістэмы, праз задушэнне рэволюцыйнага пролетарыята. Гэты падвойны клопат і парадзіў Лігу нацый.

Афіцыяльна праекты Лігі нацый узнікалі і да 1919 г. Але ўсе гэтыя разрозненыя ідэі і планы стварэння Лігі нацый аставаліся пустым і голым пацыфізмам, пакуль «згода» паміж драпежнікамі не стала неабходнасцю і гарантыяй супроць агульнай катастрофы, бо соцыяльнае банкроцтва капіталістычнага рэжыма (рэволюцыйны рух, нацыянальна-вызваленчы рух у калоніях) і эканамічнае становішча буржуазіі пасля вайны патрабавалі нейкіх новых форм арганізацыі фінансавага капітала ў міжнародным маштабе.

Іменна гэтыя прычыны і паслужылі повадам для буржуазіі паставіць на практычную глебу пытанне аб стварэнні Лігі нацый, як органа, які павінен будзе забяспечыць не толькі абарону супроць пролетарскіх рэволюцый, але і як органа наступальнай палітыкі імперыялістычных дзяржаў.

«Ініцыятарам» такой практычнай пастаноўкі пытання з'явіўся прэзідэнт ЗША Вільсон, які разрозненыя ідэі і планы стварэння Лігі нацый прывёў у адзіную сістэму і афіцыяльна сфармуляваў іх у апошнім з 14 сваіх пунктаў мірнай праграмы (утварэнне саюза народаў у мэтах узаемнай гарантыі незалежнасці і тэрытарыяльнай недатыкальнасці як малых, так і вялікіх дзяржаў). Аднак, канчатковы праект утварэння Лігі нацый, ператвораны ў статут з 26 артыкулаў, быў распрацован 14 дзяржавамі са «Згоды 14 лютага 1919 г.», прадстаўлен «нейтральным» дзяржавам і падпісан першымі (краінамі Згоды) на 5-м пленарным паседжанні мірнай канферэнцыі 28 красавіка 1919 г. А потым гэты дагавор быў уведзен, як уступная частка, ва ўсе мірныя дагаворы 1919—20 гг., пачынаючы з Версальскага і канчаючы Севрскім мірным дагаворам.

Такім чынам першымі ўдзельнікамі Лігі нацый з'явіліся дзяржавы Згоды, разам з саюзнікамі падпісаўшыя дагавор, і тыя з дзяржаў, захаваўшых «нейтральнасць» у сусветнай вайне, якія далучыліся к да-

гавору на працягу двух месяцаў пасля ўступлення яго ў сілу. Пазней былі прыняты ў Лігу: у 1920 г.—Аўстралія, Албанія, Балгарыя, Коста-Рыка, Люксембург, Фінляндыя: у 1921 г.—Эстонія, Латвія і Літва.

З кіруючых дзяржаў-пераможніц у Лігу не ўступалі ЗША; доўгі час (да 1926 г.) не ўдзельнічала ў Лізе таксама Германія, а СССР і Афганістан—да 1934 г.

Да гісторыі ўзнікнення Лігі нацый трэба дадаць, што ў першапачатковы яе змест буржуазныя пацыфісты імкнуліся ўкласці «царства справядлівасці і права», «усеагульнага міру» і т. д. Ліга нацый агалашалася, як орган, які прымірае інтарэсы паасобных краін, як орган, які гарантуе панаванне права ў міжнародных адносінах. Такую міратворчую ролю прыпісвалі Лізе нацый таксама соцыял-дэмакраты, якія неаднакроць заяўлялі, што з утварэннем Лігі нацый наступае эпоха мірнага размежавання міжнародных антаганізмаў.

Аднак, імперыялістычная вайна 1914 года, як вядома, не знішчыла супярэчнасцей паміж капіталістычнымі дзяржавамі, а наадварот,—да крайнасці абвастрыла іх. Гэтыя супярэчнасці ў першую чаргу сказаліся на той-жа Лізе нацый. ЗША, уклаўшы ў вайну мільярды долараў, у пошуках гарантыі гэтых крэдытаў развівалі сваю дзейнасць у двух кірунках: высунулі абшырную праграму морскіх узбраенняў і імкнуліся ператварыць Лігу ў орган гегемоніі амерыканскага фінансавага капітала. Але спробы амерыканскай дыпламатыі не мелі поспеху. Англія не жадала так лёгка ўступіць пяршынства на моры, і ў якасці абавязковай умовы падтрымаць Лігу нацый выставіла патрабаванне, каб ЗША зменшылі сваю праграму морскіх узбраенняў. Гэта пытанне і паслужыла асноўным повадам к таму, што амерыканская буржуазія, якая не пажадала дзяліць з англійскай буржуазіяй панаванне над светам, адхіліла Версальскі дагавор і ўваходжанне ў Лігу нацый, прыкрываючыся, як звычайна ў такіх выпадках, вядомай дактрынай Джэмса Монро аб неўмяшанні.

Сказанага даволі, каб наглядна пераканацца, што Ліга нацый з першых-жа дзён свайго існавання ператварылася ў нешта процілеглае той Лізе, якая паводле слоў буржуазных борзапісцаў павінна была адыграць ролю органа, прымiраючага міжнародныя антаганізмы.

Уключэнне статута Лігі нацый як абавязковай часткі ў мірныя дагаворы 1919—20 гг. і яе далейшая эвалюцыя таксама пацвярджае, што Ліга павінна была адыгрываць ролю не прыміраючага органа, а хутчэй органа наступальнай палітыкі імперыялістычных дзяржаў, якія клапоцяцца аб сваіх калоніях, новых тэрытарыяльных набытках, рэпарацыях і т. д.

З другога боку, творцы Лігі нацый паклапаціліся аб тым, каб ператварыць яе ў нейкую процівагу для тармажэння развіцця пралетарскіх рэвалюцый, пераможна развіваўшыхся на кантыненце Еўропы. Выдаючы свой страх перад узмацняючымся большэвізмам, прадстаўнікі амерыканскага і англійскага імперыялізма адкрыта заяўлялі, што адзіны выхад са становішча—як найхутчэй стварыць Лігу нацый. Ллойд-Джордж у сваім мемарандуме, прадстаўленым кіраўнікам парыжскай мірнай канферэнцыі, пісаў:

«Калі мы жадаем даць Еўропе нешта лепшае, чым большэвізм, мы павінны стварыць Лігу нацый, якая будзе служыць як гарантыя для ўсіх нацый, лаяльных у адносінах да сваіх суседзяў, так і пагрозай для тых, хто будзе пасягаць на чужыя правы, будзь-то манархічны ці большэвіцкі імперыялізм. Сгва-

рэнне Лігі нацый ёсць адзін з краеўгольных каменяў будынку міру, бо яна будзе ва ўсім свеце верным абаронцам міжнароднага права і свабоды».

Гэтыя і падобныя ім выказванні надалі Лізе нацый ярка выражаны антысовецкі характар. Уся пазнейшая дзейнасць Лігі нацый таксама мае пэўную ўнутраную сувязь з антысовецкімі планамі, разлічанымі ў адным выпадку на гвалтоўнае знішчэнне краіны советаў, а ў другім—на самаліквідацыю большэвізма. Першы варыянт, натхняльнікам якога быў кіраўнік французскай палітыкі Клемансо, хутка аднак прышлося адкінуць, бо маладая Совецкая Рэспубліка, нанесла руйнуючы ўдар усім інтэрвенцыяністцкім замыслам сусветнага імперыялізма. Другі варыянт—праграма Ллойд-Джорджа—развіваў палітыку акружэння Совецкага саюза, знешне-палітычную ізаляцыю, эканамічны байкот і т. д., разлічваючы такім чынам прымусіць совецкую ўладу прыняць умовы, пры якіх аднаўленне капіталізма было-б немінучым. Але і гэта праграма аказалася нежыццёвай: вынік Генуэзскай эканамічнай канферэнцыі 1922 г., на якой капіталістычныя дзяржавы патрабавалі ад совецкай улады не больш і не менш як звароту нацыяналізаваных Октябрскай рэволюцыяй заводаў, капалень, зямлі і ўсёй маемасці замежных капіталістаў, прызнанне ўсіх даўгоў, капітуляцыі і т. д. даказаў капіталістычнаму свету, што краіна Советаў устояўшая супроць узброеных націскаў інтэрвентаў, не зышла з пазіцый, заваяваных Октябром.

Далейшы перыяд, як нам вядома, знамянуецца некаторым адступленнем англійскай дыпламатыі ад сваёй антысовецкай палітыкі, выкліканым націскам прадстаўнікоў гандлёвага капітала, зацікаўленых у хутчэйшым аднаўленні сусветнай гаспадаркі. Адступленне гэта завяршылася прызнаннем СССР Англіяй. Але ўся пазнейшая палітыка англійскага і французскага ўрадаў гаворыць аб тым, што мэта акружэння Совецкага саюза не перастае быць іх галоўным клопатам.

Для стварэння адзінага супроцьсовецкага блока неабходна было прыцягнуць таксама і Германію, якая, у сілу акалічнасцей таго часу, магла будаваць антысовецкія планы ў больш аддаленай перспектыве. Але для гэтага трэба было, па-першае, змяніць яе знешне-палітычную арыентацыю, а, па-другое,—уцягнуць у члены Лігі нацый, у сілу чаго і яна была-б абавязанай, згодна арт. 16 статута Лігі, да адзіных дзеянняў антысовецкага блока. Як першае, так і другое аказалася магчымым ажыццявіць толькі дзякуючы наяўнасці брыянаўскай антысовецкай ідэі стварэння пан-Еўропы, у планы якой уваходзіла прымірыць Германію з Версальскай сістэмай за кошт пэўных уступак з тым, каб пазней павярнуць усе зацікаўленыя дзяржавы, аб'яднаныя ў адзін блок, супроць СССР.

Пасля падпісання лакарнскіх узгадненняў 1926 года Германіі было прадастаўлена месца ў Лізе нацый. Англа-французскі імперыялізм мог быць гэтым задаволеным. У германскай знешняй палітыцы пачалася паласа, вядомая пад назвай «паварот к заходняй арыентацыі». З таго часу Ліга нацый узбагацілася яшчэ адным членам, антысовецкія намеры якога і тады не выклікалі сумненняў.

Асноўныя прычыны няўдзелу СССР у Лізе нацый да 1934 года былі як нельга лепш указаны правадыром нашай партыі тав. Сталіным. У гутарцы з замежнымі рабочымі дэлегацыямі, меўшай месца ў 1927 г., т. Сталін на пытанне «Чаму СССР не прымае ўдзелу ў Лізе нацый» даў наступны адказ:

«СССР не з'яўляецца членам Лігі нацый перш за ўсё таму, што не хоча браць на сябе адказнасці за імперыялістычную палітыку Лігі нацый, за «мандаты», якія выдаюцца Лігай нацый на прадмет эксплаатацыі і прыгнечання каланіяльных краін. Совецкі саюз не прымае ўдзелу ў Лізе нацый, паколькі ён стаіць цалкам і поўнасцю супроць імперыялізма, супроць прыгнечання калоній і залежных краін. Совецкі саюз не прымае ўдзелу ў Лізе нацый таму, па-другое, што ён не хоча браць на сябе адказнасць за тыя ваенныя падрыхтаванні, за рост узбраенняў, за новыя ваенныя саюзы, і т. д., якія прыкрываюцца і асвяшчаюцца Лігай нацый і якія не могуць не весці к новым імперыялістычным войнам. Совецкі саюз не прымае ўдзелу ў Лізе нацый, паколькі ён стаіць цалкам і поўнасцю супроць імперыялістычных войн...»

Гэты адказ т. Сталіна па сутнасці вычэрпвае ўсю характарыстыку Лігі нацый. Дадаць сюды няма чаго. Тут і статут яе і дзейнасць за ўсе гады.

* * *

Ці змяніўся характар Лігі к моманту ўступлення ў яе члены СССР, ці змянілася яе дзейнасць і якавы тыя прычыны і акалічнасці, пабудзіўшыя Совецкі ўрад адказаць згодай на запрашэнне ўступіць у члены Лігі нацый, якаво наогул прынцыповае значэнне ўваходжання СССР у Лігу нацый?

Разгляд гэтых пытанняў павінен ісці па лініі вывучэння міжнародных адносін між паасобнымі капіталістычнымі дзяржавамі, склаўшыхся ва ўмовах сусветнага эканамічнага крызіса.

Нечуваны да гэтага часу сусветны эканамічны крызіс да крайнасці абвастрыў супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі. У пошуках выхаду з тупіка паасобныя капіталістычныя дзяржавы не маглі адмовіцца ад выпрабаваных імі сродкаў палепшання свайго становішча за кошт другога.

Калі Злучаныя Штаты разлічваюць падтрымаць магутнасць свайго далара за кошт рынкаў Паўднёвай Амерыкі, пазык Кітаю, калі Англія мае магчымасць час ад часу палепшыць сваё становішча шляхам манапалізацыі ўнутрыімперскіх рынкаў, а Францыя штогод упрысквацъ у свой бюджэт каласальныя даходы, выкалачваемыя ёю са сваіх каланіяльных уладанняў, то такія дзяржавы, як Германія і Японія, гэтых магчымасцей капіталістычнага працвітачня не маюць.

Германія з яе высока развітай прамысловасцю, якая ў большай сваёй частцы працуе на знешні рынак, у сілу эканамічнага крызіса аказалася перад зачыненымі дзвярмі сусветнага рынку, і ключ да гэтых дзвярэй бачыць толькі ў вайне.

Японія-ж, якая не ўладае магутнай прамысловасцю і ў той-жа час задыхаецца ад недахопу прамысловай сыравіны і паліва, баіцца якога-б там ні было ўзмацнення ўплыву амерыканскага капітала на кантыненце Азіі і мяркуе, што захаванне роўнавагі, забяспечваючай яе асобыя інтарэсы і пераважныя правы ў Азіі, патрабуе новых каланіяльных набыткаў, якія ў падзеленым свеце яна можа атрымаць толькі сілаю зброі.

Вядомы нам план барона Танака з дакладнасцю іэлагае японскую экспансію на Ўсходзе. Асноўныя пачаткі гэтага плана заключаюцца

ў падпарадкванні свайму ўплыву ўсяго Кітая (каланізацыя) і адтаржэнні Савецкага Далёка-Ўсходняга Края з далучэннем яго ў якасці састаўной часткі да Японскай імперыі. Падрыхтоўчаю мерай для гэтага з'яўляецца захват Манчжурыі, якая павінна быць скарыстана, у адным выпадку, як харчовая база, а ў другім выпадку, як стратэгічны плацдарм для нападу на СССР.

Захват Манчжурыі японскім імперыялізмам ужо праведзен. Далейшае ажыццяўленне гэтай палітыкі пачынае непасрэдна пагражаць Кітаю, СССР і ЗША.

Акупаваўшы Манчжурыю, японскі імперыялізм спрабаваў лобавым ударам па Шанхаю паставіць Кітай на калені з тым, каб дабіцца прызнання незалежнасці Манчжурыі ад Кітая і захапіць новыя тэрыторыі ў Кітаі. Аднак, шанхайскі паход, як нам вядома, нічога іншага не даў Японіі, акрамя ваеннага і дыпламатычнага паражэння. Кітайскія рабочыя і салдаты аказалі японскім мілітарыстам пад Шанхаем такое супраціўленне, пасля якога ў апошніх прапала ахвота праводзіць з недастатковымі сіламі падобныя паходы.

Другім не менш важным вынікам шанхайскай аперацыі з'явілася абвастрэнне і паглыбленне япона-амерыканскіх супярэчнасцей. Пасля Шанхая абстаноўка на Ціхім акіяне вельмі змянілася. Амерыканскі імперыялізм, баючыся страціць кітайскія рынкі, сканцэнтраваў у Ціхім акіяне ўсе свае морскія сілы. Збудаванне на Ціхаакіянскім узбярэжжы ЗША новых авіябаз і праведзеныя манеўры (у той час) флота і авіяцыі з'явіліся ўнушальнай дэманстрацыяй супроць Японіі. Захват Японіяй шанхайскага раёна выклікаў працідзеянне не толькі ЗША, але таксама і Англіі. У выніку націску гэтых дзяржаў Японія вымушана была эвакуяваць свае войска з Шанхая.

Япона-амерыканскія адносіны, не гледзячы на эвакуацыю Шанхая, прадаўжалі, аднак, усё больш і больш абвастрацца. Прызнанне Японіяй Манчжоу-Го і захват манчжурскіх мытніц выклікалі новае абвостранне адносін паміж ЗША і Японіяй. Указваючы на парушэнне Японіяй Вашынгтонскага дагавора 9-ці дзяржаў, паводле якога ўсе дзяржавы абавязаліся «паважаць» суверэнныя правы Кітая і цэласць яго тэрыторыі, ЗША лоўка скарысталі трэнні паміж Германіяй і Францыяй па пытанню абмежавання германскіх узбраенняў, дабіліся ад Францыі і Англіі сумесных крокаў, накіраваных супроць Японіі—парушальніцы гэтага дагавора.

Выявіўшыяся на гэтай глебе (раздзел Кітая) разнагалоссі паміж Японіяй і іншымі імперыялістычнымі дзяржавамі ў Лізе нацый і настойлівае нежаданне Японіі абмежавацца захопленым прывялі ў сакавіку 1933 года к выхаду Японіі з Лігі нацый. Гэты акт, таксама як і адмаўленне Японіі падпісаць з СССР пакт аб ненападзе, мы расцэньваем як адкрытую заяву японскіх мілітарыстаў аб жаданні развязаць сабе рукі і прадаўжаць пачатую палітыку гвалтоўных захватаў у Кітаі і Савецкім Далёкім Усходзе.

Першым вынікам сусветнага эканамічнага крызіса для Германіі быў прыход к уладзе ваяўніча настроенага фашызма, кіраўнікі якога, пацярпеўшы банкроцтва ўнутры краіны, бачаць выхад з крызіса выключна ў аднаўленні граніц старой Германіі і далучэнні да яе новых каланіяльных тэрыторый.

Германскі фашызм з першых дзён свайго існавання накіроўвае сваю дзейнасць не толькі на ўстараненне тых частак Версальскага дагавора, якія сціскаюць яго свабоду ўзбраенняў. Ён стварыў цэлую

праграму вайны, накіраваную ў першую чаргу супроць СССР (Украіна), супроць Літвы (Мемель), Аўстрыі (аншлюс), Румыніі, Польшчы (калідор), потым Францыі (Эльзас) і ўсёй групы Балтыйскіх дзяржаў, рэкамендуемых як самы блізкі аб'ект экспансіі для ўключэння ў трэцюю імперыю. Вынікам такой абшырнай праграмы было тое, што германскі фашызм пры першых спробах яе ажыццяўлення натыкаецца на энергічнае супраціўленне дзяржаў, арганізаваных у рамках Лігі нацый.

Не атрымаўшы фармальнага задавалення першых сваіх патрабаванняў—раўнапраўя ў галіне ўзбраенняў, Германія пакідае Лігу нацый і пачынае бескантрольна фарсіраваць свае ўзбраенні з тым, каб у бліжэйшы час мець усе магчымасці для гвалтоўнага ажыццяўлення сваёй праграмы. Непасрэдная пагроза з боку германскага фашызма таксама і большасці дзяржаў Цэнтральнай Еўропы прывяла к таму, што галоўнейшыя з іх вымушаны былі перагледзець сваю палітыку і парашыць, ці выгадна ім у сучасных умовах развязванне вайны супроць СССР ці не.

Спыняючыся толькі на галоўнейшых краінах, мы павінны адзначыць, што палітыка Францыі ў гэтых адносінах больш чым ясна. Германскі фашызм перад сваім прыходам к уладзе, граючы на нацыянальных пачуццях германскага народу, зусім адкрыта заяўляў аб сваіх планах хутчэйшага ажыццяўлення рэваншу з Францыяй. Рэалізацыя праграмы германскай экспансіі пачынаецца, у першую чаргу, з падрыву французскай сістэмы саюзаў; спрабуючы адарваць ад яе Польшчу, Германія згаджаецца не чапаць тэрыторый Польшчы пры ўмове сумеснай барацьбы за раздзел СССР. Уключэнне Польшчы ў арбіту германскага ўплыву для Францыі азначае ўтрату не толькі саюзніка і дэзарганізацыю яе тылу, але і ўтрату тых матар'яльных і чалавечых рэсурсаў, якія, пры далейшым ажыццяўленні германскіх экспансіўных планаў, з поспехам могуць быць выкарыстаны супроць той-жа Францыі. Францыя, улічваючы іменна гэтыя намеры, з першых-жа дзён актыўна процідзейнічала ўсім спробам Гітлера знайсці тое ці іншае падтрыманне ў Парыжы для сваёй усходняй палітыкі.

Ажыццяўленне Германіяй сваёй усходняй палітыкі, уключаючай заваёву і балтыйскіх дзяржаў, а таксама наяўнасць паўднёва-ўсходняй праграмы германскага імперыялізма (якая прадугледжвае далучэнне Аўстрыі да Германіі, адрыў Славакіі ад Чэха-Славакіі, далучэнне яе да Венгрыі і расчляненне Юга-Славіі), азначала-б канец усім пазіцыям, з такой цяжкасцю заваяваным Францыяй за апошнія 15 год, звядзенне яе на становішча дзяржаў залежных і адначасова ўзмацненне германскага імперыялізма, які высоўваецца на пост дыктатара Еўропы.

Аказаўшыся пад пагрозай з боку Германіі, Францыя вымушана была перагледзець таксама свае адносіны да пытання японскай агрэсіі на Далёкім Усходзе. У французскіх кіруючых колах мяркуюць, што пры сучасных умовах Францыя не можа падтрымаць японскі імперыялізм на Далёкім Усходзе, бо ў выпадку вайны Японіі супроць СССР яна немінуча акажацца ў ізаляваным адзіноцтве на кантыненце Еўропы ў сілу таго, што яе былыя саюзнікі, Англія і Амерыка, вымушаны будуць канцэнтраваць свае сілы на Далёкім Усходзе.

Францыя, улічваючы гэта, таксама як і імкненне германскай буржуазіі к рэвізіі Версальскага дагавора і фактычны рост яе ўзброеных

сіл, прымушана была ўсю сваю ўвагу сканцэнтраваць на еўрапейскіх справах.

Рэзкая змена ў адносінах Францыі з СССР, якая суправаджалася заключэннем пакта аб ненападзе і іншымі мерапрыемствамі, накіраванымі на палепшанне гэтых адносін, з'явілася вынікам той пагрозы, якую нясе Францыі германскі імперыялізм, распраўляючы свае крыллі. Мірная-ж палітыка СССР, умацаванне яго эканамічнай і ваеннай магутнасці гаворыць Францыі аб тым, што саюз з СССР будзе садзейнічаць умацаванню справы міру, да якога імкнецца Францыя на даным этапе.

Змена палітыкі Францыі к СССР, бясспрэчна, адкінула ўсе тыя надзеі і перспектывы, якія песціў японскі імперыялізм адносна французскага падтрымання яго імперыялістычных планаў, накіраваных супроць СССР.

Аслабла, у пэўнай меры, і падтрыманне Японіі Францыяй ў адносінах Кітая. Іменна гэтым, у значнай ступені, тлумачыцца канфлікт Японіі з Лігаю нацый у сакавіку 1933 г. (манчжурскае пытанне) і выхад яе з Лігі. У сваю чаргу, выхад Японіі з Лігі нацый аслабіў для Францыі значэнне Японіі як гаранта Версальскай сістэмы. Для Францыі значна большае значэнне набывае зараз падтрыманне Версаля Злучанымі Штатамі Амерыкі, але, як вядома, за гэта падтрыманне ЗША патрабуюць ад Францыі падтрымаць Вашынгтонскі дагавор.

Такі малюнак сучасных адносін паміж Японіяй і Францыяй. Германія адыграла тут вельмі буйную ролю. Было-б аднак памылкаю расцэньваць «ахалоджанне» дружбы паміж Японіяй і Францыяй па пытанню аб СССР, як фактар, устойлівасць якога не падвергнецца зменам на працягу доўгага часу. У першы сусветнага эканамічнага крызіса, у перыяд безупыннага абвострання імперыялістычных супярэчнасцей агульная міжнародная абстаноўка адметна вялікай няўстойлівасцю і зменнасцю, таму магчымы быстрыя зрухі.

Бясспрэчна адно, што на даным этапе развіцця сусветных падзей Францыя, у сілу адзначаных вышэй прычын, вымушана стаць на шлях процідзеяння тым, хто памышляе аб новым перадзеле сусветнай карты, на шлях захавання існуючага становішча. Наколькі Францыя ў гэтым паслядоўна, гавораць факты яе апошняй дзейнасці.

Франка-савецкая ідэя ўсходняга пакта ўзаемнай дапамогі нарадзілася якраз у той час, калі ўсякія надзеі на ажыўленне работ камісіі па раззбраенню рухнулі.

Аднак, ажыццяўленне гэтага пакта, з першых-жа дзён натыкаецца на супраціўленне варожых справе міру груповак, якія імкнуцца да новых ваенных авантур, а таму зацікаўлены ў няўдачы ідэі ўсходнееўрапейскага пакта.

Гэтыя дзяржавы спрабавалі справу прадставіць так, нібы ўсходнееўрапейскі пакт выгадны толькі Францыі і СССР, што гэты пакт супярэчыць абавязацельствам, выцякаючым з пакта Брыяна—Келлога, што ён не спрые разрэджванню атмасферы, і знаходзілі нават, наадварот, што ён накіраван на акружэнне некаторых дзяржаў і т. д.

Асобай увагі заслугоўваюць апошнія спробы гэтых груповак прадставіць справу яшчэ і так, нібы самі ініцыятары—СССР і Францыя— ужо змянілі свой пункт погляду на пакт. Адначасова варожыя груповкі спрабуюць пасеяць недавер'е паміж СССР і Францыяй, каб гэтым падарваць аснову пакта.

Францыя і Совецкі саюз, застаючыся вернымі занятай імі пазіцыі, выступілі самым рашучым чынам супроць усіх спроб зрыву пакта,

Апошняе франка-савецкае ўзгадненне аб усходнім пакце, падпісанае 5/XII—34 г. у Жэневе французскім міністрам замежных спраў Лавалем і народным камісарам замежных спраў Літвінавым, у сілу якога Лаваль і Літвінаў абавязваюцца прадаўжаць дзейнасць, накіраваную на ажыццяўленне ўсходняга пакта, гаворыць якраз аб тым, што ў пункце погляду абодвух урадаў на гэта пытанне ніякіх змен не адбылося.

У чым сэнс гэтага ўзгаднення?

Па-першае, у тым, што Францыя і СССР маюць цвёрды намер прадаўжаць справу ажыццяўлення пакта, справу ўмацавання міру і нармальных адносін паміж усімі зацікаўленымі дзяржавамі Усходняй Еўропы. Абодвы ўрада прадаўжаюць лічыць, што ўсходні пакт з'яўляецца незамянімаю ўмовай для дасягнення гэтых мэт.

Па-другое, узгадненне гэтае прасякае ўсялякія спробы пасеяць недавер'е паміж Францыяй і СССР, спробы, якія маюць мэтай не толькі затрудніць ажыццяўленне пакта, але і падарваць аснову добрым адносінам. Разам з тым яно сведчыць аб яшчэ большым умацаванні прыязных адносін паміж абодвума краінамі.

Па-трэцяе, узгадненне павінна пакласці канец усякім спробам тых-жа груповак замяніць усходні пакт іншымі, менш дзейснымі узгадненнямі, якія мала да чаго абавязваюць, а ў некаторых выпадках нават праследуюць працілеглыя мэты. Гэта ўзгадненне мае буйнае значэнне іменна таму, што ўносіць яснасць у пытанне аб усходнееўрапейскім пакце, у пытанне адносін Францыі да справы абароны міру ў данай канкрэтнай абстаноўцы.

Але, калі мы маем магчымасць адзначыць пэўную яснасць французскага знешне-палітычнага курса на сучасным этапе, то гэтага нельга сказаць пра Англію.

Англійскі імперыялізм да гэтага часу не адмаўляецца ад супрацоўніцтва з Японіяй, бачачы ў ёй сілу, накіраваную супроць СССР.

Не адмаўляецца Англія таксама і ад падтрымання германскага імперыялізма, у асобе якога пастаянна бачыць сілу, якая можа быць скарыстана для барацьбы супроць СССР.

Неабходна таксама адзначыць, што абвастрэнне англа-амерыканскіх адносін і няўстойлівае становішча ў Еўропе знайшлі сваё адлюстраванне ў тым, што галоўны праціўнік Германіі—Францыя—стала займаць у разліках англійскага імперыялізма месца, якое занадта важна, каб рызыкаваць ім дзеля гітлераўскай Германіі.

Брытанскі імперыялізм усё яшчэ адыгрывае ролю галоўнага арганізатара антысавецкіх планаў, але аднаўленне ваеннай магутнасці Германіі пачынае сур'ёзна непакоіць Англію і баяцца, што германскі імперыялізм, пазбаўлены вайной 1914 года морскага флота, здолее магутнасцю свайго паветранага флота нанесці ўдар Англіі, як астраўной дзяржаве.

Гэта акалічнасць, таксама як і боязнь, што ў выпадку вайны ў Еўропе, наўрад ці можна будзе абмежаваць яе рамкамі антысавецкай, штурхае Англію на збліжэнне з Францыяй і прымушае найбольш рэалістычна мыслячыя колы англійскага імперыялізма выказвацца за адмаўленне ад заахвочвання ваенных нападаў. Аднак, няма яшчэ падстаў думаць, што Англія прымкнула да групы краін, якія стаяць ужо на пазіцыі захавання існуючага становішча.

Што датычыць Італіі, то ў яе знешняй палітыцы за апошні год адбыліся даволі важныя змены.

Намеціўшаеся збліжэнне Італіі з Германіяй, звязанае з прыходам к уладзе фашыстаў, хутка пачало аслабляцца, як толькі стала відавочным, што рэвізіяністцкія імкненні Германіі накіраваны супроць Італіі.

Спроба Гітлера далучыць Аўстрыю да Германіі шляхам захвату ўлады знутры паслужыла першым повадам к таму, што Італія адышла назад ад Германіі і пачала шукаць супрацоўніцтва з Францыяй, каб абараніць Аўстрыю ад далейшых наскокаў германскага імперыялізма.

Аднак, франка-італьянскае збліжэнне будзе залежаць ад таго, наколькі далёка першая можа пайсці на ўступкі другой у пытаннях калоній і балканскіх патрабаванняў Італіі. Дагаворанасці тут няма, але тэндэнцыя адыходу Італіі ад Германіі к Францыі гаворыць за тое, што поспех у гэтай галіне можа быць дасягнут.

З другога боку, гэта тэндэнцыя ўзмацняе італьянскую палітыку збліжэння з СССР, рэзультаты якога не змогуць не адлюстравацца на справе ўзмацнення палітыкі міру, якую настойліва праводзіць Совецкі саюз.

Даволі ясна для нас таксама і палітыка Польшчы. Адыход яе ад Францыі адбываецца, у першую чаргу, пад уплывам пагроз Германіі, якая прэтэндуе на нізоўі Віслы. Баючыся згубіць гэту тэрыторыю, польская дыпламатыя надта хутка ідзе на згоду з Германіяй, заключае з ёю дзесяцігадовыя дагавары аб дружбе і ненападзе, і адначасова імкнецца аслабаніць сябе ад тых дагавароў, якія былі асноваю адносін паміж Францыяй і Польшчай.

Спроба Польшчы ануляваць дагавор аб абароне нацменшасцей расцэньваецца Францыяй як пэўная паслуга германскаму імперыялізму, які таксама спрабаваў адначасова расторгнуць Версальскі дагавор.

Няма сумненняў, што адыход Польшчы ад Францыі немінуча прывядзе к таму, што яна будзе ўцягнута ў арбіту германскага ўплыву, што ў сваю чаргу можа прывесці да супрацоўніцтва гэтых дзяржаў на Ўсходзе Еўропы.

Мы не маем магчымасці спецыяльна спыніцца на палітыцы малых дзяржаў. Аднак, для поўнага ўяўлення аб склаўшыхся міжнародных адносінах трэба коратка адзначыць, што рэальная пагроза вайны, навісшая над светам, аказала рашаючае ўздзеянне на палітыку малых дзяржаў, кіраўнікі якіх упаўне аддаюць сабе адказ, што ўсякае выступленне, якое праследуе перакройку сусветнай карты, ёсць пагроза тэрытарыяльнаму існаванню любой з іх. Як нельга выразней гэта акалічнасць улічана балтыйскімі дзяржавамі.

Урады Эстоніі, Латвіі і Літвы даўно ўжо высунуліся ў лік дзяржаў, якія пераканаліся, што абарону міру ім належыць шукаць не ў заходніх дзяржаў, а хутчэй у свайго вялікага ўсходняга суседа— Краіны Советаў, мірная палітыка якога пачынае заваёўваць усеагульнае давер'е. Гэтыя краіны цалкам і поўнасцю каардынуюць сваю палітыку з групай вялікіх дзяржаў, стаўшых на пазіцыі абароны міру.

Чэха-Славакія знаходзіцца таксама пад пагрозай расчлянення. Гітлераўскім дыпламатам, якія старанна працуюць над пытаннем падрыву французскай сістэмы саюзаў, удалося параўнаўча лёгка выканаць сваю місію ў Варшаве. Але гэтая тактыка і метады аказаліся непрыгоднымі для адрыву другога саюзніка Францыі—Чэха-Славакіі. Гэта апошняя павінна быць поўнасцю зніштожана; яе германскія абласці павінны адыйсці да трэцяй імперыі, а славацкія абласці—да Венгрыі.

Юга-Славія, пры сучаснай размяжоўцы сіл у лагеры сусветнага імперыялізма, аказалася таксама зацікаўленай у захаванні існуючага становішча. Югаслаўскі ўрад ведае, што ўсякая вайна ў Эўропе абавязкова выкліча перадзел Эўропы.

Кіраўнікі Малой Антанты, у тым ліку і прадстаўнікі Румыніі, яшчэ ў мінулым годзе падкрэслівалі, што Малая Антанта лічыць сваёй першаступеннай задачай абарону ад усіх спроб зрабіць у сучаснай эўрапейскай абстаноўцы змены, якія могуць закрануць адзінства, цэласнасць і, быць можа, нават існаванне адной з 3-х дзяржаў (выступленне Карфа—нам. міністра замежных спраў Чэха-Славакіі—30 мая 1933 г.). У гэтай-жа заяве гаворыцца:

> «Гэта задача набывае тым большае значэнне, што ў наяўнасці ёсць новы выбух рэвізіяністцкіх імкненняў, якія ў першую чаргу накіраваны супроць гэтых 3-х дзяржаў. Свае адносіны да гэтага рэвізіянізма Малая Антанта праклямавала ўрачыста, ясна і рашуча, калі была прадпрынята спроба стварыць дырэкторыю эўрапейскіх вялікіх дзяржаў, з яўна рэвізіяністцкай праграмай».

У гэтай заяве ізложана знешне-палітычная праграма Малой Антанты Калі сюды дадаць яшчэ заявы адказных кіраўнікоў Малой Антанты аб нязменнасці іх палітыкі і пасля марсельскіх падзей, то для нас будзе ясна, што гэтыя дзяржавы ўключаны ў французскую палітычную сістэму.

За мінулы год значна змянілася міжнароднае становішча і настолькі-ж змянілася становішча ў самой Лізе нацый. Няма патрэбы падкрэсліваць, што не змяніўся асноўны характар Лігі нацый, як арганізацыі капіталістычных дзяржаў, але выхад з яе членаў двух дзяржаў—Японіі і Германіі—гаворыць аб тым, што Ліга нацый у цяперашнім яе складзе з'яўляецца некаторай перашкодай, звязваючай рэакцыю цёмных сіл сусветнага імперыялізма, які імкнецца знайсці выхад з крызіса ў новых войнах.

У гэтым сэнсе трэба яшчэ і яшчэ раз паўтарыць словы правадыра нашай партыі—т. Сталіна, якія з такой яснасцю прадвызначылі нашы адносіны да гэтага дзецішча капіталістычнага свету.

У сваёй гутарцы 25-XII—33 г. з карэспандэнтам амерыканскай газеты «Нью-Ёрк таймс»—Дзюранці—тав. Сталін адзначыў:

> «Не гледзячы на выхад Германіі і Японіі з Лігі нацый—ці можа быць іменна таму—Ліга можа стаць некаторым тормазам для таго, каб затрымаць узнікненне ваенных дзеянняў або перашкодзіць ім. Калі гэта так, калі Ліга зможа аказацца нейкім бугарком на шляху к таму, каб хоць некалькі затрудніць справу вайны і палегчыць у некаторай ступені справу міру, то тады мы не супроць Лігі. Так, калі такім будзе ход гістарычных падзей, то не выключана, што мы падтрымаем Лігу нацый, не гледзячы на яе каласальныя недахопы».

У гэтай кароткай матывіроўцы сказана ўсё, што прадвызначыла наш удзел у Лізе нацый. Ліга нацый у сучасны момант яднае тыя капіталістычныя дзяржавы, у палітыцы якіх, у даны момант, пераважае тэндэнцыя к захаванню існуючага становішча, тэндэнцыя к захаванню міру.

Краіна Советаў, якая паклала ў аснову сваёй знешняй палітыкі барацьбу за мір, не магла адмовіцца яшчэ ад адной магчымасці ўзмацніць гэтыя тэндэнцыі, надаць ім больш эфектыўны характар. Гэта—асноўная прычына ўступлення СССР у Лігу нацый. Але паколькі Ліга ёсць арганізацыя капіталістычных дзяржаў, то паўстае пытанне: якімі нормамі павінна быць абумоўлена прабыванне Совецкага саюза ў гэтай кааліцыі буржуазных дзяржаў? У якасці каго ўваходзіць у яе члены СССР? І ці не накладзе гэты акт на СССР адказнасці за імперыялістычную дзейнасць у мінулым і т. д.? На суму гэтых пытанняў т. Літвінаў у сваёй дасканалай прамове на асамблеі Лігі нацый ужо даў адказ. Ён заявіў:

> «Совецкі саюз уваходзіць у Лігу нацый як прадстаўнік новай сацыяльна-эканамічнай сістэмы дзяржавы, не адмаўляючыся ні ад якіх асаблівасцей гэтай дзяржавы і захоўваючы поўнасцю свой твар, як захоўваюць яго астатнія дзяржавы, тут прадстаўленыя».

Тав. Літвінаў, адхіляючы рашэнні арбітража па ранейшых канфліктах з капіталістычным светам, заявіў:

> «... кожны новы член, уступаючы ў арганізацыю, можа быць маральна адказным толькі за тыя рашэнні, якія былі прыняты з яго ўдзелам і з яго згоды».

Асабліва падкрэслівае т. Літвінаў нашу нязгоду з тымі нерэальнымі метадамі абароны міру, якімі кіравалася да гэтага часу Ліга:

> «...Перад намі цяпер стаіць задача папярэдзіць вайну больш эфектыўнымі сродкамі..., патрабуюцца больш істотныя гарантыі безапаснасці, чым дэкларацыі, рэзалюцыі і т. д.».

У той-жа прамове т. Літвінаў указвае на неабходнасць перагледзець і падпрацаваць статут Лігі нацый:

> «Калі-б мы ўдзельнічалі ў складанні статута Лігі, мы супроць некаторых пунктаў пярэчылі-б. У прыватнасці мы пярэчылі-б супроць прадугледжанай арт. арт. 12 і 15 легалізацыі ў некаторых выпадках вайны, і мною таму адзначана ў лісце ад 15 верасня наша задавальненне прапановай аб змяненні гэтых пунктаў статута. Мы далей пярэчылі-б супроць арт. 22 аб сістэме мандатаў. Мы лічым таксама прабелам адсутнасць у арт. 23 абавязацельства расавай роўнасці».

Вось асноўныя задачы, якія абумоўліваюць прабыванне СССР у Лізе нацый.

Совецкі саюз прадстаўляе сабой мацнейшую апору для прыхільнікаў міру і грозную небяспеку для ворагаў, якія-б спрабавалі зрабіць замах на яго цэласць і незалежнасць.

Прынцыповае значэнне ўступлення СССР у Лігу нацый заключаецца ў прызнанні буржуазнымі дзяржавамі ўнутранай сілы і магутнасці Совецкага саюза, на якую ён можа абаперціся ў сваёй барацьбе за мір; у прызнанні сілы, якая ператварае СССР у магутны аплот міру ва ўсім свеце.

---

С. Міллер
Сакратар Бабруйскага РК КП(б)Б

# З вопыту перабудовы партыйнай работы па Бабруйскаму раёну

У рашэннях XVII з'езда партыя з усёй вострасцю ставіць пытанне аб павышэнні якасці работы ва ўсіх галінах, у першую чаргу якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва. Аб якасці партыйнай работы гаварылі таварышы Кагановіч і Булатаў на нарадзе загадчыкаў аддзеламі кіруючых парторганаў.

Асноўнае, што зніжае якасць—гэта работа рыўкамі, работа кампанейскі, таму ліквідацыя такіх момантаў—галоўная прадпасылка палепшання партработы.

XVII з'езд партыі ўказаў нам шлях палепшання якасці партработы праз умацаванне пярвічных парторганізацый, павышэнне ідэалагічнага ўзроўню членаў партыі і работы кожнага комуніста. З гэтых асноўных палажэнняў і выходзілі мы пры перабудове партработы ў Бабруйскім раёне, увязаўшы яе са стаяўшымі перад намі задачамі.

Прамысловасць нашага раёна сістэматычна праз рад год не выконвала промфінплана. Раён быў самым адсталым і па асноўнаму пытанню—калектывізацыі. Пры 52 проц. калектывізацыі ў рэспубліцы Бабруйскі раён калектывізаваны быў на 32 проц.

Для нас было ясна, што ў перабудове партработы асноўнаю фігурай з'яўляецца раз'язны інструктар. Адсюль і задача—клопат аб інструктару.

Найперш мы ўзяліся за павышэнне ўзроўню ведаў інструктара. Раз інструктар кіруе арганізацыяй, ён павінен стаяць на галаву вышэй яе. Што-ж мы зрабілі? Абавязалі інструктара прысутнічаць на паседжанні бюро РК. Пры гэтым змянілі характар і сістэму правядзення паседжанняў. Дабіліся напрыклад таго, што паседжанні бюро працягваліся $2^1/_2$—3 гадзіны. За гэты час разбіралі каля двух дзесяткаў пытанняў, з іх 2—3 цэнтральныя, на якіх вучылі інструктара і іншых прысутных на бюро членаў партыі. Для гэтага цэлы рад пытанняў загадзя рыхтаваў я, ці мой намеснік тав. Шупікаў, так што на самым паседжанні бюро рашэнні прымаліся без асаблівых спрэчак, часта зачытваліся праекты рашэнняў.

Потым устанавілі так званы інструктарскі дзень. Спачатку ён насіў характар інструктавання інструктароў. Аднак, хутка ўстанавілі, што інструктарскі дзень павінен быць скарыстаны для вучобы, таму ўвялі сістэму лекцый. Запрашалі агранома. Пасля лекцыі агранома інструк-

тары абменьваліся сваім вопытам. Аднак моманты інструктавання ў такіх занятках пераважалі яшчэ доўгі час, што прыводзіла да пэўнай павярхоўнасці ўсваення, не было глыбокай прапрацоўкі вопыту. Таму і гэты парадак быў зменен.

Як правіла, інструктар затрымліваецца ў раёне 11—12 дзён. У Бабруйску ён бывае 3, а часам і 4 дні: першы дзень адпачывае, падсумоўвае ўсю сваю работу на вёсцы, на другі дзень звязваецца з гарадскімі і пазаштатнымі інструктарамі і высняе цэлы рад накапіўшыхся за час прабывання на раёне пытанняў, увечары прысутнічае на паседжанні бюро РК, а на трэці дзень—на інструктарскай нарадзе, пасля якой інструктары зноў раз'язджаюцца.

Асноўная задача ў тым, каб інструктар тэарэтычна і практычна асэнсіў сваю штодзённую практычную работу. Звычайна практыкавалася так: прыязджае інструктар, пагаворыць з сакратаром ці намеснікам, тыя яго «накачаюць», а пасля па дарозе ў інструктара ўся гэта «накачка» паступова вылятае з галавы. Мы лічым, што інструктару трэба не толькі запісаць у сваёй кніжцы для памяці, але і сапраўды ўсвоіць задачы, якія перад ім стаяць.

Мы завялі такі парадак заняткаў. Бярэм якое-небудзь адно непасрэдна звязанае з практычнымі задачамі інструктара пытанне, напрыклад, тэму—вучэнне Леніна аб партыі. Адзін з інструктароў рыхтуецца к дакладу, робіць уступнае слова, пасля чаго, у парадку заняткаў, я праводжу гутарку. Больш за ўсё спыняемся на пытаннях кіраўніцтва партыі прыводнымі рэмнямі. Перад намі асабліва востра стаяла пытанне аб рабоце советаў, бо совецкія арганізацыі ў нас працавалі і працуюць яшчэ слаба. Па гэтаму пытанню прапрацавалі апошняе рашэнне Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, пасля чаго адбыўся абмен вопытам. Мы не дапускаем, каб інструктар толькі дакладваў аб сваіх дасягненнях, а прымушаем яго, крытычна адносячыся да сваёй работы, расказаць аб тым, як ён іх дабіўся.

Абмен вопытам уведзен у нас як адзін з відаў спаборніцтва. Па сутнасці ў нас ідзе сапраўднае спаборніцтва паміж інструктарамі, і ўвялі яго не спосабам дэкрэтавання, а наладзілася яно на аснове лепшай арганізацыі работы. Тав. **Сарока** ў нас прызнан перадавым, лепшым інструктарам, і вось тав. **Акуліч** вельмі моцна цяпер змагаецца з ім за пяршынства, што мы, паміж іншым, адзначылі на нашым інструктарскім дні. На падставе вынікаў працы інструктара і арганізацыі ў яго зоне разгарнулася, спачатку непрыметна нават для самога інструктара, і разгортваецца ў далейшым спаборніцтва. Для абмену вопытам т. Акуліч паехаў у зону тав. Сарокі. Практыкуем таксама і скліканне парторгаў двух інструктарскіх зон вёскі.

Нашы інструктары сапраўды выраслі ва ўсіх адносінах. Зараз у раёне інструктар—вельмі аўтарытэтны работнік, і гэта праяўляецца нават у дробязях.

Колькасць прысутных на інструктарскім дні значна вырасла. Раней прысутнічалі толькі 9 інструктароў, потым нам далі ўсяго 6 інструктароў. Мы ўзялі лепшых партыйцаў, якія маюць магчымасць працаваць па роду сваёй работы і здольнасцях (напр. т. Бацяноўскага) і іншых і такім чынам стварылі інстытут пазаштатных інструктароў у горадзе і вёсцы ў дапамогу нашым інструктарам.

Пазаштатныя інструктары добра растуць на партыйнай рабоце. Мы правяраем, крытыкуем іх работу на інструктарскім дні, гаворым: «Ты працаваў як упаўнаважаны, а не як пазаштатны інструктар».

К наступнаму разу ў выступленні такога таварыша сапраўды адчуваецца розніца, і ён упэўнена заканчвае: «На будучае я пакажу, што буду працаваць па-інструктарску» (выступленне т. Гершмана). Працаваць па-інструктарску—значыць ведаць людзей, непасрэдна кіраваць людзьмі, дапамагаць партыйным арганізацыям.

Такім чынам, на інструктарскім дні ў нас зараз прысутнічае 28 чалавек: 6 штатных інструктароў, 3 сакратары нашых буйных прадпрыемстваў, сакратар і нам. сакратара комсамола і пазаштатныя інструктары. Інтарэс к інструктарскаму дню настолькі вялік, што цэлы рад іншых таварышоў, як, напр., намеснік старшыні РВК, просяць даць ім магчымасць прысутнічаць. Гэты вопыт пераносіцца ўжо і на нашы прыводныя рэмні. Напрыклад, па гэтай сістэме правялі ўжо першыя заняткі профсаюзныя работнікі, да якіх прыехаў таварыш з Менска, таксама Асоавіяхім прымяняе ў сябе гэту сістэму.

Апошні інструктарскі дзень прысвечан быў тэме: Ленін і Сталін аб советах. Заслухалі даклад т. Рэвінскага (сакратара райкома комсамола), пасля чаго разгарнулася гутарка аб советах. Разбіраючы пытанне аб «советах, як зброі барацьбы супроць класавага ворага, як органах дыктатуры пролетарыята, як масавай арганізацыі», адзначылі, што практычна зроблена ў нашым раёне па гэтай лініі. Потым, па дырэктыве т. Злоткіна (загадчыка аддзелам кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б) разбіралі выступленне т. Кагановіча на нарадзе кіруючых парторганаў. Гэта пытанне мы ўжо звязалі з рашэннем пленума аб рэарганізацыі палітаддзелаў, а таму звярнулі ўвагу галоўным чынам на работу з паасобнымі комуністамі, што з'яўляецца нашым слабым месцам.

Работа з інструктарамі ў нас наладжана, такім чынам, нядрэнна, добра ўзяліся і за парторга, але да паасобнага комуніста ў асноўным яшчэ не дашлі.

Вось вывады апошняга інструктарскага дня. Інструктар у сваёй зоне ведае ўсіх комуністаў, але ведаць як фатограф—гэта адно, другая-ж справа не толькі мець павярхоўнае ўяўленне аб кожным з іх, а прааналізаваць, што яму трэба, чаго не хапае і на гэтай аснове выхоўваць, дапамагаць у рабоце. Інструктары-ж сваіх комуністаў не ведаюць так, як гэта трэба для ўздзеяння на кожнага комуніста, для таго, каб дапамагчы яму пазбавіцца адмоўных і развіваць дадатныя бакі. Інструктары прыводзілі і некаторыя дадатныя факты. За гэтыя парасткі мы павінны будзем зараз ухапіцца, каб сваю асноўную задачу—работу з паасобнымі комуністамі—арганізаваць, развіць у нас саміх чулыя адносіны, дыферэнцыяваны падыход. Гэта пытанне застаецца цэнтральным і ў далейшым развіцці нашай партыйнай работы.

На апошнім інструктарскім дні былі пастаўлены гэтыя задачы. Гаварылі аб тым, што ў сувязі з прапрацоўкаю рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) адбудзецца актыў, на якім інструктар павінен быць арганізуючым пачаткам, касцяком актыва, павінен задаваць тон, разгортваць самакрытыку і т. д.

Парадак і сістэму работы ўстанавілі так, што вучоба спалучаецца з адпачынкам. Не канчаем пытання, пакуль яно не стане ясным для ўсіх, і толькі тады пераходзім к наступнаму. Займаемся за горадам у доме адпачынку, праз кожную гадзіну—дзесяціхвілінны перапынак, у перапынках—гульні.

Перад намі паўстала і другое пытанне—аб сакратарах парткомаў і парторгах. Вядома, што ад добрай работы парторга ў значнай меры

залежыць работа партыйнай арганізацыі. Таму для павышэння іх палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню арганізавалі раз у месяц двудзённыя курсы парторгаў, на якія запрасілі лепшых выкладчыкаў, у прыватнасці з палітскладу арміі.

Курсы прашлі нядрэнна, аднак не зусім нас задаволілі. Справа ў тым, што парторгі прышлі на заняткі непадрыхтаванымі, а, па-другое, былі згрупаваны ў залежнасці ад узроўню. У выніку атрымалася некаторая падвойнасць у кіраўніцтве вучобай; парторгі як-бы выходзілі з арбіты ўплыву свайго інструктара, які цалкам не мог адказваць за іх вучобу. Мы гэта ўлічылі. Ад спецыяльнай работы з парторгамі не адмовіліся, але парашылі відазмяніць яе, у прыватнасці перанесці сюды вопыт інструктарскіх дзён, і па іх прыкладу праводзіць дні парторгаў непасрэдна пад кіраўніцтвам інструктароў.

Дзень парторга арганізавалі па прынцыпу інструктарскага, але некалькі ў іншай абстаноўцы. Дзень парторга праходзіць па групах партарганізацыі данага інструктара. У горад выклікаем парторгаў двух вясковых інструктарскіх зон, а тры зоны збіраюцца на месцы ў вёсцы, прычым не дапускаем, каб у горад прыязджалі адны і тыя-ж парторгі.

У дзень парторга, які адбываецца 2 разы ў месяц, ставяцца актуальныя пытанні. Падыход да кожнай групы сакратароў і парторгаў пярвічных партарганізацый і адзіночак дыферэнцыяваны. Напрыклад, рашэнне ЦК аб профсаюзах прапрацавалі наступным чынам: Ленін і Сталін аб профсаюзах, рашэнне бюро ЦК аб профсаюзах і рашэнне пленума бабруйскага райпрофсовета. Парторгі абмяняліся вопытам, як яны кіруюць мясцкомамі і фабзаўкомамі. Так сама праведзена і тэма «Ленін і Сталін аб комсамоле».

Як бачыце, метад агульны з інструктарскім днём, толькі праводзяць яго іншыя таварышы. Зараз мы ўнеслі і сюды новы момант: намячаем дыферэнцыяваную павестку ў час партдня для пярвічных партарганізацый. Трэба будзе прасачыць, як яна праводзіцца ў жыцці, улічыць, што з'яўляецца галоўным у данай партарганізацыі і на аснове гэтага вылучаць тое ці іншае пытанне. Такім чынам справа гэта не пушчана самацёкам.

Калі работнік асэнсіць свае творчыя задачы, ён атрымае смак у рабоце. Гэта выявілася пры праверцы вынікаў парторгаўскіх дзён: рэзка палепшылася, напр., профработа на фабрыцы імя Халтурына, на спіртазаводзе і на радзе іншых прадпрыемстваў.

Заастраючы тое ці іншае пытанне на інструктарскіх і парторгаўскіх днях, мы заўсёды маем ажыўленне работы на пэўным участку. Напрыклад, за апошні час маем вялікі прылiў у калгасы. Ясна, што дапамаглі ў гэтым рашэнні ЦК, выступленне па гэтаму пытанню т. Гікало, агульныя нашы поспехі ў калгасным будаўніцтве, але і арганізатарская работа інструктара мела вялікае значэнне: найбольшы прыліў адбываўся якраз там, дзе лепш працаваў інструктар.

На інструктарскім дні мы аналізавалі, ускрывалі ўсе моманты, якія перашкаджаюць калектывізацыі, у спецыяльным рашэнні бюро адзначылі іх, а потым абгаварылі на кустовых сходах комуністаў. Пры гэтым выяўляліся нашыя слабыя бакі. Так, разгортваючы работу па калектывізацыі, мы запусцілі загатоўкі. Не ўмеем яшчэ ўхапіцца за адно звяно, каб выцягнуць увесь ланцуг. Больш 3 тысяч гаспадарак уліліся ў калгасы, але пачалі кульгаць загатоўкі.

На інструктарскім дні было моцна завострана гэта пытанне і дана належная ацэнка. Недахоп увагі загатоўкам азначае выхалашчванне

соцыялістычнага зместу ў калгасным будаўніцтве. Барацьба за бальшэвіцкія калгасы ў першую чаргу выражаецца ў выкананні сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

На чарговым інструктарскім дні і на дні парторга зноў раз'яснілі значэнне калектывізацыі, сувязь яе з выкананнем абавязацельстваў перад дзяржавай. Памылкі пачалі выпраўляць, і калектывізацыя яшчэ быстрэй пасунулася ўперад.

Дрэнна было з вучобай, асабліва на вёсцы. Пытанне гэта спецыяльна ставілі на інструктарскім дні і аказалася, што некаторыя інструктары аслабілі работу з комуністамі і беспартыйным актывам, занятым на закупцы хлеба.

Дрэнна яшчэ ўвязваецца ўнутры-партыйная работа з масавай па выкананню промфінплана, арганізацыі гаспадарчага ўмацавання калгасаў, жывёлагадоўлі і т. д. Тым часам, на аснове уласнага вопыту мы бачым, што палепшанне якасці партыйнай работы непасрэдна ўплывае на выкананне важнейшых задач, звязаных з работай партыі па соцыялістычнаму будаўніцтву.

Работа з пярвічнай партарганізацыяй непасрэдна звязана з пытаннем работы з паасобнымі комуністамі.

На лесакамбінаце і некаторых іншых фабрыках гэта работа бяспрэчна ўмацавалася. Прыкладам можа служыць фабрыка «Халтурына», якая ўвесь час ішла з прарывам. Бюро РК КП(б)Б прыняло разгорнутае рашэнне і абавязала інструктара штодзённа правяраць і арганізоўваць работу комуністаў для правядзення ў жыццё гэтага рашэння. Такім чынам, неўзабаве мы выцягнулі фабрыку з прарыву з дапамогаю партыйнай работы.

На Лесакамбінаце таксама быў вялікі прарыў. Белдрэўны цэх зрываў адзін з важнейшых заказаў на вагоннае абсталяванне. На парткоме распрацавалі план партыйнай работы і ўмацавання партарганізацыі ў гэтым цэху, спецыяльна выслалі туды выязную рэдакцыю. У выніку цэх вышаў з прарыву і перавыконвае план. Завод імя Сталіна ўвесь час даваў 70—80 проц. плана. Заслухаўшы гэта пытанне на бюро, мы паставілі завод пад асобы нагляд інструктара. Зараз завод дае звыш 100 проц. плана.

Можна было-б прывесці многа падобных фактаў і па Кустпромкааперацыі. У нас засталіся яшчэ ў прарыве 2 прадпрыемствы: шклозавод «Комінтэрн» і завод «Варашылава», але мы іх выцягнем.

Становішча ў раёне зараз такое, што мы выконваем промфінплан больш як на 100 проц. замест 86 проц. у мінулым годзе.

Кіраўніцтва інструктара партарганізацыяй асабліва характэрна выявілася на прыкладзе фабрыкі «Халтурына». Там была склока, распаўсюджваліся чуткі, што дырэктар п'янствуе і т. п. Правільнай работай інструктара т. **Маўшовіча** мы не толькі выцягнулі фабрыку, але і выратавалі дырэктара—рабочага-комуніста, а ён-жа ледзьледзь не аказаўся па-за партыяй.

Аднак, мы не можам сказаць, што па-сапраўднаму падышлі да пярвічнай партарганізацыі. Я лічу, што падыйсці шчыльна да пярвічнай партарганізацыі—гэта значыць падыйсці шчыльна да кожнага паасобнага комуніста. Гэтага мы яшчэ не зрабілі.

У нас ёсць, вядома, і дадатныя прыклады правільнага падыходу да паасобных таварышоў. Напрыклад, тав. Акуліч заўважыў, што адзін вясковы таварыш, кандыдат партыі, не плаціць кандыдацкіх узносаў. Як высніў тав. Акуліч, на гэтага кандыдата наклалі столькі нагрузак, што ён з імі не справіўся і хацеў механічна выбыць з пар-

тыі. Тав. Акуліч дапамог, і зараз гэты кандыдат партыі нядрэнна працуе. Я паставіў т. Акулічу пытанне: «Скажы ад душы, ці зразумеў ты, што гэта пытанне мае значэнне для ўсёй партыйнай арганізацыі, сігналізуе аб нашай дрэннай рабоце, што правільнае размеркаванне нагрузак на камуністаў—адно з важнейшых пытанняў нашай унутрыпартыйнай палітыкі. Даць чалавеку дзесятак нагрузак гэта-ж значыць абавязкова ўгробіць яго. Ці зрабіў ты, тав. Акуліч, з гэтага вывад, каб сігналізаваць усяму раёну і сваёй зоне, што ў нас з нагрузкамі не ўсё ў парадку». Тав. Акуліч прызнаў, што ён гэтага раней не зразумеў.

У галіне работы з комуністамі, выходзіць, мы зрабілі сёе-тое, але не разгарнулі яшчэ яе па-сапраўднаму на ўвесь раён.

Ад інструктароў мы патрабуем якасці работы, увязкі пэўнай кампаніі з асноўнымі пытаннямі раёна, каб яна ішла па лініі ўмацавання раёна, па лініі барацьбы за далейшую соцыялістычную будоўлю.

Для павышэння ідэалагічнага ўзроўню партыйнай арганізацыі патрэбен больш глыбокі падыход, пры якім мы вырашаем паасобныя задачы (загатоўкі і т. д.), дапамагаючы гэтым вырашэнню асноўных пытанняў у раёне. Не можа быць партыйнай работы, так сказаць, ухаластую. Партыйная работа ёсць сродак дасягнення нашай галоўнай мэты—пабудовы соцыялізма, пераробкі людзей.

Тав. Кагановіч у сваім выступленні дае сціслую фармулёўку нашых задач:

> «Інструктар (гэта датычыць не толькі інструктара, але і ўсяго райкома—**С. М.**) павінен дзейнічаць праз партарганізацыі і прыводзіць у рух апараты совецкіх, гаспадарчых, каапераціўных прафесіянальных, комсамольскіх арганізацый, імкнучыся падыйсці да вырашэння гаспадарчых, палітычных пытанняў шляхам палітычнай мабілізацыі мас і арганізацыі комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых і калгаснікаў».

Я думаю, што гэта фармулёўка т. Кагановіча—асноўны наказ для партыйнага работніка.

Параўнаўча нядрэнна паставілі мы работу самога бюро і інструктара, работу з парторгам, але яшчэ не дашлі да паасобнага комуніста, яшчэ дрэнна кіруем масавымі арганізацыямі.

Нядрэнна правялі сяўбу, былі нават прэміяваны, але працавалі яшчэ па-старынцы. Мабілізавалі многа народу, з горада выслалі прыкладна чалавек 29 упаўнаважаных, не лічачы звыш 40 чал., якіх паслалі на сталую работу ў вёску,—мабілізавалі актыў, упаўнаважаных дзесяцідворак, аднак не падышлі да справы так, каб умацаваць совецкія арганізацыі. Рухалі мясцовы актыў у час сяўбы, але не афармлялі яго, не замацавалі ў секцыях сельсоветаў, дэпутацкіх групах і т. д. Усю работу сканцэнтравалі ў райкоме, які быў штабам сяўбы, падмяняючы ва многім райвыканком, выхалашчваючы яго, і хутка пачалі адчуваць гэта.

Возьмем другі факт. У нас дрэнна ідзе закупка хлеба. Як мы гэту справу пачалі? Мы пачалі з таго, што перш за ўсё ўлічылі вопыт мінулага года. Гэты вопыт падказаў нам адзін недахоп: мы тады раскідаліся па ўсяму раёну, не сканцэнтраваліся на важнейшых пунктах. Сёлета гэтай памылкі ўніклі, але ўпусцілі ў значнай меры работу мясцовага актыва і кааперацыю. Гэта справа выпраўляецца цяпер нахаду, праўда, з вялікім напружаннем, але падымаем мясцовы актыў.

Цікава адзначыць яшчэ адну з'яву: зона, не абслугоўваемая МТС,

ішла ў сяўбе не горш зоны МТС, тое-ж самае і ў гаспадарчых пастаўках, а вось па закупцы хлеба ў нас разрыў: палітаддзел адразу закупіў 300 тон хлеба, а калгасы не зоны МТС пляліся ў хвасце. Дзе прычыны? Як-быццам мы нядрэнна ўзяліся за закупку хлеба, аперацыйна, а вось нешта-ж не ў парадку. Склікаў я прадстаўнікоў калгасаў і пагутарыў з імі. Урэшце, прышлося канстатаваць, што мы дрэнна працавалі са старшынямі калгасаў. У палітаддзеле ёсць такі інстытут, як совет МТС, на які з'язджаюцца ўсе старшыні калгасаў зоны. Такім чынам, палітаддзел сістэматычна працуе са старшынямі калгасаў, а мы слаба.

Прагледзелі і кааперацыю. Замест дапамогі закупцы хлеба многія кааператывы тармозяць яе. У чым справа? А справа ў тым, што калі старшыня сельсовета мае свой актыў, свае секцыі (хоць працуюць яны яшчэ кепска), ён мае вакол сябе членаў сельсовета, на якія апіраецца ў сваёй рабоце. І вось, калі калгас мае актыў, то кааперацыя разгубіла свой актыў. Кааперацыя, як грамадская арганізацыя, працуе вельмі дрэнна і існуе толькі як гандлёвы апарат. Адсюль—адрыў ад масы, няўменне працаваць, слабы кантроль, адсюль тое, што яна дрэнна праводзіць закупкі хлеба. У апошні час мы пачалі выпраўляць гэту справу, ажыўляць яе, склікаць кааператыўны актыў.

Мы не ўмеем яшчэ як след кіраваць совецкімі, кааперацыйнымі і іншымі арганізацыямі, яшчэ слаба спраўляемся з гэтай работай.

У галіне перабудовы партработы перад намі стаяць зараз асноўныя задачы:

Падняць ідэалагічны ўзровень кожнага комуніста, павысіць якасць яго работы і прывесці ў рух абсалютна ўсе прыводныя рэмні, у першую чаргу совецкія і комсамольскія арганізацыі, а таксама кааперацыю, значэнне якой асабліва вырасла ў сувязі з рашэннямі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б.

---

А. Балцін

# Тэхнічная вучоба—важнейшы фактар выканання промфінплана

Цяжкая прамысловасць у агульнай прамысловай прадукцыі БССР займае вельмі значнае месца. Уся сума прадукцыі цяжкай прамысловасці ў 1934 г. складае каля 200 мільёнаў руб. На працягу першай пяцігодкі і за першыя гады другой мы пабудавалі цэлы рад буйнейшых прадпрыемстваў цяжкай прамысловасці, як напр: магілеўскую шоўкавую фабрыку, якая пераможна выконвае свой план; чырвонасцяжны завод «Варашылава», які праўда, не з'яўляецца зусім новым прадпрыемствам і рэканструяваны на базе нейкай майстэрні, але фактычна пабудован занава; буйнейшы цэментны завод у Крычаве; І-ю раённую электрастанцыю Белдрэс; Менскую ТЭЦ; будуем зараз аўта-рамонтны завод у Магілеве; трубаліцейны завод і цэлы рад іншых буйнейшых прадпрыемстваў.

Мы маем зараз буйную прамысловасць, аснашчоную складанейшымі машынамі, якія стаяць на ўзроўні апошніх дасягненняў сусветнай тэхнікі.

За апошнія гады мы асвоілі цэлы рад зусім новых вытворчасцей: штучнага валакна, цэменту, клінкера.

Нашы машынабудаўнічыя заводы навучыліся вырабляць складаныя машыны і станкі: тарфяны багер, свідравальны станок на зав. імя Варашылава ў Менску, насосы «Вартынгтон», станкі Калава на зав. «Пролетарый» у Гомелі, «Чырвоны металіст» у Віцебску асвоіў вытворчасць складанага станка «Тыль», ланцугамі Галля мы снабжаем значную частку Совецкага саюза, завод «Комунар» асвоіў станкі Келлера, Гальца і цэлы рад іншых. Больш таго, машынабудаўнічая прамысловасць Беларусі на базе ўжо асвоенай намі тэхнікі мае магчымасць аказаць тэхнічную дапамогу нашым суседзям, у прыватнасці Турэцкай рэспубліцы. Наш завод «Комунар» у Менску вырабляе рад заказаў для вялікага тэкстыльнага камбіната, які будуецца ў Турцыі.

Таленавіты малады інжынер т. Жукаў зрабіў буйнае адкрыццё па гідролізу торфу. У сучасны момант з удзелам буйнейшых спецыялістаў Саюза распрацоўваецца пытанне аб пабудове камбіната на базе тых тарфяных масіваў, якія залягаюць у Прапойскім і бліжэйшых да яго раёнах.

Мы маем цэлы рад перадавых заводаў і фабрык: фабрыка штучнага валакна дае ў гэтым годзе на 5 млн. руб. прадукцыі звыш плана, завод «Варашылава» 17 лістапада закончыў гадавы план і зараз працуе ў парадку перавыканання плана, завод «Пролетарый», завод «Комінтэрн», акулярная фабрыка і т. д.

У цяжкай прамысловасці БССР занята цяпер звыш 20.000 рабочых, што не ідзе ні ў якое параўнанне з дарэволюцыйнымі маштабамі, калі ў гэтай вытворчасці працавала толькі некалькі сот чалавек.

Цяжкая прамысловасць БССР дасягнула буйнейшых поспехаў, як у расшырэнні сваёй матар'яльна-тэхнічнай базы, так і ў росце выпуску прадукцыі, у асваенні новых яе відаў. Рабочыя і адміністрацыйна-тэхнічныя работнікі цяжкай прамысловасці дасягнулі гэтых поспехаў пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, пад непасрэдным аперацыйным кіраўніцтвам сакратара ЦК КП(б)Б т. Гікало. Аднак, дасягненні гэтыя далёка не вычэрпваюць усіх задач нашай цяжкай прамысловасці. Значная колькасць фабрык і заводаў зрывае план, адстае літаральна па ўсіх паказчыках і цягне ўніз усю прамысловасць.

А ці ўсё добра на так званых перадавых прадпрыемствах? Нельга сказаць, што і там добра. Уся наша прамысловасць, у тым ліку і цяжкая, працуе яшчэ нездавальняюча, як гэта адзначыў чэрвеньскі пленум ЦК КП(б)Б.

Пастанова пленума ЦК паслужыла штуршком к палепшанню работы цяжкай прамысловасці.

Рад заводаў, адзначаных пастановай як асоба злосныя зрыўшчыкі промфінплана, здолелі лепш арганізаваць сваю работу, мабілізавацца на ліквідацыю прарыву. Завод «Комунар» у першым квартале выканаў промфінплан на 76 проц., на I/X—ён ужо не толькі стаў выконваць план, але і перакрыў прарыў першага паўгоддзя, сістэматычна перавыконваючы промфінплан. «Чырвоны металіст» у першым квартале выканаў промфінплан на 70 проц., а цяпер перавыконвае, хоць прарыў першага паўгоддзя яшчэ не перакрыў.

Палепшыў работу па выкананню промфінплана і цэлы рад іншых прадпрыемстваў.

Не зрабілі большэвіцкіх вывадаў з ацэнкі, данай пленумам ЦК, такія прадпрыемствы, як метызны завод «Чырвоны Окцябр», які за 1 квартал даў 73,9 проц., а за 10 месяцаў—толькі 70 проц. Прарыўныя прадпрыемствы цяжкай прамысловасці на I/XI недадалі краіне прадукцыі на многа мільёнаў руб. Калі ўзяць толькі металаапрацоўчую прамысловасць, то яе запазычанасць за 9 месяцаў бягучага года выразіцца ў наступных лічбах:

| | | |
|---|---|---|
| Плугі „Сухен“ | 4900 | шт. |
| Ціскі паралельныя 150 *м/м* | 2713 | „ |
| „ „ 120 | 1200 | „ |
| Станкі Калава | 20 | „ |
| „ правільныя | 25 | „ |
| „ свідравальныя 25 *м/м* | 610 | „ |
| „ „ 40 | 95 | „ |
| Дрэвабрыкетныя прэсы | 13 | „ |
| Шавецкія цвікі | 580 | тон |
| Снопавязальныя ланцугі | 36000 | шт. |
| Веласіпедныя ланцугі | 93524 | „ |
| Лябёдкі дзер. (0,75) | 97 | „ |
| „ „ (1,25) | 500 | „ |
| Бязмены | 35815 | „ |
| Трубы чыгунныя | 3066 | „ |

Гэты спіс недаданай прадукцыі паказвае, наколькі дрэнна працуюць нашы прадпрыемствы, зрываючы работу іншых галін народнай гаспадаркі, галоўным чынам сельскай.

Тарфяная прамысловасць у гэтым годзе выканала план па колькасных паказчыках, наблізілася да выканання і нават некалькі перавыконвала паасобныя якасныя паказчыкі. Торф своечасова высушан і заштабелёван; вільготнасць 23—33 проц. і толькі на некаторых торфзаводах вільготнасць дасягае 40—45 проц. Нельга не адзначыць, што календарны план і дзённую выпрацоўку амаль ні адзін торфзавод, нават з найбольш буйных, не выканаў. Асінторф выконваў свой дзённы план толькі на 73 проц., але ў цэлым план выканаў толькі дзякуючы вельмі доўгаму і сухому лету. Такім чынам якасная работа нашай тарфянай прамысловасці яшчэ мае значныя недахопы, хоць і палепшылася яе арганізацыя.

План па выпуску будматар'ялаў таксама ў цэлым не выканан, калі не лічыць некаторых вапняных і цагельных заводаў, якім спрыялі добрыя ўмовы мінулага сезона і лепшая арганізацыя работы.

Цэментная прамысловасць ва ўмовах БССР—новая галіна вытворчасці. Не гледзячы на агромнае значэнне ў нашай народнай гаспадарцы, цэментная прамысловасць к канферэнцыі зотаўцаў прышла з вялікім прарывам. Крычаўскі цэментны завод ужо трэці год як пушчан у эксплаатацыю, але фактычна вытворчасці яшчэ не асвоіў, аб чым гавораць бясконцыя аварыі, дрэнная якасць цэменту, выключна нізкія колькасныя і якасныя паказчыкі промфінплана. Тым часам гэты буйнейшы завод мае не толькі рэспубліканскае, але і саюзнае значэнне.

Быхаўскі ацэтонавы завод ужо 4 гады як лічыцца ў пускавым перыядзе, фактычна-ж яшчэ не пушчан, бо не асвоіў тэхніку вытворчасці ацэтону.

Электрастанцыі нібы і выконваюць план, але да іх работы трэба прад'явіць яшчэ большыя патрабаванні, чым да іншых галін прамысловасці, бо калі падача энергіі спыніцца хоць на поўгадзіну, то гэты прарыў нельга будзе нічым перакрыць. Варта напомніць, што Белдрэс прыводзіць у рух усю прамысловасць Віцебска, Магілева і Оршы.

Нашы электрастанцыі працуюць яшчэ выключна дрэнна. Адна віцебская прамысловасць па віне Белдрэса панесла страт не менш як на 15.000 руб., не лічачы Оршы і Магілева. З-за дрэннай работы электрастанцыі, цэлы рад прадпрыемстваў Менска мелі значныя прастоі.

Электрастанцыі пакуль не нясуць матар'яльнай адказнасці за прарывы на прамысловых прадпрыемствах, якім яны спыняюць падачу электраэнергіі. Магчыма, прыдзецца гэта пытанне перагледзець, бо ў радзе выпадкаў электрастанцыі вельмі лёгкадумна адносяцца да зняцця прадпрыемстваў са снабжэння энергіяй.

Асабліва вялікія прарывы ў шырспажыве. Многія дырэктары заводаў лічаць, што вытворчасць шырспажыву задача другарадная, што важней асвоіць новы станок. Некаторыя прадпрыемствы толькі фармальна выконваюць якасныя паказчыкі па шырспажыву, каб паказаць, што заданне выканана, і даюць рынку зусім нягодную прадукцыю. К прыкладу, чайныя лыжкі, хоць і зроблены з добрага матар'ялу, маюць такі выгляд, што іх нельга пускаць у прадажу, бо культурныя патрэбнасці рабочых значна выраслі, вырас і попыт на тавары добрай якасці.

Заданні на шырспажыў многія прадпрыемствы металапрамысловасці выконвалі на 62—63 проц., як напрыклад, заводы Металатрэста, якія свой план у цэлым выканалі на 99,3 проц., а па шырспажыву толькі на 69 проц. Замест павелічэння вытворчасці тавараў шырспажыву беларуская прамысловасць зрывае даныя ёй невялікія планы. Прадпрыемствы, якія за сярэднімі лічбамі хочуць паказаць добрую работу, мы не можам аднесці ў лік перадавых.

1934 год з'яўляецца пераломным у рабоце прамысловасці БССР, якая ў мінулым мела вялікія прарывы

Пад кіраўніцтвам правадыра нашай партыі т. Сталіна, ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало мы дабіліся рашаючага пералому ва ўсёй рабоце нашай рэспублікі. Гэта дае нам падставу змагацца за тое, каб вывесці БССР па ўсіх паказчыках народнай гаспадаркі ў рады перадавых рэспублік і абласцей Совецкага саюза. Аднак работнікі прамысловасці павінны памятаць, што ад іх патрабуецца агромнейшая работа, каб ліквідаваць прарыў і забяспечыць выкананне промфінплана прамысловасцю БССР як па колькасных, так і якасных паказчыках, а для гэтага неабходна па-большэвіцку перабудаваць работу нашай прамысловасці, асабліва адстаючых прадпрыемстваў.

Мы маем усе магчымасці выйсці пераможцамі. Паасобныя труднасці, як паказвае практыка, заўсёды могуць быць ліквідаваны, калі работнікі прамысловасці не будуць спасылацца на аб'ектыўныя прычыны, а праявяць сваю ініцыятыву. Возьмем факты.

Аднаму з цэхаў гомельскай фабрыкі «Спартак» патрэбна было абсталяванне. Калі ў Беларусі арганізавалася ярмарка для рэалізацыі неліквіднага абсталявання, цэх падаў заяўку. Уявіце сабе здзіўленне дырэкцыі фабрыкі, калі ярмарка звярнула гэтую заяўку назад, указваючы, што патрэбнае цэху абсталяванне мае, як неліквід, другі цэх ф-кі «Спартак». Выходзіць, што адзін цэх фабрыкі купляе, а другі прадае праз пасярэдніка адно і тое-ж абсталяванне.

Гомельская інструментальная фабрыка вырабляе нядрэннае абсталяванне для нашых школ, але план выконвае ў сярэднім на 30—35 проц. Дырэкцыя скардзіцца: «Вагонаў не даюць, сыравіны няма, не можам працаваць». А як выявілася, на Гомсельмашы ёсць адыходы, па сваёй якасці зусім годныя для фабрыкі.

Прыведзеныя факты даказваюць, што вельмі часта так званыя аб'ектыўныя прычыны з'яўляюцца па сутнасці сугуба суб'ектыўнымі і цалкам залежаць ад умення людзей працаваць.

Наша прамысловасць мае агромную колькасць нескарыстаных рэзерваў сыравіны і ўсялякіх іншых запасаў, на што ўказваў тав. Орджанікідзе на ўсесаюзнай нарадзе работнікаў цяжкай прамысловасці. Часта мы гэтых рэзерваў не заўважаем і не пускаем у ход, каб прыкрыць прарывы.

* * *

Тэхнічная вучоба—магутны рычаг у выкананні промфінплана.

Без тэхнічнай вучобы мы не можам рухацца ўперад. Мы не можам ставіць за новыя складаныя станкі і агрэгаты нявопытных людзей, якія не маюць элементарных тэхнічных ведаў, бо яны будуць выпускаць брак і прыводзіць у нягоднасць дарагое абсталяванне.

Наша моладзь актыўна адазвалася на заклік партыі аб тэхнічнай вучобе і паказвае сапраўдныя ўзоры энтузіязма і ўпартасці ў аўладанні тэхнікай. Аднак узровень тэхвучобы на значнай колькасці

прадпрыемстваў цяжкай прамысловасці яшчэ недапушчальна нізкі. Часта тэхвучобай займаюцца толькі з поваду склікання канферэнцый, здавальняюцца здачай тэхмінімума, як граніцай вучобы, не ўводзяць яе ў сістэму, не ўцягваюць усю масу рабочых.

Цяжкая прамысловасць мае найбольшую колькасць кваліфікаваных рабочых, але не стаіць на першым месцы па тэхвучобе. Першая канферэнцыя зотаўцаў лёгкай прамысловасці БССР была склікана ў Віцебску яшчэ ў маі месяцы. Паводле даных на 1 лістапада, процант ахопу тэхвучобай рабочых лёгкай прамысловасці большы, чым цяжкай: з 18.000 рабочых лёгкай прамысловасці ахоплена фактычна 17.500, або 96 проц., з 12.500 рабочых цяжкай прамысловасці, якія ў абавязковым парадку павінны здаць тэхмінімум, фактычна ахоплена 7.300, або 60 проц.

Дынаміка тэхвучобы ў асноўных галінах прамысловасці БССР:

| | Усяго рабочых | Падлягае абавязк. тэхмін. | Фактычна ахопл. тэхмін. і тэхвуч. | Здалі | | Ахоплена П. Т. К. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Усяго | З іх выдатнікаў | |
| 1. Лёгкай (на 1/XI) . . | 35433 | 18892 | 17262 (94%) | 7910 | 3775 | 1773 |
| 2. Цяжкай (на 20/XI) . | 17631 | 12562 | 7339 (60%) | 5237 | 2126 | 204 |
| 3. Харчовай [1]) . . . | 1890 | 326 | 471 (140%) | 237 | 70 | — |
| Разам: | 54954 | 31280 | 25122 | 13393 | 5971 | 1977 |

Табліца ясна сведчыць аб тым, што цяжкая прамысловасць толькі цяпер уступае на шлях шырокага разгортвання тэхнічнай вучобы, але сур'ёзна ўзяліся за справу толькі паасобныя прадпрыемствы.

Завод імя Варашылава набліжаецца да ліквідацыі тэхнічнай няграматнасці: з 575 вытворчых рабочых ахоплена ўсімі відамі тэхвучобы 566 чалавек, з іх здалі соцтэхэкзамен на выдатна 204 чал., на добра—312.

Віцебская акулярная фабрыка ўвяла вельмі каштоўнае пачынанне—так званы тэхпраект: рабочыя, здаўшы тэхэкзамен, прадаўжаюць вучыцца на курсах павышанага тыпу і працуюць над свайго роду дысертацыяй, якую павінны абараніць.

На заводзе «Пролетарый» з 480 вытворчых рабочых 393 ужо здалі соцтэхэкзамен, у тым ліку 199 на выдатна. Зотаўская брыгада т. Васільева па-ўдарнаму адліла і сабрала станок сістэмы «Калава». Завод сістэматычна выконвае промфінплан: за тры кварталы даў 106,2 проц., дабіўшыся 102,9 прадукцыйнасці працы. Шырока разгарнулася шэфства кваліфікаваных рабочых над маладымі: 15 чал. пераздалі тэхэкзамен на выдатна. З ростам тэхнічных ведаў паднялася і зарплата.

Завод «Пролетарый» узяў на сацыялістычны буксір два адстаю-

[1]) Звесткі выключна па крахмальна-кандзіцерскай і 3-х заводах садвін. пр-ці.

чыя прадпрыемствы : «Рухавік рэволюцыі» і фабрыку ложкаў. Буксірныя брыгады аказалі метадычную і арганізацыйную дапамогу ў наладжванні тэхвучобы і дабіліся масавага ахвату рабочых.

Лепшыя людзі завода—зотаўцы рацыяналізатары т. т. **Бабылёў, Крычавец** і **Гольдман**—сістэматычна і без браку перавыконваюць промфінплан.

17 лістапада завод датэрмінова выканаў гадавы промфінплан на 101,2 проц. За дзесяць месяцаў знізіў сабекошт на 13,4 проц. замест 4,45 планавых, прадукцыйнасць працы давёў да 107 проц.

Лепшыя выдатнікі завода:

Токар **Грынштэйн**—першым у цэху здаў тэхэкзамен на выдатна, арганізаваў гурток з 9 токараў і падрыхтаваў палавіну іх на выдатна, павышае свае веды прапрацоўкай тэхнічнай літаратуры, промфінплан сістэматычна перавыконвае і дае добрую якасць прадукцыі.

Тав. **Ланеўскі**— слесар зборачнага цэха—здаў тэхэкзамен на выдатна і падрыхтаваў сваю брыгаду, цяпер вылучан начальнікам кацельнага цэха.

Т. т. **Харнас, Баранаў, Метар** і дзесяткі іншых рабочых, якія да тэхвучобы сістэматычна не выконвалі план, цяпер аўладалі сваім працэсам вытворчасці, сталі гаспадарамі машын і перавыконваюць свае заданні.

Большасць заводаў усё яшчэ не спраўляецца з тэхвучобай.

Крычаўскі цэментны завод, адзін з буйнейшых, нават на канферэнцыі зотаўцаў не ўдзельнічаў, бо зотаўцаў не мае. Завод на працягу апошніх двух год зрывае план, але ні дырэктар, ні грамадскія арганізацыі завода не лічаць патрэбным заняцца як-след тэхвучобай.

Завод «Ланцугоў Галля»—новая, надзвычай важная для нас вытворчасць. Не так даўно на 300 рабочых завод меў толькі 3 зотаўцаў і ўвесь час сядзеў у прарыве, не выконваючы план. Толькі за апошні час завод пачаў патроху падцягваць тэхвучобу і выконваць промфінплан, аднак рашаючага пералому яшчэ не дабіўся.

Цагельны завод №1 зусім праваліў тэхвучобу. Там заяўляюць: «Як мы можам праводзіць тэхвучобу, калі ў нас сезоннікі?» Па-першае, на цагельнях ёсць і сталыя кадры рабочых, а, па-другое, дзе гэта сказана, што сярод сезоннікаў нельга праводзіць тэхвучобу?

Завод № 8 добра паставіў тэхнічную вучобу. Малады энергічны інжынер т. Кацнельсон сам склаў праграму, якою карыстаюцца цяпер і іншыя прадпрыемствы. Завод дасканала выконвае план, дае добрую прадукцыю.

У нашай тарфянай прамысловасці за гэты сезон выявілася многа дзельных і адданых людзей, якія значна перавыконвалі свае заданні і навучалі гэтаму моладзь. Але самі яны тэхвучобай не займаліся, як напр., т. **Курэнеў**, прызнаны на ўсесаюзным конкурсе лепшым тарфянікам Саюза. Тарфянікі заяўлялі, што ім няма часу для вучобы—трэба, моў, выконваць план. Трэба рашуча пакласці канец яўнай недаацэнцы тэхвучобы, апартуністычным разважанням паасобных работнікаў аб немагчымасці арганізаваць яе на сезоннай вытворчасці.

У барацьбе за выкананне промфінплана і павышэнне якасці прадукцыі рашаючае значэнне мае не толькі тэхвучоба, але і рад іншых не менш важных фактараў. У першую чаргу—добрая пастаноўка партыйна-масавай работы, правільная расстаноўка сіл, умацаванне адзінаначалля, правільная арганізацыя тэхналагічнага працэса, барацьба за своечасовае снабжэнне сыравінай і т. д. Аднак сярод усіх гэтых фактараў добра пастаўленая тэхвучоба мае першаступеннае значэнне і па сутнасці ва многім вырашае поспех справы.

Тым часам у нас былі выпадкі няправільнага разумення і скажэння сэнсу тэхвучобы. Напрыклад, на Гомсельмашы пры правядзенні тэхэкзамена абмяжоўваліся ў першы час выключна праверкаю ведаў рабочага месца, што ідзе ў разрэз з інструкцыяй, зніжае якасць і ўзровень тэхнічных ведаў рабочых. Гэтыя памылкі цяпер выпраўлены, але нельга сказаць, што справа наладжана добра на ўсіх прадпрыемствах.

Адным з рашаючых пытанняў пастаноўкі тэхвучобы з'яўляецца барацьба за якасць вучобы. Якасць рашае. Мы павінны дабіцца, каб здаўшы тэхэкзамен сапраўды быў перадавым чалавекам на заводзе, ведаў вытворчасць, станок, быў культурным, граматным рабочым. Значок «ЗОТ» даецца за веды, за дадатныя вынікі ў рабоце. Мы павінны дабіцца, каб не было ніводнага зотаўца, які-б не выконваў свае вытворчыя заданні, каб кожны зотавец прадаўжаў сваю тэхвучобу.

Вялікую ролю ў пастаноўцы тэхвучобы адыгралі прафсаюзы. ЦСПСБ і цэлы рад прафработнікаў моцна заняліся гэтай справай.

Комсамол і на ўчастку тэхвучобы паказаў сябе застрэльшчыкам. Затое дырэктары многіх прадпрыемстваў праявілі амаль поўнае недапушчальнае хладнакроўе, лічачы, што тэхвучоба—справа толькі прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый. А хіба можа дырэктар, які не разумее значэння тэхвучобы, не кіруе ёю, стаяць на ўзроўні сёнешніх задач? Хіба дырэктар павінен думаць толькі пра сыравіну, абсталяванне, паліва і т. д.? Безумоўна не. Дырэктар павінен падумаць і пра людзей, якія стаяць ля станкоў, каб яны ведалі іх, раслі на рабоце. Недарам дырэктар аднаго з буйнейшых ленінградскіх заводаў пісаў у «Праўдзе»:

> «Я займаюся не толькі пытаннямі тэхвучобы, але і пытаннямі агульнай адукацыі рабочых. Ка мне на завод прыходзяць малаграматныя, а паасобныя рабочыя і зусім няграматныя. Мне, як дырэктару, зусім ясна, што няграматны рабочы не можа эфектыўна працаваць ва ўмовах сучаснай тэхнікі.
>
> Я не магу даверыць няграматнаму рабочаму дарагую і складаную машыну».

Так ставіць пытанне перадавы дырэктар.

Нядаўна наведалі мы магілёўскую швейную фабрыку імя Валадарскага. Абыходзячы з тэхнічным дырэктарам т. **Шапіра** цэхі, пацікавіліся ў яго значкістамі:—«Ёсць у вас зотаўцы?—«Ёсць».—«Можа вы назавеце прозвішча аднаго з іх?—«Прозвішча не памятаю». Доўга шукаў Шапіра зотаўца па цэху, але так і не знайшоў. І толькі, калі выклікалі начальніка цэха, той пазнаёміў нас з адным зотаўцам. А на гэтай фабрыцы працуе каля 2 000 чалавек! Так адносіцца да тэхвучобы сам тэхнічны дырэктар.

На канферэнцыі зотаўцаў цяжкай прамысловасці БССР сабраліся лепшыя людзі, перадавікі вытворчасці, якія на справе паказалі, што ўмеюць выконваць не толькі свае заданні, але і дабівацца вялікіх поспехаў у асваенні тэхнічнай граматнасці. Яны спраўдзілі словы тав. Сталіна, што «лепшай гарантыяй выканання нашых планаў з'яўляюцца жывыя людзі». Удзельнікі канферэнцыі—тыя новыя, жывыя людзі, якія забяспечваюць выкананне заданняў партыі і ўрада і з'яўляюцца тым актывам, які павінен быць прыцягнут для далейшай арганізацыі, расшырэння і ахвату ўсіх рабочых тэхвучобай.

Зотаўцы не павінны спыняцца на дасягнутым узроўні сваіх вы-

творчых паказчыкаў і тэхнічных ведаў. Для культурнага рабочага, адданага справе соцыялістычнага будаўніцтва, няма граніцы ў яго росце, у яго дасягненнях.

Зотавец павінен дапамагаць адстаючым, браць шэфства над маладымі рабочымі, якія не асвоілі яшчэ тэхнікі. Ён павінен быць застрэльшчыкам у барацьбе за стварэнне культурных умоў на вытворчасці і ў быту.

Задача партыйных, прафсаюзных арганізацый і дырэкцыі прадпрыемстваў—умела прыцягваць і выкарыстоўваць гэты актыў як для арганізацыі тэхвучобы, так і ва ўсёй барацьбе за выкананне промфінплана кожным цэхам, станком, рабочым і цалкам усім прадпрыемствам, для стварэння культурных умоў работы на вытворчасці. Пераступаючы парог свайго завода, сваёй фабрыкі, рабочы павінен адразу адчуць, што ён папаў у культурнае, арганізаванае асяроддзе, дзе нельга кідаць акуркі, нельга пакінуць станок, не змазаўшы, не пачысціўшы яго, нельга абыходзіцца са складаная машынай так, каб яна выбыла са строю.

Але нельга абмяжоўвацца толькі знешнім, паказальным бокам. Тав. Орджанікідзе на нарадзе гаспадарнікаў указаў, што часта для палепшання ўмоў работы на заводзе абмяжоўваюцца тым, што засаджаюць двор кветкамі. Вядома, кветкі нядрэнная справа, але нельга прыкрываць кветкамі бруд у цэху, нямытыя вокны, нямытую падлогу, некультурныя адносіны к станку, нядбайныя адносіны да аўладання рабочымі тэхнікай справы.

Наша краіна дае кожнаму працоўнаму найшырэйшыя неабмежаваныя магчымасці для вучобы і вылучэння. У нашай краіне малады рабочы, ці стары ў меру сваіх сіл і здольнасцей могуць вучыцца і прасоўвацца ўперад. Але для гэтага неабходна ўпарта працаваць над сабою, крок за крокам узнімаць агульны ўзровень свайго развіцця.

Пры сур'ёзных, свядомых адносінах да сваёй работы і вучобы кожны рабочы можа стаць майстрам, начальнікам цэха, дырэктарам прадпрыемства, трэста і т. д.

Гэтыя перспектывы заўсёды трэба мець на ўвазе. Яны карысны для кожнага рабочага, для нашай соцыялістычнай дзяржавы, якая чакае добрых кадраў, адданых, энергічных, свядомых, культурных работнікаў.

Зотаўскі рух зарадзіўся нядаўна, але ўжо даў нам начальнікаў цэхаў, якія прышлі ад станка і добра спраўляюцца са сваёй работай. Есць, нажаль, зотаўцы, якія мяркуючы: «раз тэхэкзамен здаў, атрымаў значок, чаго-ж яшчэ трэба». Гэта глыбокая памылка можа прывесці да адставання ад развіцця агульнага неабходнага ўзроўню тэхнічных ведаў. Толькі ўпэўненасць у тое, што можна дасягнуць яшчэ большага, што трэба рухацца ўперад, стварае стымул далейшага росту. Такую свядомасць неабходна прышчапіць усёй рабочай масе нашай прамысловасці, тады мы лёгка пераможам любыя труднасці, як гэта даказана ўжо на цэлым радзе прыкладаў: фабрыкі і заводы, якія гадамі не выконвалі план, пачалі з поспехам выконваць.

Мы з'яўляемся сведкамі, як наша заводская моладзь у сваёй вучобе і рабоце з упартасцю і большэвіцкай настойлівасцю ўзнімаецца са ступенькі на ступеньку, усё вышэй і вышэй, і мы можам сказаць, што тысячу раз быў праў правадыр нашай партыі і сусветнага пралетарыята т. Сталін, калі сказаў, што няма такіх крэпасцей, якіх не маглі-б узяць большэвікі.

---

**І. А. Раманчук**

Нач. палітаддзела свіна-
соўгаса „Вішнёўка"—БССР.

# Палітаддзел соўгаса ў барацьбе за павышэнне якасці і прадукцыйнасці жывёлы

## Артыкул першы [1])

У рабоце жывёлагадоўчых соўгасаў, побач з пэўнымі дасягненнямі, агромная колькасць буйнейшых недахопаў, якія з усёй рэзкасцю ўскрыў чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б). Разам з тым пленум даў разгорнутую праграму для ператварэння соўгасаў ва ўзорныя гаспадаркі соцыялістычнай жывёлагадоўлі:

> «Галоўнай задачай жывёлагадоўчых соўгасаў з'яўляецца палепшанне пароды жывёлы і павышэнне яе прадукцыйнасці з паступовым ператварэннем соўгасаў у сапраўды ўзорныя гаспадаркі палепшанай і племяннай жывёлы. Жывёлагадоўчыя соўгасы павінны з года ў год павялічваць водпуск (прадажу) калгасным фермам дарослай жывёлы і маладняка і тым самым стаць важнейшаю крыніцай дзяржаўнай дапамогі калгасам у справе развіцця калгасных таварных ферм».

Палітаддзел свінасоўгаса «Вішнёўка» разгарнуў вялікую арганізацыйна-гаспадарчую і партыйна-масавую работу з тым, каб выявіць прычыны, чаму зусім нездавальняюча выконваюцца заданні партыі і ўрада ў галіне жывёлагадоўлі, і мабілізаваць людзей на ажыццяўленне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Канкрэтнае вывучэнне работы соўгаса дапамагло нам выявіць буйныя недахопы і намеціць шляхі перабудовы.

У гэтым артыкуле мы спрабуем асвятліць часткова вопыт барацьбы за рэалізацыю рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб жывёлагадоўлі.

Пачнем з разгляду вынікаў узнаўлення свінога пагалоўя, як вядучай і рашаючай галіны вытворчасці соўгаса.

Характарыстыку гэтых вынікаў маем у наступнай табліцы:

| Гады | Сярэдняя гадавая колькасць матак | Гадавая колькасць апаросаў | Гадавая колькасць апаросаў на адну матку | Колькасць абортаў | Проц. абарт. матак | Атрымана жывых парасят | Проц. падзежу парасят з прырэзк. за год | Гадавы выхад парасят на 1 матку | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Пры нараджэнні | Пры ад'ёме |
| 1931 | 496 | 258 | 0,52 | 54 | 11 | 1 854 | 51,4 | 3,7 | 1,2 |
| 1932 | 514 | 478 | 0,93 | 52 | 10 | 3 489 | 65,6 | 6,7 | 3,0 |
| 1933 | 283 | 269 | 0,95 | 32 | 11 | 2 083 | 35,1 | 7,3 | 3,3 |

[1]) У бліжэйшы час будуць змешчаны чарговыя артыкулы аб рабоце палітаддзела соўгаса.

З табліцы відаць:
а) выключна высокі процант ялавасці свінаматак;
б) надта высокі процант абартаваўшых свінаматак;
в) недапушчальна высокі процант падзежу парасят.

Няма чаго і гаварыць аб тым, што такія вынікі ляглі цяжарам на высокапрадукцыйнае матачнае ядро, на ўсё пагалоўе і на ўвесь соўгас, павышаючы сабекошт прадукцыі свінагадоўлі. Зоатэхнічная практыка паказвае, што з біялагічнага боку няма перашкод давесці ялавасць да 5—6 проц. Значыць, высокая ялавасць свінаматак у соўгасе павінна быць аднесена ў асноўным за кошт дрэннага кармлення, догляду, утрымання і няўважлівых злучак.

Паасобныя спецыялісты соўгаса вельмі часта любілі спасылацца на інфекцыйны аборт, як галоўную прычыну абартавання свінаматак, але гэта была спроба прыкрыць вялікую безгаспадарнасць у соўгасах, якая выклікала падзеж.

Соўгас у 1930—31 гг., як свінагадоўчы, камплектаваў матачнае стада выключна маткамі, атрыманымі з беларускай канторы «Саюзмяса», і толькі з канца 1932 года—за кошт уласнага ўзнаўлення. Паступаўшыя з Белмяса свінаматкі былі, як правіла, мясцовай пароды, важылі 50—60 кгр., давалі выхад на 1 апарос 7,1 парасяці. Яшчэ на 1 ліпеня 1934 года з 208 матак у соўгасе было толькі 50 галоў (24 проц.) метысных.

Аналізуючы сярэднія соўгасныя паказчыкі выхаду парасят на апарос за 1 паўгоддзе 1934 года з пункту погляду выяўлення найбольш прадукцыйных матак, устанаўляем наступнае:

| Паказчыкі | I ферма | | II ферма | | Усяго па соўгасу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. апарос. | Проц. | Кольк. апарос. | Проц. | Кольк. апарос. | Проц. |
| Да 5 парасят у апаросе | 10 | 8,9 | 6 | 9,6 | 16 | 9.0 |
| 5—8 „ „ | 19 | 16,6 | 17 | 27.0 | 36 | 20.3 |
| 8—10 „ „ | 41 | 36,0 | 16 | 25,4 | 57 | 32,2 |
| Звыш 10 „ „ | 44 | 38,5 | 24 | 38,0 | 68 | 38,5 |
| Разам | 114 | 100 | 63 | 100 | 177 | 100 |

Мы бачым, што са 177 апаросаў 68 апаросаў (38,9 проц.) далі звыш 10 парасят на апарос. Гэта лішні раз падкрэслівае агромныя магчымасці соўгаса павысіць якасныя паказчыкі.

Вялікі мінус ва ўзнаўленні стада—недапушчальна вялікі падзеж маладняка. Прывядзем параўнальныя даныя падзежу свіней па гадам (у процантах да колькасці галоў па кожнай групе):

| | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. (на 1/XI) |
|---|---|---|---|---|
| Парасят да 2 м-цаў. . . . | 51,4 | 65,6 | 35,1 | 17,1 |
| Парасят 2—4 м-цаў . . . . | 11, | 28,2 | 24,5 | 13,9 |
| Дарослае пагалоўе (старэй 4 м-цаў). . . . . . . . | 64,8 | 21,5 | 20,5 | 3,4 |

Гэтыя даныя паказваюць надзвычай высокі адыход дарослага пагалоўя, ад'ёмнага маладняка і парасят-сысуноў.

За 1931 год—першы год фармавання соўгаса, як свінагадоўчай гаспадаркі—падзеж дарослага пагалоўя складае **дзве трэці** гэтай групы жывёлы, а за 1932—33 гады—**адну пятую.** Парасят-сысуноў соўгас страціў за 1931 год **палавіну,** за 1932 год—**дзве трэці** і за 1933 год крыху больш **трэцяй** часткі. Ад'ёмнага маладняка за 1931 год страчана 11,2 проц., за 1932 год—28,2 проц., за 1933 год—24,5 проц.

Вялікія страты за 1931—1932 гады часткова тлумачацца чумнымі захворваннямі, дрэннай арганізацыяй працы ў свінагадоўчых гаспадарках, шкодніцтвам, якое ў свой час было выкрыта партыяй. Шкодніцтва было і ў доглядзе за маладняком і ў зрыве будаўніцтва зімніх памяшканняў для жывёлы. Соўгас аказаўся вельмі засмечаным класава-варожымі элементамі. За 1933 г. палітаддзел вычысціў з соўгаса 37 чалавек, кулацкіх, класава-варожых элементаў, з якіх каля палавіны працавала на свінафермах.

1934 год дае значны пералом у захаванні як маладняка, так і дарослых свіней. Процант падзежу ў параўнанні з 1933 годам зніжаецца: падсосных парасят з 35,1 да 17,1; ад'ёмнага маладняка з 24,5 да 13,9; дарослых свіней з 20,5 да 3,4.

У аналізе падзежу многа значыць выяўленне структуры адыходу па гадам, бо пры гэтым ёсць магчымасць прасачыць якасныя зрухі ў самой рабоце соўгаса. Прыводзім табліцу структуры адыходу пагалоўя (удзельная вага адыходу ў абсалютных лічбах і проц. па ўзросных групах у агульным адыходзе свіней па гадам).

| Групы | 1931 г. | | 1932 г. | | 1933 г. | | 1934 г. (на I/XI) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абсал. галавы | Проц. | Абсал. галавы | Проц. | Абсал. галавы | Проц. | Абсал. галавы | Проц. |
| Вытворчае стада (хракі і маткі) . . . . . . . | 662 | 31,3 | 82 | 2,7 | 23 | 1,8 | 7 | 0,8 |
| Парасяты 0—2 мес . . . | 954 | 45,1 | 2288 | 74,5 | 732 | 58,9 | 632 | 71,6 |
| Парасяты 2—4 мес. . . . | 45 | 2,1 | 533 | 17,4 | 332 | 26,7 | 227 | 25,7 |
| Маладняк 4 мес. і старш. і адкорм. . . . . . . | 455 | 21,5 | 167 | 5,4 | 156 | 12,6 | 17 | 1,9 |
| Разам | 2116 | 100 | 3070 | 100 | 1243 | 100 | 883 | 100 |
| Гадавы абарот стада. . . | 3631 | | 5343 | | 3384 | | 4642 | |
| Проц. адыходу к абароту . | 58,3 | | 57,5 | | 37,3 | | 19,0 | |

Як відаць з табліцы, структура адыходаў у розныя гады вельмі разнастайна. Калі ў 1931 годзе ўдзельная вага падзежу па вытворчаму стаду складае 31,3 проц. і па групе адкорму 21,5 проц., то гэта трэба тлумачыць тым, што ў гэтым годзе не было па сутнасці масавых вясенне-летніх апаросаў, а стала быць і масавага ад'ёму (соўгас толькі камплектаваўся свіным пагалоўем). Затое ў 1932 годзе соў-

гас мае агромнейшы адыход падсосных парасят як у абсалютных лічбах (2288 галоў), так і па ўдзельнай вазе (74,5 проц.), а таксама ад'ёмнага маладняка.

1932 год быў экзаменам для работнікаў свінагадоўлі. Экзамен гэты вытрыман нездавальняюча. Пролетарская дзяржава панесла агромныя страты. Дынаміка далейшага руху адыходаў па іх удзельнай вазе паказвае сістэматычнае зніжэнне адыходу дарослых свіней як вытворчага стада (1,8 проц. у 1933 годзе і 0,8 проц. у 1934 г.), так і адкормачнага пагалоўя (12,6 проц. у 1933 г. і 1,9 проц. у 1934 г.) пры стабільнасці адыходу ад'ёмнага маладняка (26,7 проц. і 25,7 проц.) і павелічэнні ўдзельнай вагі адыходу падсосных парасят з 58,9 проц. у 1933 г. да 71,6 проц. у 1934 годзе.

З паданых вышэй адносных і абсалютных лічбаў, якія характарызуюць работу соўгаса за 1931—33 гады, неабходна зрабіць адзін вывад—справай узнаўлення і вырошчвання маладняка соўгас яшчэ не аўладаў. Агромны процант ялавасці матачнага стада, аборты, недапушчальна высокі процант падзяжу маладняка сведчыць аб панаванні абязлічкі і цякучасці рабочых на свінафермах, аб недастатковасці ўвагі к людзям, іх матар'яльна-бытавому абслугоўванню, а таксама элементарнаму зоатэхнічнаму навучанню рабочых, асабліва справе догляду і кармлення маладняка.

Даныя за 10 месяцаў 1934 года сведчаць аб прыметным палепшанні арганізацыі соцыялістычнай свінагадоўлі ў соўгасе. Больш эфектыўна скарыстоўваецца асноўнае матачнае пагалоў'е, значна скараціўся падзеж усіх груп свіней. План злучак першага паўгоддзя выканан на 97 проц. Недавыкананне ў 3 проц. падае на разавых матак, якія к моманту пуску ў злучку мелі невялікую вагу (50—60 кгр.), не акрэплі і таму не маглі быць скарыстаны для ўзнаўлення. Соўгас атрымаў за гэты год 1,3 апароса на кожную матку. Парасят на 1 апарос ад асноўных матак—8,55 і ад разавых—6,7. Аднята з апаросу ад асноўных матак 4,5 і ад разавых—3,2 парасяці. Адыход знізіўся на палавіну ў параўнанні з 1933 годам. Аборты скарочаны з 11 проц. у 1933 годзе да 0,8 проц. у 1934 годзе.

Рашаючай умовай поспехаў нашага соўгаса ва ўзнаўленні свінога пагалоў'я было разгортванне арганізацыйна-партыйнай і масавай работы сярод свінароў. Пасля XVII з'езда ВКП(б) мы правялі рад злётаў ударнікаў соўгасаў, разгарнулі масавую работу па брыгадах, увялі прэміяванне натурай за лепшыя паказчыкі работы. У красавіку правялі вялікую работу па прапрацоўцы ўмоў усесаюзнага конкурса-спаборніцтва імя сталінскага паходу за развіццё жывёлагадоўлі. Сярод рабочых і спецыялістаў конкурс выклікаў вялікі ўздым на барацьбу за паспяховае правядзенне апаросаў, вырошчванне і захаванне маладняка.

Фермы і брыгады на аснове конкурса разгарнулі соцспаборніцтва, эфектыўнасці якога не мала дапамагала арганізаваная палітаддзелам праз профарганізацыі праверка выканання фермамі, брыгадамі і паасобнымі свінарамі абавязацельстваў. Акрамя штодзеннай праверкі, якую праводзілі самі брыгады пры дапамозе партыйных, комсамольскіх і прафесіянальных арганізатараў, палітаддзел арганізаваў штомесячныя генеральныя праверкі абавязацельстваў па конкурсу, у якіх прымаюць непасрэдны ўдзел работнікі палітаддзела і спецыялісты соўгаса.

Пасля кожнай праверкі на фермах праводзяцца шырокія вытворчыя нарады рабочых свінароў, абмяркоўваюцца і крытыкуюцца недахопы фермы, брыгад і паасобных рабочых. Такая практыка дала магчымасць рабочым вывучыць умовы конкурса і сканцэнтраваць на іх сваю ўвагу.

Месячныя вынікі праверкі асвятляюцца ў палітаддзельскай шматтыражцы «На фронце сацыялістычнай свінагадоўлі», якая перадае вопыт лепшых брыгад і дапамагае падцягвацца адстаючым.

Буйным крокам у справе замацавання намецiўшагася пералому і далейшага руху ўперад з'явілася першая соўгасная заатэхнічная канферэнцыя, скліканая ў ліпені г. г. У канферэнцыі, акрамя дэлегатаў соўгаса «Вішнёўка», прымалі ўдзел свінары, брыгадзіры і спецыялісты бліжэйшых соўгасаў—«Комсамолец» і «Большэвік» Менскага саюзнага свінаводтрэста, у якіх няма палітаддзелаў.

Масавая работа вакол падрыхтоўкі да заатэхнічнай канферэнцыі пры глыбокай праверцы абавязацельстваў па соцспаборніцтву дала прыметнае палепшанне ўтрымання свінапагалоў'я.

Брыгада № 4 першай фермы—брыгадзір **Салавей** Ольга—мела ў сваім свінарніку больш за ўсё вільгаці і хворых парасят. Цяпер брыгада вышла кандыдатам на 2 соўгасную прэмію, аб'яўленую палітаддзелам, дырэкцыяй і рабочым камітэтам соўгаса па сталінскаму паходу.

Брыгада № 1 той-жа фермы—брыгадзір **Казлоўская** Люба—уступіла ў свой час першынства брыгадзе № 3—брыгадзір **Шляшынская** Лена. К часу канферэнцыі брыгада № 1 заваявала права на першую прэмію—пераходны сцяг палітаддзела, двухмесячнае парася, месячную пуцёўку ў дом адпачынку і грамату ўдарніка.

Заатэхнічная канферэнцыя мела буйнае гаспадарча-палітычнае значэнне, якое выходзіла за межы аднаго соўгаса. Яна скарыстана была для шырокага азнаямлення з рашэннямі толькі што закончыўшага свае работы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б і за практычнымі задачамі, пастаўленымі перад намі, як жывёлагадоўчымі соўгасамі.

Выступіўшыя на канферэнцыі спецыялісты палітаддзела дзяліліся вопытам сваёй работы і на канкрэтных прыкладах паказвалі, якія агромныя нескарыстаныя дагэтуль магчымасці росквіту сацыялістычнай свінагадоўлі маюць нашы соўгасы. Канферэнцыя дала штуршок лепшай пастаноўцы работы на свінарніках, узмацненню барацьбы з адыходам не толькі ў соўгасе «Вішнёўка», але і ў соўгасах «Комсамолец» і «Большэвік». Паводле звестак, якія мы маем, гэтыя соўгасы пасля канферэнцыі дасягнулі лепшай чыстаты свінарнікаў, пачалося **скарачэнне падзяжу.**

Канферэнцыя прыняла рашэнне ў выглядзе самаабавязацельства работнікаў свінаферм і прад'явіла сацыялістычны рахунак цэхам кормавытворчасці. Рашэнне абмяркоўвалася пасля канферэнцыі сярод рабочых на фермах і ў брыгадах.

Адразу-ж пасля чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б палітаддзел паставіў перад партыйнай і комсамольскай арганізацыяй соўгаса пытанне аб неадкладным разгортванні пасапраўднаму племяннон работы. Праўда, у соўгасе «Вішнёўка» і ў мінулыя гады свінні былі пашпартызаваны, былі нейкія зачаткі пле-

мяннай работы, але з высокапрадукцыйным матачным складам і вытворнікамі патрэбнай работы не вялося. Прыплод ад высокакаштоўнай прадукцыйнай жывёлы або гінуў, або здаваўся на мяса. Злучныя планы складаліся без уліку племянных якасцей паасобных груп матачнага складу і вытворнікаў. Лепшыя па прадукцыйнасці маткі і хракі знаходзіліся ў аднолькавым становішчы з малапрадукцыйнай жывёлай і не скарыстоўваліся ў поўнай меры для мэт узнаўлення і павышэння ўзроўню прадукцыйнасці жывёлы. Горшы матачны склад і хракі нясуць племянную службу нароўні з лепшымі, тым часам як пры правільнай арганізацыі зоатэхнічнай работы яны павінны быць выбракаваны ў першую чаргу. Калі-б ва ўсіх соўгасах быў арганізован элементарны ўлік і на яго аснове вялася бракоўка стада, то пралетарская дзяржава мела-б дадаткова ад высокапрадукцыйных свінаматак дзесяткі тысяч высокакаштоўнага па сваіх спадчынных прадукцыйных якасцях маладняка для рамонту матачнага і храчнага складу.

Рашэнне чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб выдзяленні ў кожным соўгасе ядра найбольш каштоўнага матачнага пагалоўя і вытворнікаў для мэт узнаўлення мае агромнае значэнне.

Ажыццяўляючы гэта рашэнне, у соўгасе «Вішнёўка» завялі новыя пашпарты, перагледзелі і рассартавалі матачнае стада.

Чыстапародных матак соўгас «Вішнёўка» не мае, ёсць толькі мясцовыя і палепшаныя, якіх разбілі на тры групы паводле пладавітасці і вынослівасці парасят да ад'ёму. Вынік атрымаўся наступны:

| | Колькасць галоў | Нараджаецца на 1 апарос | | Ад'ём на 1 апарос | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1933 г. | 1934 г. | 1933 г. | 1934 г. |
| I група . . . | 15 | 9,4 | 9,7 | 7,1 | 8,0 |
| II груп . . . | 71 | 8,5 | 9,2 | 3,8 | 7,2 |
| III група . . . | 38 | 6,1 | 8,0 | 1,8 | 4,4 |

Паказчыкі за 1934 год узяты толькі з вясенняга апаросу і па адной ферме. Пагалоўе II фермы заражана лёгачнымі глістамі і не ўвайшло ў адбор. Характэрны такі паказчык, як колькасць аднятых ад маткі парасят. У 1933 годзе ў соўгасе «Вішнёўка» была эпідэмія масавых захворванняў страўніка. З-за паносу пала вялікая колькасць парасят другой і трэцяй групы, парасяты-ж ад матак першай групы, якія знаходзіліся ў аднолькавых умовах, далі значна меншы адыход.

Ад матак першай групы ў 1933 г. пала 24,6 проц. парасят, за першае паўгоддзе 1934 г.—17,6 проц.; ад матак другой групы ў 1933 г.—55,3 проц., у 1934 г.—21,8 проц.; ад матак трэцяй групы ў 1933 г.—70,5 проц., у 1934 г.—45 проц.

Праведзеная пазней, у верасні—кастрычніку, зоатэхнічная навуковая ацэнка (банітыроўка) з улікам другога тура апаросаў унесла некаторыя змены ў гэту групоўку матачнага стада. На аснове даных

банітыроўкі выдзелена ядро высокапрадукцыйнага матачнага пагалоўя з прымацаваннем да яго 2 лепшых хракоў. Што ўяўляе сабою гэта ядро, відаць з табліцы:

| Парода | Колькасць галоў | Парасят | | Сярэдні ўзрост у гадах | Сярэдняя вага ў кілограмах |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Нарадзілася з 1 апаросу | Аднята з 1 апаросу | | |
| Мясцовая непалепшан. . . . | 12 | 10,8 | 8,0 | 4 | 112 |
| Метысы белай анг. пар. . . . | 12 | 10,6 | 8,5 | 3 | 121,5 |
| Разам. | 24 | 10,7 | 8,3 | 3,5 | 117 |

Сярод гэтага ядра ёсць такія свінаматкі, як «Дабрыня»—метыс белай англійскай пароды, узрост 3 гады, вага 117 клг., даўжыня тулава 120 снт., 10 саскоў. Нарадзіла 11 парасят сярэдняй вагою 10,5 кгр., аднята—11 парасят сярэдняй вагою 108 кгр.

Другая свінаматка «Кандыба» простай непалепшанай пароды, узрост 5 год, вага 91 кгр., даўжыня тулава 125 снт., 11 саскоў. Нарадзіла 12 парасят сярэдняй вагою 12,5 кгр., адняты 10 парасят сярэдняй вагою 105 кгр.

Гэтых лепшых 24 маткі мы сабралі з усіх брыгад і выдзелілі ў асобную племянную брыгаду, далі лепшага брыгадзіра —**Казлоўскую** Любу, адвялі лепшы свінарнік, забяспечылі лепшы догляд, утрыманне, кармленне і зоатэхнічнае абслугоўванне. Праўда, не абышлося без барацьбы. Адстаючыя слабейшыя брыгады, у якіх забіралі лепшых матак, паднялі пратэст: «Мы выхадзілі, а зараз у нас іх адбіраюць для Любы». Любу пачалі цкаваць. Палітаддзел і дырэкцыя апасаліся нават, што гэтыя брыгады стануць горш працаваць. Правялі вялікую растлумачальную работу аб гаспадарча-палітычным значэнні данага мерапрыемства, і слабыя брыгадзіры не толькі не кінулі работу, але падцягнуліся да ўзроўню брыгады Любы Казлоўскай. Палітаддзел і дырэкцыя соўгаса прынялі практычныя меры для правядзення ў жыццё рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб вырошчванні матак і хракоў для рамонту і пашырэння не толькі свайго стада, але і для калгасаў па асобных дагаворах.

У якасці паляпшаючай пароды парашылі развіваць белую англійскую свінню, як у чыстым выглядзе, так і метызаваную з мясцовай беларускай. Для гэтых мэт ужо завезена з племгаса «Блонь» 16 матак і 3 храчкі. Такім чынам беспароднае матачнае пагалоўе к 1-му студзеня 1935 года будзе ў асноўным заменена пароднымі і метыснымі маткамі.

З прыведзеных вышэй даных становіцца зусім зразумела, чаму соўгас з года ў год зрываў выкананне планаў здачы мяса дзяржаве. Палітаддзел і партыйная арганізацыя соўгаса, ведучы барацьбу за павышэнне якасці і прадукцыйнасці жывёлы, дабіліся ўжо пэўных

зрухаў у выкананні плана мясаздачы, што пацвярджаецца наступнаю спраўкай:

| | 1931 г | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. (на 1/XI) |
|---|---|---|---|---|
| Усяго здана мяса (у цэнтн.) . | 28 | 277 | 446 | 643 |
| Здана на 1 свінаматку (у цэнтн.) | 0,06 | 0,54 | 1,6 | 2,8 |

Гадавы план (1073 ц.) выканан на 60 проц., а 10-цімесячны план—на 100 проц.

* * *

Выкананне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб жывёлагадоўлі ў свінасоўгасах не вычэрпваецца толькі пытаннямі аб свінні. Буйная рагатая жывёла ў гэтых гаспадарках мае таксама вялікую ўдзельную вагу. У свінасоўгасе «Вішнёўка» суадносіны стада кароў і свінаматак наступныя:

| Гады | Сярэдняя гадавая колькасць кароў | Сярэдняя гадавая колькасць свінаматак | Свінаматак на 1 карову |
|---|---|---|---|
| 1931 | 276 | 496 | 1,8 |
| 1932 | 204 | 514 | 2,5 |
| 1933 | 123 | 283 | 2,3 |
| 1934 | 109 | 233 | 2,1 |

Малочныя фермы ў свінасоўгасах—«беспрытульная» арганізацыя, якою мала хто цікавіцца. Малочнае стада пакідаецца без кваліфікаванага заатэхнічнага нагляду, яму праектуюць «галодны паёк» канцэнтраваных кармоў, але пры першых-жа цяжкасцях з канцэнтратамі і гэты «паёк» ліквідуецца. Для ілюстрацыі прыводзім спраўку аб кармавых нормах для рагатай жывёлы па соўгасу «Вішнёўка», згодна промфінплану на 1934 год:

| | Нормы па промфінплану соўгаса за 1934 г. у кгр. на адзінку | Нормы Наркамсоўгасаў за 1933 г. у кгр. на адзінку | Проц. адносіны норм соўгаса к нормам НК Соўгасаў |
|---|---|---|---|
| Каровы . . . | 4,1 | 6,3 | 65 |
| Нецелі . . . | 2,2 | 4,0 | 55,5 |
| Маладняк . . | 2,9 | 3,8 | 76,3 |
| Цяляты . . . | 1,1 | 2,6 | 42,3 |

НКСоўгасаў у сваіх нормах кармлення буйнай рагатай жывёлы свінасоўгасаў праектуе 25 проц. канцэнтратаў для кароў, а соўгас «Вішнёўка» прыняў у промфінплане на 1934 год 10 проц. канцэнтратаў. Фактычна-ж каровы соўгаса ў 1933—1934 гг. канцэнтратаў не атрымалі, бо соўгас забяспечан імі ў межах 12—14 проц., а на першым плане—свінні.

Зразумела, што такія адносіны да кармлення буйнай рагатай жывёлы хутка сказаліся на ўзнаўленні стада, што відаць з табліцы:

| Гады | Сярэдняя гадавая колькасць кароў | Ацялілася за год | Проц. ялавасці | Няўдалы расцёл | Проц. няўдалага расцёлу | Проц. падзяжу цялят з прыплодам за год | Наяўнасць пагалоўя на канец года | Проц. адносіны к папярэдняму году |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1931 . . | 276 | 105 | 61,9 | 13 | 12,4 | 11,4 | 450 | 92,8 |
| 1932 . . | 204 | 153 | 25,0 | 11 | 7,2 | 29,4 | 175 | 38,9 |
| 1933 . . | 123 | 86 | 30,1 | 12 | 14,0 | 11,7 | 174 | 99,4 |
| 1934 . . (на 1/XI) | 109 | 79 | 27,5 | 5 | 6,2 | 15,2 | 212 | 121,9 |

Паказчыкі табліцы канстатуюць:

а) выключна высокі процант ялавасці кароў;

б) крайне высокі процант няўдалых расцёлаў;

в) недапушчальна высокі процант падзяжу цялят;

г) поўную адсутнасць прыросту пагалоўя да 1934 года.

Такім чынам не ўсё добра са справай узнаўлення рагатай жывёлы ў соўгасе. Нават 1934 год, даўшы значны зрух у галіне свінагадоўлі, не толькі не ўнёс прыметнага палепшання ў гадоўлю малочнай жывёлы, а нават павялічыў адыход цялят да 15,2 проц. супроць 11,7 проц. у 1933 годзе.

Табліца структуры адыходу буйнай рагатай жывёлы за 1931—1934 гады паказвае, якія змены адбыліся за гэты час у падзяжы пасобных груп:

| Групы | 1931 год | | 1932 год | | 1933 год | | 1934 (на 1/XI) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абсал. галоў | Проц. | Абсал. галоў | Проц. | Абсал. галоў | Проц. | Абсал. галоў | Проц. |
| Цяляты да 1 г. | 12 | 60,0 | 45 | 72,4 | 10 | 58,8 | 12 | 80,0 |
| Маладняк 1—2 г. | — | — | 16 | 26,0 | 5 | 29,3 | 2 | 13,4 |
| Даросл. пагалоўе | 8 | 40,0 | 1 | 1,6 | 2 | 11,9 | 1 | 6,6 |
| Разам . | 20 | 100 | 62 | 100 | 17 | 100 | 15 | 100 |
| Гадавы абарот стада . . . | 648 | — | 623 | — | 261 | — | 206 | — |
| Проц. к абароту | 3,1 | — | 10,0 | — | 6,5 | — | 7,3 | — |

Карэнны недахоп у вырошчванні маладняка заключаецца ў тым, што ў соўгасе не створана пастаяннага кадра вопытных цялятніц, а таму наглядаецца вялікі рознабой у гадоўлі цялят. Соўгас не мае спецыяльна абсталяванага цялятніка. Цяляты размяшчаюцца ў агульных аборах. У гадоўлі многа саматужніцтва, асабліва на ўчастку «Саламарэчча», лячэбна-прафілактычная работа пастаўлена нездавальняюча.

Пасля чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) палітаддзел паставіў перад партыйнай арганізацыяй, спецыялістамі і ўсім рабочым калектывам соўгаса пытанне аб неадкладным разгортванні племяннной работы не толькі са свіннямі, але і з каровамі. Арганізавалі праверку якаснага складу кароў. Адразу-ж выявілася, што спецыялісты соўгаса дрэнна ведаюць прадукцыйнасць і пароднасць стада малочнай жывёлы.

Азнаямленне з урыўкамі зоатэхнічных запісаў, агляд кароў у натуры і апытанне старых рабочых соўгаса—скотнікаў і даярак—дазволілі нам устанавіць наступны пародны склад кароў:

| Пароды | Участак „Вішнёўка" | | Участак „Саламарэчча" | | Разам па соўгасу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. галоў | Проц. | Кольк. галоў | Проц. | Кольк. галоў | Проц. |
| Мясцовая | 28 | 72.0 | 28 | 40,2 | 56 | 56,2 |
| Сіменталкі | 2 | 5,1 | 16 | 22,8 | 18 | 14,8 |
| Галандкі | 3 | 7,7 | 18 | 25,7 | 21 | 17,3 |
| Швіцы | 2 | 5.1 | 6 | 8,5 | 8 | 6,6 |
| Немкі | 4 | 10,1 | 2 | 2,8 | 6 | 5,1 |
| Разам | 39 | 100 | 70 | 100 | 109 | 100 |

Аб чым гаворыць праведзены вышэй пародны склад жывёлы соўгаса? Аб пераважанні мясцовых кароў—56 проц. У соўгасным стадзе выяўлена 14,8 проц. сіменталак, 17,3 проц. галандак, 6,6 проц. швіцаў і 5,1 проц. немак, што нямала здзівіла кіруючых работнікаў. Вялікая ўдзельная вага мясцовай малапрадукцыйнай жывёлы ў соўгасе вызначае аб'ём работы па палепшанню якасці стада.

Адсутнасць сістэматычнай работы ў мінулым па палепшанню пароднасці жывёлы і выбракоўцы старых кароў пацвярджаецца таксама наяўнасцю вялікай колькасці кароў, якія па свайму ўзросту малапрадукцыйны.

Гэта відаць з наступнай табліцы:

| Групы кароў | Участак „Вішнёўка" | | Участак „Саламарэчча" | | Усяго па соўгасу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. галоў | Проц. | Кольк. галоў | Проц. | Кольк. галоў | Проц. |
| Да 5 год | 6 | 15,3 | 3 | 4,3 | 9 | 8,2 |
| „ 5—8 г. | 7 | 17,9 | 13 | 18,5 | 20 | 18,3 |
| 5—11 г. | 17 | 43,5 | 39 | 55,7 | 56 | 51,4 |
| Старш. 11 г. | 9 | 23,3 | 15 | 21,5 | 24 | 22,1 |
| Разам | 39 | 100 | 70 | 100 | 109 | 100 |

Амаль да канца 1933 года ў соўгасе не было правільна арганізаванага пярвічнага ўліку малочнай прадукцыйнасці кароў. Акрамя таго, нярэдка адсутнічалі і элементарныя ўмовы кармлення і догляду, пры наяўнасці якіх каровы маглі-б найбольш поўна выявіць свае высокія якасці прадукцыйнасці. Праверкай устаноўлена наяўнасць у малочным стадзе соўгаса значнай групы кароў з даволі высокімі ўдоямі:

| Групы па ўдойнасці | Участак „Вішнёўка" (за 7 м-цаў) | | Участак „Саламарэчча" (за 5 месяцаў) | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. галоў | Проц. | Кольк. галоў | Проц. |
| Да 300 літраў . . . . . | 3 | 9,0 | 9 | 12,7 |
| 300—400 літраў . . . . . | — | — | 13 | 18,4 |
| 400—500 „ . . . . . | 3 | 9,0 | 16 | 22,4 |
| 500—600 „ . . . . . | 3 | 9,0 | 13 | 18,4 |
| 600—700 „ . . . . . | 3 | 9,0 | 6 | 8,4 |
| 700—800 „ . . . . . | 3 | 9,0 | 8 | 11,3 |
| Звыш 800 літраў . . . . | 18 | 55,0 | 6 | 8,4 |
| Усяго . . . . | 33 | 100 | 71 | 100 |

Гэтыя даныя паказваюць, што ўчастак «Вішнёўка» мае 27 проц. і «Саламарэчча» 42 проц. кароў, сярэдні сутачны ўдой якіх не перавышае 2,5 літраў. З другога боку, даволі значная група кароў дае сярэдні сутачны ўдой звыш 5 літраў. Гэтыя ўдоі соўгас атрымаў ў рэзультаце ўраўніцельнага падыходу да арганізацыі кармлення і ўтрымання кароў. А што можа даць ліквідацыя ўраўнілаўкі і абязлічкі ва ўмовах добрага догляду, кармлення і ўтрымання жывёлы— у гэтым мы ўжо мелі некаторы вопыт.

У канцы сакавіка новы дырэктар соўгаса т. Оўчыннікаў пры актыўным падтрыманні палітаддзела выдзеліў на цэнтральнай ферме— «Вішнёўка»—6 кароў у асобую групу, якой далі ўзмоцненую падкормку—жмых і інш. Паёк індывідуалізавалі паводле ўдою. Забяспечылі таксама лепшы догляд і ўтрыманне, а з выхадам на пашу адвялі лепшыя клеткі, прымацавалі вопытнага пастуха. Вынікі хутка сказаліся. Выдзеленая група з 6 кароў дала за сакавік 697 літраў малака. За красавік, пры пераходзе на індывідуальны догляд і паёк, група дала ўжо 1539 літраў, г. зн. павялічыла ўдой больш як у 2 разы. «Бурнушка», напрыклад, у сакавіку дала 107 літраў, а ў красавіку 299 літраў. «Галка», «Аза», «Маргарыта», «Ірына» і іншыя сталі даваць па 10 і больш літраў у суткі.

Прапрацоўваючы рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, мы правялі рад нарад сярод скотнікаў, даярак, пастухоў, перагледзелі дагаворы соцспаборніцтва ў бок іх большай канкрэтнасці, арганізавалі праз палітаддзельскую шматтыражку абмен вопытам паміж малочнымі фермамі, унеслі змены ў аплату працы, увялі здзельшчыну ў прамой залежнасці ад колькасці і якасці надоенага

малака і натуральнае прэміяванне за перавыкананне плана ў размеры 50 проц. ад надоенага звыш плана на працягу месяца малака.

Соўгас мае такіх людзей, як старшы скотнік на цэнтральнай сядзібе—т. **Няхайчык,** які з любоўю клапоціцца аб тым, каб жывёла была ў час накормлена, напоена, пачышчана; такіх даярак, як Ждан **Юлія,** як **Дзесяцкая,** якія вельмі ўважліва і беражна адносяцца к каровам, чыста выдойваюць, дапамагаюць выяўляць раскрадальнікаў малочнай прадукцыі ў соўгасе. Гэтыя даяркі—не выключэнне. Агромную арганізацыйную ролю ў справе пастаноўкі зоатэхнічнага абслугоўвання стада на цэнтральнай сядзібе адыгрывае тэхнік-жывёлавод т. **Кісель** Наталля.

Стаўка палітаддзела на лепшага скотніка, на лепшую даярку, якія добра абслугоўваюць жывёлу, забяспечыла ў соўгасе пералом, які характарызуецца перш за ўсё ростам удояў.

| Месяцы | Сярэдні сутачны ўдой на 1 карову (у літрах) | | 1934 г. у проц. к 1933 г. |
|---|---|---|---|
| | 1933 г. | 1934 г. | |
| Студзень . . . | 1,28 | 1,64 | 128 |
| Люты . . . . | 1,65 | 2,66 | 161 |
| Сакавік . . . . | 2,40 | 3,62 | 151 |
| Красавік . . . | 3,78 | 5,00 | 132 |
| Май . . . . | 4,52 | 7,22 | 159 |
| Чэрвень. . . . | 4,71 | 6,58 | 140 |
| Ліпень . . . . | 4,90 | 6,12 | 122 |
| Жнівень. . . . | 4,81 | 6,10 | 127 |
| Верасень . . . | 3,79 | 6,00 | 157 |
| Кастрычнік. . . | 3,32 | 5,52 | 169 |

З гэтых лічбаў ясна відаць, што соўгас у гэтым годзе лепш выконвае план удояў малака, што ён нашчупаў шляхі перабудовы работы.

У выкананне рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) ядро высокапрадукцыйных кароў пашырана да 22 галоў. 12 кароў, выдзеленых з агульнага гурту на ферме «Саламарэчча», далі за першую палову жніўня сярэдні сутачны ўдой 7,7 літра, у другой палове жніўня, пасля выдзялення іх у асобны гурт, сярэдні сутачны ўдой павялічыўся да 8,8 літра. Паасобныя каровы гэтай групы даволі рэзка павялічылі сярэдні сутачны ўдой, напрыклад: «Чайка»—на 2,5 літра, «Нява»—на 2,6 літра, «Галубка»—на 4,6 літра. Для больш поўнай характарыстыкі ядра высокапрадукцыйных кароў прыводзім даныя аб валавым удоі за 10 месяцаў і аб сярэдне-сутачным удоі за кастрычнік некаторых з іх:

| | Валавы ўдой за 10 м-цаў (у літрах) | Сярэдне-сутачны удой за кастрычн. (у літрах) |
|---|---|---|
| „Галка" . . . . | 2121 | 8,7 |
| „Маргарыта . . | 2015 | 8,0 |
| „Бурнушка" . . . | 1959 | 8,4 |
| „Ірына" . . . . | 1880 | 9,6 |
| „Сініца" . . . . | 1726 | 8,3 |
| „Астра" . . . . | 1684 | 7,9 |
| „Чайка" . . . . | 1621 | 8,1 |

Асобна трэба адзначыць «Няву», якая, будучы першацёлкай, за 120 дзён дала 1164 літры малака, а ў кастрычніку яе сярэдні сутачны ўдой—9,3 літра.

Злачыннае ігнараванне ў мінулыя гады буйнай рагатай жывёлы, погляд на яе, як на спажывецкую галіну соўгаснай гаспадаркі—прывялі к таму, што нават лепшыя каровы аказаліся сільна запушчанымі, таму недапушчальна мала здавалася масла дзяржаве, што вельмі наглядна пацвярджаецца наступнымі данымі:

| | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|
| Сярэдні гадавы ўдой 1 каровы (у літрах) . . . . . . . . | 664 | 750 | 1230 |
| Здана масла дзяржаве (у цнт.) . | 15,58 | 14,39 | 26,11 |
| Масладача на 1 карову (у кгр.) | 6,0 | 12,2 | 13,8 |

У 1931 годзе сярэднегадавы ўдой на адну фуражную карову быў 877 літраў, а ў 1932 годзе ўпаў да 664 літраў.

Дрэннае ўтрыманне (24 каровы на адну даярку) і кармленне зрабілі сваю справу. У 1933 г. карова, як і раней, была ў загоне, але ўсё-ж намеціўся некаторы зрух. Удой з 664 літраў падняўся да 750 літраў. А 10 месяцаў 1934 года далі 1230 літраў пры гадавым плане 1100 літр.

Некаторыя элементарныя мерапрыемствы па павышэнню ўдойнасці ў 1934 г. дазволілі соўгасу пры меншай колькасці кароў, пры зрыве плана ацёлаў (план ацёлаў—116, фактычна ацялілася 79) здаць дзяржаве на 1 лістапада 26,11 цэнтнера масла, замест—14,39 ц. у 1933 годзе і 15,58 ц. у 1932 годзе. Праўда, у «Вішнёўцы» няма яшчэ сапраўднай малочна-свінагадоўчай гаспадаркі, але вельмі дадатны ўжо той факт, што на малочную жывёлу не глядзяць як на другарадную галіну.

Для ацэнкі поспехаў «Вішнёўкі» цікава параўнаць яе паказчыкі з іншымі соўгасамі таго-ж менскага трэста. Трэст мае 35 соўгасаў. Сярод іх «Вызваленне», «Антанопаль» па плану павінны былі атрымаць 3,2—3,5 літра ад кожнай фуражнай каровы, а фактычна маюць 1,3—1,8 літра. Сярэднетрэстаўскі сутачны ўдой быў запраектован у 3,5 літра, атрымалася-ж (без «Вішнёўкі») 2,8 літра. Соўгас «Вішнёўка» ўзяў ад свайго стада сярэдні ўдой 5,2 літра—амаль удвая вышэй сярэднетрэстаўскага, больш за ўсе іншыя соўгасы і больш свайго ўласнага плана на 73 проц. З «Вішнёўкай» сярэднетрэстаўскі сутачны ўдой павышаецца да 2,9 літра. Значыць, соўгас «Вішнёўка» сваім гуртам у 109 кароў падымае сярэднесутачны ўдой усіх 35 соўгасаў трэста з 2264 каровамі на 0,1 літра.

У якасці чарговых мерапрыемстваў устанаўляецца план камплектавання прадукцыйнасці кароў на 1937 год у колькасці 120 галоў на 120 свінаматак і такім шляхам ліквідуецца празмерна вузкая спецыялізацыя соўгаса. Соўгас ператвараецца ў свінаводна-малочную гаспадарку. Заканчваецца выбракоўка ўсёй старой малапрадукцыйнай жывёлы і зусім непрыгоднага для прадукцыйных мэт маладняка. Ужо завезена ў соўгас 10 цёлачак яраславак.

Важнейшую работу соўгаса па палепшанню пароды жывёлы і павышэнню яе прадукцыйнасці нельга абмежаваць толькі ўвагай матачнаму складу і работай з ім. Вядома, што каровы, у лепшым вы-

падку, свае высокія племянныя якасці могуць перадаць на працягу свайго жыцця 12—14 цялятам, тады як быкі-вытворнікі могуць перадаць іх 300—400 цялятам на працягу 5—6 год сваёй племяннэй службы. Гэта абавязвае нас, адначасова з работай па падбору матачнага складу і правільным яго скарыстаннем, асаблівую ўвагу ўдзяліць таксама падбору вытворнікаў і іх правільнаму скарыстанню. З гэтай мэтай на працягу 1935 года поўнасцю будуць заменены быкі-вытворнікі невядомай пароды на завезеных у соўгас 2 дацкіх і 3 яраслаўскіх бычкоў. Пачынаючы з 1935 года ўстанаўляецца новы графік ацёлаў; не менш 40 проц. ацёлаў павінна прыпадаць на II і IV кварталы.

Разгорнутая палітаддзелам, дырэкцыяй і партыйнай арганізацыяй работа па палепшанню якасці і прадукцыйнасці жывёлы ў цэлым далёка недастаткова і ні ў якай меры не вычэрпвае ўказанняў пленума ЦК ВКП(б). Мы толькі на подступах да выканання гэтых рашэнняў.

Вельмі тармозіць тэмпы рэалізацыі рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) праблема жывёлагадоўчых кадраў, іх вытворча-тэхнічнай кваліфікацыі. Без пераўвялічэння можна сказаць, што значная доля страт у жывёлагадоўлі соўгаса, пра якія пісалася вышэй, павінна быць аднесена за кошт элементарнай зоатэхнічнай няграматнасці асноўных кадраў рабочых.

Пастаноўка тэхвучобы рабочых соўгаса нездавальняючая. З 99 чалавек, намечаных прапусціць праз гурткі і курсы за зіму і вясну 1934 года, прапушчана толькі 42 чал. Летам тэхнічная вучоба аслабла. Час ад часу праводзіліся заняткі са свінарамі, але пра скотнікаў, даярак, канюхоў зусім забылі.

Сваімі дасягненнямі соўгас, бясспрэчна, абавязан і рабоце нашых спецыялістаў-жывёлаводаў, якія за апошні час значна палепшылі сваю работу. Аднак, паасобныя спецыялісты соўгаса яшчэ не праніклася глыбокай трывогай за лёс соцыялістычнай жывёлагадоўлі, за колькасны і якасны ўздым яе, недастаткова яшчэ ўсвядомілі той факт, што іменна яны павінны быць асноўным ядром у ліквідацыі зоатэхнічнай няграматнасці сярод рабочых соўгаса, што яны нясуць адказнасць за гэту справу.

Палітаддзел, партарганізацыя і дырэкцыя соўгаса ўдзяляюць цяпер усю сваю ўвагу масаваму павышэнню зоатэхнічнай граматнасці па асноўных пытаннях жывёлагадоўлі: падрыхтоўка кармоў, рацыянальнае кармленне, догляд за маладняком і дарослай жывёлай. барацьба з ялавасцю і хваробамі сельскагаспадарчай жывёлы, элементарныя шляхі павышэння прадукцыйнасці, зоатэхнічная прафілактыка і зоагігіена і т. д.

Арганізавана і з лістапада пачала работу сетка гурткоў:

| | Колькасць людзей у гуртку | Аб'ём праграмы | Працягласць заняткаў |
|---|---|---|---|
| Брыгадз.-свінароў . | 10 | 62 гадзіны | 3 м-цы |
| Малодшых свінароў | 30 | 32 „ | 1,5 „ |
| Скотнікаў і даярак . | 15 | 48 „ | 2 „ |
| Канюхоў . . . . | 10 | 32 „ | 1,5 „ |

Для кіраўніцтва гурткамі мы маем спецыялістаў: зоатэхніка, ветўрача, 5 тэхнікаў-жывёлаводаў, ветэрынарнага тэхніка.

Можна быць упэўненым, што пры павышэнні зоатэхнічнай граматнасці рабочых, занятых на свінаферме, у абoры, стайні, пры ўмове правільнай арганізацыі працы на аснове здзельшчыны, мы нарэшце пазбавімся многіх агідных паказчыкаў, якімі яшчэ так багата наша жывёлагадоўчая практыка.

Толькі пры ўмове, калі на свінаферме, у абoры, ў стайні мы будзем мець класава-правераныя сталыя кадры зоатэхнічна граматных рабочых, можна будзе ўсур'ёз і па-сапраўднаму падняць соцыялістычную жывёлагадоўлю да ўзроўню задач, пастаўленых XVII з'ездам ВКП(б) і чэрвеньскім пленумам ЦК ВКП(б).

---

**В. К. Якабсон**

# За карэннае палепшанне работы сувязі БССР

*(Па матар'ялах Камісіі Совецкага Кантроля)*

Сувязь БССР і колькасна і якасна непараўнальна з малаpазвітай і распыленай сувяззю былой царскай Беларусі. Асабліва за апошнія 3—4 гады сувязь БССР, так сама як і ўся народная гаспадарка Совецкай Беларусі, мае выключна вялікія дасягненні.

Толькі за перыяд 1-й пяцігодкі платная паштовая карэспандэнцыя ўзрасла ў 3,3 разы, тэлеграмы—амаль у 4 разы, распаўсюджванне друку—у 4 разы.

Значна павялічылася колькасць стацыянарных сталых паштовых прадпрыемстваў, якіх на 1 студзеня 31 г. было толькі 494, а на 1 студзеня 34 г.—1597; рост—больш як у 3 разы. Не ў меншай меры ўзрасла колькасць сельскіх лістаносцаў, якіх на 1-I—31 г. было 1835 чал., прычым толькі ведамственных, зараз мы маем ужо 4400 калгасных лістаносцаў, вылучаных самімі калгасамі.

Колькасць тэлефонных станцый узрасла да 95 адзінак. Тэлефонная сувязь ўстаноўлена з усімі раёнамі. Тэлефонных станцый на 1-X—34 г. налічвалася 15.412 нумароў, замест 7748 на 1-I—34 г. Адначасова з колькасным ростам паляпшаецца якасць мантажа, аб чым сведчыць увод у эксплаатацыю менскай і магілеўскай аўтаматычных тэлефонных станцый.

На 1-I—31 г. тэлефонамі было забяспечана толькі 237 сельсоветаў, а на 1-X—951, г. зн. большая палова сельсоветаў БССР.

Каласальна вырас лік трансляцыйных, эфірных і партаўдыторных радыёкропак. На 1-I—30 г. было толькі 1569 розных кропак, г. зн. карысталася радыё толькі нязначная колькасць працоўных. Зараз у адным толькі Менску больш 6000 радыё-трансляцыйных кропак, а па ўсёй БССР на 1-I—34 г. 49.749 радыё-кропак, акрамя 445 партаўдыторый; рост—больш як у 30 раз.

Адначасова ўзрастае колькасць спецыялістаў. На 1-I—31 г. было 6 інжынераў і 93 тэхнікі, а на 1-VII—34 г.—20 інжынераў і 287 тэхнікаў, занятых работай у сістэме сувязі.

Значна палепшылася матар'яльна-культурнае абслугоўванне работнікаў сувязі. Толькі па фонду палепшання быту рабочых выдаткі выраслі з 160820 р. у 1931 годзе да 321200 рубл. у 1933 г.; па соцстраху—адпаведна: з 477 т. р. да 1071 т. р.

Прыведзены лічбовы матар'ял сведчыць аб значным росце сувязі. Аднак каласальны рост усёй народнай гаспадаркі, рост культурнасці

працоўных прад'яўляе сувязі ўсё большыя і большыя патрабаванні. І зусім не выпадкова, што пры вялікіх дасягненнях органаў сувязі БССР мы ўсё яшчэ маем у іх рабоце агромныя недахопы.

Прамых указанняў правадыра нашай партыі т. Сталіна і рашэнняў XVII партз'езда аб перабудове работы савецкіх арганізацый яшчэ не ўлічылі як след работнікі Беларускага Кіраўніцтва Сувязі і не ў меншай меры—работнікі райаддзелаў і кантор сувязі. У рэзультаце органы сувязі БССР нездавальняюча выконваюць папярэднія дырэктывы партыі і ўрада. Абслугоўванне працоўных сувяззю пастаўлена ў радзе месц БССР яшчэ вельмі дрэнна.

Зусім невыпадкова Совет Народных Камісараў СССР, заслухаўшы даклад НКСувязі, у сваёй пастанове ад 20-IX адзначыў, што

> «прадаўжаюць мець месца такія ганебныя для савецкай сувязі з'явы, як раскрадванне пасылак і грашовых сум, несвоечасовая дастаўка пошты, засылка і страты пісьмовых і тэлеграфных карэспандэнцый, скажэнне тэлеграм».

Адначасова СНК СССР указаў, што па сістэме сувязі не ўстаноўлена яшчэ неабходнай вытворчай дысцыпліны, не забяспечана правядзенне гаспадарчага разліку, не ліквідаваны канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва, дрэнна абслугоўваецца сувяззю народная гаспадарка, не зжыты казённа-чыноўнічыя адносіны да абслугоўвання культурных патрэб шырокіх мас працоўных.

Здавалася-б, што такая суровая ацэнка работы органаў сувязі, якая сведчыць аб невыкананні ўказанняў XVII з'езда партыі і наогул дырэктыў партыі і ўрада, павінна была прымусіць камуністаў і беспартыйны актыў сувязі прыняцца за карэннае палепшанне работы сваіх участкаў, за культурнае абслугоўванне народнай гаспадаркі і працоўнага насельніцтва.

На справе-ж мы гэтага не бачым. Паасобныя канторы сувязі, як віцебская (нач. т. **Бялуга**), за апошні час дабіліся значнай чоткасці і своечасовасці ў сваёй рабоце, культурнасці ў абслугоўванні працоўных, рэзка зменшылі брак і страты, чаго нельга сказаць пра многія іншыя канторы і райаддзелы сувязі, якія часта нават не выконваюць дырэктыў партыі і ўрада. А вінаваты ў гэтым толькі жывыя людзі: камуністы і беспартыйны актыў гэтых устаноў. Беларускае кіраўніцтва сувязі не забяспечыла яшчэ штодзённага аперацыйнага кіраўніцтва і кантроля за выкананнем рашэнняў ўрада. Не ў меншай меры вінаваты паасобныя мясцовыя партыйныя і савецкія органы, якія не прынялі жывога і непасрэднага ўдзелу ў палепшанні работы органаў сувязі.

Праверка выканання пастановы СНК СССР за 20-IX—34 г., праведзеная апаратам упаўнаважанага Камісіі Савецкага Кантроля па БССР, паказала, што цэлы рад райаддзелаў сувязі, нават само яе кіраўніцтва, выключна нездавальняюча выконваюць пастанову. Возьмем некалькі фактаў.

Урад абавязваў сувязь пакончыць з фактамі засылкі і несвоечасовай дастаўкі карэспандэнцыі, раскрадання пасылак і грашовых пераводаў, дабіцца культурнага абслугоўвання працоўных. Як-жа праводзіцца ў жыццё гэта ўказанне ўрада?

Бабруйская кантора сувязі (начальнік т. **Ляпіч**) увяла двукратную дастаўку карэспандэнцыі толькі па 9 цэнтральных участках горада, а 15 участкаў, асабліва акраінных, не забяспечыла дастаўкай нават і раз

у дзень. Лістаносцаў у канторы мала. Атрымліваючы выхадныя дні, яны пакідаюць свае ўчасткі зусім без дастаўкі карэспандэнцыі.

Аўтамашыны для перавозкі карэспандэнцыі скарыстоўваюцца на розныя пабочныя работы: транспартуюць фарбу і нават будаўнічыя матар'ялы з Менска. Такім чынам кантрольныя тэрміны дастаўкі карэспандэнцыі парушаюцца ў першую чаргу транспартам, і карэспандэнцыя нават па гораду ходзіць суткі, пакуль трапіць у рукі адрасата.

Менская кантора таксама не забяспечвае яшчэ своечасовай дастаўкі карэспандэнцыі. Напрыклад, філіял пры Дзяржбанку здае на пошту прынятыя тэлеграфныя пераводы ў канцы дня пачкамі па 20 штук. Прыбываючая з ранішнімі паяздамі карэспандэнцыя не дастаўляецца ў тэй-жа дзень па ўстановах, бо не ўведзена яшчэ сістэма дэцэнтралізацыі, а прынятая агенцтвамі карэспандэнцыя дастаўляецца на пошту толькі ў канцы дня, што стварае суматоху і перагрузку на пошце пры рассартыроўцы і адпраўцы карэспандэнцыі і прыводзіць да перагрузкі вячэрніх паяздоў, тым часам як днём работнікі не загружаны, а паязды ідуць з недагрузкай. Кіраўніцтва канторы—комуністы Наўмёнак, Некрасаў—лічаць за лепшае, давёўшы колькасць хворых машын да 50 проц., звальваць усе грахі на адсутнасць транспарта, чым пакпапаціцца аб неадпаразовай адпраўцы карэспандэнцыі з агенцтваў.

На некаторых прадпрыемствах сувязі сама апрацоўка карэспандэнцыі праводзіцца выключна няверна, з парушэннем усіх існуючых правіл, а ў выніку—скаргі адрасатаў аб прапажы.

Возьмем прыклады.

Начальнік **Слуцкага райаддзела сувязі** Жэлезнякоў кіраваў работай габінетна, не ўнікаючы ва ўсе дробязі і перадаверыўшы праверку другарадным работнікам. А што з гэтага вышла? Грубейшыя парушэнні дапушчаны былі ў апрацоўцы і захаванні карэспандэнцыі, пасылкі захоўваліся не ў кладовай, а ў адкрытым прахадным пакоі і выдаваліся кліенту без патрабавання і прыпіскі дакументаў, паведамленні на выданыя пасылкі з распіскай кліента не захоўваліся і наогул знішчаліся работнікамі. Таксама і пры выдачы грашовых пераводаў дакументы не запісваюцца, атрыманая сума не ўказваецца прапісам, самі бланкі на выданыя грошы ляжаць у касіра па 20 дзён, і ніхто іх не забірае; нерэгулярна вядзецца кніга ф. № 7.

Работнікі **Пухавіцкага першага агенцтва** пры палітаддзеле дапускалі і такія парушэнні, як прыём перавода на адрас гор. Горкі без указання краю або рэспублікі, і невядома было куды пасылаць перавод: у Горкі-беларускія ці ў Горкі-маскоўскія.

Да апошняга часу не забяспечана захаванасць карэспандэнцыі. У Пухавічах і Слуцку ўсе работнікі і нават кліентура праходзяць праз апэрацыйную залу, каб папасці ў кантору ці да загадчыка. Уся карэспандэнцыя са Слуцка ў Старобін і Чырвоную Слабаду даручаецца аднаму возчыку, што сведчыць аб прамым парушэнні закона ўрада аб суправаджэнні пошты і ўстанаўленні ваенізаванай аховы на чыгуначных вузлах.

Вінавата ў гэтым найперш само Беларускае кіраўніцтва сувязі, якое не вядзе жорсткай барацьбы за чыстату сваіх кадраў, супроць зладзеяў і жулікаў.

Сістэма сувязі па БССР яшчэ не ачышчана поўнасцю ад растратчыкаў. За першае паўгоддзе па ўсёй сістэме была маса розных страт, у значнай меры непакрытых за лік віноўных толькі

таму, што дапусціўшыя страты своечасова не выяўляюцца і паспяваюць скрыцца.

* * *

У перыяд другой пяцігодкі, калі «СССР ажыццяўляе буйны крок уперад у справе зжывання векавой працілегласці чалавечага грамадства, процілегласці паміж горадам і вёскай», калі «па сваёй грамадскай форме сельская гаспадарка становіцца аднатыповай з прамысловасцю», патрэбна добрая сувязь паміж горадам і вёскай, прычым не толькі паштовая ці праз лістаносцаў, але і тэлефонная.

У БССР тэлефонная сувязь пастаўлена яшчэ нездавальняюча. З 1478 сельсоветаў тэлефанізаваны толькі 951 сельсовет, або 64,5 проц. Але гэта сярэдняя лічба. Талачынскі раён, напр., тэлефанізаваў толькі 9 сельсоветаў з 27, Жлобінскі—12 з 24 і т. д. Соўгасы тэлефанізаваны толькі на 59 проц. У калгасах процант тэлефанізацыі наогул мізэрны. Сродкі, якія адпускаюцца райвыканкомамі для тэлефанізацыі, застаюцца нескарыстанымі, бо Белкіраўніцтва сувязі не забяспечыла гэтых работ матар'яламі. Яно і павінна адказаць у першую чаргу за невыкананне планаў суцэльнай тэлефанізацыі сельсоветаў.

Справа радыёфікацыі пастаўлена не лепш. Запазычанасць за радыёслуханне даходзіць па БССР да 12 проц. гадавога збору. Пры ўводзе новых 9 200 радыёкропак адсеялася больш 6 000 кропак. Значная колькасць эфірных установак не ўлічана і заслугоўвае зусім правільнай ацэнкі «гучнамаўчальнікаў», бо ні кіраўніцтва сувязі, ні каапэрацыйная сістэма не забяспечылі іх пітаннем і своечасовым рамонтам. Маўчыць нават частка партаўдыторый: у Пухавічах, у Слуцку.

Прычыны дрэннай работы нашага радыё крыюцца ў нас-жа саміх. Вінаваты не толькі радыёаддзел Белкіраўніцтва сувязі, а і самі загадчыкі раённых аддзелаў сувязі, паасобныя райкомы партыі. Дзіву варты факты, што з усяго раёна не могуць знайсці работніка для загадвання радыёвузлом, што праграмы перадач складае дзяжурны манцёр без папярэдняга прагляду і зацверджання. Зусім зразумела, што калі справай радыёфікацыі будуць займацца толькі 2—3 манцёры раёна, то і ў далейшым нельга чакаць яе палепшання. Гэтай справай павінны заняцца і райком партыі, і райвыканком, і сам райаддзел сувязі.

Праверкай выяўлены ў Пухавіцкім раёне такія факты, калі сам раённы актыў не выконвае законаў ўрада, дапускаючы вялікую запазычанасць за радыёслуханне. Нарсуддзя Гайдук, начальнік райміліцыі, дырэктар канторы Дзяржбанка Фадзенеў і іншыя асобы самі не плацяць за радыёслуханне па цэламу году, замест таго каб дапамагчы радыёвузлу спагнаць запазычанасць. Зусім невыпадкова, што 4-5 проц. абанентаў Пухавіцкага радыёвузла маюць запазычанасць больш як за 3 месяцы. Такія факты ніяк не ўвязваюцца са статутам ВКП(б), дзе ясна сказана, што кожны член партыі абавязан «як член кіруючай партыі ў савецкай дзяржаве—быць узорам захоўвання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны».

Совет Народных Камісараў СССР у сваёй пастанове ад 20-IX абавязаў усе мясцовыя советы і райвыканкомы дапамагаць органам сувязі ў развіцці і палепшанні іх работы, якая мае вялікае гаспадарчае і абаронная значэнне. Аднак мы бачым, што некаторыя райвыканкомы з выключнай нядбайнасцю адносяцца да тэтага ўказання ўрада.

Узяць к прыкладу Менск. Яшчэ 8 жніўня мінулага года СНК БССР перадаў сувязі дом № 47 па Совецкай вуліцы. Крыху пазней (20 ці 21 жніўня) менскі горсовет таксама пастанавіў перадаць сувязі гэты дом, каб можна было лепш абслужыць працоўных і разгрузіць будынак пошты. З гэтых абодвух пастаноў пошта да самага апошняга часу нічога не скарысталя. Горсовет будынак перадаў, але не паклапаціўся аслабаніць яго ад устаноў і жыхароў. Па ўсёй гэтай справе набралася ўжо папка аркушаў у 100 розных папер, але... «воз и ныне там».

Нашы агенцтвы ў Менску, асабліва на акраінах, працуюць у выключна дрэнных памяшканнях, дзе не забяспечаны элементарныя ўмовы работы: захавальнасць карэспандэнцыі, культурнае абслугоўванне працоўных.

Слуцкі райвыканком да гэтага часу не здолеў аслабаніць памяшкання для пошты, хоць сам вынес адпаведнае рашэнне. Ёсць нават сігналы, што прыстасаваныя пад пошту памяшканні забіраюцца іншымі ўстановамі (Ратамскі с.-с., Менскага рёна, Хойніцкі раён і інш.).

Калі комуністы ў райвыканкомах, горсоветах і сельсоветах пачнуць самі парушаць і ігнараваць урадавыя дырэктывы, то справу добрага абслугоўвання сувяззю народнай гаспадаркі і працоўнага насельніцтва нам не выцягнуць.

* *
*

Указанні ўрада патрабуюць ад органаў сувязі сапраўды культурнага абслугоўвання працоўнага насельніцтва, якое будуе соцыялістычную гаспадарку.

Чыгуначны, а часткова і водны транспарт, пад кіраўніцтвам партыі і яе ленінскага ЦК, ужо многага дабіліся ў гэтай галіне. Пасажыра ў поездзе сустракае чыстата, далікатнасць у абыходжанні, комунальныя паслугі, добры буфет і т. д. Не тое мы бачым у рабоце сувязі. Даволі прагледзець кнігі скаргаў, каб убачыць як груба, некультурна абслугоўвае сувязь працоўных. У Мазыры, напрыклад, кліент нярэдка можа пачуць з тэлефоннай станцыі: «Зануда, ідзі к чорту» і больш «далікатныя» адказы. У Менскай канторы таксама ёсць работнікі, якія не хочуць адказваць на пытанні кліентаў.

Усё гэта сведчыць аб выключнай слабасці выхаваўчай работы сярод работнікаў сувязі, а таксама частковай засмечанасці апарата хуліганскім элементам.

Унутраны выгляд памяшканняў сувязі часта нагадвае сумнае мінулае. Цёмна, брудна. Няма стала, крэсла, пер'яў, чарніл, не кажучы ўжо пра кветкі, фіранкі, дываны. Менская, слуцкая, гомельская і інш. менш буйныя канторы не забяспечылі ўтульнасць у памяшканнях для прыёму кліентуры. У слуцкай канторы не шукайце століка, крэсла, ці нават лаўкі, дзе можна было-б напісаць пару слоў. У Пухавічах ані не лепш, к таму-ж зусім не арганізавана дапамога ў напісанні адрасоў, пераводаў, тэлеграм і т. д., што выклікае зусім справядлівыя нараканні наведвальнікаў.

Па агенцтвах яшчэ горш. Пры соўгасе «Івань», Слуцкага раёна, агенцтва займае вельмі добры светлы пакойчык, але з абсталявання— адзін стол і адно крэсла. У пакоі вельмі брудна. Нават тэлефаністка ў час свайго дзяжурства не мае на чым сесці; а 4 лістаносцы, чакаючы пошту са Слуцка, садзяцца хто на падлогу, хто на мяшок.

Райаддзелы сувязі разам з РВК, сельсоветамі, соўгасамі і палітаддзеламі павінны неадкладна і сапраўды па-большэвіцку ўзяцца за вы-

праўленне гэтага ўчастка работы, каб неўзабаве стварыць неабходныя культурныя ўмовы абслугоўвання працоўных.

Прыкладна перабудаваў сваю работу віцебскі райаддзел сувязі. Начальнік канторы т. **Бялуга** і яго памочнік т. **Беленькі** дабіліся чыстаты, далікатнасці ў абслугоўванні кліентуры.

Нездавальняючая работа сувязі ў значнай меры і галоўным чынам тлумачыцца тэхнічнай няграматнасцю і недысцыплінаванасцю работнікаў, няведаннем сваёй справы і неахайнасцю ў рабоце. Зусім невыпадкова СНК СССР у сваёй пастанове ад 20 верасня значную ўвагу ўдзяліў павышэнню тэхнічнай граматнасці работнікаў сувязі, абавязаўшы НК Сувязі і яго органы арганізаваць работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы ўсіх работнікаў з тым, каб знішчыць вялікую колькасць фактаў браку, засылкі і прапажы карэспандэнцыі і пасылак, грубых адносін да кліентуры і т. п.

Аднак Белкіраўніцтва сувязі, значная колькасць яго раённых аддзелаў і кантор не выканалі гэту пастанову. Невыпадкова, што арганізацыя і правядзенне тэхмінімума кульгае.

План здачы норм тэхмінімума на 1-XI-34 г. выканан толькі на 22 проц. З намечаных 2.337 чал. фактычна здалі норму толькі 517. Асабліва трэба падкрэсліць зрыў тэхвучобы сярод загадчыкаў агенцтваў, бо сярод здаўшых нормы толькі 6 чал., тым часам як па БССР іх 1 430 чалавек. У Слуцкім і Пухавіцкім раёнах—каля 60 загадчыкаў агенцтваў, але ніводзін з іх не займаецца. Кваліфікаваных работнікаў сувязі не менш 500 чал., а здалі соцтэхэкзамен толькі 57—каля 11,4 проц. Яшчэ горш з лістаносцамі, якіх, не лічачы калгасных лістаносцаў, бо з імі наогул ніхто не займаецца, каля 4 300 чал. Павышэнне кваліфікацыі штатных лістаносцаў правалена: здалі соцтэхэкзамен толькі 35 чал., або 5 проц.

Віцебская кантора і тут паказвае прыклад. Каля 100 работнікаў ягэ здалі ўжо нормы на значок «ЗОТ», з іх 49 чал. ужо маюць значок. Такіх паказчыкаў могуць дабіцца і іншыя канторы і райаддзелы, калі глыбока і ўсур'ёз займуцца гэтай справай.

Беларускае кіраўніцтва сувязі нават у сваім апараце не арганізавала гурткоў тэхмінімума. Што-ж робіць партком кіраўніцтва? Як відаць, забыў пра адзін з пунктаў нашага статута, дзе сказана, што члены партыі абавязаны авалодваць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы вытворчую, дзелавую кваліфікацыю. А вучыцца камуністам апарата Белкіраўніцтва сувязі трэба, аб гэтым гавораць бездаказныя адносіны да выканання пастановы ўрада.

Прывядзем яшчэ адзін факт. Загадам начальніка кіраўніцтва была створана кваліфікацыйная камісія, якая да 20-X-32 г. павінна была прапусціць усіх памочнікаў начальнікаў райаддзелаў сувязі па тэхнічнай і паштовай частцы. Аднак, на 4-XI-34 г. са 144 чалавек прапушчана было толькі 6, або 4,1 проц. Вярней кажучы—работа фактычна сарвана.

Многімі савецкімі і гаспадарчымі арганізацыямі не выконваецца пастанова СНК СССР аб звароце былых работнікаў сувязі:

> «Абавязаць савецкія і гаспадарчыя органы, дзе працуюць не па спецыяльнасці былыя связісты, звярнуць у сістэму гаспадаркі сувязі былых работнікаў—інжынераў, механікаў і тэхнікаў, якія вышлі з ведамства сувязі з 1-I-34 г.».

Кіраўніцтва сувязі, замест таго, каб па-большэвіцку змагацца за выкананне гэтага пункту пастановы ўрада, сабрала матар'ялы к

1/XI-34 г. (праз 40 дзён пасля пастановы СНК) толькі па 17 раёнах на 59 чал., прычым ні адзін з іх у сістэму сувязі яшчэ не звернут.

Асабліва трэба спыніцца на арганізацыі соцспаборніцтва ў райаддзелах, канторах і іншых прадпрыемствах сувязі.

Профсаюзы і галоўным чынам цэнтральныя праўленні саюзаў паштовай і провалачнай сувязі мала ўважлівы да гэтага важнейшага ўчастка, аб чым красамоўна сведчаць такія факты, як поўная адсутнасць спаборніцтва ў Гарадку, як ахват соцспаборніцтвам толькі 40 чал. са 119 у Пухавічах, як адсутнасць праверкі выканання соцабавязацельстваў у Асвеі і многіх іншых раёнах.

Органы сувязі, райвыканкомы і райкомы партыі павінны па-бальшэвіцку ўзяцца за поўнае і чоткае выкананне апошняй пастановы ўрада. Толькі пры такой умове можна сапраўды палепшыць работу нашай сувязі, дабіцца таго, што яна поўнасцю забяспечыць задавальненне ўсё ўзрастаючых патрэб народнай гаспадаркі і працоўных СССР.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Аб зіноўеўска-трацкісцкай антысовецкай групе

Подлыя падонкі былай зіноўеўскай апазіцыі забілі тав. КІРАВА, аднаго з лепшых сыноў і правадыроў нашай партыі. Гэта найгнуснейшае злачынства зроблена фашыстамі і бандытамі—выхаванцамі Зіноўева і Каменева.

> «Ідэйна-палітычныя ўстаноўкі гэтых бандытаў выцякалі,—заяўляе ў сваіх паказаннях тэрарыст Ханік,—з платформы трацкісцка-зіноўеўскага блока».

Разгромленая на-галаву трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя, страціўшая ўсякую надзею на падтрыманне масамі працоўных, перашла на шлях тэрора і бандытызма, прадыктаванага безнадзейнасцю ажыццяўлення сваіх мэт, лютай ненавісцю гэтых белабандытаў к дыктатуры пролетарыята, к партыі рабочага класа і яго любімага правадыра тав. **Сталіна.**

Чым грандыёзней нашы перамогі, чым бліжэй мы падыходзім да пабудовы бясклясавага грамадства, тым люцей становіцца ненавісць класавых ворагаў, тым астрэй формы класавай барацьбы.

> «Іменна таму,—гаворыць т. **Сталін,**—што ўдзельная вага капіталістычных элементаў падае, капіталістычныя элементы чуюць смяротную небяспеку і ўзмацняюць сваё супраціўленне».

Партыя ніколі не была так моцна, так магутна, так маналітна, як цяпер. Уся партыя гатова грудзьмі адстаяць сваю генеральную лінію, лінію ленінскага ЦК, лінію нашага любімага правадыра—вялікага **Сталіна.**

> «Мы не маглі,—паказаў забойца т. Кірава, Нікалаеў,—чакаць змены партыйнага курса метадамі ўнутрыпартыйнай дэмакратыі. Мы аддавалі сабе адказ, што гэты шлях **зусім выключан.** Адсюль заставаўся адзін шлях—шлях тэрарыстычных актаў».

А аб якой змене курса гэтыя тэрарысты марылі—ясна. Яны спрабавалі абезгаловіць сусветны пролетарыят, яны рыхтавалі замах на кіраўнікоў нашай партыі, замах на тав. **Сталіна.** Яны спрабавалі падрыхтаваць інтэрвенцыю, з дапамогай інтэрвентаў звонку звергнуць совецкую ўладу. Врангельскія афіцэры былі іх прамымі саюзнікамі. І не выпадкова пераклічка паміж імі і белагвардзейцамі ў Белградзе, прамое ўказанне дзенікінцаў—«трэба ўбраць Кірава».

> «Леанід (забойца т. Кірава) гаварыў мне,—паказвае брат забойцы,—што звергнуць совецкую ўладу магчыма толькі шляхам нападу на яе замежных капіталістычных дзяржаў, і што

**ён будзе ўсімі мерамі дапамагаць,** будучы за мяжой, усякай капіталістычнай дзяржаве, якая нападзе на Совецкі саюз, каб звергнуць совецкую ўладу».

Нікалаеў гэтую дапамогу ўжо аказаў, ён снабжаў данымі аб СССР консула капіталістычнай дзяржавы, ён у гэтага консула атрымліваў грошы за здрадніцтва соцыялістычнай радзіме, гэты-ж консул выступіў у якасці звязваючага звяна паміж ім—тэрарыстам Нікалаевым—і контррэволюцыянерам Троцкім.

Вось каго выпесцілі Зіноўеў і Каменеў:—бандыгаў, фашыстаў, шпіёнаў. Гэта—законныя дзеці Зіноўева і Каменева.

«Ён (Нікалаеў),—заяўляе ў сваіх паказаннях тэрарыст Звяздоў,—быў звязан з намі на працягу доўгага часу, пачынаючы з 1924 г... Нікалаеў і быў выхаван намі (г. зн. **зіноўеўскай антысовецкай групай),** жывіўся ідэйнымі сокамі нашай групы, і, бясспрэчна, успрыняў увесь вопыт нашай фракцыйнай барацьбы супроць партыі і партыйнага кіраўніцтва».

Стрэл Нікалаева натхняўся барацьбою Зіноўева і Каменева супроць партыі. Гэта яны фабрыкавалі паклёпніцкія, антысовецкія, контррэволюцыйныя тэорыі, на глебе якіх выраслі Нікалаевы, Каталынавы і іншыя белабандыты.

«Толькі ў атручанай, смуроднай атмасферы злоснага паклёпу на партыю, двурушніцкага шыпення, агідных, фальшывых і хлусьлівых пакаянняў, брудных, уладалюбных прагненняў—толькі ў гэтай атмасферы, панаваўшай у замкнутай зіноўеўскай антысовецкай групы, маглі выхавацца і скласціся як закончаныя белагвардзейцы ўсе гэтыя Нікалаевы, Румянцэвы, Левіны, Каталынавы, Шацкія і ім падобныя» («Правда»).

Вось чаму неабходна паказаць увесь гэты чорны шлях барацьбы Зіноўева і Каменева супроць партыі.

* * *

Барацьба Зіноўева і Каменева супроць партыі пачалася, вядома, не з моманту скалачвання імі арганізацыйна-аформленай апазіцыі к XIV з'езду партыі. Гэта барацьба цягнулася ўжо гадамі. Асабліва востры характар набыла барацьба Зіноўева і Каменева супроць партыі ў перыяд паміж лютым і Октябром, у перыяд Октября і непасрэдна пасля захвату ўлады пролетарыятам, пасля перамогі Октябрскай рэволюцыі пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна.

Зіноўеў і Каменеў выступалі супроць Октябрскай рэволюцыі, супроць узброенага паўстання. Больш таго, яны ўчынілі прамое здрадніцтва, выдаўшы буржуазіі найвялікшы сакрэт партыі, план узброенага паўстання.

«Каменеў і Зіноўеў,—пісаў Ленін,—выдалі Родзянку і Керэнскаму рашэнне ЦК сваёй партыі аб узброеным паўстанні і аб утойванні ад ворага падрыхтоўкі ўзброенага паўстання, выбару тэрміну для ўзброенага паўстання».

І далей Ленін выкрывае сапраўднасць іх штрэйкбрэхерства, іх здрадніцтва.

«Праўленне прафесіянальнага саюза пасля **месячных** дэбатаў парашыла: стачка немінуча і наспела, тэрмін утоім ад гаспадароў. Пасля гэтага двое з праўлення ідуць у **нізы** аспрэчваць рашэнне і правальваюцца. Тады двое ідуць у друк перад капіталістамі і выдаюць пры дапамозе паклёпніцкай хлусні рашэнне праўлення, зрываючы гэтым стачку на добрую палову або адцягваючы яе да горшага часу, папярэджваючы непрыяцеля» **(Ленін**, т. XXI, стар. 356).

Зіноўеў і Каменеў спрабавалі запалохваць пролетарыят, партыю тым, што ўзброенае паўстанне прывядзе к пагібелі, што паражэнне немінуча.

«Мы не маем права,—пішуць яны ў сваёй заяве,—ставіць цяпер на карту ўзброенага паўстання ўсё будучае».

Палітыку Леніна і Сталіна яны называюць «згубнай палітыкай». А калі гэта запалохванне не дапамагло, тады яны выдалі ворагу сакрэт партыі.

І калі Окцябрская рэволюцыя перамагла і ўлада ўжо была ў руках пролетарыята, Зіноўеў і Каменеў настойвалі, каб заваяваную крывёй рабочых і салдат уладу вярнуць у рукі буржуазіі. Яны патрабавалі арганізацыі ўрада з усіх «соцыялістычных» партый, г. зн. меншавікоў і эсэраў, яўных ворагаў пролетарскай рэволюцыі.

«Мы не можам спакойна глядзець,—пішуць Зіноўеў і Каменеў,—як палітыка кіруючай групы ЦК (г. зн. Ленін і Сталін) вядзе да страты рабочай партыяй пладоў, гэтай перамогі, да разгрому пролетарыята».

Зіноўеў і Каменеў—ярыя праціўнікі Окцябрскай рэволюцыі—мелі нахабнасць пісаць аб пладах перамогі, якія будуць страчаны. Мы, моў, аралі. За 10 дзён яны «забылі», што іменна яны рабілі ўсё ад іх залежнае, каб гэтай перамогі не было, каб узброенае паўстанне праваліць.

Штрэйкбрэхерская пазіцыя Зіноўева і Каменева к моманту Окцябра, іх патрабаванні адмовіцца ад улады, калі яна ўжо была ў руках пролетарыята—рэзультат усёй іх антыленінскай, антыбольшэвіцкай лініі па пытанню аб характары рэволюцыі. Зіноўеў і Каменеў стаялі па сутнасці на меншавіцкай пазіцыі па пытанню аб характары рэволюцыі ў Расіі. Ужо 21 красавіка—да красавіковай канферэнцыі—Каменеў выступіў адкрыта супроць Леніна ў артыкуле, названым «Нашы разнагалоссі». У гэтым артыкуле Каменеў піша, што пункт погляду Леніна

«прадстаўляецца непрыемлемым, паколькі ён зыходзіць з прызнання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі **скончанай** і разлічан на тэрміновае перараджэнне гэтай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную».

Зіноўеў і Каменеў выступаюць супроць ленінскай тэорыі перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Зіноўеў і Каменеў чакалі поўнага завяршэння буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ад буржуазіі.

Калі да гэтага дадаць спасыланне Каменева на эканамічную адсталасць Расіі, з прычыны чаго яна не можа быць краінай соцыялістыч-

най рэволюцыі,то перад намі з усёй відавочнасцю выступае меншавіцкі характар поглядаў Каменева—Зіноўева: па сутнасці Зіноўеў і Каменеў стаялі на такой пазіцыі, што Расія для рэволюцыі не даспела. Рэволюцыя соцыялістычная можа адбыцца толькі ў высокаразвітай у тэхнічных адносінах краіне. Трэба прадаставіць расійскай буржуазіі ўладу ўсур'ёз і надоўга, каб яна давяла краіну да «чыстага» капіталізма—такою была пазіцыя Каменева—Зіноўева ў час Окцябрскай рэволюцыі.

А гэта ёсць тыповы меншавізм. Гэта—суханаўшчына. Ужо тут крыецца па сутнасці будучы блок з Троцкім, адмаўленне магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Гэта яўна выцякае са спробы Зіноўева апраўдаць сваё штрэйкбрэхерства тым, што паколькі няма рэволюцыі на Захадзе, рэволюцыя ў Расіі не зможа перамагчы.

Уся апазіцыя супроць лініі Леніна і Сталіна на красавіковай канферэнцыі, у час Окцябра і непасрэдна пасля Окцябра, узначаленая Зіноўевым і Каменевым, зыходзіла іменна з гэтай меншавіцкай ацэнкі характару рэволюцыі ў Расіі, са збудавання кітайскай сцяны паміж буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыяй і соцыялістычнай, з пасіўнага чакання, што соцыялістычная рэволюцыя пачнецца на Захадзе ў найбольш развітых у індустрыяльных адносінах краінах.

* * *

З асаблівою сілай барацьба Зіноўева і Каменева супроць партыі аднаўляецца ў 1925 годзе, калі на аснове поспехаў, атрыманых партыяй у аднаўленчым перыядзе, перад партыяй становіцца задача, высунутая нашым правадыром тав. Сталіным, аб індустрыялізацыі нашай краіны, намячаецца пераход к рэканструкцыйнаму перыяду.

Вось як тав. Сталін вызначае соцыяльныя карэнні зіноўеўскай апазіцыі на гэтым этапе.

> «Калі спробы сусветнага капітала к эканамічнаму абкружэнню нашай краіны... ствараюць труднасці знешняга парадку,— то пераход нашай краіны ад аднаўленчага перыяда к перыяду перабудовы прамысловасці і сельскай гаспадаркі наогул, на аснове вышэйшай тэхнікі і ўскладняючаяся ў сувязі з гэтым барацьба паміж капіталістычнымі і соцыялістычнымі элементамі нашай гаспадаркі—ствараюць труднасці ўнутранага парадку» **(Сталін,** «Аб апазіцыі», стар. 311).

У гэты пераломны перыяд узмоцненае супраціўленне капіталістычных элементаў знашло сваё адлюстраванне ў асобе Зіноўева і Каменева.

Не выпадкова на сцэне зноў з'яўляецца Зіноўеў і Каменеў у якасці главароў арганізацыі барацьбы супроць партыі.

> «Цяперашні пераломны перыяд,—гаворыць там-жа тав. Сталін,—напамінае да пэўнай ступені пераломны перыяд Окцябра 1917 года».

Яшчэ да XIV з'езда партыі Зіноўеў і Каменеў пачынаюць свае атакі супроць партыі, супроць ленінізма, супроць сталінскага кіраўніцтва. Зіноўеў рэвізуе ленінізм у асобай кніжцы, якую ён, з мэтай ашуканства і палегчання сваёй рэвізіяніцкай работы, азаглавіў «Ленінізм».

У гэтай кніжцы Зіноўеў выступае з адкрытай трацкісцкай меншавіцкай прапаведдзю аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Тое, што Зіноўеў выступае супроць партыі іменна з гэтай зброяй, тое, што ён свае стрэлы супроць партыі канцэнтруе іменна на пытанні пабудовы соцыялізма ў адной краіне, зусім зразумела. Такая пастаноўка пытання найлепшым чынам адлюстроўвала інтарэсы капіталістычных элементаў нашай краіны, перад якімі Зіноўеў і Каменеў поўнасцю капітулявалі. Што можа быць лепшаю зброяй для капіталістычных элементаў, як не тэорыя Зіноўева—Троцкага аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне? Гэта-ж азначае заклік к таму, каб павярнуць назад к капіталізму, бо «толку ўсёроўна не выйдзе».

> «Але калі гэта верна,—ці варта наогул весці барацьбу за перамогу над капіталістычнымі элементамі нашай гаспадаркі? Ці не вынікае з гэтага, што такая перамога немагчыма?
>
> **Капітуляцыя перад капіталістычнымі элементамі нашай гаспадаркі**—вось куды прыводзіць унутраная логіка аргументацыі Зіноўева» (**Сталін,** «Пытанні ленінізма», стар. 224).

З гэтай меншавіцкай, трацкісцкай тэорыяй Каменеў і Зіноўеў выступалі яшчэ да XIV партканферэнцыі.

> «Не так даўно,—чытаем у «Адказе» маскоўскага камітэта ВКП(б) на ліст ленінградскай губпартканферэнцыі,—Каменеў і Зіноўеў абаранялі ў палітбюро той пункт погляду, нібы мы не зможам справіцца з унутранымі труднасцямі з-за нашай тэхнічнай і эканамічнай адсталасці, калі толькі нас не выратуе міжнародная рэволюцыя. Мы-ж, разам з большасцю ЦК, думаем, што мы можам будаваць соцыялізм, будуем і пабудуем яго, не гледзячы на нашу тэхнічную адсталасць і наперакор ёй».

На паседжанні ЦК Зіноўеў і Каменеў, атрымаўшы адпоpower адпаведзь, вымушаны былі адступіць. Але яны падпарадкаваліся па гэтаму пытанню пункту погляду ЦК **фармальна**, і «падпарадкваўшыся яму фармальна, Зіноўеў увесь час прадаўжаў барацьбу з ім» (**Сталін,** «Пытанні ленінізма», стар. 227).

XIV партканферэнцыя прымае спецыяльную рэзалюцыю супроць трацкісцкай тэорыі немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Гэту тэорыю немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне партыя кваліфікуе як меншавізм. Гэта тэорыя, як гаворыць рэзалюцыя XIV канферэнцыі, асуджае пролетарыят СССР у сучасны перыяд на фаталістычную пасіўнасць. Зіноўеў і Каменеў фармальна галасуюць за гэту рэзалюцыю, але не паспеў яшчэ высахнуць атрамант, як Зіноўеў і Каменеў адкрылі вайну супроць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

У гэтай-жа антыленінскай з пачатку да канца кніжцы («Ленінізм») Зіноўеў выхалашчвае сугнасць марксізма-ленінізма і выступае супроць міжнароднага значэння ленінізма. Зіноўеў выступае супроць таго, што галоўным у марксізме і ленінізме з'яўляецца дыктатура пролетарыята. Ён вызначае як галоўнае ў ленінізме сялянскае пытанне. Зіноўеў робіць гэтым спробу вырваць з рук змагаючагася пролетарыята самую каштоўную, самую дзейсную зброю—ленінізм.

Вось як тав. Сталін выкрывае сутнасць зіноўеўскага манеўра:

«Адно з двух:

**або** сялянскае пытанне з'яўляецца галоўным у ленінізме, і тады ленінізм непрыгодны, неабавязковы для краін капіталістычна развітых, для краін, якія не з'яўляюцца сялянскімі краінамі;

**або** галоўным у ленінізме з'яўляецца дыктатура пролетарыята, і тады ленінізм з'яўляецца інтэрнацыянальным вучэннем пролетарыяў усіх краін, прыгодным і абавязковым для ўсіх без выключэння краін, у тым ліку і для капіталістычна развітых» (**Сталін**, «Пытанні ленінізма», стар. 193).

Зіноўеў таксама і тут блакіраваўся з меншавізмам, трацкізмам. Вядома, што такі манеўр зрабіў у свой час лідэр аўстрыйскіх меншавікоў Бауэр. Не маючы магчымасці выступіць перад венскімі пролетарыямі з адкрытым паклёпам супроць ленінізма, абліць яго брудам, Бауэр пусціўся ў «філасофію» ў стылі—«што рускаму здарова, то немцу смерць». Ленінізм прыгодны можа быць для Расіі, але ні ў якім разе не для Заходняй Еўропы, дзе ёсць дэмакратычныя традыцыі, дзе шлях к соцыялізму ляжыць праз парламентарызм. За гэта ўхапіўся дваровы пёс буржуазіі—лідэр ППС Недзялкоўскі, які вызначыў большэвізм, як «азіяцкі марксізм». У кампаніі з ім аказаўся Зіноўеў. Ім якраз Зіноўеў прыпаднёс зброю барацьбы супроць ленінізма.

Агульнавядома таксама і тое, што адмаўленне міжнароднага значэння ленінізма—улюбёны манеўр контррэволюцыйнага трацкізма і трацкісцкіх кантрабандыстаў. Гэта мы бачым таксама на прыкладзе трацкісцкага кантрабандыста Слуцкага, выкрытага т. Сталіным у яго гістарычным лісце ў часопіс «Пролетарская революция». Такі паклёп на партыю наводзіў таксама трацкіст Рыўлін, які прапаведваў у сваіх лекцыях, што Ленін уступіў на міжнародную арэну толькі ў 1907 г., значыць да 1907 г. рэволюцыйны рух у міжнародным маштабе ішоў як быццам паміма Леніна, па-за яго кіраўніцтвам. Як вядома, трацкіст Рыўлін быў выкрыт тав. Гікало ў яго выступленні на менскім партактыве.

Адначасова з гэтым Зіноўеў выступае супроць трох лозунгаў Леніна па сялянскаму пытанню. Зіноўеў выступіў супроць палітыкі моцнага саюза з сялянствам, выстаўляючы для таго этапа і ў якасці канчатковага лозунга—лозунг аб нейтралізацыі серадняка. Падобныя антыленінскія погляды Зіноўеў прапаведвае ў сваёй «філасофіі эпохі». Па ўсіх гэтых пытаннях Зіноўеў і Каменеў пераходзяць на пазіцыі трацкізма-меншавізма. У аснове адмаўлення Зіноўевым і Каменевым магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне ляжала:

«упэўненасць Зіноўева ў тым, што тэхнічная адсталасць нашай краіны з'яўляецца непераможнай перашкодай пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства» (**Сталін**, «Пытанні ленінізма», стар. 226).

Значыць, Зіноўеў і Каменеў у 1925 г. звярнуліся да тых меншавіцкіх пазіцый, што ў Окцябры 1917 г. Значыць, яны хацелі ў 1925 г. апраўдаць сваё гнуснае штрэйкбрэхерства ў 1917 г., у чым

яны ўжо каяліся. Інакш кажучы, з апазіцыі Каменева і Зіноўева ў 1925 г. выцякае, што не трэба было брацца за зброю, што Окцябрская рэволюцыя не можа прывесці да пераможнага завяршэння, бо ў нашай краіне соцыялізм усёроўна не можа быць пабудован.

Але на варце ленінізма, на варце міжнароднай рэволюцыі, на варце пабудовы соцыялізма ў нашай краіне стаіць саратнік і прадаўжацель Леніна—вялікі **Сталін.** Ён з непераможнаю сілай адбівае на практыцы і ў тэорыі ўсе атакі ворагаў на справу Леніна. Ён падвяргае поўнаму знішчальнаму разгрому ўсякую спробу фальсіфікацыі, рэвізіі ленінізма. Зіноўеў і Каменеў ставяць таму ў якасці сваёй асноўнай задачы барацьбу супроць правадыра партыі, супроць т. **Сталіна.**

Зіноўеў і Каменеў пераходзяць да арганізацыі антыпартыйнай і антысовецкай групы для барацьбы супроць ленінскага ЦК, і ў прыватнасці супроць т. Сталіна. Яны становяцца арганізатарамі так званай «ленінградскай апазіцыі».

Зіноўеў спецыяльна выступіў на ленінградскай канферэнцыі з заклікам «к вайне супроць масквічоў», г. зн. к вайне супроць ЦК. Зіноўеў прапанаваў выбраць дэлегацыю з людзей «гатовых к барацьбе супроць ЦК».

У якасці рэпетыцыі к звяржэнню ЦК Зіноўеў парашыў пачаць з комсамола. Ён даў дырэктыву сваім аднадумцам з комсамола склікаць у Ленінградзе праз галаву ЦК ВЛКСМ усесаюзную нараду комсамола. У выпадку «удачы» гэта паслужыла-б сігналам к падобным дзеянням у адносінах ЦК ВКП(б). Але партыя расшыфравала і выкрыла гэты фракцыйны, контррэволюцыйны манеўр Зіноўева і перасякла яго ў самым зародку.

Пры гэтым трэба асоба адзначыць, што тыя людзі, якіх Зіноўеў прыцягваў к расколу ў комсамоле і партыі, што гэтыя-ж людзі аказаліся цяпер сярод удзельнікаў і арганізатараў падпольнай тэрарыстычнай групы «Ленінградскі цэнтр». Зіноўеў выкладаў ім лекцыі барацьбы супроць партыі і совецкай улады. Гэта яго вучні ўклалі зброю ў рукі Нікалаева. Яны з'яўляюцца вучнямі Зіноўева ў літаральным, сапраўдным сэнсе гэтага слова.

* * *

Зіноўеўска-каменеўская апазіцыя выступае на XIV з'ездзе з разгорнутай платформай барацьбы супроць ленінскай лініі ЦК.

Стрыжнёвым пытаннем, яднаючым усе рознашэрсныя элементы гэтай антысовецкай групы, з'яўляецца пытанне аб змене партыйнага кіраўніцтва, аб барацьбе супроць ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным.

> «Каменеў гаварыў адно, цягнуў у адзін бок, Зіноўеў гаварыў другое, цягнуў у другі бок, Лашэвіч—трэцяе, Сакольнікаў—чацвертае. Але, не гледзячы на рознастайнасць, усе яны выходзіліся на адным. На чым-жа, у чым-жа іх платформа? Іх платформа—рэформа сакратарыята ЦК. Адзіна агульнае, што ўпаўне яднае іх—пытанне аб сакратарыяце» (**Сталін,** «Аб апазіцыі», стар. 228).

А што гэта за пытанне аб сакратарыяце? Пад гэтым хаваецца змена кіраўніцтва партыі, барацьба супроць т. Сталіна. Каменеў на

XIV з'ездзе так і заявіў, што галоўнае, што іх натхняе—гэта барацьба супроць т. Сталіна.

Аб тым, што апазіцыя markdownрознашэрсна, беспрынцыпна, што іх яднае толькі адзін прынцып—барацьба супроць партыі, у гэтым былі вымушаны прызнацца і адкрытыя ворагі, якія дружалюбна і апякунскі пахлопвалі апазіцыю па плячы.

Вось што пісаў меншавіцкі «Соц. Вестник»:

> «Выходзяцца і «антысялянскі» настроены Троцкі і «сялянафіл» Сакольнікаў, «левы» Каменеў і «правы» Медзведзеў, «рэўніцель» Комінтэрна Зіноўеў і адмавіцель яго Шляпнікаў».

Аб'яднанне на агульнай платформе адбылося, паводле слоў самога «Соц. Вестника», на аснове

> «адсоўвання на другі план падзяляючых групкі соцыяльна-эканамічных пытанняў і высоўвання ў першую чаргу яднаючай іх барацьбы... супроць Сталіна».

Пераходзячы ад пытанняў арганізацыйных да іншых поглядаў зіноўеўска-каменеўскай апазіцыі, трэба ўказаць, што яднаючым, асноўным было пытанне аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне і тым самым—адмаўленне магчымасці перамогі соцыялізма ва ўсім свеце. Гэта была «ідэйная» платформа, якая аб'яднала ўсіх апазіцыянераў.

Апазіцыя далей пашла па шляху барацьбы супроць партыі і савецкай улады. Апазіцыя сцвярджала, што нашы дзяржаўныя прадпрыемствы не з'яўляюцца прадпрыемствамі паслядоўна соцыялістычнага тыпу. Зіноўеўская антысавецкая група сцвярджала, што галоўнай формай нашага гаспадарання з'яўляецца дзяржкапіталізм, што нашы прадпрыемствы з'яўляюцца прадпрыемствамі дзяржаўна-**капіталістычнага** тыпу. Зіноўеў і Каменеў дашлі, нарэшце, да такога антысавецкага, гнуснага паклёпу супроць СССР, што на нашых дзяржаўных прадпрыемствах ёсць эксплаатацыя. Варта толькі проціпаставіць нашу напружаную барацьбу за выкананне промфінплана, энтузіязм рабочых мас у справе асваення нашай тэхнікі, у справе павышэння прадукцыйнасці працы—варта ўсё гэта проціпаставіць гнуснаму паклёпу Зіноўева—Каменева аб наяўнасці эксплаатацыі на нашых прадпрыемствах, каб адразу-ж бачыць непасрэдна-контррэволюцыйны характар «вучэння» паноў Зіноўева і Каменева.

Толькі шалёная злоба ў барацьбе супроць партыі магла парадзіць такія антысавецкія погляды.

Калі заходне-еўрапейскія рабочыя выступаюць з лозунгам «Рукі прэч ад Совецкага саюза», Зіноўеў і Каменеў прадастаўляюць у распараджэнне інтэрвентаў зброю для падаўлення голасу рабочага класа, сваю «тэорыю» аб дзяржкапіталізме і наяўнасці эксплаатацыі на нашых заводах.

Зіноўеў і Каменеў выступілі на XIV з'ездзе з поўнай рэвізіяй ленінізма па сялянскаму пытанню. Зіноўеўская апазіцыя паклёпнічала на партыю, на ленінскі ЦК, абвінавачваючы яго ў «спаўзанні з пролетарскіх пазіцый», «у сялянскім ухіле», а на самай справе, адмаўляючы магчымасць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, Зіноўеў і Каменеў адстойвалі трацкісцкае адмаўленне саюза з сялянствам,

адмаўлялі магчымасць соцыялістычнай перапрацоўкі працоўных мас сялянства, адмаўлялі магчымасць соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

XIV з'езд партыі—гэта з'езд індустрыялізацыі. На гэтым з'ездзе тав. Сталін высунуў на аснове вучэння Леніна свой геніяльны план індустрыялізацыі нашай краіны. Якавы-ж былі адносіны зіноўеўцаў да лозунгаў індустрыялізацыі? Яны змагаліся супроць яе. Трубадур зіноўеўскай апазіцыі Шанін сцвярджаў, што нам цяжкая індустрыя не да твару, што нам нельга перамагчы наяўныя труднасці і стварыць сваю буйную прамысловасць, бо ўсёроўна соцыялізма не пабудаваць. Наша краіна павінна застацца краінай адсталай тэхнікі. Гэта поўнасцю і цалкам вынікала з меншавіцкай платформы Зіноўева і Каменева аб неперасільнасці нашай тэхнічнай адсталасці.

«Яны хацелі-б,—гаварыў тав. Сталін,—абмежаваць нас вытворчасцю, скажам, бацінак, але нам гэтага мала, бо мы хочам выраблядь не толькі бацінкі, але і машыны, якія вырабляюць бацінкі, і т. д. і т. п.» (**Сталін**, «Аб апазіцыі», стар. 205).

Тут з асаблівою сілай трэба выкрыць гнюснае ашуканства зіноўеўскай апазіцыі, якая некалькі пазней, у адкрытым блоку з Троцкім, прыкрывала сваю барацьбу супроць індустрыялізацыі лозунгам «звыш'індустрыялізацыі», як быццам трацкісты і зіноўеўцы жадалі паднядь нашу краіну на яшчэ больш высокую ступень індустрыяльнага развіцця. Гэта гнюснае ашуканства. Недарма звыш'індустрыялізатары знаходзіліся ў адным блоку з Сакольнікавым, з адкрытым прапаведнікам тэхнічнай адсталасці Шаніным. «Звыш'індустрыялізацыя» зіноўеўска-трацкісцкага блока ёсць барацьба за зрыў індустрыялізацыі.

«Аб трацкістах існуе думка,—гаворыць т. Сталін,—як аб звыш'індустрыялістах. Але гэтая думка правільна толькі часткова, яна правільна толькі пастолькі, паколькі гутарка ідзе аб канцы аднаўленчага перыяда... Што датычыць рэканструкцыйнага перыяда, то трацкісты **з пункту погляду тэмпаў з'яўляюцца самымі крайнімі мінімалістамі і самымі паганенькімі капітулянтамі**» (**Сталін**, «Палітсправаздача XVI з'езду»).

Тав. Сталін выкрывае трацкісцкую звыш'індустрыялізацыю, як індустрыялізацыю **патухаючай** крывой. А пра тэорыю патухаючай крывой тав. Сталін некалькі раней гаворыць:

«Гэта тэорыя ёсць тэорыя апраўдання нашай адсталасці. Яна не мае нічога агульнага з марксізмам, з ленінізмам».

Па пытаннях унутрыпартыйных зіноўеўская антысовецкая група, як мы ўжо ўказалі, дабівалася галоўным чынам змены кіраўніцтва. Яе асноўны лозунг—барацьба супроць ленінскага ЦК, у прыватнасці супроць прадаўжальніка Леніна—тав. Сталіна. Зіноўеўская апазіцыя патрабавала свабоду фракцый і груповак. Зіноўеўская апазіцыя патрабавала растварыць партыю ў класе, паўтарала зады меншавікоў і Троцкага на II з'ездзе партыі.

* * *

XIV з'езд партыі рашуча асудзіў, як антыленінскую, варожую рабочаму класу платформу зіноўеўскай апазіцыі. Але Зіноўеў і Каменеў сваёй барацьбы супроць партыі не пакінулі. Наадварот, яны перашлі да яшчэ больш узмоцненых атак супроць партыі. Яны пера-

ходзяць на нелегальныя «лясныя» сходы па ўсіх правілах канспірацыі. Зіноўеўска-каменеўская антысовецкая група пераходзіць у цесны, арганізавана аформлены блок з Троцкім. Разам з ім яны рыхтуюць арганізацыю другой партыі, накіраванай к звяржэнню сілаю ленінскага ЦК, к звяржэнню дыктатуры пролетарыята.

Зіноўеўска-трацкісцкі блок бярэ на сябе задачу расчысціць шлях для контррэволюцыйнага перавароту. Уся контррэволюцыя, меншавікі і кадэты, манархісты і эсэры, з надзеяй і ўміленнем глядзяць на апазіцыю.

«Апазіцыя,—піша кадэт Талін,—дыктатуру (справа ідзе аб дыктатуры пролетарыята) падрывае. Кожнае новае выданне апазіцыі выгаварвае ўсё больш «страшныя» словы. Сама апазіцыя эвалюцыянізуе ў бок усё больш рэзкіх наскокаў на пануючую сістэму, і гэтага пакуль даволі, каб з падзякай **успрыняць яе».**

Зубр контррэволюцыі Мілюкоў піша:

> **«Самы старшы вораг** для совецкай улады цяпер ёсць той, хто падпаўзае да яе непрыметна, ахапляе яе сваімі шчупальцамі з усіх бакоў і ліквідуе яе раней, чым яна заўважвае, што яна ліквідавана. Іменна гэтую ролю, немінучую і патрэбную ў падрыхтоўчым перыядзе... **адыгрывае апазіцыя».**

Зіноўеўска-трацкісцкі антысовецкі блок фабрыкуе «тэорыі», якія па сутнасці азначаюць заклік да звяржэння совецкай улады, яны ўзмоцнена займаюцца насаджваннем такой ідэалогіі, што совецкая ўлада—не ўлада пролетарыята, што совецкая ўлада перараджаецца.

Зіноўеў, Каменеў, Троцкі пусцілі ў ход свой гнусны паклёп супроць партыі, абвінавачваючы яе ў «нацыянальнай абмежаванасці». Паклёп гэты заключаўся ў тым, што партыя, моў, забылася пра інтарэсы міжнароднага пролетарыята, думаючы толькі аб умацаванні СССР. Стала быць, умацаванне СССР—бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята—не толькі не азначае ўмацавання пазіцый усяго міжнароднага пролетарыята, але як-бы процістаіць інтарэсам міжнароднай рэволюцыі. Адсюль—клопаты аб умацаванні совецкай улады ў СССР з'яўляюцца перашкодай для міжнароднага пролетарыята.

Хіба гэта гнусная «тэорыя» не з'яўляецца непасрэднаю зброяй для інтэрвентаў? Хіба яна не апраўдвае пад прыкрыццём «інтарэсаў міжнароднай рэволюцыі» узброенае выступленне супроць совецкай улады?

Такою-ж ідэалагічнаю падрыхтоўкай і апраўданнем узброенага выступлення супроць совецкай улады з'яўляецца тэзіс аб Клемансо, пушчаны зіноўеўска-трацкісцкім антысовецкім блокам.

Імперыяліст Клемансо навучаў, што калі ў час вайны існуючы ўрад не забяспечвае перамогі, можна, з пункту погляду патрыятызма, гвалтоўна мяняць урад: вораг ля варот—мяняй урад.

Вось гэту філасофію Клемансо зіноўеўска-трацкісцкая апазіцыя прымяніла к совецкай краіне. Совецкая ўлада, моў, «не забяспечвае перамогі», яна не ідзе на авантуры і путчызм, а таму— мяняй урад!

Вось яна—тая ідэалагічная школа, з якой выраслі Нікалаевы, Каталынавы і інш. Зіноўеў ужо раней выхоўваў іх у духу «мяняй урад», г. зн. мяняй совецкую ўладу. Адсюль прамы шлях у габінет капіталістычных консулаў. Ад гэтых тэорый Троцкага-Зіноўева-Каменева прамы шлях да стрэлу ў Смольным.

Трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя разлічвала шляхам нечуванай дэмагогіі, неймавернай маны і ашуканства завербаваць на свой бок некаторую частку членаў партыі, але разлікі яе аказаліся дарэмнымі. Яе адусюль з ганьбай праганялі, не дапамагала мана, паклёп і дэмагогія. Зіноўеўска-трацкісцкая апазіцыя ідзе тады на такі манеўр: яна выступае з двурушніцкай заявай ад 10/X-26 г., што распускае сваю фракцыю і капітулюе перад партыяй. Гэтай заявай апазіцыя прыкрывала сваю падрыхтоўку далейшых наскокаў супроць партыі, яшчэ больш абвостраных форм барацьбы.

XV партканферэнцыя (лістапад 26 г.) праходзіць пад знакам поўнага ідэйнага банкроцтва трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі. Апазіцыя ўяўляе сабой, не гледзячы на ўсе яе намаганні пранікнуць з дапамогай подлай дэмагогіі ў масы, мізэрную жменьку. «Левая» мішура з яе сарвана. Гістарычны даклад т. Сталіна падвяргае ўсю тэорыю трацкізма, увесь ідэйны багаж трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі поўнаму разгрому, не пакідаючы каменя на камені. Тав. Сталін у сваім дакладзе выкрывае да канца меншавіцкую контррэвалюцыйную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскага антысавецкага блока, узнімае на аснове вучэння Леніна тэорыю марксізма-ленінізма на вышэйшую ступень.

Разбітая апазіцыя набывае адкрыты контррэволюцыйны антысавецкі характар і становіцца на чале ўсіх контррэволюцыйных элементаў краіны. Яна спрабуе арганізаваць антысавецкую дэманстрацыю ў дзень 10-годдзя Окцябра. Троцкі становіцца авангардам контррэволюцыі.

> «Хто даў,—пытаецца т. Сталін,—контррэволюцыйнай буржуазіі духоўную зброю супроць большэвізма ў выглядзе тэзіса аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, у выглядзе тэзіса аб немінучасці перараджэння большэвікоў і т. п.? Гэтую зброю даў ёй трацкізм. Нельга лічыць выпадковасцю той факт, што ўсе антысавецкія групоўкі ў СССР у сваіх спробах абгрунтаваць неўнікнёнасць барацьбы з савецкаю ўладай спасылаліся на вядомы тэзіс трацкізма аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, аб неўнікнёнасці перараджэння савецкай улады, аб імавернасці звароту да капіталізма.
>
> Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі ў СССР тактычную зброю ў выглядзе спроб адкрытых выступленняў супроць савецкай улады? Гэтую зброю далі ёй трацкісты, якія спрабавалі наладзіць антысавецкія дэманстрацыі ў Маскве і Ленінградзе 7 лістапада 1927 г. Гэта факт, што антысавецкія выступленні трацкістаў узнялі дух у буржуазіі і развязалі шкодніцкую работу буржуазных спецыялістаў.
>
> Хто даў контррэволюцыйнай буржуазіі арганізацыйную зброю ў выглядзе спроб наладжвання падпольных антысавецкіх арганізацый? Гэтую зброю далі ёй трацкісты, якія арганізавалі сваю ўласную антыбольшэвіцкую нелегальную групу. Гэта факт, што падпольная антысавецкая работа трацкістаў палегчыла арганізацыйнае афармленне антысавецкіх груповак у СССР» (**Сталін**, «Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма»).

Троцкі быў выключан з партыі і як вораг рабочага класа вcase з СССР. Зіноўеў, Каменеў і наогул усе трацкісты і зіноўеўцы былі выключаны з партыі на XV з'ездзе.

Вораг мяняе сваю тактыку. Выгнаныя з партыі апазіцыянеры атрымліваюць дырэктыву каяцца, прызнаваць свае памылкі, дабівацца аднаўлення ў партыі і прадаўжаць сваю гнусную справу падрыву партыі знутры. Многія з каючыхся апазіцыянераў рабілі сваё пакаянне па непасрэдных дырэктывах контррэволюцыйных астаткаў апазіцыі з мэтай барацьбы супроць партыі.

Вось гэткім—з каменем за пазухай—было пакаянне Зіноўева і Каменева. Не паспеў яшчэ высахнуць атрамант на іх пакаяннай заяве, як яны ўжо аказваюцца арганізатарамі новых контррэволюцыйных змоў супроць партыі. Яны адыгрывалі ролю арганізатараў у стварэнні контррэволюцыйнай групы Руціна. Зіноўеў і Каменеў паўторна выключаюцца з партыі, злоўленыя з палічным.

Наступае XVII з'езд партыі. З'езд дэманструе найвялікшыя перамогі партыі Леніна—Сталіна. Першая пяцігодка паспяхова выканана. Справа пабудовы бяскласавага грамадства ў нашай краіне стала фактам. Яна ажыццяўляецца ўваччу ўсяго свету. Кулацтва, пра якое Зіноўеў прарочыў, што яно будзе ў нас расці і расці, у асноўным ліквідавана як клас на базе суцэльнай калектывізацыі, прыватна-капіталістычныя элементы ў прамысловасці, якім Зіноўеў і Каменеў «абяцалі» поўную перамогу над соцыялізмам, амаль знішчаны, складаючы 0,07 проц. Сялянства, якому Зіноўеў і Троцкі прадракалі немінучы раскол з пролетарыятам, стала беспаваротна на шлях соцыялізма.

Зіноўеў і Каменеў паўторна каяліся, і паўторна з каменем за пазухай. У той дзень, калі Зіноўеў і Каменеў пісалі свае пакаянныя словы, у Ленінградзе яго выхаванцы і вучні раіліся, як забіваць правадыроў рэволюцыі, Шацкі і Каталынаў вялі ўжо сваю подлую слежку за трыбунам рэволюцыі. Зіноўеў і Каменеў пусцілі сваю атручаную стралу ў сэрца рэволюцыі. Яны бачылі палёт гэтай стралы, яны бачылі, куды яна накіравана і... фарысейскі, двурушніцкі каяліся. Тым часам іх выхаванцы тэрарысты мецілі паставіць Зіноўева і Каменева на чале новага контррэволюцыйнага ўрада.

Кожны працоўны, кожны рабочы з глыбокім задавальненнем прачытаў паведамленне НКВД аб высылцы гэтых натхняльнікаў фашызма і бандытызма. Кожны рабочы, кожны працоўны з глыбокім задавальненнем сустрэў прыгавор Вярхоўнага суда аб расстрэле катаў-тэрарыстаў, членаў контррэволюцыйнай бандыцка-фашысцкай арганізацыі.

* * *

Стрэл у тав. Кірава паказаў, наколькі лютуе ў сваёй шалёнай ненавісці ахвосце разбітай контррэволюцыі. Класавы вораг, яго мізэрныя рэшткі напярэдадні сваёй канчатковай пагібелі актывізуюцца.

Ва ўмовах БССР, пагранічнасці яе становішча, пры наяўнасці недабітых астаткаў нацыяналістычных, трацкісцкіх элементаў, патрабуецца асабліва вострая класавая пільнасць. Мы маем рад фактаў актывізацыі трацкісцкіх, нацдэмаўскіх і бундаўскіх элементаў.

Факты наглых трацкісцкіх вылазак у мед'інстытуце, ВКСГШ, ваенным выдавецтве, у Барысаве—сведчаць, што класавы вораг прадаўжае весці сваю антысовецкую, контррэволюцыйную работу.

Класава-варожыя, контррэволюцыйныя элементы, пралезшыя ў Мед'інстытут, пад выглядам «дыскусіі» прапаведвалі, што трацкізм

спрыяў развіццю ленінізма. Трацкіст Руды, які падпісаў контррэвалюцыйную «заяву 83», прапагандаваў, што гісторыю партыі сталі вывучаць дзякуючы трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, што партыя ў час грамадзянскай вайны расла за кошт кар'ерысцкіх элементаў, што сялянства варта пабіць. Руды прыкрываў адкрыта-трацкісцкую пропаведзь аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Трацкіст Разумоўскі прапаведаваў у вячэрнім комвузе, што становішча рабочага класа з года ў год нібы пагаршаецца.

Ліквідацыяй тэрарыстычнай групы забойц тав. **Кірава** барацьба з астаткамі контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх, нацдэмаўскіх, бундаўскіх элементаў—не закончана. Мізэрныя рэшткі ліквідуемых класаў у безнадзейнай роспачы змагаюцца з узмоцненай супрацiўляемасцю.

Пільней вока, мацней удар па кожнай вылазцы ворага. Совецкая зямля павінна быць ачышчана ад зіноўеўска-трацкісцкага авхосця.

> «Пільнасць патрабуе не толькі памятаць аб ворагу. Пільнасць патрабуе, каб мы падзесяцярылі сваю ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўсюды разілі ворага, да канца выкарчоўвалі яго астаткі» **(Кагановіч).**

Шчыльней рады вакол ленінскага ЦК, вакол любімага і вялікага Сталіна!

# Кніжная паліца

## ЛЕНИН, В. И. КОММУНИСТИЧЕСКИЙ ИНТЕРНАЦИОНАЛ.

Статьи, речи, документы 1914—1923 г. под ред. **В. Кнорина.** Москва. Партиздат. (Институт Маркса—Энгельса—Ленина при ЦК ВКП(б)) 1934 г. С. 518. Ц. 4 р. 20 к.

Гэта выданне, падрыхтаванае Інстытутам Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б), яднае ўсе важнейшыя артыкулы, прамовы, дакументы і пісьмы В. І. Леніна, **прысвечаныя пытанням міжнароднага рабочага руху.** Выданне ахапляе перыяд 1914—1923 гг. Даны першы том гэтага выдання змяшчае творы 1914—1919 гг. эпохі імперыялістычнай вайны і падрыхтоўкі Комуністычнага Інтэрнацыянала.

У дакументах, належачых пяру Уладзіміра Ільіча, знаходзіць геніяльна-яркае адлюстраванне ўся гісторыя барацьбы большэвікоў за стварэнне III Інтэрнацыянала. Пяру Леніна належаць усе тыя важнейшыя дакументы, якія вызначалі асноўнае ў праграме, стратэгіі, тактыцы, арганізацыі Комінтэрна. Тэзісы Леніна к кангрэсам Комінтэрна, яго праграмныя прамовы на гэтых кангрэсах, яго артыкулы на міжнародныя тэмы, яго бліскучыя пісьмы замежным комуністам—усё гэта прадстаўляе сапраўдную скарбніцу, адкуль чэрпаюць і будуць чэрпаць кіруючыя ўказанні Комінтэрн і яго секцыі ў сваёй барацьбе за звяржэнне капіталізма, за Савецкую ўладу ва ўсім свеце.

Увесь матар'ял гэтага тома, пад загалоўкам «На пути к Коммунистическому Интернационалу», распаложан строга па гадам. У канцы кнігі—паказчыкі імён.

**ЛЕНІНІЗМ.** Хрэстаматыя. Састаўлена брыгадай ЛОКА: **А. Леанідаў, М. Мішын, Д. Руднік, Л. Турак, Н. Тюшэўскі.** Пад агульн. рэд. **В. Быстранскага** і **М. Мішына.** Перакл. з 2-га руск. перапрацаванага выдання. Менск, Партвыдавецтва, 1934. С. 700. Ц. 5 р. 10 к.

Гэта выданне «Хрэстаматыі» з'яўляецца перапрацаваным выданнем 1933 г. Выданне дапоўнена матар'яламі XVII з'езда партыі, XIII пленума ВККІ і вышаўшай у 1934 г. класічнай работы т. Сталіна «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне».

Рад адрыўкаў заменен новымі, некаторыя із'яты цалкам з мэтай скарачэння аб'ёму кнігі. Акрамя таго, у гэтым выданні зноў перагледжаны і ўдакладнены загалоўкі.

Матар'ял кнігі разбіт на наступныя дзесяць тэм. 1. Ленінізм-марксізм эпохі імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі; 2 Метад і тэорыя; 3. Тэорыя пролетарскай рэволюцыі; 4. Дыктатура пролетарыята;

5. Барацьба за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва; 6. Аграрна-сялянскае пытанне; 7. Нацыянальна-каланіяльнае пытанне; 8. Стратэгія і тактыка; 9. Вучэнне аб партыі; 10. Стыль у рабоце.

Усе работы Леніна даны па 2-му і 3-му выданнях твораў Леніна; работы Сталіна—па 9-му выд. «Пытанняў ленінізма»; работы Маркса і Энгельса—па «Двухтомніку» выбраных твораў Маркса і па збору твораў Маркса і Энгельса.

У канцы змешчан падрабязны ўказальнік дадатковай літаратуры (нязмешчанай у хрэстаматыі) да кожнага раздзелу тэм.

## МОЛАТАЎ, В. М. АБ АДМЕНЕ КАРТАЧНАЙ СІСТЭМЫ ПА ХЛЕБУ

Даклад на пленуме ЦК ВКП(б) 25 лістапада 1934 г. Менск, Партвыдавецтва, 1934. С. 24. Ц. 20 к.

Рашэнне партыі аб адмене картачнай сістэмы па хлебу з'яўляецца новым яркім сведчаннем перамог соцыялізма. У сваім дакладзе на лістападаўскім пленуме ЦК ВКП(б) т. Молатаў паказвае, што картачная сістэма, уведзеная ў годы першай пяцігодкі, ва ўмовах абмежаваных харчовых рэсурсаў пролетарскай дзяржавы, з'яўлялася важнейшай умовай палепшання снабжэння рабочых і служачых, дапамагала ажыццяўленню прынятых партыяй тэмпаў індустрыялізацыі краіны. Аналізуючы буйнейшыя зрухі, якія адбыліся ў эканоміцы СССР—перамога калгаснага ладу, сканцэнтраванне ў руках дзяржавы, праз загатоўкі і закупкі, дастатковай колькасці хлеба для забяспечання ім насельніцтва, шляхам паўсямеснага разгортвання шырокай прадажы і г. д.—т. Молатаў указвае, што пры сучасных умовах картачная сістэма можа быць толькі тормазам у палепшанні снабжэння. Ён паказвае, што адмена картачнай сістэмы па хлебу адкрывае шырокія магчымасці далейшага разгортвання тавараздвароту, уздыму сельскай гаспадаркі і ўмацавання совецкага рубля, падсякае магчымасць спекуляцыі і немінуча прывядзе к зніжэнню цэн і палепшанню становішча працоўных.

---

## Аб адмене картачнай сістэмы па хлебу і некаторых іншых прадуктах

*(Рэзалюцыя пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. В. М. Молатава, прынятая 26 лістапада 1934 г.)*

I. Шпаркі рост гарадоў і новых прамысловых раёнаў, у сувязі з велізарным размахам індустрыялізацыі СССР, і няўхільны пад'ём дабрабыту шырокіх рабочых і сялянскіх мас выклікалі вялікі рост попыту на хлеб і іншыя прадукты, і гэты попыт стаў асабліва хутка ўзрастаць з пачатку першай пяцігодкі. Побач з гэтым узмоцненае развіццё тэхнічных культур, неабходнае для забяспечання нашай прамысловасці ўласнай, савецкай сельска-гаспадарчай сыравінай, патрабавала значнага павелічэння снабжэння хлебам сялянскага насельніцтва раёнаў тэхнічных культур. Між тым, у той перыяд калгасаў і соўгасаў было мала, і наша сельская гаспадарка, і ў прыватнасці зернавая вытворчасць, знаходзілася на вельмі нізкім узроўні. Пераважаўшая тады дробная індывідуальная сялянская гаспадарка з яе адсталай тэхнікай і нізкай ураджайнасцю не магла задаволіць узрастаючага попыту гарадоў, прамысловых раёнаў і раёнаў тэхнічных культур. Гэта выклікала ўвядзенне рацыянавання (картачнай сістэмы) у снабжэнні.

II. Увядзенне картачнай сістэмы па хлебу і іншых прадуктах было не толькі неабходна, але і з'яўлялася на працягу апошніх год важнейшаю ўмоваю палепшання снабжэння рабочых. Картачная сістэма снабжэння ў гэты перыяд была асабліва неабходна таму, што, не гледзячы на значна больш высокія цэны вольнага рынку і наяўнасць элементаў спекуляцыі ў гэтай справе, снабжэнне рабочых хлебам праводзілася па цвёрдых дзяржаўных цэнах.

Толькі дзякуючы гэтай сістэме, дзяржава пры абмежаванасці сваіх рэсурсаў, магла поўнасцю забяспечыць снабжэнне гарадоў і прамысловых раёнаў, забяспечыць пераважнае снабжэнне найбольш важных цэнтраў і ўдарнікаў на вытворчасці, а разам з тым забяспечыць снабжэнне хлебам па цвёрдых дзяржаўных цэнах здатчыкаў сельскагаспадарчай сыравіны: бавоўны, ільну, пянькі, табаку і інш. у інтарэсах пад'ёму тэхнічных культур і росту загатовак сыравіны для прамысловасці.

III. К сучаснаму моманту, калі замест раздробленай дробнай аднаасобнай гаспадаркі ў земляробстве ўмацавалася буйная механізаваная вытворчасць, калі пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі калгасы і соўгасы і калі мы ўжо дабіліся іх значнага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання, становішча карэнным чынам змянілася. Аб гэтым сведчаць не толькі поспехі хлебазагатовак у гэтым

годзе, але і асабліва поспехі хлебазакупак, праводзімых дзяржавай па павышаных цэнах. Дзяржава цяпер мае дастаткова вялікую колькасць хлеба для таго, каб поўнасцю і безумоўна забяспечыць снабжэнне насельніцтва без картачнай сістэмы, шляхам паўсямеснага разгортвання шырокага гандлю хлебам. Пры такім становішчы картачная сістэма па хлебу і некаторых іншых прадуктах можа быць толькі тормазам у палепшанні снабжэння і таму павінна быць адменена.

Адменай картачнай сістэмы па хлебу будзе зроблен новы важнейшы крок да замены сістэмы цэнтральнага размеркавання разгорнутым савецкім гандлем у адпаведнасці з дырэктывамі аб 2-м пяцігадовым плане, прынятымі 17 партыйнай канферэнцыяй.

IV. Ліквідацыя картачнай сістэмы па хлебу і іншых прадуктах павінна ўстраніць існаванне падвойных цэн (нармаваных і камерцыйных) і забяспечыць устанаўленне цвёрдай і адзінай для кожнай вобласці (рэспублікі) прадажнай дзяржаўнай цаны. Гэта адзіная цана па хлебу і іншых прадуктах павінна быць устаноўлена прыблізна на сярэднім узроўні паміж існуючымі высокімі камерцыйнымі цэнамі і занадта нізкімі нармаванымі цэнамі, з улікам розніцы транспартных і іншых умоў снабжэння паасобных раёнаў. У сувязі з тым, што гэта акалічнасць прывядзе к некатораму павышэнню нармаваных цэн на хлеб, пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што павінна быць праведзена адпаведнае павышэнне заработнай платы рабочых і служачых.

V. Адначасова з ліквідацыяй картачнай сістэмы ў гарадах павінна быць поўнасцю адменена нармаванае снабжэнне хлебам у парадку так званага «атаварвання» загатовак сельска-гаспадарчай сыравіны: бавоўны, ільну, табаку і інш. З прычыны некаторага павышэння нармаваных цэн на хлеб, адмена гэтага «атаварвання» павінна суправаджацца адпаведным павышэннем загатоўчых цэн на бавоўну, лён, пянньку і т. д.

VI. Ліквідацыя картачнай сістэмы і пераход да паўсямеснай шырокай прадажы хлеба, а таксама мукі і некаторых іншых прадуктаў павінны суправаджацца шырокім разгортваннем гандлёвай сеткі як у горадзе, так і вёсцы, усямерным развіццём дзяржаўнага і кааперацыйнага хлебапячэння і правільным размяшчэннем хлебных рэзерваў па раёнах снабжэння. Пакідаючы ў сіле ўстаноўлены парадак для калгаснага гандлю, неабходна весці няўхільную барацьбу са ўсякімі спробамі спекуляцыі хлебам і іншымі вылазкамі класавага ворага пры правядзенні данага важнейшага мерапрыемства.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦК ВКП(б) прызнае неабходным:

1. Адмяніць з 1-га студзеня 1935 года картачную сістэму снабжэння хлебам, мукой і крупой і ўстанавіць усюды **шырокую прадажу хлеба** і іншых прадуктаў насельніцтву з дзяржаўных і кааперацыйных магазінаў.

2. Адмяніць усе віды існуючых рознічных прадажных цэн на хлеб, муку і крупу і ўвесці **адзіныя рознічныя дзяржаўныя цэны** на хлеб, муку і крупу прыстасоўна да некалькіх тэрытарыяльных паясоў, якія ўключаюць пэўныя групы абласцей, краёў і рэспублік.

3. У сувязі з адменай картачнай сістэмы і ўстанаўленнем адзіных рознічных цэн на хлеб, муку і крупу, з 1-га студзеня 1935 года **павысіць заработную плату** рабочых і служачых, стыпендыі студэнтаў і пенсіі пенсіянераў.

Прапанаваць Совету Народных Камісараў СССР вызначыць размеры павышэння заработнай платы для паасобных галін народнай гаспадаркі з улікам захавання пераваг, устаноўленых для паасобных груп і катэгорый рабочых па картачнай сістэме снабжэння.

4. Адмяніць з 1 студзеня 1935 года існуючы парадак нармаванага водпуску хлеба здатчыкам сельска-гаспадарчай сыравіны і разгарнуць шырокую прадажу печанага хлеба і мукі ва ўсіх раёнах загатовак сельска-гаспадарчай сыравіны.

5. У сувязі з устанаўленнем адзінай рознічнай цаны на хлеб і муку, **павысіць загатоўчыя цэны** на сельска-гаспадарчую сыравіну, за здачу якой дзяржаве адпускаўся дзяржавай калгасам, калгаснікам і аднаасобнікам хлеб па зніжаных цэнах.

Прапанаваць Соўнаркому Саюза ССР устанавіць новыя загатоўчыя цэны на розныя віды і гатункі бавоўны, ільну, пянькі, табаку і т. д., па паясах і раёнах, а таксама ўстанавіць новыя загатоўчыя цэны па паясах і раёнах на махорку, коканы, каракуль, пушніну, шэрсць і рыбу, здаваемую дзяржаве рыбалоўнымі калгасамі.

6. Устанавіць **шырокую прадажу зернафуража** як для насельніцтва, так і для дзяржаўных, калгасных і кааперацыйных спажыўцоў з дзяржаўных і кааперацыйных складаў і крам па адзіных паясных дзяржаўных цэнах.

7. Устанавіць, што **прадажа печанага хлеба** праводзіцца як праз сетку дзяржаўных і кааперацыйных хлебных магазінаў, так і праз сетку іншых прадуктовых магазінаў дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю, прыстасаваных для прадажы печанага хлеба, а **прадажа мукі** праводзіцца гандлёвай сеткай дзяржаўнага гандлю, аддзеламі рабочага снабжэння і дзяржаўнымі загатоўшчыкамі, а таксама спажывецкай кааперацыяй з дазволу мясцовых органаў Наркамунутгандля.

8. Прыступіць неадкладна да расшырэння дзяржаўнай і кааперацыйнай **сеткі крам** для гандлю хлебам, павялічыўшы гэту сетку да 1 красавіка 1935 года не менш чым на 10.000 крам, як за кошт дааб-сталявання і прыстасавання існуючай сеткі крам, так і за кошт пабудовы новых магазінаў і палатак у адпаведнасці з планам, устаноўленым Соўнаркомам СССР.

9. Устанаўляць штомесячна **планы водпуску мукі і крупы** для гандлюючых арганізацый, прамысловасці і іншых дзяржаўных спажыўцоў па абласцях, краях і рэспубліках у колькасцях, забяспечваючых паўсямесную бесперабойную шырокую прадажу хлеба і поўнае задавальненне попыту насельніцтва, і стварыць для гэтага зусім дастатковыя запасы мукі і крупы па асобных краях, абласцях і рэспубліках.

10. Абавязаць мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі прадаставіць памяшканні, неабходныя для разгортвання гандлёвай сеткі па прадажы печанага хлеба і мукі, і аказаць усялякую садзейнасць гандлюючым арганізацыям у будаўніцтве новых крам і пякарань.

Ліквідацыя картачнай сістэмы па хлебу і некаторых іншых прадуктах і паўсямесны пераход да шырокага хлебнага гандлю па адзіных цвёрдых дзяржаўных цэнах, а таксама безумоўная магчымасць у далейшым дадатковага зніжэння гэтых цэн і разам з тым зніжэння цэн на прамысловыя тавары ствараюць спрыяючыя ўмовы для далейшага росту добрабыту рабочых і сялянскіх мас.

Правядзенне гэтага мерапрыемства стала магчымым, дзякуючы перамозе калгаснага ладу ў вёсцы і ўздыму сельскай гаспадаркі і, у сваю чаргу, яно садзейнічае далейшаму, яшчэ больш быстраму росту

сельскай гаспадаркі і прамысловасці на аснове ўмацоўваючагася савецкага рубля і разгортваючагася тавараразвароту паміж горадам і вёскай.

Вялікія і складаныя практычныя задачы, што стаяць перад партыяй і рабоча-сялянскай дзяржавай у сувязі з ажыццяўленнем данага рашэння, патрабуюць ад усіх партыйных, савецкіх і прафесіянальных арганізацый патрэбнай арганізаванасці і ўліку мясцовых асаблівасцей у аперацыйнай рабоце і разам з тым рашучага адпору ўсім і ўсякім дэзарганізатарскім вылазкам класавага ворага.

Правядзенне гэтага рашэння ў жыццё павінна знайсці сваё адлюстраванне ў далейшым умацаванні саюза рабочых і сялян і ў пераможным прасоўванні наперад справы соцыялізма ў нашай краіне.

---

# Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы

*(Рэзалюцыя пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Л. М. Кагановіча, прынятая 28 лістапада 1934 года)*

У барацьбе за соцыялістычную перабудову вёскі партыя, сутыкнуўшыся з радам труднасцей, практычна перамагала гэтыя труднасці і знішчала недахопы. У студзені 1933 года, улічваючы буйнейшыя палітычныя, арганізацыйныя і гаспадарчыя недахопы работы ў вёсцы, пленум ЦК ВКП(б) пастанавіў:

«У мэтах палітычнага ўмацавання МТС і соўгасаў, павышэння палітычнай ролі і ўплыву МТС і соўгасаў на вёсцы і рашучага палепшання палітычнай і гаспадарчай работы нашых ячэек у калгасах і соўгасах... арганізаваць ва ўсіх машынатрактарных станцыях і соўгасах палітаддзелы».

Ускрываючы недахопы нашай работы ў вёсцы, таварыш Сталін у сваёй прамове на студзеньскім пленуме ЦК указаў, што «палітаддзелы МТС і соўгасаў з'яўляюцца адным з тых рашаючых сродкаў, пры дапамозе якіх можна будзе знішчыць гэтыя недахопы ў самы кароткі тэрмін».

За прайшоўшыя два гады створана 3.368 палітаддзелаў МТС і 2.021 палітаддзелаў соўгасаў. Старанна і персанальна падабраныя Цэнтральным Камітэтам партыі 17.000 работнікаў палітаддзелаў МТС і 8.000 работнікаў палітаддзелаў соўгасаў прарабілі за два гады гіганцкую работу па знішчэнню недахопаў работы ў вёсцы, указаных у прамове таварыша Сталіна «Аб рабоце ў вёсцы» і рашэннях студзеньскага пленума ЦК.

У барацьбе з класава-варожымі элементамі за большэвіцкае ўмацаванне калгасаў, за ахову грамадскай, калгаснай і дзяржаўнай уласнасці, за першачарговасць выканання абавязацельстваў перад дзяржавай вакол партыі згуртаваўся шматлікі беспартыйны актыў калгаснікаў. Шырокім фронтам разгарнулася сярод калгаснікаў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.

Партыяй пры дапамозе палітаддзелаў выкрыты і выгнаны ў асноўным з калгасаў і соўгасаў антысовецкія, антыкалгасныя, сабатажніцкія і шкодніцкія элементы, кулакі і падкулачнікі, пралезшыя ў калгасы і соўгасы і «ціхай сапай» прабаваўшыя разлажыць іх з сярэдзіны.

Моцнай, неперparam... 

Моцнай, непераможнай сілай сталі калгасы, яднаючыя ў цяперашні час тры чверткі сялянскіх гаспадарак і 90 проц. пасеўных плошчаў. На працягу толькі двух апошніх год, за 1933 і 1934 гады, сельская гаспадарка СССР атрымала 137 тыс. трактароў, 18.000 камбайнаў, 63 тыс. конных і трактарных сявярак, 24 тыс. складаных і поўскладаных малатарань, 343 тыс. розных уборачных машын зернавых і тэхнічных культур, 25 тыс. грузавых аўтамабіляў.

Наяўныя к цяперашняму часу 240 тыс. калгасаў, 3.500 МТС і 5.000 соўгасаў маюць у даны момант 281 тыс. трактароў, 33 тыс.

камбайнаў, 34 тыс. грузавых аўтамабіляў, 845 тыс. конных і трактарных сявярак, 129 тыс. складаных і поўскладаных малатарань, 2.085 тыс. розных убо́рачных машын зернавых і тэхнічных культур (лабагрэйкі, сенакасілкі, буракакапалкі, ільнацерабілкі і інш.).

К канцу 1932 года ў сельскай гаспадарцы СССР было сельгасмашын, трактароў і грузавікоў на суму 2 млрд. 500 млн. руб. За 1933 і 1934 гг. сельская гаспадарка атрымала дадаткова сельгасмашын, трактароў і грузавікоў на 1 млрд. 280 млн. руб.

Не гледзячы на наяўнасць яшчэ сур'ёзных недахопаў у справе скарыстання сельскагаспадарчых машын ў вёсцы, у асаблівасці камбайнаў, за апошнія 2 гады значна лепш чым у мінулыя гады скарыстоўваюцца большасцю калгасаў і соўгасаў трактары, малатарні, ільнацерабілкі і т. д. Трактарамі МТС праведзена ўсіх работ у пераводзе на ворыва ў 1933 годзе 35 млн. га (без малацьбы) і ў 1934 годзе 55 млн. га. Камбайнамі ў калгасах убрана ў 1933 годзе 533 тыс. га, у 1934 годзе—1 млн. 576 тыс. га. Палепшылася якасць сельскагаспадарчых работ (ворыва, прапалкі, уборкі і т. д.).

Веснавая сяўба 1934 г. праведзена на 15—20 дзён хутчэй, чым у 1933 годзе і на 30—40 дзён хутчэй, чым у 1932 годзе.

Не гледзячы на наяўнасць адставання ўборкі і страт пры ўборцы ў радзе раёнаў, уборка 1933 і 1934 гг. у цэлым па Саюзу прашла значна лепш мінулых гадоў.

Не гледзячы на неспрыяючыя кліматычныя ўмовы ў радзе раёнаў Украіны, Паўночнага Каўказа і некаторых іншых, па Совецкаму Саюзу ў цэлым сабран ураджай у 1934 годзе не меншы леташняга.

Хлебазагатоўчы план 1933 года выканан на паўтара месяца раней 1932 года, хлебазагатоўчы план 1934 года выканан на паўтара месяца раней 1933 года і на 3 месяцы раней 1932 года.

У свядомасць мільёнаў калгаснікаў укаранілася разуменне першачарговасці выканання сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Лозунг, высунуты партыяй на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў у лютым 1933 года аб барацьбе за большэвіцкія калгасы і за заможнае жыццё калгаснікаў, увайшоў у свядомасць і быт дзесяткаў мільёнаў калгаснікаў і стаў практычнай баявой праграмай мабілізацыі шырокіх мас на ўмацаванне калгасаў, на агульны далейшы ўздым сельскай гаспада́ркі.

Усё гэта дасягнута ў рэзультаце правільнай палітыкі партыі, у рэзультаце карэннага палепшання практычнага кіраўніцтва вёскай.

Умацаваліся перабудаваныя па вытворчай прымеце пярвічныя калгасныя партыйныя арганізацыі. Павысілася рэволюцыйная пільнасць і большэвіцкая ідэйная ўзброенасць вясковых членаў партыі.

На аснове разгортвання работы палітаддзелаў адбылося далейшае прыбліжэнне партыйнага кіраўніцтва к калгасу, к сялу і большая ўвязка партыйна-палітычнай работы з вытворчай работай. Пад уплывам задач, пастаўленых партыяй перад палітаддзеламі, практыкі і прыёмаў работы палітаддзелаў, палепшылася работа не толькі пярвічных партыйных арганізацый, але і райкомаў партыі.

Палітаддзелы, як надзвычайная фо́рма арганізацыі, апіраючыся на сілу і аўтарытэт усёй партыі, на гаспадарчую магутнасць МТС, дабіліся сур'ёзных поспехаў у справе ператварэння адсталага ўчастка соцыялістычнага будаўніцтва—сельскай гаспада́ркі—у перадавы.

Аднак, вопыт паказаў, што па меры росту задач кіраўніцтва вёскай, палітаддзелы самі па сабе ўжо недастатковы, што для кіраўніцтва ўсёй работай у калгаснай вёсцы—палітычнай, гаспадарчай,

культурна-бытавой (школы, больніцы і т. д.) патрабуецца ўмацаванне нармальных партыйных і савецкіх органаў, ахапляючых усю работу: адміністрацыйную, гаспадарчую, культурна-бытавую, фінансавую, і т. д. Іменна, улічваючы загадзя гэтыя акалічнасці, XVII з'езд партыі ў прынятым на з'ездзе статуце партыі прадаставіў права Цэнтральнаму Камітэту партыі **«Ствараць палітычныя аддзелы... на адстаючых участках соцыялістычнага будаўніцтва, набываючых асабліва важнае значэнне для народнай гаспадаркі і краіны ў цэлым, а таксама, па меры выканання палітычнымі аддзеламі сваіх ударных задач, ператвараць іх у звычайныя партыйныя органы, пабудаваныя па вытворча-тэрытарыяльнай адзнацы.**

Устанаўляючы, што стварэнне палітаддзелаў поўнасцю сябе апраўдала і палітаддзелы адыгралі выключна важную ролю ў знішчэнні недахопаў, маючыхся ў вёсцы, што поспехі, дасягнутыя ў справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, умацавання калгасаў, згуртавання калгаснага актыва і стварэння моцнай асновы партыйнай арганізацыі на вёсцы, палепшання работы раённых камітэтаў партыі, высоўваюць неабходнасць **завяршэння** пачатага яшчэ пры ліквідацыі акруг раёнавання і поўнага наближэння органаў кіраўніцтва **да вёскі,—пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:**

1. Ператварыць палітаддзелы МТС у звычайныя партыйныя органы, для чаго зліць палітаддзелы з існуючымі раённымі камітэтамі партыі, асабліва вялікія раёны—разбіць на некалькі новых раёнаў, уліўшы туды адпаведныя палітаддзелы.

2. Кіраўніцтва ўсімі пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі ў раёне ўскласці на раённыя камітэты партыі.

3. У сувязі з ускладненнем работы і ўзмацненнем адказнасці райкомаў, устанавіць у буйных сельска-гаспадарчых раёнах акрамя пасады першага сакратара пасаду другога сакратара райкома.

4. Стварыць у апараце райкомаў сельгасаддзелы, на чале якіх паставіць, у залежнасці ад канкрэтных умоў работы, першага ці другога сакратара райкома партыі.

5. Устанавіць у кожнай МТС пасаду намесніка дырэктара МТС па палітычнай частцы, на абавязак якога ўскласці палітычнае забеспячэнне паспяховага правядзення ўсіх мерапрыемстваў і пачынанняў дырэктара МТС і выканання функцый сакратара пярвічнай партыйнай арганізацыі работнікаў самой МТС.

6. Устанавіць, што намеснік дырэктара МТС па палітычнай частцы, будучы непасрэдна падпарадкаваны дырэктару МТС, адначасова падпарадкуецца раённаму камітэту партыі, пад кіраўніцтвам якога ён ажыццяўляе сваю партыйна-палітычную работу.

7. Лічачы, што ўсе наяўныя работнікі палітаддзелаў павінны быць безумоўна астаўлены на рабоце ў раёнах, прызнаць неабходным іх выкарыстанне ў далейшым:

а) у якасці першых сакратароў новаарганізуемых раённых камітэтаў партыі або, дзе гэта неабходна,—першых сакратароў існуючых райкомаў;

б) у якасці другіх сакратароў райкомаў і загадчыкаў сельгасаддзеламі раённых камітэтаў партыі;

в) у якасці намеснікаў дырэктароў МТС па палітычнай частцы;

г) у якасці работнікаў апарата новых райкомаў партыі і райкомаў комсамола.

8. Устанавіць, што сакратары райкомаў і намеснікі дырэктароў

МТС па палітычнай частцы зацвярджаюцца ЦК ВКП (б) і не могуць быць вызвалены ад работы без згоды ЦК ВКП(б), а інструктары райкомаў зацвярджаюцца абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый.

9. Ператварыць газеты палітаддзелаў МТС у нова-арганізуемых раёнах у органы райкомаў, а ў існуючых раёнах у залежнасці ад становішча раённых газет або зліць з існуючымі раённымі газетамі, або дапусціць астаўленне газет як органаў найбольш магутных МТС.

10. Даручыць Палітбюро ЦК закончыць правядзенне гэтай пастановы канкрэтна па кожнай обласці, краю і рэспубліцы паасобку к 1 сакавіка, а ў паўднёвых раёнах СССР к 1 лютага 1935 года.

11. Абавязаць абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый прадставіць у ЦК ВКП(б) к 1—15 студзеня свае канкрэтныя прапановы аб арганізацыі новых раёнаў, аб скарыстанні работнікаў палітаддзелаў і прадставіць на зацверджанне ЦК ВКП(б) усіх сакратароў раённых камітэтаў партыі як існуючых, так і нова-арганізуемых райкомаў, а таксама намеснікаў дырэктароў МТС па палітычнай частцы.

12. У соўгасах усіх відаў аставіць без змены сістэму палітаддзелаў.

Пленум ЦК ВКП(б) падкрэслівае, што пе́рафармаванне палітаддзелаў узмацняе адказнасць райкомаў, абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый за паспяховае вырашэнне задачы далейшага ўмацавання калгасаў і выкананне лозунга партыі—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.

Партыйныя арганізацыі павінны памятаць, што і ў сучасны момант астаюцца ў поўнай сіле ўказанні, даныя студзеньскім пленумам ЦК (1933 года) пры арганізацыі палітаддзелаў аб тым, што **«барацьба за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і завяршэнне яе соцыялістычнай перабудовы з'яўляецца ў сучасны момант важнейшай задачай партыі».**

Не гледзячы на велізарны рост і ўмацаванне гаспадарчай магутнасці калгасаў, не гледзячы на рост актыўнасці калгаснікаў, у калгасах усё яшчэ ёсць многа недахопаў у рабоце, не зломлена яшчэ канчаткова ў радзе калгасаў падрыўная шкодніцкая работа пралезшых у іх кулацкіх элементаў.

У прыватнасці, вопыт хлебазагатовак гэтага года паказаў, што вялікія страты пры ўборцы, адставанне ўборкі, малацьбы і хлебазагатовак у радзе раёнаў некаторых абласцей і краёў, побач з дрэннай арганізацыяй трактароў, малатарань і асабліва камбайнаў, тлумачацца тым, што класава-варожыя элементы ўсё яшчэ праяўляюць сваю актыўнасць з прычыны палітычнай блізарукасці і папушчэння вясковых комуністаў і нават паасобных работнікаў раёнаў і палітаддзелаў.

Райкомы, абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый абавязаны скарыстаць зімні перыяд для далейшага ўмацавання калгасаў, згуртавання беспартыйнага актыва, палепшання работы праўленняў і старшынь калгасаў, павышэння ролі і значэння агульных сходаў калгаснікаў, згуртавання іх вакол партыі і далейшага ўмацавання пярвічнай партарганізацыі ў вёсцы.

Пленум ЦК ВКП(б) выказвае ўпэўненасць у тым, што работнікі палітаддзелаў, паказаўшыя сябе ў пераважнай большасці з найлепшага боку, як сапраўдныя большэвіцкія партыйныя арганізатары, і ў новых умовах на рабоце ў райкомах і ў якасці намеснікаў дырэктароў МТС па палітчасці здолеюць быць дастойнымі тых вялікіх задач, якія ўскладаюцца на іх партыяй.

# АБ ВЫНІКАХ ЛІСТАПАДАЎСКАГА ПЛЕНУМА ЦК ВКП(б)

*(Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б сумесна з сакратарамі РК КП(б)Б, начальнікамі палітаддзелаў МТС ад 9/XII-34 г.)*

1. Пленум ЦК КП(б) Беларусі цалкам і поўнасцю ўхваляе ўсе рашэнні лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), маючыя выключнае гістарычнае значэнне для далейшага сацыялістычнага будаўніцтва, для палепшання снабжэння гарадоў і сельскіх раёнаў, для лепшага задавальнення запатрабаванняў насельніцтва, для далейшага палепшання якасці ўсёй нашай работы ў горадзе і вёсцы.

Прынятае пленумам ЦК ВКП(б) важнейшае рашэнне аб адмене з 1 студзеня 1935 г. картачнай сістэмы снабжэння насельніцтва хлебам і некаторымі іншымі прадуктамі і ўстанаўленне па ўсёй краіне шырокай прадажы гэтых прадуктаў з дзяржаўных і кааператыўных магазінаў стала магчымым дзякуючы велізарнейшым перамогам у галіне індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, атрыманым нашай ленінскай партыяй пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК і вялікага Сталіна ў барацьбе супроць ворагаў рабочага класа і іх агентаў-апартуністаў усіх масцей.

Цяпер калгасны лад у нашай краіне перамог канчаткова і беспаваротна; калгасы і соўгасы ўмацаваліся і дзякуючы гэтаму пролетарская дзяржава мае ў сваіх руках дастатковую колькасць хлеба, каб без картак поўнасцю забяспечыць насельніцтва хлебам шляхам паўсямеснага разгортвання шырокага хлебнага гандлю. У гэтых умовах картачная сістэма па хлебу і некаторых іншых прадуктах можа быць толькі тормазам у палепшанні снабжэння і таму павінна быць адменена. Адменай картачнай сістэмы па хлебу будзе зроблен новы важнейшы крок да замены сістэмы цэнтралізаванага размеркавання разгорнутым совецкім гандлем у адпаведнасці з дырэктывамі аб другім пяцігадовым плане, прынятымі на XVII партыйнай канферэнцыі.

«Ліквідацыя картачнай сістэмы па хлебу і некаторых іншых прадуктах і паўсямесны пераход да шырокага хлебнага гандлю па адзіных дзяржаўных цэнах, а таксама безумоўная магчымасць у далейшым дадатковага зніжэння гэтых цэн і разам з тым зніжэння цэн на прамысловыя тавары стварае спрыяючыя ўмовы для далейшага добрабыту рабочых і сялянскіх мас».

Пленум ЦК КП(б)Беларусі асабліва падкрэслівае агромнае значэнне рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) для далейшага бурнага росту і росквіту сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР і яго неадлучнай частцы—Совецкай Беларусі. Адмена картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты з'яўляецца адным з магутных ры-

чагоў для разгортвання тавараразвароту, умацавання совецкага рубля і ўсёй грашовай гаспадаркі, што ў сваю чаргу з'яўляецца рэальнай базай для правядзення палітыкі зніжэння цэн, прасячэння магчымасці спекуляцыі, забяспечвае рост рэальнай заработнай платы рабочых і служачых, яшчэ большы ўздым матар'яльнага дабрабыту калгасных і працоўных мас, далейшае ўмацаванне саюза рабочых і сялян.

2. Пленум ЦК КП(б)Беларусі **пастанаўляе:**

а) Зацвердзіць мерапрыемствы бюро ЦК КП(б)Б і СНК БССР па падрыхтоўцы практычнага ажыццяўлення рашэнняў пленума ЦК ВПК(б) аб адмене хлебных картак і адкрыцці паўсямеснага гандлю хлебам у БССР, у прыватнасці аб пабудове па лініі дзяржгандлю і спажыўкааперацыі да 1 студзеня новых пякарань на 74 тоны сутачнай прадукцыйнасці, расшырэнні сутачнай магутнасці існуючых пякарань дадаткова на 150 тон гатовага хлеба і расшырэнні існуючай сеткі гандлю хлебам к 1 студзеня на 330 магазінаў, давёўшы хлебную сетку к 1 студзеня 1935 г. па БССР да 1 141 магазінаў (у тым ліку спецыялізаваных 411 і ўзорных булачных—24. Гандлёвая сетка павінна быць разгорнута так, каб працоўны мог купляць хлеб там, дзе яму зручней.

б) Надаючы агромнае значэнне рабоце па практычнаму ажыццяўленню рашэнняў пленума ЦК ВКП(б), пленум ЦК КП(б)Б ускладае на сакратароў гаркомаў і райкомаў КП(б)Б, старшынь горсоветаў і РВК персанальную адказнасць за правядзенне ўсіх практычных мерапрыемстваў па ажыццяўленню рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) (у прыватнасці патрабуе асаблівай увагі паляпшанню асартымента выпякаемых хлябоў, выдзяленню і абсталяванню складскіх памяшканняў для мукі, круп, фуражу і т. д.), каб з 1 студзеня 1935 г. была забяспечана бесперабойная прадажа хлеба ў кожным горадзе, раёне, прыгарадзе, пасёлку, леспрамгасе і т. д.

в) Абавязаць РК КП(б)Б, РВК і профарганізацыі ўдзяліць асаблівую ўвагу падбору кадраў у новаадкрываемыя магазіны, пякарні (загадчыкаў, прадаўцоў, пекароў), каб у магазінах быў забяспечан узорны парадак, чыстата, адсутнасць чаргі. У гэтых мэтах пленум прапануе вярнуць на работу ў хлебныя магазіны і пякарні вопытных загадчыкаў магазінаў, прадаўцоў, пекароў, якія скарыстоўваюцца зараз не па спецыяльнасці, а таксама ўмацаваць гандлёвую сетку праверанымі комуністамі і комсамольцамі. Даручыць бюро ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы па пытанню падбору і падрыхтоўкі адпаведных кадраў.

Пленум папярэджвае ўсе арганізацыі, што непрадстаўленне памяшканняў пад магазіны, спасыланні на недахват і адсутнасць буд' матар'ялаў для будаўніцтва і рамонту пякарань і магазінаў не павінны мець месца пры правядзенні данага рашэння і прапануе бюро ЦК разглядаць такога роду факты, як праяўленне апартуністычных адносін да практычнага ажыццяўлення рашэнняў пленума ЦК ВКП(б).

г) ЦК асоба ўказвае ўсім наркаматам, дырэктарам трэстаў і прадпрыемстваў, кіраўнікам чыгунак і воднага транспарта і кіраўнікам сампромкааперацыі БССР, што рашэнне пленума ЦК ВКП(б), узмацняючы значэнне заработнай платы, як асноўнага рычага павышэння прадукцыйнасці працы, выканання вытворчых планаў, павышэння якасці прадукцыі—абавязвае іх з яшчэ большай энергіяй змагацца за ажыццяўленне гістарычных шасці ўмоў таварыша Сталіна—канчаткова дабіць ураўнілаўку і абязлічку, яшчэ больш узмацніць свае

клопаты аб матар'яльна-бытавых і культурных патрэбах рабочых. У прыватнасці пленум ЦК КП(б)Б прапануе ўсім гаспадарчым наркаматам, ЦСПСБ, дырэктарам прадпрыемстваў і парткомам узмацніць работу па ўмацаванню ўласнай харчовай базы прадпрыемстваў і індывідуальных рабочых агародаў і правесці старанную падрыхтоўку да веснавой сяўбы 1935 г.

Пленум даручае бюро ЦК і профарганізацыям забяспечыць правільнае правядзенне ў жыццё прадугледжанага рашэннем ЦК ВКП(б) павышэння заработнай платы рабочым і служачым, і асоба падкрэслівае недапушчальнасць якога-б там ні было самавольнага павышэння заработнай платы рабочым і служачым, адкрытага і замаскаванага, і прапануе бюро ЦК і СНК прыцягваць да найстражэйшай адказнасці парушаючых гэта важнейшае ўказанне СНК СССР і ЦК ВКП(б).

д) Пленум асоба ўказвае ўсім партыйным і совецкім арганізацыям, што, пакідаючы ў сіле ўстаноўлены парадак для калгаснага гандлю, неабходна весці няўхільную барацьбу з усякімі спробамі спекуляцыі хлебам і іншымі вылазкамі класавага ворага пры правядзенні гэтага важнейшага мерапрыемства.

Пленум абавязвае ўсе ГК і РК КП(б)Б арганізаваць шырокае растлумачэнне сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў-ільнаводаў тых перавагі, якія ствараюцца для далейшай вытворчасці ільну ў БССР заменай атаварвання хлебам і ўстанаўленнем апошняй пастановай урада новых загатоўчых цэн на лён у 1935 г.

Пленум абавязвае партыйныя арганізацыі ільняных раёнаў забяспечыць бесперабойную прадажу хлеба і мукі на вёсцы.

Партарганізацыі павінны на гэтай аснове мабілізаваць усе калгасы, калгаснікаў, аднаасобнікаў-ільнаводаў на своечасовае і поўнае выкананне сваіх абавязацельстваў па здачы ільну дзяржаве ў бягучым годзе.

е) У сувязі з агромным значэннем для росту тавараздвароту выпрабу тавараў шырспажыву пленум даручае бюро ЦК праверыць ход выканання ўказанняў таварыша Сталіна, даных на XVII з'ездзе, аб неабходнасці разгарнуць выраб тавараў шырспажыву па ўсіх гаспадарчых наркаматах БССР.

3. Пленум ЦК КП(б)Б, ухваляючы рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы», адзначае, што агромныя поспехі, якіх дасягнуў увесь СССР і ў прыватнасці БССР у галіне сельскай гаспадаркі за апошнія два гады, з'яўляюцца бясспрэчным рэзультатам агромнага палепшання работы нашай партыі на вёсцы.

У гэтых дасягненнях у галіне сельскай гаспадаркі ў БССР агромную ролю адыгралі створаныя партыяй таксама і ў БССР палітаддзелы МТС і соўгасаў.

Пленум адзначае, што абсалютная большасць пасланых у палітаддзелы МТС Беларусі таварышоў, таксама як і па ўсім СССР, цалкам апраўдалі давер'е партыі і выканалі ўскладзеныя на іх партыяй ударныя задачы.

4. У цяперашні час у сувязі з ускладненнем і расшырэннем нашых задач на вёсцы ў поўнай меры наспела неабходнасць пераўтварэння палітаддзелаў МТС у звычайныя партыйныя органы шляхам зліцця палітаддзелаў МТС з існуючымі РК партыі або з нова-ствараемымі ў новых раёнах райкомамі. Пленум не сумняваецца, што гэта пераўтварэнне і звязанае з ім увядзенне ў буйных сельскагаспадарчых раёнах пасады другога сакратара, стварэнне ў райкомах сельгасаддзелаў,

пакіданне на рабоце ў раёнах усіх, без выключэння, наяўных работнікаў палітаддзелаў—бясспрэчна яшчэ больш узмоцніць работу нашай партыі па соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі БССР, па завяршэнню калектывізацыі, па дасягненню яшчэ большых поспехаў і вытворчых, і культурна-бытавых.

Гэта важнейшае рашэнне пленума ЦК ВКП(б) паставіла выключна сур'ёзную і неабходную задачу стабілізацыі кадраў у раёне, знішчэння цякучасці, сур'ёзнага асваення кожным работнікам даручанага яму ўчастка работы.

Пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

а) Даручыць бюро ЦК неадкладна прыступіць да распрацоўкі і правядзення ўсіх рашэнняў, вынесеных пленумам ЦК ВКП(б) аб арганізацыі новых раёнаў, аб скарыстанні работнікаў палітаддзелаў, аб прадстаўленні на зацверджанне ЦК ВКП(б) «усіх сакратароў РК партыі..., а таксама намеснікаў дырэктароў МТС па палітычнай частцы».

5. Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад гаркомаў, райкомаў, РВК і ўсіх рэспубліканскіх і раённых арганізацый узмацнення рэволюцыйнай пільнасці на ўсіх участках нашай работы ў вёсцы, канчатковага выкарчоўвання наяўнай яшчэ ў радзе калгасаў падрыўной шкодніцкай работы пралезшых у іх кулацкіх элементаў.

З прычыны значнага прыліву ў калгасы БССР, меўшага месца ў 1934 годзе, асаблівае значэнне набывае для ўсіх партыйных арганізацый Беларусі правільнае скарыстанне зімовага перыяда для далейшага ўмацавання калгасаў, у асаблівасці для ўздыму адсталых калгасаў, палепшання работы сярод калгаснага актыва, арганізацыі культмасавай работы ў калгасах.

Разам з тым пленум ЦК прапануе ўсім партыйным арганізацыям КП(б)Б з асаблівай пільнасцю ў бліжэйшы час намеціць і правесці практычныя меры па далейшаму ўцягненню добрасумленных аднаасобнікаў у калгасы.

Пленум ЦК лічыць адным з цэнтральных пытанняў работы калгасаў зімой пытанне аб далейшым развіцці жывёлагадоўлі (вырашчванне і поўнае захаванне маладняка, стварэнне добрых умоў для зімоўкі жывёлы).

Пленум лічыць, што рашэнні лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) павінны стаць набыткам усіх працоўных БССР і магутным рычагом для паспяховага завяршэння ўсіх заданняў партыі і ўрада ў справе «далейшага ўмацавання калгасаў, згуртавання беспартыйнага актыва, палепшання работы праўлення і старшынь калгасаў, павышэння ролі і значэння агульных сходаў калгаснікаў, згуртавання іх вакол партыі і далейшага ўмацавання пярвічнай партарганізацыі на вёсцы» (з рэзалюцыі пленума ЦК ВКП(б)).

Наша партыя, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК, на чале з любімым і мудрым правадыром таварышам Сталіным, забяспечыла грандыёзныя перамогі соцыялізма ў нашай краіне. З года ў год Совецкі Саюз мацнее, расце. Разбітыя ў адкрытай барацьбе ворагі партыі і совецкай улады зварачваюцца да апошняга белабандыцкага фашысцкага сродку барацьбы—тэрора. Гнусная подлая рука падасланага ворагамі рабочага класа забойцы вырвала з нашых радоў моцнага большэвіка, аднаго з любімейшых правадыроў партыі і рабочага класа таварыша **Кірава.** Яны нанеслі цяжкі ўдар партыі, але гэты ўдар яшчэ больш загартоўвае нашы рады, яшчэ цясней згуртоўвае нас вакол партыі, яе

ленінскага ЦК, вакол нашага любімага правадыра і настаўніка таварыша **Сталіна.**

Пролетарская дыктатура бязлітасна расправіцца з азвярэлым класавым ворагам, з усімі, хто папрабуе падняць руку на заваяванні пролетарскай рэволюцыі, на яе вялікіх правадыроў. Партыя жалезнай рукой сакрушыць і контррэволюцыйныя асколкі раней разгромленых ёю антыпартыйных груп, якія скаціліся ў рады контррэволюцыі.

Пленум упэўнен, што ўсе члены КП(б)Б, усе рабочыя, калгаснікі, працоўныя аднаасобнікі і ўсе працоўныя БССР з найвялікшым энтузіязмам будуць змагацца за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), што яны яшчэ больш узмоцняць большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць, барацьбу за выкананне промфінпланаў прадпрыемстваў, за баявую вучобу, за далейшае ўмацаванне калгасаў і соўгасаў, за ільназагатоўкі і хлебазагатоўкі, за далейшыя перамогі соцыялізма ў нашай вялікай совецкай краіне, якая змагаецца пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і геніяльнага правадыра ўсіх працоўных—таварыша Сталіна.

---

## Аб парадку праходжання спраў аб партспагнаннях

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 29-XI 1934 г.)*

1. Даручыць АКПО ЦК КП(б)Б давесці пастанову ЦК ВКП(б) ад 12-Х-34 г. «Аб парадку праходжання спраў аб партспагнаннях» да ведама ўсіх ГК і РК КП(б)Б.

2. У адпаведнасці з пастановай, прапанаваць Менскаму ГК стварыць камісію па разгляду партспраў у складзе нам. сакратара і двух членаў ГК. У астатніх ГК і РК папярэдні разгляд партспраў ускласці на інструктароў РК (ГК), прымацаваных да адпаведных груп пярвічных партарганізацый.

3. Разгляд партспраў у ЦК КП(б)Б ускласці на АКПО, прызначыўшы інструктара гэтага аддзела т. **Грыништэйна**, інструктарам па партсправах. У адпаведнасці з гэтым павялічыць штат АКПО на аднаго інструктара і аднаго тэхнічнага работніка.

4. Указаць гаркомам і райкомам партыі на недапушчальную зацяжку з пасылкаю спраў на выключаных 1-й і 2-й катэгорыі.

5. Пастанову ЦК ВКП(б) ад 12/Х-34 г. надрукаваць у часопісе «Большэвік Беларусі».

Сакратар ЦК КП(б)Б **Валковіч**

# Аб парадку праходжання спраў аб партспагнаннях

*(Пастанова ЦК ВКП(б) ад 12-X 1934 г.)*

Для праходжання спраў аб партспагнаннях у партарганізацыях на членаў і кандыдатаў партыі, устанавіць наступны парадак:

а) у пярвічных партарганізацыях пытанні, звязаныя з налажэннем партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі, папярэдне абгаварваюцца на цэхавых партсходах і пасля паступаюць на зацвярджанне парткома; у пярвічных партарганізацыях, дзе няма парткомаў і цэхавых партарганізацый—пытанні аб партспагнаннях падрыхтоўваюцца партарганізатарам і ўносяцца на зацвярджанне агульнага сходу членаў і кандыдатаў партыі данай арганізацыі;

б) у райкомах партыі справы аб налажэнні партыйных спагнанняў на членаў партыі, паступаючыя ад пярвічных партарганізацый, перадаюцца для папярэдняга разгляду інструктарам райкомаў, прымацаваным да адпаведных груп пярвічных партарганізацый або членаў раённага камітэта партыі (абавязкова з выклікам падвяргаемага спагнанню) і пасля гэтага выносяцца на зацвярджанне бюро РК партыі;

в) у буйных гаркомах і райкомах партыі (звыш 5.000 членаў партыі) для падрыхтоўкі к разгляду ў бюро ГК і РК партыі пытанняў, звязаных з партспагнаннямі—ствараюцца камісіі з трох членаў пад старшынствам нам. сакратара ГК або РК партыі і двух членаў парткома;

г) рашэнні ГК і РК партыі аб выключэнні з партыі членаў партыі I і II катэгорыі, згодна статуту, паступаюць на зацвярджанне абкома, крайкома партыі або ЦК нацкомпартыі. Рашэнні ГК і РК партыі аб мерах партыйнага спагнання на членаў партыі III і IV катэгорыі могуць быць абскарджаны на працягу месячнага тэрміна пасля атрымання выпіскі з пастановы ГК і РК партыі ў парткалегію камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б) у краі або вобласці.

Партыйныя спагнанні, налагаемыя ўпаўнаважаным КПК у краі або вобласці, або парткалегіяй, якая знаходзіцца пры ім—могуць быць абскарджаны ў парткалегію камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б);

д) наложаныя меры партыйнага спагнання (вымова, выключэнне з партыі) уносяцца ў асабовую картку камуністаў усіх катэгорый толькі пасля зацвярджання ГК або РК партыі і вышэйстаячых партыйных інстанцый;

е) усе справы на выключаных членаў партыі I і II катэгорыі, паступаючыя на зацвярджанне абкома, крайкома партыі або ЦК нацкомпартыі, перадаюцца для папярэдняй падрыхтоўкі іх у аддзел кі-

руючых парторганаў абкома, крайкома, ЦК нацкомпартыі, які ўносіць іх на зацверджанне бюро абкома. Для правядзення гэтай работы павялічыць штат АКПО абкома (крайкома) на 1—2 інструктароў і неабходную колькасць тэхнічных работнікаў;

ж) усе справы аб выключэннях, паступаючыя на разгляд ГК, РК і на зацверджанне абкома, крайкома, ЦК нацкомпартыі—як правіла, павінны вырашацца не больш, як у дзесяцідзенны тэрмін;

з) пастановы абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый, пацвярджаючыя рашэнні РК аб выключэнні членаў партыі I і II катэгорыі, а таксама вынесеныя імі непасрэдна, могуць быць абскарджаны ў партколегію камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б).

Сакратар ЦК ВКП(б) **Жданаў**

---




Галоўлітбел № 1205.
Тыраж 9825.
436.480 друк. зн. (8¼ арк.)
Здана ў набор 19/XII—34 г.
Падпісана да друку 4/I—35 г.

*Рэдкалегія* { **Мінкін (адк. рэдактар)**, **Конік**, **Злоткін**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1413.

Цана 50 кап. 1258




ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧ
ПАРТАКТЫВА ПРЫ ЦК КП(б)Б

# ЗАВОЧНАЯ ПАРТВУЧОБА ПА РАДЫЕ

## на студзень месяц 1935 г.

*„Нельга кіраваць пабудаваннем соцыялістычнага грамадства, не аўладаўшы навукамі".* (*І. СТАЛІН*).

Інстытут прадаўжае перадачу па радыё лекцый, разлічаных на завочнікаў партвучобы, арганізаваных радыёслухачоў з партыйнага, комсамольскага і беспартыйнага актыва горада і вёскі, прапагандыстаў сеці партасветы і выкладчыкаў.

Лекцыі перадаюцца праз Менскую радыёстанцыю РВ—10 з 19 г. 30 м. да 20 г. 30 м штодзённа апрача 6, 12, 17, 18, 24, 29 і 30 числа.

Тэматыка лекцый у студзені наступная:

**Гісторыя ВКП(б).**

Час перадачы: 19 г. 30 м.—20 г. 30 м.

1, 7, 13-га студзеня — Як большэвікі арганізавалі перамогу Окцябра — 1-я лекцыя.

2, 8, 14-га студзеня—Таксама 2-я лекцыя.

3, 9. 15-га „ —Партыя — арганізатар перамог на франтах грамадзянскай вайны.

**Палітэканомія.**

Час перадачы: 13 г. 00 м.—14 г. 00 м.

1, 7, 13 га студзеня—Зямельная рэнта.

2, 8. 14 га „ —Развіццё капіталізма ў сельскай гаспадарцы.

3, 9. 15-га студзеня—Узнаўленне і крызісы.

**Па праграме курсаў актыва калгасаў, с ўгасаў і МТС.**

4 і 10-га студзеня—„Соцыялістычнае пераўтварэнне вёскі".

(Лекцыя ў адно з гэтых числаў слухаецца і прапрацоўваецца групай завочнікаў у калгасе, соўгасе або МТС пры абавязковай прысутнасці кіраўніка групай).

— —

23-га студзеня — лекцыя да гадавіны смерці В. І. Леніна.

—

Прадаўжаецца перадача наступных цыклаў для арганізаванага слухання іх у радыёаўдыторыях:

**Па пытаннях соцыялістычнай жывёлагадоўлі.**

5-га студзеня—Догляд за коньмі і вырошчванне конскага маладняка.

11-га студзеня—Аб пашырэнні кармовай базы.

16-га студзеня - Хваробы хатняй жывёлы, барацьба з імі і меры іх папярэджання.

**Па пытаннях гісторыі Комінтэрна.**

19-га студзеня—Рэволюцыйныя баі італьянскага пролетарыята ў 1920 г. і прыход фашызма да ўлады.

22-га студзеня—III кангрэс Комінтэрна ў барацьбе за масы.

25-га студзеня—IV і V кангрэсы Комінтэрна і барацьба за большэвізацыю компартый.

28-га студзеня—Кітайская рэволюцыя і барацьба за Советы ў Кітаі.

**Па Эканамічнай геаграфіі СССР.**

20 га студзеня — Галоўныя новабудовы цяжкай прамысловасці ў 2-й пяцігодцы.

27-га студзеня—Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі па паасобных раёнах у другой пяцігодцы.

31-га студзеня — Асноўныя чыгуначныя і водныя магістралі СССР.

**Пытанні бягучай палітыкі.**

20-га і 26-га студзеня.

**Адказы на пытанні завочнікаў і радыёслухачоў даюцца 5, 11, 16, 20 і 26-га студзеня.**

Пасылаючы запытанне, указвайце калі будзеце слухаць адказ на яго.

**Усе заўвагі аб праслуханых лекцыях шліце на адрас:**

**г. Менск, вул. К. Маркса, 47-30, БІМЗО, Радыёсектар.**

**ДЫРЭКЦЫЯ ІНСТЫТУТА.**